# ЗЬМЕСТ

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЁГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ



№ 3 САКАВІК 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК 1930

ГПБ Ср. Аз.

# СУПРОЦЬ САМАТУЖНІЦТВА, ЗА АДЗІНЫ КУЛЬТУРНЫ ПЛЯН

Вялікі спадарожнік Маркса, адзін з творцаў навуковага соцыялізму Фрыдрых Энгельс, у самы росквіт капіталізму, аналізуючы законы разьвіцьця тэндэнцыі капіталізму, геніяльна вызначыў асаблівасьць будучай грамады, якая з жалезнай неабходнасьцю зьменіць анархізм капіталістычнага спосабу вытворчасьці.

Вось геніяльныя словы вялікага творца навуковага соцыялізму:

«З пераходам сродкаў вытворчасьці ў грамадзкую ўласнасьць зьнікае таварная вытворчасьць, а разам з тым і панаваньне продуктаў над вытворцамі. Анархія грамадзкай вытворчасьці заменіцца організацыяй яе па раней абмеркаванаму пляну... Жыцьцёвыя ўмовы, што абкружаюць чалавецтва і да гэтага часу над ім панавалі, *падпадуць пад уладу і контроль людзей,* якія *ўпяршыню* стануць сапраўднымі і сьвядомымі гаспадарамі прыроды... Законы іх уласных грамадзкіх дзеяў, што супроцьстаялі людзям да гэтага часу, як чужыя, панавалі над імі, законы прыроды будуць тады *зусім сьвядома ўжывацца* імі і, значыцца, падпарадкавацца іх панаваньню... І толькі тады людзі пачнуць *зусім сьвядома самі ствараць сваю гісторыю,* толькі тады грамадзкія прычыны, што прыводзяцца імі ў рух, будуць мець у значнай і ўсё ўзрастаючай ступені грамадзкую дзейнасьць. *І гэта будзе скачком чалавецтва з панаваньня неабходнасьці ў панаваньне свабоды».*

Рабочая кляса, пад сьцягамі комуністычнае партыі, захапіўшы «на буксір» працоўнае сялянства, «жалезным поступам рабочых батальёнаў» пераможна ідзе наперад агромністымі рэволюцыйнымі крокамі.

СССР, краіна адсталай вытворчасьці, ператвараецца ў краіну буйнай прамысловасьці. СССР, краіна дробнай і драбнейшай сельскай гаспадаркі, робіцца краінай суцэльнай колектывізацыі.

Патрыярхальны дробны таварны спосаб вытворчасьці з уласьцівай яму прыватнай уласнасьцю з кожным днём адмірае, «пяе сваю апошнюю песьню» на Тройцкім, Смаленскім ды інш. рынках. Сродкі вытворчасьці дробнай сялянскай гаспадаркі абагульваюцца, ператвараюцца ва ўласнасьць грамады.

Разам з гэтым адбываецца рэволюцыйная зьмена суадносін клясавых сіл, ліквідуецца кулацтва, як кляса, выціскаецца нэпман, адбываецца нячуваная ў гісторыі пераробка селяніна з яго «падвойнай душой», кладзецца падмурак для зьнішчэньня розьніцы паміж рабочым і селянінам, і ідзе ператварэньне ўсіх у работнікаў соцыялістычнай гаспадаркі.

Дыктатура пролетарыяту з кожным днём усё больш і больш замацоўваецца, дзякуючы спрыяючым суадносінам матар'яльных і клясавых сіл. А гэта ў сваю чаргу ўтварае ўмовы для яшчэ больш шпаркага руху па шляху да соцыялізму.

Кожны новы крок уперад нашай гаспадаркі вядзе да ўсё большага, канчатковага зьнішчэньня таварнай вытворчасьці, да канчатковага зьнішчэньня панаваньня тавараў над іх вытворцамі. Замест капіталістычнай анархіі, якая беспадзельна пануе ў вытворчасьці прыватных вытворцаў і ўладароў сродкаў вытворчасьці, утвараецца соцыялістычная гаспадарка, усе вытворчыя сілы краіны ахапляюцца сыстэмай соцыялістычнага плянаваньня.

Людзі сапраўды сьвядома твораць сваю гісторыю, заканчваюць «скачок чалавецтва з панаваньня неабходнасьці ў панаваньне свабоды».

І менавіта зараз, больш чым калі-б гэта ні было, ва ўсю шырыню, з усёй вастрынёй выпукляецца нявырашаная яшчэ цалкам проблема культурнай рэволюцыі.

А між тым, асабліва ва ўмовах БССР, у краіне ў мінулым адсталай, у краіне, якая знаходзілася пад падвойным прэсам фэўдальна-буржуазных мэтодаў панаваньня, у краіне, якая цяпер зьяўляецца форпостам Савецкага Саюзу на рубяжы капіталістычнага сьвету, у краіне, якая зьяўляецца жывым прыкладам урачыстасьці комунізму для прыгнечаных мас капіталістычнага сьвету, вырашэньне культурных проблем зьяўляецца ўмовай далейшага ўздыму соцыялістычнай гаспадаркі.

Далейшы рост вытворчых сіл у нашай краіне, тэхнічны прогрэс, тэмпы росту, тэмпы соцыялістычнага ператварэньня дробнай сялянскай гаспадаркі ў соцыялістычную, якасьць усяе нашай работы проста і непасрэдна залежаць ад узроўню культуры, ад культуры працы мільёнаных мас рабочых і сялян-колгасьнікаў.

Калі раней тэмпы культурнай рэволюцыі адставалі ад тэмпаў гаспадарчага будаўніцтва, дык гэта было абумоўлена пэўнымі прычынамі: адсутнасьцю «матар'яльнай базы», як казаў Ленін. На даным этапе нашага разьвіцьця мы маем неабходныя ўмовы для таго, каб культурныя тэмпы ня толькі адпавядалі тэмпам гаспадарчага будаўніцтва, а нават і для таго, каб культура ў сваю чаргу паскарала гэтыя тэмпы.

А між тым культурнае будаўніцтва, яго тэмпы і мэтоды знаходзяцца ў рэзкай супярэчнасьці з тэмпамі і мэтодамі росту соцыялістычнай гаспадаркі.

Разумна і плянава організаваць нашу гаспадарку, разгарнуць поўнасьцю вытворчыя сілы магчыма толькі тады, калі ў нас для гэтага будуць адпаведныя людзкія кадры, тады, калі мы культурны фронт падраўняем з фронтам гаспадарчым.

Таму гэтая задача зьнішчэньня дыспропорцый паміж тэмпамі гаспадарчага будаўніцтва і тэмпамі культурнай рэволюцыі, тэмпамі падрыхтоўкі і прыстасаваньня людзей да новых задач патрабуе самага рашучага, самага безадкладнага вырашэньня.

Што павінна зьявіцца прадумовай зьнішчэньня гэтай існуючай дыспропорцыі?

«Асноўнай прадумовай карэннай перабудовы ўсіх зьвеньняў культуры, усіх яе паверхаў і вучасткаў, утварэньня новай сыстэмы соцыяльнага выхаваньня і адукацыі насельніцтва краіны, зьяўляецца *ўсьведамленьне* гісторычнага значэньня пастаўленых жыцьцём задач, іх глыбіні і размаху».

Вось гэтага ўсьведамленьня «гітсорычнага значэньня» задач яшчэ няма шмат у каго, нават і ў тых, хто мае справу з імі непасрэдна, хто ў першую чаргу павінен практычна ажыцьцяўляць гэтыя задачы.

У той час, як народная гаспадарка, пачынаючы ад буйнага заводу і канчаючы гаспадаркай карлікавага селяніна, штодзённа ўсё больш і больш ахапляецца

сыстэмай соцыялістычнага плянаваньня, у гэты-ж час на культурным фронце пануе поўная анархія, скрыжаваньне, паралелізм, часта нават узаемная перашкода розных організацый адна другой. На культурным фронце працуе шмат організацый, дзейнасьць якіх не аб'яднана, і адна організацыя ня ведае, што робіць другая.

Культурную работу вядуць Наркомасьветы, профсаюзы, коопэрацыя ў яе розных відах, у тым ліку і колхозныя організацыі, Чырвоная армія, страхавыя ўстановы, акадэмія, навуковыя інстытуты, добраахвотныя таварыствы, пачынаючы з «Прыхільніка дзяцей» і канчаючы «Асоавіяхімам», пісьменьніцкія організацыі і г. д. А між тым адзінага пляну ўсяе гэтай работы, коордынацыі дзейнасьці ўсіх гэтых контрагентаў, вучоту вопыту іх работы яшчэ да гэтага часу няма.

Па ўсяму культурнаму фронту пануе саматужніцтва.

«Узгадненьне з саюзам», «абгаварэньне на актыве»—гэта ня ёсьць плянавая сыстэма, а гэта толькі, об'ектыўна, «очковтирательство».

З такім становішчам трэба пакончыць. Ніводная галіна соцыялістычнага будаўніцтва не знаходзіцца ў такім хаосе, як культурнае будаўніцтва.

Адзіны культурны плян, які-б коордынаваў усю дзейнасьць усіх організацый, якія займаюцца культурнай работай ад нізу—фабрыкі, колгасу, саўгасу аж да вышэйшых органаў, павінен стаць задачай дню.

Знаходзяцца людзі, мазгі якіх заплясьнелі ў твані бюрократычнага балота, людзі якія перажываюць «мозгавы крызыс», гэтыя людзі адмаўляюць, не разумеюць усю вастрыню, усю актуальнасьць адзінага культурнага пляну. Тое, што сёньня павінна стаць рэальнасьцю, яны называюць «утопіяй», гэтыя людзі сапраўды патанулі ў хаосе анархіі і, замест таго, каб хутчэй адтуль вылезьці, пачынаюць узводзіць анархію, саматужніцтва ў добрадзецель. Органы нарасьветы яшчэ не зрабіліся тым, чым яны павінны быць, яны яшчэ ня сталі сапраўднымі штабамі культурнай рэволюцыі. А між тым, далейшыя посьпехі культурнай рэволюцыі, яе перамогі немагчымы пры панаваньні анархіі, пры адсутнасьці плянавага кіраўніцтва ўсёй опэрацыйнай работай.

Плянавае-ж кіраўніцтва немагчыма без адзінага культурнага пляну, без коордынацыі ўсіх сіл культурнай рэволюцыі.

Вось чаму лёзунгам дню павінна быць—супроць саматужніцтва, за адзіны плян культурнай рэволюцыі.

# У НОГУ З СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭКОНСТРУКЦЫЯЙ

Я. М.

## СУСТРЭЦЬ СЯЎБУ ОРГАНІЗАВАНА

Падрыхтоўка да пасеўнай кампаніі перайшла ў другую стадыю свайго разьвіцьця. У сучасны момант пасеўная кампанія ўступіла ў рашаючы этап практычнай організацыі самой сяўбы.

На вырашэньне гэтай задачы—*організацыі самой сяўбы*—і павінна быць накіравана галоўная ўвага школ і асьветніцкіх мас.

Да пачатку сяўбы мы ўжо будзем мець сотні тысяч гектараў аграмаджанай зямлі і сотні тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, організаваных у колгасы. Да пачатку сяўбы засталіся дні. Таму ва ўсю шырыню зараз паўстала асноўная і рашаючая задача—*організавана выйсьці ў поле.*

Усю гэтую масу, якая прадстаўляе сабою колгас, трэба расставіць па баявых вучастках пасеўнага фронту, разьмеркаваць паміж імі конкрэтныя абавязкі і гаспадарчыя функцыі, устанавіць правільную організацыю працы, вынайсьці прынцыпы яе аплаты, наладзіць поўнае і штодзённае выкарыстаньне с.-г. інвэнтару, рабочай жывёлы, забясьпечыць своечасовасьць поўнага засеву яравога кліну. Вось сума тых пытаньняў, якія пабаявому, парэволюцыйнаму павінны быць вырашаны на працягу найбліжэйшага часу.

Ці ўсюды зразумелі гісторычную важнасьць веснавой пасеўнай кампаніі? Трэба сказаць, што ў асноўным на месцах у галіне падрыхтоўкі да сяўбы назіраецца пералом. Дзесяткі раёнаў, сотні колгасаў вядуць падрыхтоўку да сяўбы пабальшавіцку, з поўнай упэўненасьцю ў тое, што перамога будзе за імі.

Але побач з гэтым мы маем і такое становішча, калі па шэрагу рашаючых вучасткаў пасеўнага фронту дырэктывы партыі і ўраду ня выкананы і нават знаходзяцца пад пагрозай зрыву.

У агульнай коордынацыі грамадзкіх сіл, якія накіраваны на забясьпечаньне пасьпяховага правядзеньня пасеўнай кампаніі, асьветніцкія масы і ўся сыстэма народнай асьветы займае не апошняе месца. Таму зразумела, што з поўнай адказнасьцю сваіх задач, кожная школа, кожны настаўнік павінны паставіць перад сабою пытаньне, што зроблена і што трэба зрабіць у галіне пасьпяховага правядзеньня веснавой сяўбы.

Толькі так, а ня іначай павінна стаяць пытаньне.

### Раўняцца на лепшых

Пасеўны фронт—фронт бязьлітаснай клясавай барацьбы. Мы ўжо маем усе даныя для таго, каб даць хоць прыблізную характарыстыку ўдзелу асьветніцкіх мас і школ у падрыхтоўцы да сяўбы, галоўнай задачай якой зьяўляецца колектывізацыя сельскай гаспадаркі.

Як ніколі, цяпер ужо выявіўся твар настаўніцтва, больш выпукла вызначыліся паасобныя яго праслоўкі. Асноўная маса настаўніцтва (у тым ліку і школа), перажывае пераломны пэрыод. Гэты пэрыод характэрны рэволюцыйным уздымам і канчатковым паваротам да конкрэтных політычных задач сёньняшняга дню. Настаўніцкія масы і школа, як сродак ідэолёгічнага выхаваньня, зараз прасякнуты рэволюцыйным імпэтам і жаданьнем працаваць на справу соцыялізму.

Яскравым прыкладам таго, як трэба працаваць на фронце соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, паказваюць Бабруйскія настаўнікі і школы, на чале якіх яны стаяць.

Вось факты і лічбы: 200 настаўнікаў працуюць на вёсцы ў брыгадах; пры самым блізкім удзеле настаўнікаў і школ організаваны 92 буйных колгасы; уступіла ў колгасы 716 настаўнікаў (з агульнай колькасьці ў 1859); 29 настаўнікаў зьяўляюцца старшынямі колгасаў, сабрана сіламі школ 1000 руб. на трактар і каля 16 тон попелу-угнаеньня.

Але ня гледзячы на усё гэта, ёсьць шмат яшчэ і такіх школ і настаўнікаў, якія кіпяць бурным «рэволюцыйным» імпэтам толькі на паперы. У Койданаве, недалёка каля Менску, ёсьць 3 вялікіх сямігодкі (беларуская, польская і яўрэйская), настаўніцкія колектывы якіх, усе як адзін, парашылі ўступіць у колгас. Склікалі ўрачысты сход, прынялі рэзолюцыі за ўступленьне ў колгас і разыйшліся па сваіх кватэрах. У колгасе ідзе аграмаджаньне сродкаў вытворчасьці, складаюцца вытворчыя пляны, а Койданаўскія настаўнікі ніяк ня могуць адмовіцца ад ролі наглядальнікаў. Гэта падобна не на што іншае, як на «алілуйшчыну», якая шкодзіць выкананьню ўдарных і баявых задач. А калі ўзяць для прыкладу суседні з Койданаўскім раёнам—Узьдзенскі, дык тут настаўнікі абвясьцілі сябе ўдарнікамі. Гэта на паперы, а на справе аказаліся ўдарнікамі дзесяткі паўтары, а ўсе астатнія, узьлезшы на сваю ўласную «звонарню», вызванiваюць жыцьцём пакінутыя мэлёдыі.

Прыведзеныя прыклады не зьяўляюцца выключнымі. Па цэламу шэрагу раёнаў можна знайсьці падобнае зьявішча. «Алілуйшчыне» павінна быць абвешчана самая рашучая барацьба.

*Кожны настаўнік школы не на паперы, а на справе павінен давесьці, што ён гатовы працаваць «не за страх, а за сумленьне» на справу соцыялізму і быць у першых шэрагах барацьбітоў за яго канчатковую перамогу.*

## За клясавую выразную лінію ў барацьбе па ліквідацыі кулацтва як клясы

У сувязі са шпаркім ростам соцыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы, клясавае супраціўленьне кулацтва і яго прыхільнікаў прыняло самы ярасны характар.

Клясавая барацьба зараз уступіла ў новую фазу свайго разьвіцьця. Ліквідацыя кулацтва як клясы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі зараз праводзіцца пры пэўным падтрыманьні шырокіх батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас. Пад ліквідаваньне капіталістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы зараз падведзена пэўная і цьвёрдая база. «Цяпер мы маем магчымасьць павесьці рашучы наступ на кулацтва, замяніць яго супраціўленьне, ліквідаваць як клясу і замяніць яго вытворчасьць вытворчасьцю колгасаў і саўгасаў» *(Сталін)*. Кулак у барацьбе супроць мерапрыемстваў партыі і савецкай улады карыстаецца самымі размаітымі мэтодамі і спосабамі. Побач з ужываньнем тэрору кулак псуе машыны, уцякае ў горад, пралазіць на работу ў прамысловасьць, «ператвараецца» ў «савецкага» актывіста і г. д.

Сваё клясавае супраціўленьне кулак не абмяжоўвае ніякімі рамкамі: кулак наогул, вядучы контррэволюцыйную агітацыю, галоўным чынам накіроўвае сваю ўвагу на слабыя месцы, што назіраюцца ў рабоце нашых партыйных, савецкіх, профсаюзных і грамадзкіх організацый. Ці ёсьць такія слабыя месцы ў рабоце саюзу, працасьветы і нашых школ?

Бязумоўна, ёсьць. Гэтыя слабыя месцы выяўляюцца там, дзе абстаіць зусім слаба справа з клясавай лініяй, дзе настаўнік (у тым ліку і школа) яшчэ не зразумеў сучаснага этапу клясавай барацьбы, якая вымагае ад кожнага грамадзкага працаўніка, у тым ліку і настаўніка, быць цьвёрдым і ўпэўненым у тое, што справа соцыялізму—справа сур'ёзная, разьлічаная на доўгі час.

Свой клясавы твар паказалі некаторыя настаўнікі Жлобінскага раёну, калі замест актыўнага ўдзелу ў барацьбе з кулаком, яны пайшлі на хаўрус з ім. Больш таго, каб ня выдаць сябе за антысавецкія элемэнты, яны сваю дзейнасьць прыкрылі «ідэяй» колектывізацыі, што робіць і кулак для таго, каб прыкрыць сваю шкодніцкую работу. «Мы за колектывізацыю тых гаспадарак, якія пад сабою маюць пэўную матар'яльную базу». Так разважаюць гэтыя настаўнікі на сельскіх сходах і вучаць гэтаму дзяцей. Не далей адыйшлі ў сваёй практыцы і некаторыя

настаўнікі Чарэйскага раёну. Адна з настаўніц (мабыць з былых) разгарнула агітацыю супроць колгасаў і пачала групаваць вакол сябе кулакоў.

Гэта лішні раз падкрэсьлівае, што ў адносінах выпрацоўкі погляду няпрымірлівасьці да клясавага ворага, яшчэ шмат трэба зрабіць па лініі школы і выхаваньня тых, якія хочуць працаваць на карысьць пролетарскай дыктатуры. Бязумоўна, тыя, якія гэтаму выхаваньню ня будуць паддавацца, павінны быць выкінуты са шляху, па якім так шпарка ідзе шматмільённае бядняцка-серадняцкае насельніцтва ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад.

**Быць застрэльшчыкамі ў організацыі соцыялістычнай працы ў колгасах**

Зараз, побач з колькаснай проблемай, паўстала якасная проблема ў колгасным будаўніцтве.

Якасьць колгасаў, ад чаго ў значнай ступені залежыць іх магутнасьць, упіраецца ў пытаньні організацыі працы ў колгасах—гэта аснова асноў. У гэтым напрамку ўжо шмат зроблена. Апублікаваны правілы ўнутранага распарадку, прыкладны вытворчы плян сяўбы, але справа ў саміх колгасах з выпрацоўкай конкрэтных плянаў сяўбы, спосабаў і мэтодаў скарыстаньня рабочай і цяглавай сілы абстаіць ня зусім добра. Тут яшчэ непачаты край работы. Таму за складаньне рабочых плянаў трэба зараз-жа ўзяцца.

Саўнарком СССР, разглядаючы пытаньне аб ходзе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, вынес досыць ясную пастанову, якая абавязвае ўсю савецкую грамадзкасьць забясьпечыць выкананьне практычных задач, якія паўсталі зараз перад кожным колгасам, перад кожным колгасьнікам. Пляны веснавых работ павінны быць прапрацаваны і даведзены да кожнага колгасу, вучастку ці брыгады з тым, каб кожны член колгасу добра ведаў сваё месца ў вытворчасьці, якую работу ён выконвае і каму падначальваецца.

Дзеля таго, каб правільна працаваць, на паасобных вучастках кожны колгас павінен вылучыць адказных кіраўнікоў. Апрача гэтага, павінны быць складзены дакладныя разьлікі патрэбнай для кожнага вучастку рабочай сілы, сваячасова павінна быць праведзена разьмеркаваньне гэтай рабочай сілы з прымацаваньнем асобных членаў да паасобных галін работы. Не пазьней, чым за два тыдні да пачатку палявых работ павінны быць распрацаваны нормы выпрацоўкі і расцэнкі паасобных відаў работ, і забясьпечаны правільны вучот нарадаў на рабочую сілу і выкананую ёю работу.

У шчыльнай сувязі з організацыяй працы ў колгасах, знаходзіцца землеўпарадкаваньне. Не пазьней 15 сакавіка па ўсім Саюзе павінна быць закончана разьбіўка палёў колгасаў з дакладным паказаньнем, дзе і якая культура будзе пасеяна. Да 25 сакавіка павінна быць закончана прывядзеньне ў парадак цяглавай і рабочай сілы і кармоў, для чаго павінны быць створаны недатыкальныя фонды.

Кожны дзень прыносіць новае баявое заданьне, якое павінна быць выканана паўдарнаму, пабаявому. Узмоцнены ток энэргіі зараз льлецца ў кожнай хаце колгасьніка, гэтай энэргіі трэба прыдаць належныя конкрэтныя формы.

**Што рабіць настаўніку і школе**

Кожны настаўнік, у тым ліку школа, зараз павінны абмеркаваць, што-ж можна зрабіць для таго, каб аказаць належную дапамогу колгасам у правядзеньні веснавой сяўбы. За якое зьвяно ўчапіцца для таго, каб прынесьці максымальную карысьць справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Задач шмат, іх нельга абмежаваць нейкімі рамкамі. Паколькі на даным этапе колгаснага руху організацыя працы ў колгасах набывае вялізарнае значэньне, дык школа павінна зрабіць галоўны ўпор менавіта на вырашэньне гэтай практычнай задачы.

Кожная навучальная ўстанова, вясковая школа павінна прыняць непасрэдны ўдзел у складаньні ўсіх вытворчых плянаў, у выпрацоўцы тарыфных расцэнак і г. д. Ня толькі настаўнік, але і вучнёўскі колектыў павінны ўключыцца ў гэтую работу, падначаліўшы ёй усю сваю дзейнасьць. Вучні, на чале са сваім настаўнікам, павінны прадстаўляць сабою ўдарныя брыгады на пасеўным фронце

і выконваць паўдарнаму ўскладзеныя на іх абавязкі.

Вучот маёмасьці, сродкаў вытворчасьці, рабочай і цягавай сілы, кармоў, сельска-гаспадарчых машын і г. д. могуць правесьці нашы школы. Зразумела, што гэтыя задачы могуць быць выкананы толькі тады, калі кожнай школай будзе праведзена належная падрыхтоўчая работа. Кожная школа на падставе гэтага павінна мець у першую чаргу свой вытворчы плян, які павінен быць увязаны з агульным плянам колгасу.

У галіне ліквідацыі агроняпісьменнасьці таксама шырокае поле дзейнасьці. Пратручваньне насеньня, ачыстка садоў, закладка паказальных школьных градак, распаўсюджаньне літаратуры, прысьвячанай пасеўнай кампаніі—вось шэраг задач, вырашэньне якіх будзе значна садзейнічаць ажыцьцяўленьню агромініму-му колгасу і індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія ў гэтую вясну будуць адыграваць яшчэ значную ролю.

Час сяўбы набліжаецца. Быць пасыўным наглядальнікам, стаяць у баку ад бурнага жыцьця зараз не магчыма.

Справа ня ў прыгожых дэкларацыях і рэзолюцыях, а ў актыўным удзеле ў социялістычным будаўніцтве.

Вясна—політычны экзамэн для асьветніцкіх мас і ўсяе сыстэмы народнай асьветы. Гэты экзамэн павінен быць вытрыманы.

**ЯЗ. МАЦЮКЕВІЧ**

# ШКОЛА Ў БАРАЦЬБЕ ЗА ВЫКАНАНЬНЕ ПРОМФІНПЛЯНУ

Аднэю із важнейшых задач нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў сучасны момант зьяўляецца барацьба за выкананьне промфінпляну. Гэта баявая задача сёньняшняга дня ня можа прайсьці міма нашай школы гарадзкога тыпу. Школа ўсёй сваёй працай павінна ўвязацца ў бой за выкананьне колькасных і якасных паказальнікаў прамысловасьці, якія прадугледжаны плянавымі меркаваньнямі. Трэба памятаць, што барацьба за выкананьне і перавыкананьне промфінпляну—гэта барацьба за соцыялізм, барацьба за такія тэмпы разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры ў нашай краіне, якія забясьпечаць у магчыма мінімальны адрэзак часу магутны ўздым гаспадаркі і культуры на базе соцыялістычнай рэконструкцыі, рашучую ліквідацыю гісторычнай і культурнай адсталасьці краіны, канчатковае выкарчаваньне карэньняў капіталізму, палепшаньне матар'яльнага становішча працоўных мас.

Асноўны прынцып нашай школы—гэта прынцып адзінай працоўнай школы. Ажыцьцяўленьне гэтага прынцыпу перш за ўсё азначае самую цесную сувязь навучаньня з вытворчасьцю. Мэта сувязі навучаньня з вытворчасьцю заключаецца ў тым, каб выхаваць моладзь такім чынам, каб яна зьяўлялася актыўным удзельнікам і організатарам нашай соцыялістычнай гаспадаркі, будаўніком новай соцыялістычнай грамады. Н. К. Крупская кажа: «І сам комунізм ня што іншае, як добра, рацыянальна організаваная ў інтарэсах усяго колектыву грамадзкая праца. Вось чаму політэхнічная школа поруч з падрыхтоўкаю вучняў да працы павінна выхаваць у іх організацыйныя звычкі». Значэньне фабрыкі і заводу для школы надзвычайна вялікае. «Фабрыка,—кажа М. М. Пістрак,—разглядаецца школай ня толькі як прадмет вывучэньня, прадмет ілюстрацыі да кожнага курсу; фабрыка—шырокія дзьверы ў жыцьцё; праз гэтыя дзьверы жыцьцё ўводзіцца ў школу організаваным шляхам, зьбіраюцца ўсе станоўчыя і ўзьнімаючыя разьвіцьцё дзяцей бакі яго. Фабрыка ёсьць сродак і політычнага выхаваньня і ўзмацненьня марксыцкага сьветапогляду дзяцей. Вось чаму галоўнае значэньне фабрыкі ў тым, што яна ёсьць організуючы пачатак у жыцьці дзяцей, абуджальнік іх інтарэсаў,

яна павінна згуртаваць дзяцей і выпрацоўваць у іх колектыўную волю, організаваць іх».

Абежнік ВСНГ БССР ад 12-VIII-1929 г. кажа: «Кожны завод, кожная фабрыка зьяўляюцца ня толькі прамысловай, але і культурнай адзінкай, у якой вытворчыя, соцыяльныя, палітычныя і бытавыя элемэнты цесна перакрыжоўваюцца паміж сабою». Такім чынам, выходзячы з ролі і месца фабрыкі і заводу ў пэдагогічным процэсе школы, задача кожнай школы, кожнага настаўніка — паставіць работу так, каб увесь пэдагогічны процэс быў прасякнуты матар'ялам фабрыкі. Трэба дасьледваць прадпрыемства, ўсебакова вывучыць дынаміку яго разьвіцьця, яго пэрспэктывы ў сувязі з соцыялістычнай рэконструкцыяй усяе народнае гаспадаркі. Вывучэньне і дасьледваньне фабрык і заводаў у школьна-пэдагогічным процэсе не зьяўляецца самамэтаю: вывучаць прадпрыемства толькі для таго, каб ведаць гісторыю прадпрыемства, стан яго ў сучасны момант і пэрспэктыву разьвіцьця ў сувязі з пяцігадовым плянам соцыялістычнага будаўніцтва і не рабіць з гэтага практычных вывадаў было-б пустою работаю. Школа, вывучаючы і дасьледуючы тое ці іншае прадпрыемства, павінна скарыстаць гэты матар'ял для палепшаньня стану гэтага прадпрыемства, яго разьвіцьця.

Мы ведаем, што вынікі работы прамысловасьці за першы квартал бягучага гаспадарчага году ня могуць быць прызнаны здавальняючымі. Наша прамысловасьць, ня гледзячы на значныя дасягненьні ў росьце выпуску продукцыі, усё-ж пастаўленых перад ёю задач ня выканала, пры чым асноўная прычына недавыкананьня пляну зьмяшчаецца не ў аб'ектыўных цяжкасьцях, а ў недастатковасьці самой організацыі барацьбы за выкананьне промфінпляну. У першым квартале прамысловасьць БССР дала прырост валавое продукцыі на 63,7 проц. Усё-ж гэты вялізарны прырост продукцыі нас задаволіць ня можа, бо нашы пляны патрабуюць большага. Зразумела, што справа ня толькі ў колькасных, але і якасных паказальніках. Якасныя паказальнікі работы прамысловасьці за першы квартал і ў першую чаргу—зьніжэньне сабекошту продукцыі—асабліва дрэнныя. А між тым зьніжэньне сабекошту продукцыі мае вялізарнейшае значэньне для нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Зьніжэньне сабекошту адкрывае шлях да зьніжэньня цэн на тавары, яно дапамагае павялічэньню рэальнай заработнай платы працоўных, зьніжэньне сабекошту павялічвае накапленьні ў прамысловасьці, павялічвае капіталы, якія ідуць на будаўніцтва новых заводаў і фабрык.

Праводзячы дасьледваньне і вывучэньне школамі фабрык і заводаў, пранізваючы ўвесь пэдагогічны процэс матар'яламі фабрык і заводу, школа павінна концэнтраваць асаблівую ўвагу на наступных вузлавых пытаньнях, якія маюць вялізарнейшае практычнае значэньне ў справе палепшаньня вытворчага процэсу на тым ці іншым прадпрыемстве.

1. Дэталёва азнаёміцца з промфінплянам таго заводу або фабрыкі, якія зьяўляюцца об'ектамі дасьледваньня і вывучэньня ў процэсе школьнай работы.

2. Прасачыць, як ідзе рост выпуску продукцыі на тым заводзе і фабрыцы, што вывучаюцца, і ці адпавядае рост продукцыі паказальнікам промфінпляну.

3. Як праводзіцца соцыялістычная рацыяналізацыя на прадпрыемстве, роль у рацыяналізацыі заводакіраўніцтва, грамадзкіх організацый і самой рабочай масы.

4. Якая продукцыя выпушчаецца прадпрыемствам, якасьць яе, і якія прымаюцца захады да палепшаньня якасьці продукцыі.

5. Як праводзіцца зьніжэньне сабекошту продукцыі; ці адпавядае зьніжэньне сабекошту плянавым меркаваньням; прычыны, што перашкаджаюць зьніжэньню сабекошту продукцыі.

6. Як разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва на прадпрыемстве.

7. Ударныя брыгады на прадпрыемстве, іх роля ў справе ўзьняцьця продукцыйнасьці працы.

8. Становішча працоўнай дысцыпліны на прадпрыемстве.

9. Санітарна - гігіенічныя ўмовы на прадпрыемстве.

10. Як пастаўлена справа аховы працы рабочых.

11. Азнаямленьне з працай трохкутніку на прадпрыемстве — партыйная ячэйка, заводакіраўніцтва, фабзаўком; іх роля ў палепшаньні вытворчага працэсу і зьнішчэньні недахопаў.

12. Ажыцьцяўленьне прынцыпу адзінаначальства на прадпрыемстве.

13. Пастаноўка культурна - асьветнай работы на прадпрыемстве.

Вось тыя, у асноўным пытаньн, якія, нам здаецца, павінны быць увязаны ў першую чаргу ў пэдагогічны процэс пры вывучэньні фабрыкі і заводу. Вывучаючы фабрыку ці завод, робячы ўпор галоўным чынам на вывучэньне тых пытаньняў, якія мы адзначылі вышэй, школа, падсумаваўшы вынікі сваёй работы, павінна зараз-жа скарыстаць іх для палепшаньня вытворчасьці на прадпрыемстве.

Якім чынам гэта зрабіць? Як скарыстаць той матар'ял, які атрымаўся пры вывучэньні прадпрыемства? Формы і мэтоды скарыстаньня матар'ялу ў мэтах барацьбы за выкананьне промфінпляну могуць быць розныя: пастаноўка вынікаў сваёй работы на агульных сходах рабочых для абгаварэньня гэтых вынікаў і намячэньня мерапрыемстваў для зьнішчэньня заўважаных недахопаў; заключэньне дагавароў соцыялістычнага спаборніцтва паміж школаю і прадпрыемствам, у якіх (дагаварох) павінны быць адлюстраваны наступныя моманты: палепшаньне вытворчасьці работы, зьніжэньне сабекошту продукцыі, ўзьняцьце працоўнай дысцыпліны і г. д.; скарыстаньне атрыманага матар'ялу ў фабрычнай ці заводзкай газэце, пэрыодычным нашым друку; дапамога школы ў наладжваньні культурна-асьветнай работы на прадпрыемстве; скарыстаньне сям'і вучняў школаю ў мэтах выкананьня промфінпляну, што мае надзвычайна вялікае значэньне і г. д.

Нам здаецца, што няма патрэбы дэталізаваць усе віды, формы і мэтоды грамадзка-карыснай работы школы на прадпрыемстве. У кожным асобным выпадку, выходзячы з мясцовых умоў, школе няцяжка будзе намеціць, які від, якая форма грамадзка-карыснай работы лепш падыходзіць, каб дапамагчы, каб садзейнічаць прадпрыемству ў палепшаньні вытворчасьці, у выкананьні промфінпляну, у зьнішчэньні недахопаў, якія маюць месца на тым або іншым прадпрыемстве. Трэба толькі заўжды памятаць, што школьная работа па вывучэньні вытворчасьці не павінна абмяжоўвацца акадэмічнымі задачамі, што гэта работа павінна быць сапраўды грамадзка-карыснаю для прадпрыемства.

Усялякая работа школы на прадпрыемстве: культурна-асьветная, зьвязаная з процэсам вытворчасьці, па палепшаньню быту рабочых і г. д. хоць па маштабу будзе зусім і нязначай, але яна павінна ў выніку быць карыснай для прадпрыемства ці рабочых. Такім чынам, увязваючы ўвесь пэдагогічны процэс школы з вытворчасьцю—фабрыкаю або заводам, школа будзе садзейнічаць і дапамагаць выкананьню промфінпляну — гэтай важнейшай задачы сёньняшняга дня. З другога боку такая сталая сувязь школы з прадпрыемствам будзе вернай парукай ажыцьцяўленьня прынцыпу працоўнага комуністычнага выхаваньня моладзі.

# ПЯЦІГОДКА І КАДРЫ

## АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ КАДРАЎ

*(Даклад т. Платуна ў доме комасьветы).*

У нашых беларускіх умовах проблема кадраў стаіць яшчэ больш востра, чым ва ўсім Савецкім Саюзе, бо ў нас профэсіянальна-тэхнічная асьвета была надзвычайна мала разьвіта, і да гэтага году каштарысныя выдаткі на профэсіянальна-тэхнічную асьвету значна больш адстаюць ад выдаткаў на профасьвету ў РСФСР і Украіне.

Пытаньне падрыхтоўкі кадраў, як вы ведаеце, зьяўляецца пытаньнем ня тэхнічна-організацыйнага парадку, а пытаньнем надзвычайна вялікай політычнай важнасьці, пытаньнем падрыхтоўкі колькасьці і якасьці кадраў, якія нам патрэбны, якія-б сапраўды адпавядалі нашым сучасным задачам і зьяўляліся сапраўднымі будаўнікамі соцыялізму, якія забясьпечылі-б выкананьне ўсіх нашых задач у галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Адсюль вынікае, што проблема падрыхтоўкі кадраў зьяўляецца сугуба політычнай проблемай, проблемай клясавай барацьбы.

Вы, таварышы, пэўна чыталі прамову тав. Рыкава, а таксама артыкулы тав. Крыжаноўскага ў «Правде» пра тое шкодніцтва, якое мела месца на нашых прадпрыемствах і ў розных гаспадарчых установах з боку буржуазных спэцыялістых. З гэтага пункту погляду перад намі надзвычайна востра стаіць пытаньне аб замене гэтых шкодніцкіх, клясава-варожых элемэнтаў, аб выцясьненьні іх з нашых гаспадарак і культурных установаў. Але ў нас наглядаецца шкодніцтва і іншага характару—гэта шкодніцтва, калі можна так выразіцца, несьвядомае, якое залежыць ад агульнай нашай някультурнасьці, ад нашага агульнага нізкага ўзроўню тэхнічных ведаў.

Мы мелі выпадкі на нашых фабрыках і заводах, калі несьвядома шкодзілі адданыя савецкай уладзе і партыі рабочыя, калі гэтыя рабочыя, з прычыны сваёй недастатковай культурнасьці і тэхнічнай падрыхтаванасьці, не як сьлед адносяцца да машын, барбарскі адносяцца да іх.

Вось чаму перад намі таксама стаіць вялізарнейшая задача—гэта падвысіць агульнакультурны і тэхнічны ўзровень працоўных мас, без чаго мы будзем пасоўвацца не такімі шпаркімі тэмпамі, як нам гэта патрэбна.

Будучы на сходзе ячэйкі працасьветы, я чуў там выступленьне аднаго настаўніка, які скардзіўся на тое, што настаўнікі ня могуць прымяніць сваіх сіл на фабрыках і заводах, што іх нерацыянальна выкарыстоўваюць на гэтых фабрыках і заводах, а таксама прымушаюць выседжваць на розных пасяджэньнях, якіх у нас, на вялікі жаль, бывае яшчэ больш, чым трэ' было-б. І сапраўды, трэба выкарыстоўваць нашых спэцыялістых так, каб яны былі як сьлед і рацыянальна выкарыстаны, дзе-б яны ні былі. Напрыклад, ня можна пасылаць якога-небудзь спэцыялістага высокае кваліфікацыі на зусім нязначную работу, як, напрыклад, кіраўніцтва гуртком па ліквідацыі няпісьменнасьці, бо ў нас такія людзі, як матэматыкі, прыродазнаўцы і г. д., могуць з вялікім посьпехам даваць рабочым тыя тэхнічныя веды, якіх у іх (рабочых) не хапае. Трэба, як сьлед, зьвязацца з профэсійнымі організацыямі, а праз іх непасрэдна з фабрычнымі рабочымі і організаваць там на фабрыках і заводах, у рабочых клюбах і чырвоных кутках гурткі па падвышэньню тэхнічнай кваліфікацыі; гэтага ад нас вымагае яшчэ і тое, што зараз мы бярэм вельмі шмат

кваліфікаваных рабочых з фабрык і заводаў і пасылаем іх на вёску. Таксама шмат бярэм і будзем браць яшчэ больш кваліфікаваных рабочых для пасылкі ў навучальныя ўстановы, каб зрабіць з іх ужо кваліфікаваных спэцыялістых. І вось для гэтага рацыянальнае скарыстаньне настаўніцкіх, профэсарскіх і інжынэрных сіл нам трэба будзе наладзіць. Мы яшчэ ў гэтай справе таксама някультурны, мы яшчэ не організавалі нашай работы так, каб выкарыстаньне нашых культурных сіл дало больш карысьці.

Наступнае пытаньне—гэта работа з нашымі старымі спэцыялістымі. Тут трэба застанавіцца на некалькіх момантах: зараз мы ўжо знаходзімся ў такім становішчы, што можам і павінны патрабаваць ад нашых спэцыялістых актыўнае работы на карысьць працоўных; нас ужо ня можа задаволіць лёяльнаьць, нэйтралітэт, бо нэйтралітэт, як сказаў тав. Рыкаў, мяжуецца з шкодніцтвам, бо нэйтральны спэцыялісты адносіцца лёяльна як да савецкай улады, гэтак і да варожых нам элемэнтаў сярод спэцыялістых, у гэтым двухбаковая сутнасьць лёяльнасьці, нэйтралітэту.

Мы павінны патрабаваць, асабліва ад навуковых і наогул настаўніцкіх кадраў марксыцкага мэтоду выкладаньня, пролетарскае, клясавае выразнасьці ў выхаваўчай рабоце. Інакш іх работа ня толькі ня будзе карыснай, але нават шкоднай. Асабліва вялікае значэньне выразнасьці клясавага зьместу набывае работа ў нашых складаных шматнацыянальных беларускіх умовах, бо вы пэўна ведаеце, што ў нас, на Беларусі, звычайна розныя непаразуменьні агульнага парадку пераплятаюцца з нацыянальнымі непаразуменьнямі, скажэньнем лініі партыі ў нац. політыцы (нац.-дэмократызм, шовінізм, антысэмітызм). Адначасна з гэтым, мы павінны павесьці работу сярод нашых спэцыялістых так, каб тая частка людзей, якая жадае актыўна працаваць на карысьць будаўніцтва соцыялізму, была больш прыцягнута да нас. У нас надзвычайна часта бываюць такія выпадкі, калі той або іншы настаўнік альбо профэсар незнарок зробіць якую-небудзь памылку ў рабоце, адразу пачынаецца цкаваньне, адразу-ж пачынаецца выжываньне, адразу-ж пачынаюць біць яго па галаве абухам, тым часам як сярод гэтых людзей мы павінны паставіць работу так, каб, дапамагаючы ім стварэньнем належных умоў, усё больш уцягвацца ў актыўную работу на карысьць пролетарыяту, адначасова, па таварыскі, выпраўляць тыя памылкі, якія сустракаюцца ў іх рабоце.

Разам з гэтым мы павінны павесьці лепш політыка-выхаваўчую работу сярод нашых навуковых работнікаў, студэнтаў, настаўнікаў і наогул сярод усіх спэцыялістых. Вельмі часта бывае проста дзіна, як гэта людзі могуць быць так політычна няпісьменнымі. Прывяду два прыклады. Мы мелі такі выпадак, калі адна настаўніца вывесіла лёзунг у школе: «Няхай жыве міжнародная соцыял-дэмократыя»! І калі запыталіся ў гэтай настаўніцы, чаму яна так зрабіла, дык, па яе словах, яна думала, што соцыял дэмакраты называюцца бальшавікамі-комуністамі ў «домашнем обыходе»». Гэты таварыш мусіць чула пра гісторыю партыі, але ніколі яе ня чытала. Цяпер другі прыклад. Ужо, на вялікі жаль, досыць кваліфікаваны настаўнік, член партыі, загадчык 7-годкі вывесіў лёзунг таксама ў школе: «Да здравствует свобода, равенство и братство!». І нашаму інспэктару, які паехаў у гэты горад і зайшоў у гэтую школу, вельмі доўга прышлося даводзіць гэтаму таварышу, што гэты лёзунг нікуды ня варты. Гэта было ў 29 годзе, некалькі месяцаў таму назад, г. зн., тады, калі ўжо надзвычайна востра пастаўлена было пытаньне аб узмацненьні выхаваўчае работы, аб клясавай выразнасьці ў рабоце і г. д. Адсюль вынікае, што перад намі надзвычайна востра стаіць пытаньне аб падвышэньні політычнага ўзроўню нашых спэцыялістых.

Адначасова хачу зрабіць некалькі заўваг адносна ачысткі ад клясава-варожых элемэнтаў—студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў. Ёсць дырэктыва аб узмацненьні ачысткі ВНУ і тэхнікумаў ад варожых элемэнтаў, у нас праводзіцца па гэтым пытаньні вялікая работа, шмат ужо зроблена, трэба працягваць і надалей праводзіць гэтую работу, я тут толькі хачу заўважыць аб тых недарэчнасьцях, якія сустракаюцца на практыцы.

На вялікі жаль, бываюць выпадкі, калі і студэнцкія організацыі і кіраўнікі навучальных установ падыходзяць да гэтага з кандачка. Прыводжу прыклад. Бацька аднаго студэнта 4-га курсу БДУ быў 25 год рабочым і ў 24 г .кінуў працаваць, як інвалід. На вялікі жаль, ў той час мы яго не маглі як сьлед матар'яльна забясьпечыць, і матка пачала гандляваць семячкамі. Унівэрсытэт даведаўся і звольніў гэтага студэнта з унівэрсытэту. Такіх прыкладаў можна прывесьці некалькі. Мы павінны мець правільны падыход да выключэньня студэнтаў. Калі чалавек доўгі час жыве самастойна, хоць ён нават выхадзец з соцыяльна-чужой клясы, калі ён доўгі час быў на карысцай рабоце і вучыцца ў савецкай школе, якая перавыхоўвае ўсё наша маладое пакаленьне, калі ён прымае актыўны ўдзел у грамадзкай рабоце, дык яго нельга выкідаць толькі па соцыяльнаму паходжаньню, асабліва з апошніх курсаў.

Апошняя агульная заўвага: наконт програм і падручнікаў. Нам трэба заразжа перагледзець навучальныя програмы і пляны нашых вышэйшых і сярэдніх школ і наогул усяе нашай сыстэмы нарасьветы так, каб гэтыя програмы былі прыстасаваны да сучаснага жыцьця, і каб па іх мы рыхтавалі патрэбных нам спэцыялістых, людзей—актыўных будаўнікоў соцыялізму.

Я ня буду шмат гаварыць пра нашыя старыя програмы. Яны былі нікудышныя ня толькі ў вышэйшых і сярэдніх школах, але, на жаль, яны былі нікуды ня вартыя ў нашых масавых школах соцыяльнага выхаваньня—4-годках, 7-годках, 9-годках. Мы зараз перагледаем гэтыя програмы, мобілізаваўшы на гэта шмат людзей.

Тое-ж самае і з падручнікамі. У некаторых нашых падручніках, асабліва масавай школы, што называецца, чорт ведае што напісана, не гаворачы ўжо пра палітычную блытаніну, там ёсьць працягваньне антысавецкіх поглядаў і формулёвак. І вось на гэтую пісаніну ня было рэагаваньня з боку шырокіх мас выкладчыкаў. Вы-ж падумайце, таварышы, мы маем каля 15 тысяч пэдагогаў, і з гэтых 15 тысяч амаль ніхто не рэагаваў на гэтае бясчынства, было толькі, здаецца, 2 крытычных допісы. Праўда, апошнія №№ часопісі «Асьвета» і асабліва «Комуністычнага Выхаваньня» разгарнулі сталую крытыку як програм, так і падручнікаў, чым значна дапамаглі выпраўленьню гэтых прарываў. Выкладаньне па гэтых падручніках праводзілася бяз усякага крытычнага падыходу і забівалі імі галовы вучняў. Ня думаю, каб усе гэтыя 15 тысяч пэдагогаў выкладчыкаў былі політычна няпісьменнымі, таму і не рэагавалі на гэтую пісаніну, часамі контррэволюцыйнага зьместу. Я баюся, што шмат хто з выкладчыкаў кіраваўся тым, аб чым я хачу прывесьці вам прыклад. Аднаму навуковаму працаўніку на конфэрэнцыі сельска-гаспадарчых спэцыялістых задалі пытаньне: «Ці можна электрыфікаваць сельскую гаспадарку?» Ён кажа: «Можна электрыфікаваць сядзібу». «А на палявых работах электрыфікацыя магчыма?»—зноў задаюць яму пытаньне. Кажа: «не». Пытаюцца—«чаму ня можна». Адказвае: «Няма такога дэкрэту».

Вось і тут памойму шмат хто з выкладчыкаў шкодную пісаніну прымаў за дэкрэтыўна ўстаноўленую і не рэагаваў на яе.

Я, таварышы, вам не таму гэта гавару, каб проста расказаць, а таму, што шмат хто з вас выкладчыкі і вы таксама выкладалі па гэтых кніжках і, як партыйцы, вы павінны былі быць застрэльшчыкамі ў выкрыцьці і зьнішчэньні гэтых ненормальнасьцяй.

Пасьля гэтых некалькіх заўваг агульнага парадку, дазвольце перайсьці да таго, як мы выканалі і выконваем дырэктывы партыі па падрыхтоўцы кадраў.

Першае: мы ўсе нашы вышэйшыя і сярэднія профтэхнічныя навучальныя ўстановы перавялі на 3-4 гадовы курс навучаньня. Пакінулі на 4-х гадов. курсе навучаньня толькі вэтэрынарны інстытут, некаторыя факультэты с/г акадэміі і мэдычны факультэт. Пры тым павінен сказаць, што некаторыя таварышы мэдыкі, праўда адзінкі, чамусьці ня хочуць выконваць дырэктыў партыі і даводзяць, што на мэдфаку патрэбны хоць-бы 4⅓ гады навучаньня, і нават уносяць такі проект у СНК. Перавялі на 3-х гадовы курс навучаньня ўсе тэхнікумы індустрыяльныя, сельска-гаспадарчыя, пэдагогічныя, так што ў гэтым годзе мы будзем

мецъ два выпускі—3 і 4 курсы. 3-ці курс мы выпусьцім у верасьні гэтага году, 4-ы курс выпускаем зараз. Па гэтым пытаньні мы яшчэ маем шмат цяжкасьцяй у перабудове і прыстасаваньні навучальных плянаў да скарочаных тэрмінаў. Таксама мы маем некаторыя непаразуменьні з нашай профэсурай. Некаторыя профэсары лічаць немагчымым перавесьці на скарочаныя курсы навучаньня, гаворачы, што «мы ня можам даць спэцыялістых у такі кароткі тэрмін навучаньня», і бывае нават, што сабатуюць, ня прыходзяць на заняткі па розных прычынах. Гэта было заўважана ў БДУ, дзе мы мелі прарывы ў занятках.

Другое пытаньне—гэта пытаньне адзінаначальства. Мы ўжо зараз ўвялі адзінаначальства ў нашых ВНУ і тэхнікумах: скасавалі праўленьні і дэканаты. Тут зноў такі мы маем некаторыя недарэчнасьці. Рэктары, дырэктары і грамадзкія організацыі яшчэ ня ведаюць свайго месца, сваёй ролі ў навучальнай ўстанове, згодна дырэктыў партыі. Гэтыя непаразуменьні трэба нам выжыць у далейшай рабоце. Трэба, каб адзінаначальнікі і парт-і профорганізацыі зразумелі пастанову лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б), каб роля рэктара, дырэктара ня змазвалася, каб ён не хаваўся за плечы парторганізацыі, каб рэктар не хадзіў у парткалектыў па кожнаму нікчэмнаму пытаньню, як напрыклад, як паставіць той або іншы стол, парту і г. д. У некаторых ячэйках гэтымі непатрэбнымі справамі яшчэ займаюцца.

Перш чым перайсьці да паведамленьня плянавых наметак колькаснага забесьпячэньня кадрамі народнае гаспадаркі БССР, дазвольце зрабіць заўвагу па с/гаспадарчай асьвеце. Тут у нас было найбольш небясьпечна. Наша прафэсіянальная сельска-гаспадарчая асьвета была так пабудована, што па зьместу работы была накіравана на падрыхтоўку спэцыялістых для індывідуальнай сельскай гаспадаркі. І нездарма ў Горацкім раёне, дзе знаходзіцца, можна сказаць, штаб па сельска-гаспадарчай асьвеце, пераведзена на хутары 80 проц. усіх сельскіх гаспадарак і да 29 году ня было ніводнага колгасу, пры чым каля 40 проц. хутароў было створана ў старыя часы, а процантаў 40 было створана ўжо пры савецкай уладзе.

Мы ў гэтым паўгодзьдзі рэорганізавалі с/гасп. акадэмію, падпарадкаваўшы ўсе яе факультэты задачам буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, будзем рыхтаваць там організатараў-агрономаў-эканомістых, організатараў—землеўпарадчыкаў буйных зямельных плошчаў і г. д.

Зараз дазвольце застанавіцца на тым, колькі мы будзем рыхтаваць спэцыялістых для сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і эканомістых, г. зн. толькі па трох галінах. Нам патрэбна будзе да канца пяцігодкі спэцыялістых з вышэйшай кваліфікацыяй па гэтых 3-х галінах каля 18.000 чалавек, з сярэдняй—25.000 чал., ня лічачы пэдагогаў і дактароў. Пры чым гэтай колькасьцю, калі-б нормальна комплектаваць кадрамі нашу прамысловасьць і сельскую гаспадарку, мы забясьпечваем, прыблізна, 80 проц. таго, што нам патрэбна. У гэтым годзе нам патрэбна ў нашы вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы прыняць каля 20 тыс. чал. Калі нам удасца разгарнуць усё тое, аб чым я гаварыў, нам трэба толькі па гэтых трох галінах падрыхтоўкі кадраў выдаткаваць на будаўніцтва і на ўтрыманьне 37 млн. руб. у будучым годзе, а да канца пяцігодкі—каля 130 млн. Каб паказаць вам грандыёзнасьць гэтай лічбы, магу сказаць, што дзяржаўны бюджэт НКАсьветы ў гэтым годзе па ўсіх выдатках выражаўся ў 16 міл. і мясцовы—каля 37 міл., пры чым на профэсіянальна-тэхнічную асьвету выдаткі па дзяржбюджэту складалі 5 міл., а зараз мы толькі па гэтых трох галінах павінны выдаткаваць 37 міл. руб., паўтараю, ня лічачы падрыхтоўкі пэдагогічных і мэдычных кадраў.

Мяркуем адчыніць 8 новых с.-гаспадарчых тэхнікумаў, ВТНУ, якая пачне будавацца на Беларусі з будучага году і ў якую першы прыём будзе на 780 чал. Далей, у нас было толькі 2 політэхнікумы, у гэтым годзе мы думаем адчыніць яшчэ 7 дзённых індустрыяльных тэхнікумаў і 6 вячэрніх.

Вось, вельмі схэматычна тыя мерапрыемствы, якія намечаны. Апроч гэтага, мы організуем шырокую сетку аднагадовых і двухгадовых курсаў,

праз якія мы будзем прапускаць практыкаў-спэцыялістых і выпускаць іх як тэхнікаў і інжынэраў, мы будзем браць туды скончыўшых профшколы і тэхнікумы, маючых вялікі практычны стаж па той ці іншай галіне народнае гаспадаркі, і пасылаць на гэтыя аднагадовыя і двухгадовыя курсы, каб падрыхтаваць з іх тэхнікаў і інжынэраў. Зразумела, што акадэмічная якасьць гэтых працаўнікоў будзе ня зусім дастатковая, але другога выйсьця ў нас ня будзе, мы прымушаны гэта рабіць для таго, каб забясьпечыць патрэбы нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Паколькі тут многія таварышы будуць цікавіцца пытаньнем пэдагогічных кадраў, я каротка спынюся на гэтым пытаньні. Хоць наша плянаваньне падрыхтоўкі пэдагогічных кадраў яшчэ не зацьверджана, але мы думаем унесьці ўжо таксама значныя зьмены ў організацыю пэдагогічнае асьветы. Мы мяркуем наш пэдфак, значна пашырыўшы яго, пакінуць толькі для падрыхтоўкі настаўнікаў для 3-концэнтру школ соцыяльнага выхаваньня (для 8, 9 і 10 груп), для рабфакаў і тэхнікумаў, профшкол на базе 7-годкі і фабзавучаў. Для забесьпячэньня кадрамі другога концэнтру нашых 7-годак (5, 6 і 7 групы) мы організуем двухгадовыя пэдагогічныя інстытуты на базе пэдтэхнікумаў ,якія павінны будуць даваць нам настаўнікаў, патрэбных для выкладаньня ў 2-м концэнтры сямігодкі. Трэба будзе таксама пашырыць пэдтэхнікумы і настаўніцкія кароткатэрміновыя курсы дзеля таго, каб забясьпечыць выкананьне пляну ўсеагульнага навучаньня. Такая рэорганізацыя пэдагогічнае асьветы выклікаецца тым, што мы ўжо ў гэтым годзе адчуваем колькасны і якасны разрыў паміж масаваю школаю соцыяльнага выхаваньня і сярэдняю і вышэйшаю профтэхнічнаю школаю. Таму з будучага году мы значна будзем пашыраць сетку сямігадовых школ, асабліва на вёсцы, якія, да-рэчы сказаць, мы ў працягу 2-х год павінны рэорганізаваць па тыпу школ сялянскае моладзі, каб зрабіць іх сапраўды працоўнымі школамі. У некалькі разоў пашыраем 9-ці і 10-ці гадовыя школы. У апошні год пяцігодкі мяркуем увесьці ўсеагульнае навучаньне на базе 7-годкі для дзяцей членаў профсаюзаў. Гэтыя тэмпы пашырэньня масавых школ прымушаюць нас зрабіць такую часовую рэорганізацыю пэдагогічнае асьветы, каб забясьпечыць іх пэдагогічнымі кадрамі.

Таксама значна будзе пашырацца прыём і на мэдфак, і наогул мэдычная асьвета будзе значна пашырана.

Вось, таварышы, тыя агульныя меркаваньні, якія зараз ужо часткова зацьверджаны Саўнаркомам і якія часткова, у дачыненьні да пэдагогічных і мэдычных кадраў, ужо распрацованы і ставяцца на зацьверджаньне Саўнаркому.

Такая рэорганізацыя нашае профтэхнічнае асьветы, асабліва скарачэньне тэрмінаў навучаньня, не павінна адбівацца на акадэмічнай якасьці выпускаемых спэцыялістых. Дасягаем мы гэтага, па-першае, тым, што надаем вузкую спэцыялізацыю, згодна дырэктывы партыі, для гэтага мы перабудоўваем навучальныя пляны і програмы, выкідваючы адтуль непатрэбныя дысцыпліны, па-другое, тым, што мы ўводзім 10-цімесячны навучальны год, а да гэтага часу фактычна навучальныя ўстановы працавалі толькі 7 месяцаў і, па-трэцяе,— трэба дабіцца ўвядзеньня належнае працоўнае дысцыпліны як з боку навуковых працаўнікоў, гэтак і, асабліва, студэнцтва. На вялікі жаль, да гэтага часу, маюць месца сярод паасобных студэнтаў дрэнныя традыцыі старога студэнцтва, лічыцца «плохим тоном», калі наведваць усе лекцыі і сэмінары. Трэба па пытаньні вучэбнае дысцыпліны дамагчыся, каб у нашых навучальных установах была пастаўлена справа так, як на фабрыках і заводах, каб студэнт уразумеў, што на працягу часу яго вучобы— гэта ёсьць яго сталая работа, профэсія— ён павінен, так сама, як і рабочы каля варштату, пэўны, устаноўлены час аддаваць вучобе.

Зараз дазвольце каротка застанавіцца на тых цяжкасьцях, з якімі мы сустрэнемся па разгортваньню пляну падрыхтоўкі кадраў. Першае—гэта ў зьвязку з разрывам у нас сярэдняе і вышэйшае асьветы. Колькасна і програмна мы ня зможам задаволіць з нормальнае школы контынгент прыёму ,таму ўжо з кастрыч-

ніка 29 году і НКА і проф. і студэнцкімі організацыямі організавана шырока сетка падрыхтоўчых кароткатэрміновых курсаў з рабочых і сялян, і гэтымі курсамі мы ў асноўным запоўнім той разрыў, які ў нас быў у гэтым годзе.

Другое: у нас вельмі цяжка будзе з вучэбнаю і жыльлёваю плошчаю, асабліва ў Менску. Мы з будучага навучальнага году прымем, прыблізна, столькі студэнтаў, колькі ў нас зараз вучыцца на ўсіх курсах, і калі мы ў леташнім годзе мелі вялікія цяжкасьці з інтэрнатамі, дык у гэтым годзе гэтыя цяжкасьці павялічацца. Наркомасьветы будуюцца інтэрнаты на 400—500 чалавек, але-ж гэта, як кажуць, «капля ў моры», і зараз СНК даў дырэктыву АВК і саветам прыняць усе захады, каб усё, што толькі магчыма, было дадзена пад навучальныя ўстановы. Думаю, што калі саветы і выканкомы сур'ёзна падыйдуць да гэтага пытаньня, мы жыльлёвыя цяжкасьці зьмякчым.

І трэцяе—пытаньне пэдагогічнага пэрсоналу для пашыраемых і нанова адчыняемых навучальных устаноў. Мы вельмі бедны навуковымі працаўнікамі, асабліва для індустрыяльных і с.-гаспадарчых навучальных. устаноў. Як вы ўжо ведаеце, справа падрыхтоўкі навуковых працаўнікоў у нас найгорш стаяла; зараз мы гэта папраўляем, але навуковага працаўніка можам даць толькі праз некалькі год.

Таму мы ставім рашуча пытаньне перад саюзнымі організацыямі аб камандыраваньні ў БССР патрэбнай колькасьці навуковых працаўнікоў.

Апошняе, на чым я хачу застанавіцца,—гэта аб масавасьці ў рабоце па нарасьвеце. Да гэтага часу органы нарасьветы яшчэ не набылі характару штабаў культурнай рэволюцыі, да гэтага часу працоўныя масы не завастрылі свае ўвагі на справе культурнага будаўніцтва. Мы зараз паставілі перад належнымі організацыямі пытаньне аб тым, каб шырокая працоўная грамадзкасьць больш цікавілася справаю нарасьветы, каб усю справу нарасьветы паставіць пад належны контроль і дапамогу органам нарасьветы з боку працоўных, інакш справа будзе марудна пасоўвацца наперад, а тады, калі будзе згуртавана навакол нарасьветы ўвага шырокіх працоўных мас, мы пераможам цяжкасьці і справімся з сваімі задачамі.

---

**А. ЯВОРСКІ**

# ПРОБЛЕМА НАВУКОВЫХ КАДРАЎ

У той час, як у нашым Саюзе, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, адбываецца шпаркае соцыялістычнае будаўніцтва, у той час, як наша краіна ператвараецца ў індустрыяльна-аграрную, калі ідзе перабудова ўсяе народнае гаспадаркі, вельмі рашуча паўстае пытаньне забесьпячэньня растучай соцыялістычнай гаспадаркі новымі пролетарскімі кадрамі, кадрамі сапраўдных барацьбітоў за справу пабудовы соцыялізму ў нашай краіне. Вельмі вялікае значэньне мае тэрмін забесьпячэньня народнай гаспадаркі кадрамі, у першую чаргу, інустрыяльна-тэхнічнымі і сельска-гаспадарчымі.

Немалаважным пытаньнем на сёньняшні дзень павінна зьявіцца проблема падрыхтоўкі навуковых кадраў, асабліва для БССР, у мінулым адсталай навукова і наогул культурна.

У нас чамусьці вельмі мала гавораць пра падрыхтоўку навуковых кадраў, лічачы гэта вельмі не складаным пытаньнем. На маю думку, гэтае пытаньне на сёньняшні дзень набывае вельмі вялікую сур'ёзнасьць у сувязі з тым, што падрыхтоўка навуковых кадраў патрабуе значна больш часу, сродкаў і навуковага кіраўніцтва. Да апошніх часоў справаю падрыхтоўкі навуковых кадраў мала цікавіліся нашы кіруючыя органы і абмяжоўваліся толькі агульнымі дырэктывамі. Трэба вакол гэтага скласьці грамадзкую думку і з усёю сур'ёзнасьцю ўзяц-

ца за работу па падрыхтоўцы навуковых кадраў для нашай ўзрастаючай соцыялiстычнай гаспадаркi.

Да апошнiх часоў на падрыхтоўку асьпiрантуры, на яе падбор нi грамадзкiя, нi партыйныя, нi савецкiя органы не зварочвалi належнай увагi.

Падбор асьпiрантаў праходзiў самацёкам, бяз ўсякага плянаваньня гэтай справы. Яшчэ ў пачатку i ў сярэдзiне 1929 г., калi пытаньне аб кадрах ужо было пастаўлена рубам, нават у той час бывалi выпадкi, калi вытрыманыя партыйцы, якiя маюць нахiл да навуковай работы, у асьпiранты не пападалi толькi дзякуючы таму, што ня мелi «рэкомэндацыi» профэсуры.

Зразумела, што гэтых рэкомэндацыйдамагалiся часьцей за ўсё навуковыя працаўнiкi не з пажаданых элемэнтаў.

У вынiку такога падбору кадраў мы мелi вельмi нездавальняючы склад асьпiрантуры: напрыклад, склад асьпiрантаў БАН вылучаўся значнай часткай з духоўных, навукова-дасьледчы iнстытут сельскай i лясной гаспадаркi iмя Ленiна чамусьцi комплектаваў асьпiрантуру толькi аднымi беларусамi. Часта ў асьпiрантуру пападалi асобы, якiя ня мелi здольнасьцi да навуковае работы.

Наколькi бясплянава адбываўся падбор i высоўваньне ў асьпiранты, пакажа якасны склад асьпiрантаў, прынятых ва ўсе навукова-дасьледчыя ўстановы i ВНУ БССР да 1-X 1929 г.

| Агульны лiк прынятых | Рабоч. | Сялян | Служ. ды iнш. |
|---|---|---|---|
| 100 % | 10% | 60% | 30% |

Па партыйнасьцi

| УСЯГО | Партыйцаў i комсамольцаў | Беспарт. |
|---|---|---|
| 100% | 45% | 55% |

Вывад ясны: мала зварочвалася ўвагi на вярбоўку ў асьпiранты рабочых i батракоў, часта ўстановы, падбiраючы iх па здольнасьцi, ухiлялiся ад клясавай лiнii. Зразумела, частку вiны ў падборы асьпiрантуры трэба аднесьцi на нездавальняючае комплектаваньне ВНУ. Нязначны процант рабочых, батракоў i бяднейшага сялянства, партыйцаў.

Ня толькi мала ўвагi зварочвалася на падбор асьпiрантаў, а нават само кiраўнiцтва навуковаю працаю было не адпавядаючым: не выпадкова амаль 30 проц. усяе асьпiрантуры не атрымоўвалi навуковага кiраўнiцтва. Вельмi часта гэтае навуковае кiраўнiцтва было формальным i казённым. Старая частка профэсуры ў гэтым была нядобрасумленна. Мэтодыка i органiзацыя працы таксама адставалi ад тэмпаў соцыялiстычнага будаўнiцтва: значная частка асьпiрантуры працавала без марксыцкага мiнiмуму, нярэдкi выпадкi, калi адсутнiчалi програмы па асобных дысцыплiнах, у большасьцi ўстаноў часта займалiся вузкiм практыцызмам, не даючы марксыцкай асновы тэй або iншай галiне навукi. У вынiку гэтай бясплянавай падрыхтоўкi мы маем па ўстановах частку асьпiрантаў, якая ня мае дасягненьняў у сваёй вучобе, нават ставiцца пытаньне, каб перагледзець склад асьпiрантаў i частку зусiм не пасьпяваючых адсеяць.

У такiм падборы асьпiрантуры i кiраўнiцтве яе працаю трэба вiнавацiць нашы кiраўнiчыя органы, якiя ня мелi ў гэтай рабоце абсолютна нiякай плянавасьцi. Акрамя гэтага, наогул мелася нейкая абмежаванасьць у справе вылучэньня асьпiрантаў, з прычыны чаго да гэтага часу маем вельмi нязначны лiк асьпiрантаў па ўстановах: БДУ—49, Вэтiнстытут — 8 i г. д. Шэраг найважнейшых галiн да гэтага часу ня рыхтуюць гэтых кадраў, а калi рыхтуюць, дык вельмi «асьцярожна».

За апошнi час у справе падбору i падрыхтоўкi асьпiрантаў ёсьць пералом. Якасны склад прынятых у асьпiранты з 1-X 1929 г. па 1-II 1930 г. гаворыць аб наступным:

Па соцыяльнаму становiшчу

| Лiк прынятых | Партыйцаў i комсамольцаў | Беспарт. |
|---|---|---|
| 100% | 90% | 10% |

Па партыйнасьцi

| Лiк прынятых | Партыйцаў i комсам. | Беспарт. |
|---|---|---|
| 100% | 90% | 10% |

З прыведзеных лiчбаў можна зрабiць вывад, што прыём у апошнiя часы палеп-

шыўся. Калі раней у агульным ліку асьпірантаў было 45 проц. партыйцаў, дык цяпер—73 проц., а разам з комсамольцамі—90 проц., што можна прызнаць зусім здавальняючым. Што датычыцца соцыяльнага складу, дык ёсьць нязначнае палепшаньне: за апошнія месяцы лік рабочых узрос на 4 проц., сялян—на 3 проц. Гэта тлумачыцца шэрагам прычын: 1) нязначным процантам рабочых у агульным ліку канчаючых ВНУ; 2) не рашучым высоўваньнем рабочых, хоць яны і менш падрыхтаваны да навуковае работы, чым іншыя соцыяльныя групоўкі; 3) нездавальняючай пастаноўкай работы з вылучэнцамі рабочымі там, дзе яны ёсьць, і няўважлівыя адносіны да палепшаньня акадэмпасьпяховасьці і падрыхтоўкі рабочых у асьпіранты там, дзе няма інстытуту вылучэнцаў.

Ёсьць зрух у справе навуковага кіраўніцтва і мэтодыкі заняткаў. Выпраўлен марксыцкі мінімум, у які ўключана значная частка ленінізму, марксызму, політэкономіі. Програмная частка па спэцыяльнасьцях у асноўным прапрацоўваецца.

Больш дрэнна абстаіць пытаньне з навуковымі командыроўкамі асьпірантаў у іншыя рэспублікі. Не заўсёды забясьпечваецца ім магчымасьць як належыць выкарыстаць командыроўку. Часта гэта здараецца таму, што ўстановы, якія пасылаюць асьпірантаў для работы ў навукова-дасьледчыя ўстановы іншых рэспублік, ня лічаць патрэбным папярэдне дагаварыцца аб дачы ім належнага навуковага кіраўніцтва і дапамогі ў рабоце.

Вельмі часта матар'яльныя ўмовы зьяўляюцца перашкодаю ў рабоце: большасьць навукова-дасьледчых устаноў пры комадыраваньні асьпірантаў у цэнтры, разьмер стыпэндыі не павялічваюць, а, пры ўмовах дарагоўлі жыцьця, гэта таксама становіцца перашкодаю ў рабоце.

Разглядаючы проблему падрыхтоўкі навуковых кадраў, якая зьяўляецца проблемаю не гадзін і дзён, а гадоў, патрэбна самае галоўнае—плянавасьць і плянавасьць на некалькі гадоў уперад. Калі ставіць гэту проблему ў пэрспэктыве, нас павінна цікавіць, наколькі падрыхтоўка асьпірантаў, як адна з крыніц, задаволіць патрэбы шпаркага росту навуковых працаўнікоў у працягу пяцігодкі ў сувязі з шпаркім тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва, у сувязі з рэконструкцыяй усяе народнае гаспадаркі.

Індустрыялізацыя краіны, соцыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі, шпаркае культурнае будаўніцтва патрабуюць значных кадраў навуковых працаўнікоў, працаўнікоў, якія былі-б аддадзены справе пабудовы соцыялізму ў нашай краіне. Адчыненьне ВНТУ, адчыненьне пэдагогічных інстытутаў, рэорганізацыя сельска-гаспадарчай акадэміі і прыстасаваньне яе да рэконструкцыі с гаспадаркі, рэорганізацыя факультэтаў унівэрсытэту і шэрагу навукова-дасьледчых устаноў патрабуюць значнага ліку навуковых кадраў.

Каб задаволіць усе патрэбы ў навуковых працаўнікох, згодна орыентыроўцы пяцігодкі, навуковых працаўнікоў па ўсіх галінах гаспадаркі, патрэбна будзе ў канцы 33-га году 2.375 навуковых працаўнікоў, у той час, як у бягучым годзе маем усяго 900 чалавек—павялічэньне ў $2\frac{1}{2}$ разы.

Удзельная вага навуковых працаўнікоў па індустрыйна-тэхнічнаму і сельска-гаспадарчаму сэктару народнай гаспадаркі ў канцы 33-га году будзе выяўляцца ў 60 проц. агульнага ліку навуковых працаўнікоў, а к 35-му г.—у 70 проц. Па асобных галінах навукі ў працягу пяцігодкі будзем мець такія зьмены:

**Рост навуковых працаўнікоў**

| | 29-30 г. | 32-33 г. | |
|---|---|---|---|
| Па індустрыяльна-тэхнічнаму сэктару . . . | 100 | 700 | (павял. у 7 разоў) |
| Па с.-гаспадарчаму сэктару. . . . . . | 350 | 700 | „ „ 2 |
| Па пэдагогічна-асьветнаму. мэдычнаму, соц.-эконом. ды інш. | 450 | 900 | „ „ 2 |



Такі значны лік навуковых працаўнікоў разьлічан на забесьпячэньне ў ВНУ студэнтаў навуковым кіраўніцтвам, улічваючы актыўныя мэтоды выкладаньня, з такім разьлікам, каб на 10—15 студэнтаў прыходзіўся 1 нав. працаўнік.

Бясспрэчна, поўнасьцю на 100 проц. задаволіць патрэбы будзе немажліва.

Крыніцамі папаўненьня патрэб будуць зьяўляцца наступныя мажлівасьці: падрыхтоўка і запрашэньне навуковых працаўнікоў з іншых рэспублік, праца ў некалькіх установах, спэцыялістыя з вытворчасьці, асьпірантура. Толькі комплекс гэтых мажлівасьцяй ліквідуе гэты значны голад на навуковую сілу.

Згодна меркаваньняў пяцігодкі, частка патрэб у навуковых працаўніках будзе забясьпечана праз падрыхтоўку асьпірантаў. У сувязі з гэтым справа падрыхтоўкі асьпірантаў у сучасны момант вырастае ў цэлую проблему. Як-жа гэта проблема будзе вырашана? Згодна орыентыровачным лічбам, агульны лік асьпірантуры па ўсіх установах павінен да канца 32-33 г. узрасьці да 1600 чал. (з 200 у 29-30 г.), г. зн., павялічыцца ў 8 разоў. Па асобных сэктарах гаспадаркі справа абстаіць так: па індустрыйна-тэхнічнаму сэктару, каб забясьпечыць рост патрэб у навуковых працаўніках, трэба колькасьць асьпірантаў да канца пяцігодкі павялічыць ня менш як у 50—60 разоў. Агульны лік асьпірантаў па індустрыйна-тэхнічнаму сэктару павінен узрасьці, такім чынам, з 10 у 29-30 г. да 500—600 у 32-33 годзе, пры чым належны эфэкт атрымаем значна пазьней— у 35-36 г. і пры ўмове, што акрамя асьпірантуры будуць і іншыя крыніцы падрыхтоўкі кадраў (спэцыялістыя іншых рэспублік і г. д.).

Па сельска-гаспадарчаму сэктару лік асьпірантуры з 90 чал. у 29-30 г. узрасьце да 530—550 у 32-33 г., або ў 6 разоў. Па астатніх галінах навукі гэтае павялічэньне ў азначаныя тэрміны будзе ў 5 разоў. Удзельная вага асьпірантуры ў працягу пяцігодкі будзе мець наступныя зьмены:

| | 29-30 г. | 32-33 г. |
|---|---|---|
| УСЯГО асьпірантаў. . . | 100% | 100% |
| Па індустр.-тэхн. сэктару . . | 5% | 39% |
| Па с.-гаспадарчаму сэктару . | 50% | 33% |
| Іншыя галіны . . . . . . | 45% | 28% |

Ня гледзячы на такі шпаркі тэмп росту асьпірантуры ў індустрыйна-тэхнічным сэктары, самы большы недахоп у навуковых працаўніках будзе ў гэтым самым сэктары. Гэта зьвязана з тым, што асьпірантура, як адна з важнейшых крыніц у падрыхтоўцы кадраў, фактычна ўводзіцца толькі з 30-га году, у той час, як па іншых галінах навукі мы маем ужо падрыхтаваных навуковых працаўнікоў з ліку асьпірантаў.

Паўстае другое пытаньне: адкуль браць асьпірантаў, ці ёсьць у нас дастатковы контынгент студэнтаў для папаўненьня вось гэтых орыентыровачных патрэб? Асноўнымі шляхамі (па маёй думцы), па якіх пойдзе падрыхтоўка асьпірантуры, будуць: адбор са скончыўшых ВНУ БССР, спэцыялістыя з вытворчасьці, скончыўшыя ВНУ іншых рэспублік. Па папярэдніх падліках можна зрабіць вывад, што толькі пры ўмовах скарыстаньня ўсіх гэтых крыніц можна забясьпечыць патрэбу. Пры гэтым мяркуецца гэтыя крыніцы скарыстоўваць так, каб асноўнай крыніцай у наборы асьпірантуры былі ВНУ БССР.

Вось прыклад штогодняга набору ў асьпірантуры:

| | | |
|---|---|---|
| Агульны лік асоб, якія пакідаюцца асьпірантамі . . . | 100 % | Сярэдні процант на ўсе гады |
| З ліку студ., скончыўшых ВНУ БССР . . . . . . . | 86% | |
| З ліку спэцыялістых з вытворчасьці . . . . . . . | 8% | |
| З ліку студ., скончыўшых ВНУ інш. рэсп. . . . . . . | 6% | |

Такое разьмеркаваньне мае адносіны да с.-гаспадарчага сэктару ды іншых галін навукі, ня ўключаючы індустрыйна-тэхнічнага сэктару ў сувязі з тым, што ў Беларусі ВНТУ яшчэ ня змогуць у бліжэйшыя 3 гады даць кадры для асьпірантуры.

Выходзячы з гэтага, штогодні набор у асьпіранты па індустрыйна-тэхнічнаму сэктару будзе мець іншы выгляд.

| | |
|---|---|
| Агульны лік асоб, якія пакідаюцца асьпірантамі . . . . . . . | 100% |
| З ліку скончыўшых ВНУ БССР . . | 0% |
| З ліку спэцыялістых з вытворчасьці | 25% |
| З ліку скончыўшых ВНУ інш. рэспублік . . . . . . . . . | 75% |

Такім чынам, пры ўмове скарыстаньня ўсіх гэтых крыніц, падрыхтоўка кадраў да некаторай ступені будзе забясьпечана.

На першы погляд можна зрабіць вывад, быццам праз асьпірантуру можна значна паменшыць голад, а то і зусім

зьнішчыць. Але тут трэба зазначыць, што значны эфэкт у забесьпячэньні патрэб у кадрах праз асьпірантуру пачнецца тольківі з 33-га году, у сувязі з тым, што гэтыя гады ў нас быў вельмі невялікі лік асьпірантаў. Да 32-33-га году будзе падрыхтавана да навуковай работы 200—250 чалавек, што задаволіць толькі шостую частку ўсяе патрэбы ў навуковых працаўнікох наогул. Недакомплект, такім чынам, павінен пакрывацца з іншых, паказаных ужо мною крыніц.

Такое становішча з недахопам асьпірантаў будзе мець месца пры ўмове 3-гадовага асьпіранцкага стажу. У сувязі з гэтым паўстае пытаньне адносна скарачэньня гэтага асьпіранцкага стажу для асоб, якія пасьпяхова займаліся, да 2-х гадоў, зразумела, пры дысцыплінах больш лёгкіх, тэорытычных. Пры ўмовах скарачэньня стажу значнай часткі асьпірантаў да 2-х год падрыхтоўка кадраў значна паскорыцца і да канца пяцігодкі толькі аднымі асьпірантамі мажліва будзе пакрыць трэць, або палову патрэб у кадрах.

Скарачэньне тэрміну навучаньня асьпірантаў павінна рабіцца праз зьнішчэньне паралельных і непатрэбных дысцыплін у програмах.

Да гэтага часу мэтод і організацыя падбору асьпірантуры не здавальняючыя. Асноўным мэтодам падбору асьпірантаў у ВНУ зьяўляліся вылучэнцы. Але трэба зазначыць, што да гэтага часу ня створаны належныя ўмовы для іх работы. Вялікая грамадзкая нагрузка, дрэнныя матар'яльныя ўмовы прымушалі вылучэнца быць на адным узроўні са звычайнымі студэнтамі. Гэта становішча дало повад часткі працаўнікоў лічыць інстытут вылучэнцаў нікчэмным. Бязумоўна, гэтая думка няправільная: пры ўмове плянаваньня іх работы і стварэньня належных умоў для работы будзе мажліва праз гэты інстытут уцягваць у асьпірантуру большасьць рабочых, батракоў, партыйцаў; акрамя таго, такім мэтодам будзе выжыта стыхійнасьць у орґанізацыі гэтае работы. Згодна пляну такі інстытут вылучэнцаў прадугледжана захаваць, прапусьціўшы праз яго лепшую, пролетарскую частку студэнцтва (рабочыя, батракі).

Вялікае значэньне ў справе навуковай падрыхтоўкі кадраў будзе мець навуковае кіраўніцтва і камандыроўкі. Плянам прадугледжана, каб усе асьпіранты 2-га году мелі камандыроўку ў межах СССР, а 3-я частка скончыўшых стаж—замежныя камандыроўкі з належнай аплатай навуковага кіраўніцтва.

Асобна павінны паўстаць задачы на бліжэйшыя 30-ы і 31-ы год. Ужо ў 30 г. неадкладна трэба ставіць пытаньне аб падрыхтоўцы на справе індустрыяльна-тэхнічных навуковых кадраў. Ёсьць асобныя погляды, што ва ўмовах Беларусі быццам яшчэ рана высоўваць гэтую проблему, пакольки мы фактычна ня маем вышэйшых тэхнічных навучальных устаноў, якія забясьпечылі-б гэтыя патрэбы ў навуковых працаўнікох. Гэтая думка вельмі шкодная, яна аднача́сова не даацэньвае важнасьці проблемы тэхнічных кадраў. Па маёй думцы, з бягучага 30-га году трэба ва ўсю шырыню паставіць пытаньне аб мэтодах і шляхох падрыхтоўкі навуковых тэхнічных кадраў.

Па пляну Галоўнавукі БССР мяркуецца ўжо ў 30-31-м годзе мець 150 асьпірантаў па розных галінах тэхнічных навук. Лічба гэтая ўзята з разьлікам даць значны эфэкт к канцу пяцігодкі, пры гэтым, толькі такі тэмп можа прыблізна задаволіць патрэбу ў навуковых працаўнікох, бяручы пад увагу і іншыя крыніцы папаўненьня. Згодна пляну, інстытут прамысловасьці павінен мець у 30-31-м г. ня менш 30 асьпірантаў па розных галінах прамысловасьці. Астатняя частка асьпірантуры павінна рыхтавацца пры ВНТУ БССР. Гэта, бязумоўна, ня значыць, што ўсе асьпіранты ВНТУ будуць непасрэдна мець навуковае кіраўніцтва апошняй: значна большая частка іх будзе працаваць пры ВНТУ іншых рэспублік, дзе ўжо ёсьць абсталяваньне і навуковае кіраўніцтва. Адсюль паўстае задача: павялічыць лік законтрактаваных студэнтаў ВНТУ ў іншых саюзных рэспубліках і лепшую частку з іх завербаваць на навуковую работу. Калі зараз мы маем законтракатваных студэнтаў па тэхнічнай галіне каля 150, дык да восені 30 г. іх патрэбна павялічыць ня менш як яшчэ на 100 чал., увосень-жа лепшую частку з скончыўшых адабраць на наву-

ковую работу. Мажліва таксама нязначную частку спэцыялістых з вытворчасьці паставіць на навуковую работу.

Трэба адначасова зазначыць, што, ня гледзячы на шэраг крыніц папаўненьня кадраў і іх максымальнае скарыстаньне, лік, вызначаны па пляну, ня будзе забясьпечаны на ўсе 100 проц. Прымаючы гэта пад увагу, трэба дагледзець, каб абавязкова былі запоўнены важнейшыя спэцыяльнасьці па электрыфікацыі і мэханізацыі прамысловасьці, хэмічнай тэхнолёгіі і г. д.

Падрыхтоўка навуковых с.-гаспадарчых кадраў зараз таксама набывае асаблівае значэньне. Вельмі вялікая патрэба адчуваецца ў навуковых спэцыялістых у галінах організацыі буйнай соцыялістычнай гаспадаркі: коопэрацыі, колектывізацыі, мэханізацыі і электрыфікацыі с. гаспадаркі. Калі ў сучасны момант у нас, на Беларусі, па гэтых галінах налічваюцца толькі адзінкі, дык ужо ў гэтым 30-м годзе трэба ставіць пытаньне пра гэтыя кадры ва ўдарным парадку. Трэба, каб лік рыхтуючыхся ў навуковыя спэцыялістыя па гэтых галінах даваў ня менш як 25 проц. усіх асьпірантаў па с. гападарчы. Па сельска-гаспадарчай галіне ў 30-м годзе мяркуецца даць ня менш 100 асьпірантаў. Амаль што поўнасьцю гэты лік будзе пакрыты студэнтамі ВНУ БССР. Прыдзецца толькі па некаторых спэцыяльнасьцях, як колектывізацыя, электрыфікацыя с. гаспадаркі, малочная справа, жывёлагадоўля, асьпірантаў браць з ВНУ іншых рэспублік.

У 30-31-м годзе на навуковую работу павінна быць вылучана ня менш 330—390 чал. З агульнага ліку па тэхнічнай галіне 40-45 проц., па сельска-гападарчай—30-35 проц.

Асаблівай увагі заслугоўвае падбор асьпірантаў па якасьці. Першачарговай задачай стаіць падбор па соцыяльнаму становішчу. Бягучы год павінен даць у агульным ліку ня менш, як 50-60 проц. рабочых і батракоў, ня менш, як 55 проц. партыйцаў. Умовы жорсткія, але гэтага патрабуе шпаркае соцыялістычнае будаўніцтва і забесьпячэньне яго ідэолёгічна вытрыманымі навуковымі кадрамі.

Немалаважнай задачай бягучага году зьяўляецца пытаньне палепшаньня навуковага кіраўніцтва і ўдасканаленьня праграм, пашырэньня марксыцкага мінімуму. Катэгорычна трэба ставіць пытаньне аб разгрузцы асьпірантаў ад пабочнай адміністрацыйнай работы ды іншай нагрузкі. Прыклады надзвычайна вялікай нагрузкі асьпірантаў БДУ, якая даходзіць у дзень да 5-6 гадзін, гаворыць пра немагчымасьць плянава весьці работу. У парадку дня павінна стаяць пытаньне палепшаньня кватэрных умоў.

Толькі пры ўмове ўважлівых адносін да справы падрыхтоўкі навуковых кадраў, навукова-дасьледчых установ, профэсійных і савецкіх органаў мы здолеем выканаць дырэктыву партыі ў гэтым напрамку.

В. ШЧАРБАКОЎ

# ПАДЦЯГНУЦЦА Ў НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАЙ РАБОЦЕ

Рабочая кляса, батрацтва і бядняцка-серадняцкія масы СССР і Савецкай Беларусі напружваюць усе сілы ў справе барацьбы за соцыялістычнае пературарэньне нашае краіны. З гэроічнымі натугамі яны перамагаюць перашкоды за перашкодамі на шляху вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, на шляху выкананьня вялікіх гісторычных задач, пастаўленых перад нашай Кастрычнікавай рэволюцыяй. Пад кіраўніцтвам компартыі яны штодзённа, кожную гадзіну дамагаюцца ўсё новых і новых перамог у галіне гаспадарчага, політычнага і культурнага будаўніцтва.

У краіне, дзе будуецца соцыялізм, адбываецца нябачанае награмаджэньне практыкі новае работы, устанаўліваюцца новыя ўзаемаадносіны між асобнымі працаўнікамі на нашых прадпрыемствах, у нашых сёлах і вёсках, у нашых савецкіх установах і розных організацыях. На аснове новае тэхнікі, машынізацыі, колектывізацыі адбываецца збліжэньне, у шырокім сэнсе гэтага слова, паміж горадам і вёскай, адбываюцца новыя, вялікага гісторычнага значэньня соцыяльна-экономічныя процэсы ў нашай савецкай краіне.

Мы ўзбагачаемся новымі данымі ва ўсіх галінах нашага жыцьця: у галіне працы, організацыі нашай працы, у галіне нашых адносін да зьяваў прыроды, у галіне разуменьня гэтых зьяваў; надзвычайныя процэсы адбываюцца ў нашым бытавым жыцьці, у нашым мысьленьні і ў нашым культурным будаўніцтве.

У сувязі з нябачаным ростам колектывізацыі вёскі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, у сувязі з вялізарнымі нашымі дасягненьнямі ў галіне індустрыялізацыі краіны і тымі тэмпамі будаўніцтва, сьведкамі якіх мы зараз зьяўляемся, перад намі паўстае цэлы шэраг новых задач у галіне нашай навукова-дасьледчай работы, у галіне плянаваньня і пашырэньня навукі і наданьня ёй зусім іншага напрамку.

Што мы маем зараз, ва ўмовах Савецкай Беларусі, на гэтым вучастку гэтакай важнай для нас работы? Як можна характарызаваць гэты наш вучастак на сёньняшні дзень? Калі гаварыць пра гэта ў агульных рысах, дык мы перш за ўсё павінны сказаць, *што мы на ім надзвычайна адстаем,* што *наша работа ў гэтай галіне ні ў якай меры не адпавядае тым задачам, якія стаяць перад нашымі беларускімі навуковымі ўстановамі і навуковымі працаўнікамі, ні тым тэмпам нашага гаспадарчага і соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і вёсцы, якія наша краіна ў момант, які мы перажываем, ведае.*

Мы цягнемся ў хвасьце на гэтым вучастку. Але мы ня толькі адстаем наогул ад усяго таго, што перад намі ставіць само жыцьцё і будаўніцтва, мы наогул вельмі слаба, марудна пасоўваемся ўперад. Больш таго, у шэрагу галін навуковай работы мы або тупаем на месцы, або звычайна ідзем не па тым шляху, па якім павінны ісьці, па шляху, які настойліва дыктуецца нам нашай работай, пературарэньнем нашай краіны, нашым найшырэйшым разгонам будаўніцтва.

Спынімся конкрэтна на некаторых галінах нашай навуковай работы. Пачнем з пытаньняў гісторыі. Распрацоўкай гэтых пытаньняў і перш за ўсё гісторыі Беларусі займаецца цэлы шэраг устаноў і

організацый: Беларуская акадэмія навук, інстытут гісторыі партыі і рэволюцыйнага руху на Беларусі, марксыцкае т-ва гісторыкаў, ня кажучы ўжо аб шэрагу паасобных гісторыкаў, якія працуюць у нашых вышэйшых навучальных установах. Гэтыя навуковыя ўстановы і паасобныя працаўнікі, здавалася-б, павінны былі прарабіць у гэтай галіне, у галіне навуковай распрацоўкі пытаньняў гісторыі Беларусі наогул, гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі і гісторыі компартыі Беларусі вялікую плённую работу. Яны павінны былі-б даць нам ужо сваю продукцыю, якая якасна падыходзіла-б нам. Аднак, да гэтага часу мы гэтага пакуль што яшчэ ня маем. Наша маладое пакаленьне, нашы школы і нашы ВНУ яшчэ выхоўваюцца на народніцка-ідэалістычных разуменьнях гісторычнага разьвіцьця Беларусі. Марксыцка-гісторычнага разуменьня, марксыцкай схэмы гісторыі Беларусі, распрацаванай хаця-б у агульных рысах, мы пакуль што яшчэ ня маем. І гэта на 13-м годзе пролетарскае рэволюцыі і існаваньня савецкай улады! Мы ня толькі ня маем навуковай гісторыі нашай партыі, але мы пакуль што ня маем хаця-б больш-менш сур'ёзна распрацаванага марксыцкага падручніка па гісторыі компартыі Беларусі. Да пытаньняў гісторыі рабочага і сялянскага руху на Беларусі мы нават шчыльна пакуль што не падыйшлі.

Ці ведаем мы, а тым больш шырокія працоўныя масы Савецкай Беларусі, асаблівасьці гісторычнага разьвіцьця Беларусі? Не, пакуль што мы гэтага ня ведаем. Ці маем мы марксыцкую схэму Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі? Не, мы яе ня маем.

Возьмем другую галіну, галіну досьледаў нашай савецкай экономікі. Што мы тут маем? Пакуль што, апроч ідэолёгічных скажэньняў, чужых нам тэорый навукова-дасьледчага інстытуту імя Леніна, большага амаль што ў нас нічога няма, калі меціь на мэце тэорытычную распрацоўку нашай экономікі. І гэта тады, калі пытаньні гэтае галіны, пытаньні сельскае гаспадаркі, пытаньні колектывізацыі зьяўляюцца самымі баявымі бягучага моманту. Само жыцьцё, практыка нашага савецкага соцыялістычнага будаўніцтва, бурныя тэмпы колектывізацыі высоўваюць перад намі дзесяткі надзвычайна цікавых пытаньняў, шмат лікую колькасьць проблем. Але мы, на жаль, займаемся чым хочаце, толькі ня гэтымі пытаньнямі, ня гэтымі проблемамі. Мы маўкліва пакуль што абмінаем усё гэта. І наша гэткая важная організацыя, як таварыства марксыстаў-экономістаў таксама сьпіць сабе спакойна і нічым не займаецца. Другая ўстанова, навукова-дасьледчы інстытут імя Леніна, калі і займаецца нечым і не сядзіць склаўшы рукі, дык праца яе, продукцыя інстытуту занадта далёкая ад таго, што нам трэба меціь і чым мы павінны займацца.

Возьмем далей, гэткую галіну навуковай работы, як распрацоўку проблем, зьвязаных з выхаваньнем і асьветай нашага падрастаючага пакаленьня, перавыхаваньнем і падвышэньнем сьвядомасьці, культурнасьці і кваліфікацыі дарослага насельніцтва, працоўных мас. Тут становішча наша бадай што яшчэ горшае, чымся ў другой якой галіне. Практыка нашай школьнай работы ,якая ўжо дастаткова награмадзілася, па ранейшаму застаецца сырым матар'ялам; новых вывадаў, новых палажэньняў, распрацованых на падставе гэтае практыкі, у нас амаль няма. Выхаваўчая работа ў школах і сярод нашых дзяцей і юнацтва пастаўлена вельмі дрэнна. Шэраг проблем у гэтай галіне, у дапасаваньні да нашых беларускіх умоў, яшчэ не распрацаваны. Досыць спыніцца хаця-б на такіх проблемах, як мастацкае выхаваньне нашых дзяцей, як антырэлігійная работа сярод школьнікаў і па-за школьнікаў, як працоўнае выхаваньне. Пытаньні мэтодыкі, сыстэмы заняткаў, пытаньні комплектаваньня таксама не разьвязаны яшчэ хаця-б больш-менш здавальняюча. А калі мы возьмем нашыя падручнікі, нашую школьную вучэбную літаратуру, дык тут мы маем амаль выключна прарыў. Палова матар'ялу гэтых падручнікаў знаходзіцца ў нязвычайнай супярэчнасьці з усім тым, што робіцца намі зараз у горадзе і ў вёсцы.

Я ня буду тут спыняцца на такіх галінах нашай навуковай работы, як галіна літаратуразнаўства і мовазнаўства. Гэ-

тай галінаю нам прыдзецца заняцца таксама сур'ёзна, маючы на мэце тут цэлы шэраг ідэолёгічных прарываў і тое значаньне, якое набыла ў нашых умовах мастацкая літаратура і мастацтва. Такія магутныя сродкі, як мастацтва і літаратура, яшчэ ня выкарыстаны намі дастаткова ў справе выхаваньня мас, у справе перабудаваньня іх быту.

Перад сучаснай навукай, перад нашымі савецкімі навуковымі ўстановамі і нашымі навуковымі працаўнікамі паўстаюць новыя, вялікія задачы. За вырашэньне гэтых задач мы мусім узяцца. Як ніколі, навука ў нашых умовах, умовах сёньняшняга дня атрымоўвае найбагатшую падставу дзеля свайго разьвіцьця. Яна мае найшырэйшае поле дзейнасьці і найвялікшыя пэрспэктывы.

Той багаты матар'ял, тую практыку ва ўсіх галінах нашага жыцьця і нашага будаўніцтва, якія мы маем, трэба адпаведным чынам навукова апрацаваць. Менавіта тады, калі гэтая найбагатшая практыка ёсьць, менавіта тады навука можа пасьпяхова разьвівацца, можа сябе ўзбагачаць новымі данымі, новымі законамі. Гэта практыка зьяўляецца найлепшай падставай для нашай навуковай работы. Вучоны, дасьледчык мае мажлівасьць гэты рознастайны сыры матар'ял тае або іншае галіны сабраць, прывесьці ў належную сыстэму, знайсьці новыя сувязі паміж новымі зьявамі і на аснове ўсяго гэтага вывесьці новыя законы, будаваць сыстэму гэтых законаў, узбагачаць нашу навуку і тэорыю.

Абапіраючыся такім чынам на багатую практыку нашага жыцьця, навука і навуковыя ўстановы будуць, сапраўды, служыць жыцьцю, нашаму будаўніцтву. З самой навукі мы будзем рабіць магутныя падважнікі, магутную сілу для нашай далейшай работы. Навука і навуковыя ўстановы зробяцца тэй сілай, абапіраючыся на якую, масы рабочых і сялянства, нашы будаўнікі-практыкі будуць пасоўваць соцыялістычнае будаўніцтва яшчэ хутчэйшымі тэмпамі, чым яны робяць гэта зараз; гэтыя масы будуць менш рабіць памылак у сваёй рабоце, яны будуць мець выразнае ўяўленьне аб далейшых шляхох будаўніцтва і барацьбы за новае жыцьцё.

Вось як мы сабе ўяўляем сучасныя задачы навукі і навуковых устаноў. Вось пры якіх умовах навука, абапіраючыся на практыку, жывячыся ёю, будзе служыць гэтай практыцы, служыць будаўніцтву соцыялізму, будзе выконваць задачы, пастаўленыя перад нашым вялікім Кастрычнікам.

Што трэба конкрэтна зрабіць у нашых беларускіх умовах, каб навуку і навуковыя ўстановы ўзьняць на новую ступень, даць новы напрамак у іх рабоце, асьвяжыць іх, зрабіць іх баявой сілай соцыялістычнага будаўніцтва.

Папершае, трэба, каб усе навуковыя ўстановы і навуковыя таварыствы ня лічыліся ў нас толькі на паперы, а працавалі. Трэба дамагчыся, каб кожная з гэтых устаноў мела свой цьвёрды, гнуткі плян; трэба, каб гэтыя пляны выконваліся. Трэба, каб нашы марксыцкія таварыствы пачалі працаваць, іх трэба прымусіць працаваць. З тупаньнем на месцы трэба скончыць.

Другое. Работу навукова-дасьледчых таварыстваў і ўстаноў трэба наблізіць да выкананьня і распрацоўкі тых асноўных проблем і пытаньняў, якія высоўваюцца самім жыцьцём, барацьбою ў новых умовах, бурным соцыялістычным будаўніцтвам і ў прыватнасьці колектывізацыяй. Мы лічым, што ад гэтага сама навука і тэорыя ня толькі ня зьнізяцца з свайго ўзроўню, але яшчэ больш уздымуцца, яшчэ больш будуць разьвівацца. Тэорытычная і навуковая работа, ўздымаючыся на новую ступень, ці пэўней на цэлы шэраг новых ступеняў, будзе ў той-жа час мець глыбокія карэньні ў нашай савецкай рачаістасьці. Зьмест самой навукі і тэорытычнай распрацоўкі тых або іншых пытаньняў павінен быць падпарадкаваны тым задачам, якія стаяць перад намі зараз і якія высоўваюцца пэрыодам, які мы пераржываем—задачам Кастрычнікавай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэцяе. Трэба ўзбагаціць нашы ўстановы новымі, маладымі марксыцкімі сіламі. Трэба, нарэшце, усю нашу навукова-дасьледчую работу насыціць сапраўды навуковай, маркса-ленінскай мэтодолёгіяй. Трэба адкінуць самым рашучым чынам усякія народніцка-ідэалістычныя,

нацыянал-дэмократычныя і ўсякія архібуржуазныя разуменьні і тэорыі. Навукова-дасьледчыя савецкія ўстановы, створаныя ў выніку Кастрычнікавай рэволюцыі, компартыяй і савецкай уладай, павінны быць савецкімі. Ніякіх патураньняў у гэтых адносінах не павінна быць.

Чацьвертае. Для выкананьня ўсіх гэтых задач, скажуць нам, патрэбны сілы, а іх у нас мала або зусім няма. Так, у новых навуковых сілах мы сапраўды маем патрэбу. У гэтых адносінах у нас шмат прарываў. Аднак, адсутнасьць дастатковага ліку навуковых сіл і незабясьпечанасьць некаторых галін навуковай работы высока кваліфікаванымі працаўнікамі зусім не павінны затрымліваць нашу работу навукова-дасьледчага характару. Трэба навучыцца працаваць па новаму, трэба аўладаць тэхнікай навуковай работы, трэба ў разгорнутым выглядзе ўжыць формы колектыўнай работы ў навуцы.

Трэба скончыць з тымі забабонамі, паводле якіх у галіне навуковай работы, нібы нельга ўжыць колектыўную працу. Гэта консэрватыўны погляд на навуку і навуковую работу. Навуковая работа мае свае складаныя часткі, паступовыя стадыі выконваньня. Усякая навуковая работа складаецца з наступных частак: 1) падрыхтоўка матар'ялу, 2) крытыка крыніц, 3) выяўленьне асноўных пунктаў погляду, 4) паасобныя вынікі, 5) прывязданьне выпісак у парадак, 6) апрацоўка частак, з якіх складаецца работа, 7) апрацоўка работы ў цэлым, 8) рэдагаваньне.

Усе гэтыя паасобныя часткі навуковай работы могуць выконвацца рознымі людзьмі. І ў залежнасьці ад таго, што з сябе ўяўляе той або іншы працаўнік, магчыма і трэба даручаць яму для выконваньня тыя або іншыя часткі гэтай работы. У часе выконваньня навуковай работы, звычайна, вельмі шмат часу адбірае падрыхтоўка і зьбіраньне сырога, фактычнага матар'ялу. Гэта частка работы зусім не патрабуе асабліва высокай навуковай кваліфікацыі. З гэтай прычыны ўмелае кіраўніцтва дасьць мажлівасьць выконваць гэтую работу шмат каму з тых, хто такой кваліфікацыі ня мае.

Мне думаецца, што пры падрыхтоўцы навуковых кадраў нам у нашых навуковых установах трэба сур'ёзную ўвагу зьвярнуць на азнаямленьне моладзі, толькі пачынаючых навуковых працаўнікоў з тэхнікай навуковай работы.

Мы высоўваем зараз пытаньне аб колектыўнай навуковай працы ня толькі таму, што ў нас не хапае кваліфікаванай навуковай сілы. Не, тут ёсьць і іншыя прычыны. Зараз мы ўступілі ў такую стадыю разьвіцьця, калі падзеі адбываюцца з надзвычайнай хуткасьцю. Ніводнай сур'ёзнай навуковай работы нельга зараз пісаць і падрыхтоўваць на працягу доўгага часу. Каб мы ўздумалі зараз пасадзіць якога-небудзь вучонага на дзесятак гадоў за тую ці іншую работу, дык атрымалася-б такое становішча, што гэта работа да моманту сканчэньня яе страціла-б сваё значэньне, цэлы шэраг тэорытычных палажэньняў у ёй былі-б абвергнуты новымі вынаходкамі, новымі данымі навукі, якая разам з жыцьцём хутка разьвіваецца. Вось чаму зараз баявой зброяй навукі, якая хутка разьвіваецца, формай навуковай работы зьяўляецца ня тоўстая кніга, а баявы журнальны артыкул. Калі-ж нам трэба мець сапраўды капітальную навуковую работу, дык трэба, каб яна выконвалася як мага хутчэй. А гэта можа зрабіць толькі колектыў вучоных, а не адзін вучоны. Новыя тэмпы нашага жыцьця, нашага будаўніцтва патрабуюць іншых тэмпаў і ў навуцы.

Пятае. Бязумоўна, пытаньне аб падрыхтоўцы новых кадраў мае для нас вялізарнае значэньне. Мы маем ужо падставу для падрыхтоўкі гэтых новых кадраў. Усё пытаньне заключаецца ў тым, каб знайсьці тыя маладыя сілы, якія могуць быць выкарыстаны намі ў навуковай рабоце і з якіх атрымаецца нешта карыснае ў будучым. Але гэта пытаньне трэба ставіць па новаму. Трэба, папершае, адкінуць усялякую формалістыку ў наборы новых кадраў для навуковай работы. На гэту работу трэба ўзяць усіх тых, хто сапраўды можа выявіць сябе ў будучым, хто падае надзеі ў гэтых адносінах ужо зараз. Ёсьць у нас нямала маладых працаўнікоў, раскіданых па ўсіх куточках Савецкай Беларусі, якія

здольны на ўпартую, марудную працу. Гэтых працаўнікоў трэба выявіць, вывучыць, стварыць пэўныя ўмовы для іх работы, прымацаваўшы іх да адпаведных навуковых установ. Але побач з гэтым, нам трэба ўжо паставіць пытаньне і аб уцягненьні ў навуковую работу больш шырокія кадры, кадры тых працаўнікоў, якія спэцыяльна ня сідзяць на навуковай рабоце і ня будуць сядзець. Трэба ўзяць цьвёрды напрамак на ўцягненьне шырокай масы ў навуковую работу.

Як мы сабе ўяўляем гэту работу і гэта ўцягненьне масы ў навуковую галіну?

Я ўжо казаў вышэй аб тым, якое вялізарнае значэньне мае для нас, для навуковай работы зьбіраньне і фіксацыя сырога матар'ялу. На вачох нашых нізавых працаўнікоў і шырокай масы адбываецца цэлы шэраг падзей, адбываюцца новыя процэсы і зьмены. З новымі зьявамі жыцьця перш за ўсе маюць справу яны. Мы, аднак, не прывучылі яшчэ нашых працаўнікоў, нашу масу фіксаваць гэтыя зьявы, зьбіраць новыя, сырыя матар'ялы і імі забясьпечваць нашы навуковыя ўстановы і лябораторыі, дзе-б гэтыя сырыя матар'ялы маглі быць апрацаваны належным навуковым чынам. Селянін наглядае за зьявамі прыроды, у яго нярэдка ўзьнікае шэраг каштоўных думак у сувязі з гэтымі нагляданьнямі, але ён іх ня фіксуе, яны зьнікаюць, не пакідаючы пасьля сябе ніякіх сьлядоў. Тое самае робіць кожны з рабочых, кожны з нізавых працаўнікоў. Трэба прывучыць іх, масу гэтых працаўнікоў, масу працоўных да таго, каб яны забясьпечвалі нашы навуковыя ўстановы матар'яламі, якія зьбіраюць. Дзеля гэтага патрэбна, каб апошнія ўзялі на сябе пачын па ўстанаўленьню сувязі з нізавымі працаўнікамі. з масай працоўных.

Прывучыць працаўніка наглядаць за зьявамі навакольнага жыцьця, навучыць яго фіксаваць адпаведныя зьявы—гэта значыць зрабіць вельмі многае адносна ўзбагачэньня нашай навукі, адносна наладжваньня шчыльнай сувязі між ёю і рачаіснасьцю. Усякі радавы працаўнік, навучыўшыся наглядаць, фіксаваць і зьбіраць сыры матар'ял, можа быць намі падцягнуты вышэй на ўсходах навуковай работы, яму можна даручыць ужо больш складаную работу, работу па сыстэматызацыі матар'ялу, яго абагульненьню і г. д.

Гэтым шляхам мы, у канцы-канцоў, нададзім нашай навуковай рабоце новы напрамак, мы выйдзем з нашых навуковых габінэтаў на шырокую прастору навуковай творчасьці. Адсюль зусім ня трэба зьніжаць значэньне нашых навуковых цэнтраў і нашых высока-кваліфікаваных навуковых працаўнікоў. Адсюль толькі значыць, што мы нашу навуку будзем зрошчваць з працай і з працоўнымі масамі і па лініі навуковых кадраў; адсюль з усякай каставасьцю ў галіне навуковай работы мы раз назаўсёды скончым; адсюль—шлях да нябачанага росквіту сапраўднай навукі.

---

**Р. КУГЕЛЬ**

# ЧАРГОВЫЯ ЗАДАЧЫ Ў ВЫКЛАДАНЬНІ І ВЫВУЧЭНЬНІ ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ, ЛЕНІНІЗМУ І ГІСТОРЫІ КОМІНТЭРНУ

*(Паводле матар'ялаў Усесаюзнай нарады выкладчыкаў гэтых дысцыплін).*

Невыпадкова гэтая нарада, першая ў гісторыі нашай партыі, была склікана ў сучасны момант. Практыка нашага жыцьця паставіла зараз ва ўсю шырыню пытаньне аб паглыбленьні і пашырэньні ў масах марксыцка-ленінскай тэорыі.

Чым характарызуецца сучасны момант? Сучасны момант характарызуецца ў асноўным тым, што ў краінах, дзе яшчэ пануюць эксплёататарскія клясы, разгортваюцца ўсё больш і больш рашучыя баі эксплёатуемых за зьнішчэньне капіталу, а ў СССР, у краіне, дзе пануе рабочая кляса, наступіў пераломны пэрыод—пераход ад палітыкі абмежаваньня, выцісканьня кулака да палітыкі лік-

відацыі яго, як клясы. У такі момант, калі ў рэволюцыйны рух і ў соцыялістычнае будаўніцтва ўцягваюцца мільёны рабочых і сялян, тэорыя больш чым калі адыгрывае вялізарную ролю.

Усе з нас ведаюць славутыя словы Леніна, што «без рэволюцыйнай тэорыі ня можа быць рэволюцыйнага руху». І зусім зразумела, што зараз, калі барацьба сусьветнага пролетарыяту за комунізм узьнялася на такую нябачаную ў гісторыі вышыню, пытаньне тэорыі рэволюцыйнай барацьбы, як ніколі адыгрывае вялізарную практычную ролю. Невыпадкова тое, што тав. Сталін зараз зьвярнуў увагу ўсяе партыі на актуальнае значэньне пытаньня тэорыі: «Тэорыя, калі яна зьяўляецца сапраўднай тэорыяй, дае практыкам сілу орыентыроўкі, яснасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы»; тав. Сталін зьвярнуў увагу на тое, што ў той час, калі «новая практыка параджае новы падыход» да многіх пытаньняў клясавай барацьбы, мы ў тэорытычным разуменьні гэтага новага недапушчальна адстаем.

Зусім ясна, што такое становішча значна пагражае практыцы барацьбы за комунізм.

На нашых вачох адбываліся і яшчэ адбываюцца бойкі на філёзофскім, эканамічным і літаратуразнаўчым франтох. У гэтых бойках па сутнасьці, галоўным чынам, ішла барацьба за марксыцка-ленінскае разуменьне прадмету і мэтоду гэтых навук, барацьба з ідэалістычнымі і эклектычнымі скажэньнямі марксызму і ленінізму. Тыя перамогі, якія ёсьць у выніках гэтай барацьбы, адкрываюць зараз перад усімі марксыстымі шырокі прастор для правільнага прыстасаваньня мэтоду дыялектычнага матэрыялізму да ўсіх галін навукі.

Зараз мы стаім перад актуальнай задачай— распрацаваць марксыцка-ленінскае разуменьне прадмету і мэтоду такіх дысцыплін, якія зьяўляюцца дзеткай Кастрычнікавай рэволюцыі, як гісторыя партыі, Комінтэрну і ленінізму, і абвясьціць рашучую барацьбу ўсялякім ідэалістычным, мэханістычным і эклектычным скажэньням іх.

Нарада выкладчыкаў ленінізму, гісторыі партыі і Комінтэрну, што адбылася ў Маскве, у асноўным і займалася гэтымі пытаньнямі.

Трэба сказаць з усёй шчырасьцю, што дагэтуль мы ня мелі вычарпаных паказаньняў наконт прадмету і мэтоду вышэйпамянёных дысцыплін. І зусім зразумела, што гэта ўтварыла падставу для розных «отсебятин». Мы зусім не памылімся, калі скажам, што ня толькі ў кожным горадзе, у кожнай навучальнай установе, але і ў розных выкладчыкаў назіраўся хаос у разуменьні прадмету і мэтоду ў выкладаньні гісторыі партыі, Комінтэрну і ленінізму, а таксама ўтвараліся рознастайныя програмы, якія часта рэзка адрозьніваліся адна ад другой.

Зусім ясна, што пры такой стыхійнасьці ўтварылася глеба для розных ухілаў ад правільнага разуменьня прадмету і мэтоду гэтых дысцыплін і іх месца ў навучальным пляне тэй або іншай навучальнай установы. З аднаго боку, мы назіраем лінію на злучэньне ленінізму з дыялектычным і гісторычным матэрыялізмам, альбо з гісторыяй партыі; на злучэньне гісторыі партыі з гісторыяй клясавай барацьбы ў Расіі; на злучэньне гісторыі Комінтэрну з гісторыяй клясавай барацьбы наогул. Зусім зразумела, што такая лінія па сутнасьці ўгроблівала і ленінізм, і гісторыю партыі, і гісторыю Комінтэрну.

З другога-ж боку, назіралася лінія амаль поўнага адрыву вышэйпамянёных дысцыплін ад іншых дысцыплін, з якімі яны па сутнасьці цесна зьвязаны. Такая лінія прыводзіла, напрыклад, да таго, што пры вывучэньні ленінізму амаль што праводзілі курсы дыялект-і істмату, г. зн.. рабілі тое, што затушоўвала ленінізм, як асобную дысцыпліну.

Калі мы прыглядзімся да конкрэтнага жыцьця нашых навучальных устаноў, дык мы заўважым, што найбольш небясьпечнай зьяўляецца лінія на «угробліваньне» ленінізму, гісторыі партыі і Комінтэрну. Возьмем, напрыклад, навучальны плян Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту. Мы там ня знойдзем такіх дысцыплін, як вывучэньне гісторыі партыі і Комінтэрну, як асобных навуко-

вых дысцыплін. Гэтыя дысцыпліны зьліваліся з гісторыяй Расіі і клясавай барацьбы на Захадзе, Усходзе і ў Амэрыцы. Такія адносіны да гісторыі партыі і Комінтэрну выхоўваюць у студэнта няправільнае разуменьне ролі партыі ў рэволюцыйнай барацьбе рабочай клясы за комунізм. Гэтае-ж няправільнае разуменьне пераносіцца былымі студэнтамі унівэрсытэту ў тыя навучальныя ўстановы, у якіх яны вядуць сваю пэдагогічную і навуковую работу.

Калі мы спусьцімся крыху ніжэй, у сярэднія зьвеньні навучаньня, дык мы ўбачым яшчэ больш сумны малюнак. У гэтых навучальных установах амаль што зусім няма гісторыі партыі і Комінтэрну, а калі ёсьць, дык гэта вывучэньне зводзіцца да запамінаньня колькасьці конфэрэнцый, тэрміну іх скліканьня і да асобных пытаньняў партыйнай тактыкі.

Мы павінны яшчэ адзначыць і тое, што вядомая частка навуковых працаўнікоў, сярод якіх ёсьць і партыйцы, лічыць, што вывучэньне ленінізму, гісторыі партыі і Комінтэрну не зьяўляецца навуковай працай, і што імі могуць займацца ня зусім сур'ёзныя навуковыя працаўнікі. Няма чаго і казаць, што такім поглядам, якія адлюстроўваюць буржуазныя і дробна-буржуазныя профэсарскія погляды на ролю і значэньне такіх дысцыплін, як гісторыя партыі, Комінтэрну і ленінізму, трэба даць рашучы адпор. Такое становішча з вывучэньнем гэтых дысцыплін больш нецярпіма, і зараз наступіў момант, калі трэба ў гэтым напрамку зрабіць рашучы перапом.

Маскоўская нарада, бязумоўна, у гэтым пераломе адыграе вялізарную ролю таму, што яна ўпяршыню паставіла пытаньне аб навуковым зьмесьце гісторыі партыі, Комінтэрну і ленінізму і таксама аб месцы гэтых дысцыплін у навучальных плянах розных ступеняй навучальных установ.

* * *

Гісторыя партыі, як навуковая дысцыпліна, мае вялізарнае значэньне ня толькі для нашай краіны, але і для тых краін, дзе пролетарыят разгортвае сваю барацьбу за дыктатуру пролетарыяту. «Ні ў аднэй краіне,—пісаў тав. Ленін,—ня было сконцэнтравана на такім кароткім прамежку часу такога багацтва *форм, адценьняў, мэтодаў* барацьбы *ўсіх* клясаў сучаснай грамады». (Ленін, т. XVII, стр. 120. Курсыў мой). Разам з гэтым тав. Ленін падкрэсьліваў, што наш вопыт клясавай барацьбы не зьяўляецца толькі нацыянальным і што ён мае вялізарнае значэньне для міжнароднага пролетарыяту. «*Вопыт давёў,*—пісаў тав. Ленін,—*што ў некаторых вельмі істотных пытаньнях пролетарскай рэволюцыі ўсім краінам няўхільна прадстаіць прарабіць тое, што прарабіла Расія*». (Ленін, т. XVII, стр. 124).

Гісторыя нашай комуністычнай партыі мае найбагацейшы вопыт кіраўніцтва пролетарыятам і сялянствам у буржуазна-дэмократычнай і пролетарскай рэволюцыях, вопыт будаўніцтва новай савецкай дзяржавы, вопыт політыкі соцыялістычнага будаўніцтва, нацыянальнай політыкі, кіраўніцтва профсоюзным рухам, вопыт будаўніцтва партыі і г. д. Зусім ясна, што вопыт нашай барацьбы за комунізм патрэбен міжнароднаму пролетарыяту. Правільнае засваеньне нашага вопыту можа ў значнай меры скараціць мукі радоў новай соцыялістычнай грамады.

Таксама мы маем зараз у нашай краіне новы пэрыод барацьбы за комунізм. «Пановаму,—гаварыў тав. Сталін на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых,—ставіцца зараз пытаньне аб нэпе, аб клясах, аб тэмпах будаўніцтва, аб змычцы, аб політыцы партыі».

Улічваючы ўсё вышэйсказанае, становіцца відавочным актуальнае значэньне пастаноўкі пытаньня аб гісторыі партыі, як навукі.

Кожная навуковая дысцыпліна мае свой прадмет і мэтод вывучэньня.

Што зьяўляецца прадметам гісторыі партыі, як навукі?

На гэта пытаньне маскоўская нарада дала наступны адказ: «Гісторыя ЎсеКП ёсьць гісторыя політычнай організацыі пролетарыяту, яго авангарду ў справе кіраўніцтва рабочай клясай і працоўнымі масамі ў барацьбе за дыктатуру пролетарыяту і канчатковую мэту яго барацьбы за комунізм. *Прадметам гісторыі*

*партыі зьяўляецца гісторыя яе праграмна-тэорытычных, тактычных і арганізацыйных поглядаў, унутрыпартыйнай барацьбы і об'ектыўных умоў распрацоўкі гэтых поглядаў, арганізацыйнага будаўніцтва і ўсяе практычна-палітычнай дзейнасьці партыі ва ўсёй яе многастайнасьці (многообразии).* Задача гісторыі партыі, шляхам прымяненьня мэтоду гісторычнага матэрыялізму—вывучыць, растлумачыць і апісаць конкрэтны шлях «сапраўднага процэсу жыцьця» (Маркс) партыі ў яе ўзьнікненьні («які адзначае ператварэньне з клясы ў сабе ў клясу для сябе»), у яе разьвіцьці, у яе барацьбе за дыктатуру пролетарыяту і комунізм.

Задача навуковай гісторыі партыі—вывучыць яе самарух у цеснай сувязі з ўсёй клясавай барацьбой, *устанавіць спэцыфічныя законамернасьці процэсаў яе ўнутранога жыцьця і агульнапалітычнай дзейнасьці партыі пролетарыяту. Спэцыфічныя законамернасьці, якія ўстанаўліваюцца гісторыяй партыі ў адрозьніваньні ад законамернасьці разьвіцьця рабочага руху ў цэлым, вызначаюцца тым, што партыя зьяўляецца важнейшым суб'ектыўным фактарам клясавай барацьбы пролетарыяту, прадстаўляе інтарэсы клясы ў цэлым і кіруецца ў сваёй барацьбе тымі мэтамі, якія адпавядаюць сапраўднаму шляху гісторычнага разьвіцьця ў сучаснай грамадзе.* Тэорытычныя і арганізацыйныя пераважнасьці партыі, у параўнаньні з рабочай клясай у цэлым, даюць магчымасьць утварэньня больш сьвядомых і плянамерных форм руху партыі, у параўнаньні з рухам рабочай клясы ў цэлым, заўсёды нават пры дыктатуры пролетарыяту несвабодных ад элемэнтаў стыхійнасьці, «цэхаўшчыны».

Такое разуменьне прадмету гісторыі партыі, як навукі, кідае яркае сьвятло на тыя ўхілы, што маюць месца ў вывучэньні гэтай дысцыпліны.

З аднаго боку, ёсьць плынь, якая прыводзіць да таго, што гісторыя партыі нічым не адрозьніваецца ад іншых грамадзкіх дысцыплін. У чым памылковасьць гэтай плыні? Асноўная памылка гэтай плыні заключаецца ў тым, што яна прыводзіць да «змазваньня ролі партыі, *як важнейшага суб'ектыўнага фактару* барацьбы пролетарыяту і зьмешваньню партыі і клясы».

Калі ўзяць палітычнае значэньне гэтай плыні, дык яна па сутнасьці ідзе па шляху меншавіцкага разуменьня ролі партыі, не як авангарду рабочай клясы, а толькі як рэгістратара і прыдатку да рабочага руху. Няма чаго казаць аб тым, што такая плынь зьяўляецца варожай ленінскаму разуменьню ролі партыі, і што яна вядзе нас ня ўперад, а назад.

З другога боку, назіраем і такую плынь, ня менш калі ня больш, небясьпечную, якая разумее ролю партыі, як вольнага дэміурга рэволюцыі і гісторыі, якая разглядае гісторыю партыі, як нормативную навуку, а процэс гісторычнага яе разьвіцьця, як тэлеолёгічны процэс (тав. Юдоўскі).

Найбольш выразна знайшла сваё выражэньне гэтая плынь у адным пункце тэзісаў тав. Юдоўскага, кіраўніка катэдры гісторыі партыі ў Сьвярдлоўскім унівэрсытэце, у якім сказана наступнае: *«Калі гісторыю клясавай барацьбы мы вывучаем з пункту гледжаньня законамернасьці, дык гісторыю партыі мы вывучаем з пункту гледжаньня мэтазгоднасьці».* Таксама ў сваім выступленьні на конфэрэнцыі гісторыкаў-марксыстых тав. Юдоўскі гаварыў, што *пэрыодызацыю гісторыі партыі трэба рабіць з пункту гледжаньня тых мэт, якія партыя сабе ставіла.*

Зусім зразумела, што нарада ў сваёй рэзолюцыі «гісторыя партыі, як навука», павінна была напісаць, што погляды тав. Юдоўскага на прадмет гісторыі партыі «зьяўляюцца скатам да ідэалізму, які прадстаўляе сур'ёзную небясьпеку ў сувязі з ажыўленьнем у апошні час ідэалізму пад марксыцкім сьцягам (рубіншчына)».

Правільны шлях разуменьня гэтага пытаньня—прадмету гісторыі партыі, як навукі, дае нам у наступных словах тав. Ленін. «Марксызм,—піша ён,—адрозьніваецца ад усіх соцыялістычных тэорый выдатным *злучэньнем* поўнай навуковай цьвярозасьці ў аналізе об'ектыўнага становішча спраў і об'ектыўнага шляху эволюцыі з самым рашучым прызнаньнем рэволюцыйнай энэргіі, рэволюцыйнай творчасьці, рэволюцыйнай ініцыятывы мас, а

таксама, канечна, паасобных асоб, груп організацый, партый, якія ўмеюць адшукаць і рэалізаваць сувязь з тымі або іншымі клясамі». (Ленін, т. VIII, стр. 450-451).

Тав. Ленін у гэтай цытаце, як мы бачым, гаворыць пра неабходнасьць рашучага прызнаньня ролі рэволюцыйнай партыі, але таксама ставіць задачу перад партыяй «адшукаць і рэалізаваць сувязь» з клясай.

Нарада, абвясьціўшы барацьбу на два фронты—супроць мэханістычнага і ідэалістычнага разуменьня прадмету гісторыі партыі, як навукі,—такім чынам ішла па шляху, які паказаны тав. Леніным.

Трэба яшчэ адзначыць, што ў асобе тав. Мартынава—былога меншавіка, а цяпер комуніста—мы маем прадстаўніка тае тэорыі, што быццам гісторыя нашай партыі ёсьць продукт злучэньня бальшавізму з тым дадатным, што было ў гісторыі меншавізму. Бязумоўна, што такая «тэорыя» паказвае поўнае незразуменьне Мартынавым сутнасьці двух плыняў—пролетарскай і дробнабуржуазнай, якая ішла ва ўсе пэрыоды гісторыі нашай партыі да канчатковага ператварэньня меншавізму ў контррэволюцыйную плынь. Нарада, зусім зразумела, абвясьціла вайну таксама і гэтай электрычнай плыні.

У чым-жа заключаецца *асаблівасьць* мэтоду гісторыі партыі, як навукі? На гэта пытаньне нарада дала наступны адказ: «Асаблівасьць мэтоду, які ўжываецца ў гісторыі партыі, азначаецца таксама тым, што яна павінна высьветліць адпаведнасьць суб'ектыўных політычных ацэнак і практычных дзеяньняў партыі, якія аснованы на тэорыі марксызму-ленінізму, об'ектыўным умовам грамадзкага разьвіцьця і магчымасьцям клясавай барацьбы на кожным даным этапе, а таксама іх сувязь і адпаведнасьць канчатковым мэтам барацьбы пролетарыяту за комунізм».

Вышэйсказанае аб прадмеце і мэтодзе гісторыі партыі, як навукі, дае магчымасьць намеціць тыя задачы, што стаяць перад гісторыяй партыі.

Перш-на-перш трэба адхіліць той погляд, што быццам інтарэсы актуальнай барацьбы не даюць магчымасьці выкладаць об'ектыўна, г. зн. навукова, гісторыю партыі. На чым грунтуецца такі погляд? Ён грунтуецца на тым, што быццам політыка партыі ня будуецца на глыбокім грунце навукі, што быццам політыка рабочай клясы не зьяўляецца навуковай. Прыхільнікі гэтага пукту гледжаньня забываюць, што партыйнасьць зьяўляецца абавязковай пры вывучэньні ня толькі гісторыі, але таксама пры вывучэньні такой дысцыпліны, як філёзофія. Няма чаго казаць, што такі погляд на гісторыю ёсьць струвіанскі погляд, погляд буржуазнага об'ектывізму, з якім Ленін у свой час рашуча змагаўся. Зусім зразумела, што бальшавіцкая нарада падкрэсьліла, што «ленінская гісторыя партыі ня мае нічога агульнага з буржуазным об'ектывізмам, з адарванасьцю ад сучаснасьці. Праводзячы ў дасьледваньні пункт гледжаньня найстрогай партыйнасьці, якая забясьпечвае сапраўдную навуковасьць дасьледваньня, гісторыя партыі служыць баявым задачам зьнішчэньня капіталізму ў справе будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне і барацьбе за міжнародную рэволюцыю».

Наша партыя разгортвае сваю работу ў эпоху імпэрыялізму. Зусім зразумела, што, пры вывучэньні гісторыі партыі трэба мець на ўвазе характэрныя асаблівасьці гэтай эпохі, законы яе разьвіцьця і яе ўплыў на рэволюцыйную барацьбу пролетарыяту з буржуазіяй.

Гісторыю нашай партыі трэба вывучаць у цеснай сувязі з гісторыяй рабочага руху нашай краіны, з усёй барацьбой рабочай клясы за нізрынуцьце царызму, за рэволюцыйна-дэмократычную дыктатуру пролетарыяту і сялянства і за ператварэньне гэтай дыктатуры ў дыктатуру пролетарыяту, а таксама з барацьбой за соцыялістычнае будаўніцтва.

Таксама трэба вывучаць гісторыю нашай партыі і ў сувязі з гісторыяй міжнароднага рабочага руху. Гісторыя нашай партыі ўвабрала ў сябе рэволюцыйную тэорыю, формы і мэтоды рэволюцыйнай барацьбы рабочай клясы на Захадзе. Тав. Ленін пісаў, што «у працягу амаль што паўстагодзьдзя, прыкладна з 40—90 г. г. мінулага стагодзьдзя, перадавая думка ў Расіі пад уціскам нябачанага дзікага рэакцыйнага царызму, прагна шукала правільнай рэволюцыйнай тэо-

рыі, сочачы з напружанай старannасьцю і дакладнасьцю за ўсякім і кожным «апошнім словам» Эўропы і Амэрыкі ў гэтай галіне. (Ленін, т. VII, выд. I, стар. 119).

Ці можна зводзіць гісторыю ўсяе нашай партыі да гісторыі социял-дэмократыі наогул? На гэта нарада дала наступны адказ. «Гісторыя нашай партыі ёсьць гісторыя бальшавізму ў Расіі. Яна ня можа зводзіцца да гісторыі социял-дэмократыі наогул. З гэтага пункту гледжаньня трэба паставіць вывучэньне гісторыі партыі такім чынам, каб на *ўсім працягу* гісторыі социял-дэмократыі з моманту яе ўзьнікненьня выявіць рэволюцыйны струмень разьвіцьця социял-дэмократыі, традыцыі якой працягваў і разьвіваў бальшавізм з моманту свайго афармленьня ў асобную палітычную партыю (1903 год). Аб'яднанае сужыцьцё бальшвізму ў вызначаны пэрыод (з 1906-10-11 г. г.) у «блёку» з іншымі групамі социял-дэмократыі ніколькі не зьмяняе задачы, бо на ўсім працягу сваёй гісторыі ленінізм прадстаўляў асобную тэорытычную і палітычную сыстэму поглядаў, заўсёды аддзяляў і процістаўляў сябе іншым плыням социял-дэмократыі, захоўваў з моманту свайго вылучэньня ў асобную самастойную арганізацыю. Гэта ні ў якім разе не азначае, што мы не павінны аддаваць сур'ёзнага месца агульнай гісторыі социял-дэмократыі, без чаго немагчыма было-б разуменьне бліжэйшых умоў гісторычнага разьвіцьця бальшавіцкай партыі, якая вырастала ў барацьбе супроць гэтых груп социял-дэмократыі».

Аднэй з асноўных задач зьяўляецца вывучэньне сутнасьці розных ухілаў управа і «ўлева» ад ленінскай лініі партыі, а таксама і з прымірэнцтвам з імі. «Перамаганьне ўнутрыпартыйных рознагалосьсяў,—пісаў тав. Сталін,—шляхам барацьбы зьяўляецца *законам* разьвіцьця нашай партыі». (Сталін. «Об оппозиции», стр. 442).

Пры вывучэньні сутнасьці эволюцыі розных ухілаў, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на гісторычнае ператварэньне троцкізму ў контррэволюцыйную плынь і галоўным чынам на сутнасьць гісторычных карэньняў правага опортунізму, які зьяўляецца ў сучасны момант галоўнай небясьпекай у партыі, а ў былыя гады зьяўляўся галоўным ворагам бальшавізму.

Гісторыя нашай партыі ня ёсьць толькі гісторыя цэнтральных арганізацый і ўстаноў партыі. Трэба вывучаць гісторыю партыі ва ўсёй яе дзейнасьці, ва ўсіх тых месцах, дзе яна вяла барацьбу. Такім чынам трэба разгарнуць работу па вывучэньні гісторыі мясцовых і нацыянальных арганізацый, вядучы рашучую барацьбу з імкненьнем утварыць няправільную тэорыю, быццам ня толькі бальшавіцкія арганізацыі зьяўляюцца гісторычнымі карэньнямі комуністычных арганізацый і партыі сучаснага моманту, але і тыя дробнабуржуазныя арганізацыі, якія былі ў гэтых месцах (РУП, УСДРП, БСГ), зьяўляюцца карэньнямі бальшавізму ў гэтых месцах. Зусім зразумела, што з гэтай тэорыяй «двухкарэннасьці» пры вывучэньні гісторыі партыі трэба весьці рашучую барацьбу, бо гісторычнымі карэньнямі сучасных мясцовых комуністычных арганізацый і нацыянальных компартый зьяўляюцца толькі тыя бальшавіцкія арганізацыі, якія ўзьніклі і працавалі ў гэтых месцах і вялі весь час барацьбу з дробнабуржуазнымі плынямі і арганізацыямі.

Асаблівае значэньне ў вывучэньні гісторыі партыі набывае пэрыодызацыя яе, якая мае ня толькі рабочае, але і вялікае прынцыповае значэньне хоць-бы таму, што мы назіраем у сучасны момант імкненьне ідэалізаваць папярэднікаў социял-дэмократыі і бальшавізму (Сьцяклоў у сваёй працы аб Чэрнышэўскім, Тэадаровіч у сваёй працы аб «Народнай Волі»).

На нарадзе была прынята ў асноўным наступная пэрыодызацыя гісторыі партыі: 1) зараджэньне социял-дэмократыі (70-83 г. «Група вызваленьня працы») і гісторычная падрыхтоўка бальшавізму (83-903 год), 2) утварэньне бальшавіцкай партыі і яе барацьба за гэгемонію ў рабочым руху і кіраўніцтва сялянствам у эпоху буржуазна- дэмократычнай рэволюцыі (1903-1917 год), 3) партыя ў пролетарскай рэволюцыі (сакавік-лістапад 1917 г.), 4) партыя ў пэрыод дыктатуры пролетарыяту (1917 г .і г. д.).

«Такая пэрыодызацыя,—падкрэсьліла нарада,—не выключае, а мяркуе больш

дэталёвую пэрыодызацыю гісторыі партыі ўнутры кожнага асноўнага пэрыоду ў сувязі з грамадзкімі зрухамі, якія выклікалі зьмену ў тактыцы і організацыі партыі».

Нарада таксама падкрэсьліла, што ўступам да гэтай пэрыодызацыі павінна быць распрацована пытаньне *аб папярэдніках* соцыял-дэмократыі ў расійскім рэволюцыйным руху, карыстаючыся ленінскімі паказаньнямі ў гэтым пытаньні (пытаньне аб спадчыне).

Зусім зразумела, што вывучэньне твораў Леніна, гэтага лепшага гісторыка нашай партыі, зьяўляецца важнейшым зьвяном у распрацоўцы навуковай гісторыі нашай партыі. Таксама зусім зразумела, што распрацоўка навуковай гісторыі партыі павінна ісьці паралельна з зьбіраньнем і публікацыяй усіх дакумантаў і матар'ялаў, асабліва па тых пэрыодах, якія зараз альбо зусім, альбо мала вывучаны (эпоха рэакцыі і ўздыму, пасьля кастрычнікавага пэрыоду і г. д.). Трэба адзначыць, што зьбіраньне гэтых матар'ялаў і іх вывучэньне зьяўляецца важнай прадумовай да ўтварэньня навуковай гісторыі партыі.

* * *

Другім важным пытаньнем, якое стаяла на нарадзе, было пытаньне пра ленінізм, як навуковую дысцыпліну і прадмет выкладаньня.

У чым сутнасьць ленінізму, як асаблівай навуковай дысцыпліны і прадмету выкладаньня? На гэта нарада дала наступны адказ: «ленінізм, як асобная навуковая дысцыпліна і асобны прадмет выкладаньня, ёсьць марксыцкае вучэньне эпохі імпэрыялізму аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту, альбо, інакш кажучы, аб програме, стратэгіі, тактыцы, організацыі пролетарыяту ў барацьбе за яго дыктатуру і ажыцьцяўленьне яго задач, г. зн., за ўтварэньне комуністычнага грамадзтва. Прымаючы такое азначэньне ленінізму, як асобнай дысцыпліны, мы тым самым адхіляем усе спробы зьлева і справа то зьменшыць значэньне ленінізму, зводзячы яго да простага прыстасаваньня вучэньня Маркса-Энгельса да практыкі рэволюцыі (трацкісты), то зьвесьці яго да вучэньня, якое вырасла на глебе рэволюцыі ў нашай краіне і толькі да яе адносіцца, то сказіць асноўны зьмест ленінізму, выдаваючы за гэты асноўны зьмест пытаньне аб сялянстве (тав. Зіноўеў).

Ленінізм ёсьць далейшае разьвіцьцё вучэньня Маркса-Энгельса. Ленінізм вырастаў у бязулыннай і бязьлітаснай барацьбе з ворагамі ўнутры рабочага руху—правым опортунізмам і дробнабуржуазнай рэволюцыйнасьцю. Ленінізм увесь час падпадаў і падпадае спробам рэвізій як з правага, так і з «левага» боку ў комуністычным лягеры. Ленінізм, як усё на сьвеце, падпадае закону разьвіцьця».

«Такім чынам,—сказана ў рэзолюцыі нарады па гэтым пытаньні,—ленінізм, як навуковая дысцыпліна і прадмет выкладаньня, складаецца з наступных асноўных элемэнтаў: 1) асноўныя палажэньні вучэньня Маркса-Энгельса аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту, аб яго програме, тактыцы і організацыі; 2) барацьба з скажэньнямі гэтага вучэньня ў тэорыі і практыцы II-га Інтэрнацыяналу; 3) ленінскае вучэньне аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту, аб яго програме, стратэгіі, тактыцы і організацыі; 4) прыстасаваньне і разьвіцьцё гэтага вучэньня ва ЎсеКП і Комінтэрне пасьля Леніна; 5) барацьба на «два фронты» са скажэньнямі гэтага вучэньня, рэвізіоніцкімі плынямі ва ЎсеКП і Комінтэрне і прымірэнцтвам з імі».

Пасьля пытаньня аб асноўным зьмесьце ленінізму, як асобнай навуковай дысцыпліны, паўстае пытаньне аб тым, якое месца займае ленінізм сярод астатніх дысцыплін, якія вывучаюцца ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах.

Тэорытычныя асновы ленінізму ляжаць у марксыцкай філёзофіі (матэрыялістычная філёзофія—дыялектыка), марксыцка-гісторычнай тэорыі (гісторычны матэрыялізм) і марксыцкай экономічнай тэорыі (марксыцкая політэкономія). Таксама ленінізм узьнікае і разьвіваецца на вопыце клясавай барацьбы пролетарыяту і яго партыі, зьяўляючыся навуковым абагульненьнем гэтага вопыту.

Як-жа ленінізм павінен адносіцца да гэтых тэорытычных і гісторычных дыс-

цыплін: філёзофіі, істмату, політэкономіі, гісторыі клясавай барацьбы і гісторыі партыі?

Нарада рашуча выступіла супроць тых, якія зьліваюць ленінізм з усімі гэтымі дысцыплінамі, альбо з аднэй з іх, а таксама супроць тых, якія адрываюць ленінізм ад гэтых дысцыплін. Нарада паказала, што вывучэньне ленінізму павінна ставіцца, «як *завяршэньне* курсаў асноўных грамадзкіх ведаў, як дысцыпліна, што завяршае сабою вывучэньне агульнатэорытычных і гісторычных грамадзкіх дысцыплін».

Такім чынам, ні тэорытычная, ні гісторычная дысцыпліна не вывучаюцца ў ленінізьме, як асобныя дысцыпліны, а зьяўляюцца толькі сходнымі момантамі для яго. Але ў той-жа самы час нарада знайшла патрэбным падкрэсьліць, што, ня гледзячы на тое, што дыялектыка, як асобная дысцыпліна, ленінізмам не вывучаецца, трэба заўсёды пры вывучэньні ленінізму будаваць гэту дысцыпліну такім чынам, каб «на кожнай яе проблеме ўскрываўся мэтод, які ўжываецца Марксам і Леніным пры яе пастаноўцы і вырашэньні, і каб у выніках усяго курсу ленінізму, тыя, што вывучаюць яго, сапраўды маглі ўладаць марксыцка-ленінскай дыялектыкай у яе прыстасаваньні да кожнага пытаньня тэорыі і практыкі пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту».

Як мы ўжо гаварылі вышэй, ленінізм рос, разьвіваўся і разьвіваецца. Таму пры вывучэньні ленінскіх ідэй, трэба да іх падыходзіць гісторычна, што зьнішчыць небясьпеку ператварэньня ленінізму ў мертвую догму. Адначасова трэба зьвярнуць увагу на тое, каб гісторычны падыход да ленінскіх падзей ня выправіў з ленінізму яго тэорытычны зьмест. Ленінізм—гэта ёсьць тэорыя і тактыка міжнароднай пролетарскай рэволюцыі, г. зн., што ленінізм, кажучы словамі Леніна, якімі ён характарызаваў бальшавізм, мае «агульна-прымянімае, агульна-значымае, агульна-абавязковае» для пролетарыяту ўсяго сьвету ў яго барацьбе за комунізм. Адсюль-жа і вынікае асноўная задача вывучэньня і выкладаньня ленінізму—*умець вылучаць гэтае «агульна-значымае», умець злучаць яго з гісторычна-конкрэтнай пастаноўкай кожнай проблемы, засвоіць маркса-ленінскі мэтод прыстасаваньня «агульна-значымага», «агульна-абавязковага» да кожнай конкрэтнай абстаноўкі.* Пры такім вывучэньні ленінізму, мы, з аднаго боку, б'ем тых, якія ня бачаць ленінскай тэорыі, а таксама тых, якія не разумеюць гісторычнага разьвіцьця ленінскіх ідэй.

Нарада папярэдзіла тую небясьпеку, якая выявілася ў выкладаньні ленінізму, а менавіта—імкненьне засушыць, заакадэмізаваць, ператварыць ленінізм у нейкую схолястыку. Ленінізм павінен быць увесь прасякнуты дзейнасьцю. Усё выкладаньне ленінізму павінна быць так пастаўлена, каб у сьвядомасьці кожнага, хто вывучае ленінізм, ён ператвараўся ў кіраўніцтва да дзейнасьці. Ленінізм павінен быць зброяй ня толькі ў разуменьні рачаіснасьці, але таксама і зброяй зьмены яе. Ленінізм павінен займацца тымі новымі пастаноўкамі новых пытаньняў, пра якія гаварыў тав. Сталін на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстых. Ленінізм павінен быць баявым курсам. Ён таксама павінен даць падставу для пасобнага вывучэньня такіх галін ведаў, як партыйнае будаўніцтва, экономічная політыка і савецкае будаўніцтва.

З якіх тэм павінна складацца програма па ленінізму?

Нарада вызначыла наступныя тэмы програмы ленінізму: 1) Уступная. *Ленінізм, як асобная навуковая дысцыпліна* (марксызм і ленінізм, іх гісторычныя карэньні, сутнасьць, мэтод), 2) *Агульная тэорыя пролетарскай рэволюцыі, 3) Вучэньне аб дыктатуры пролетарыяту,* 4) *Вучэньне аб социялістычным будаўніцтве,* 5) *Аграрна-сялянскае пытаньне,* 6) *Нацыянальнае і колёніяльнае пытаньне,* 7) *Вучэньне аб партыі* (стратэгія, тактыка і організацыя партыі), 8) *Дыялектыка і яе прыстасаваньне ў вучэньні тэорыі рэволюцыі.*

Да асобных тэм трэба дадаць падтэмы, напрыклад, да тэмы пра дыктатуру пролетарыяту трэба ўключыць вучэньне аб вайне імпэрыялістычнай і грамадзянскай, да тэмы—вучэньне аб социялістычным будаўніцтве ўключыць падтэму аб культуры. Таксама нарада падкрэсьліла, што гэтыя падтэмы ў асобных навучальных

установах, напрыклад, падтэма—пытаньні аб вайне ў ваенных і пытаньні аб культуры ў пэдвузах павінна праходзіць, як поўная тэма.

Нарада шмат увагі аддала пытаньню мэтоду выкладаньня ленінізму. Яна падкрэсьліла, што найлепшым мэтодам выкладаньня ленінізму зьяўляецца лябораторны. Да лекцыі трэба прыбягаць у крайнім выпадку. У іншых выпадках можна перайсьці да сэмінарскага мэтоду. Таксама нарада падкрэсьліла, што пры выконваньні праграмы па ленінізму трэба адрозьніваць розныя ступені вывучэньня: адзін падыход павінен быць пры популярным вывучэньні ў ніжэйшых зьвеньнях навучальнай сыстэмы, а іншая справа пры навуковым і глыбокім вывучэньні ў вышэйшых установах. У той час, як у першых трэба да вывучэньня ленінізму знаёміць слухачоў больш з тэорытычнымі і гісторычнымі матар'яламі, у другіх ленінізм павінен вывучацца, як завяршэньне гэтых матар'ялаў.

* * *

На нарадзе таксама стаяла пытаньне аб прадмеце і мэтодзе вывучэньня Комінтэрну. У сваім дакладзе тав. Белакун падрабязна асьвятліў зьмест гэтай новай дысцыпліны, якая ў асноўным супадае з прадметам і мэтодам вывучэньня гісторыі ЎсеКП. Асноўнай задачай вывучэньня гісторыі Комінтэрну зьяўляецца вывучэньне праграмы, стратэгіі, тактыкі і арганізацыі Комінтэрну. Такім чынам, прадмет гісторыі Комінтэрну ня зводзіцца да вывучэньня гісторыі асобных сэкцый Комінтэрну.

Вывучэньне гісторыі Комінтэрну павінна ісьці ў цеснай сувязі з дысцыплінай гісторыі клясавай барацьбы, але ня зьліваецца з ёй, маючы свае асобныя задачы.

Трэба адзначыць, што гэта пытаньне аб прадмеце і мэтодзе гісторыі Комінтэрну, у сувязі з тым, што гэта дысцыпліна зусім новая, што цяпер яе толькі пачалі ставіць у навучальных установах, як асобную дысцыпліну, што, такім чынам, ёсьць яшчэ малы вопыт, нарада ня прыняла такой падрабязнай рэзолюцыі па гэтым пытаньні, якая была прынята па пытаньні гісторыі партыі і ленінізму. Але адначасова трэба адзначыць, што нарада дала значны штуршок у сэнсе пастаноўкі гэтай дысцыпліны, як асобнай дысцыпліны ў навучальных установах.

* * *

На нарадзе яшчэ стаяла асобнае пытаньне аб гісторыі партыі як прадмеце выкладаньня, пытаньне праграмы па ленінізму і пытаньне аб навуковай біографіі Леніна.

Нарада мае вялізарнае значэньне ў сэнсе ўяўленьня зьместу такіх дысцыплін, як ленінізм, гісторыя партыі і гісторыя Комінтэрну. Унесена яснасьць у выкладаньне і вывучэньне гэтых дысцыплін.

Зараз трэба паставіць усе гэтыя пытаньні. Трэба паставіць пытаньне аб месцы гэтых дысцыплін у навучальных плянах нарады на абгаварэньне ўсіх выкладчыкаў грамадаведаў. Таксама трэба разгарнуць працу па навуковаму дасьледваньню гэтых дысцыплін. У гэтай справе вялізарную ролю павінен адыграць ленінскі інстытут пры ЦК УсеКП.

Трэба ўлічваць вялізарную ролю, якую адыгрывае вывучэньне ленінізму, гісторыі партыі, гісторыі Комінтэрну ў справе ленінскага выхаваньня шырокіх рабочых мас і працоўных сялян.

У даным выпадку трэба ўспомніць словы *Маркса* аб тым, што задача навукі—*«даць сапраўдны лёзунг барацьбы»*. Зусім зразумела, што асабліва гэта адносіцца да такіх баявых дысцыплін, як ленінізм, гісторыя партыі, Комінтэрн. Правільнае, глыбокае ўразуменьне іх дасьць магчымасьць усім барацьбітом за пролетарскую рэволюцыю і комунізм ісьці да сваёй канечнай мэты бяз хістаньняў і з вялікай упэўненасьцю ў сваей вялікай справе. Трэба адзначыць, што тэмп разгортваньня нашых сіл у барацьбе за дыктатуру пролетарыяту і комунізм у значнай меры залежыць ад тэмпу пашырэньня ленінізму сярод шырокіх мас пролетарыяту і сялянства.

П. ПАНКЕВІЧ

# ПСЫХОНЭЎРОЛЁГІЧНЫЯ НАВУКІ Ў СССР І МАРКСЫЗМ

Першы ўсесаюзны зьезд па вывучэньні паводзін чалавека адбыўся на працягу 25 студзеня—1 лютага 1930 г. Яго працы маюць настолькі рознастайны характар, што павінны зацікавіць ня толькі спэцыялістых адпаведных галін навукі, але-ж і шырокія пласты нашага настаўніцтва. Зараз ужо нельга абмежавацца ў школе агульнымі ведамі па пэдагогіцы і пэдолёгіі для таго, каб правільна організаваць выхаваўчы процэс. Для гэтага трэба яшчэ пільна сачыць за навейшымі дасягненьнямі псыхонэўролёгічных навук. Першы ўсесаюзны зьезд па вывучэньні паводзін чалавека дае шмат карыснага для павялічэньня кваліфікацыі школьных працаўнікоў.

Пэдагогіка можа пасьпяхова разьвівацца тады, калі ўтвараюцца неабходныя прадпасылкі з боку другіх сумежных навук. Фізыолёгія нэрвовай сыстэмы, рэфлексолёгія, псыхолёгія і пэдолёгія зьяўляюцца крыніцай важнейшых навуковых вывадаў, без якіх ня можа разгортвацца выхаваньне і адукацыя.

Паказаны зьезд мае выключнае значэньне і для тых навук, якія былі прадстаўлены на гэтым зьезьдзе. Да апошняга часу назіраецца разнабой і разброд сярод вучоных па распрацоўцы мэтодолёгіі псыхонэўролёгічных навук. Тут можна адшукаць прыхільнікаў самых розных напрамкаў—ідэалістых, стыхійных матэрыялістых, грубых эмпірыстых, эклектыкаў і г. д.

Розныя буржуазныя плыні зьяўляюцца зусім несумяшчальнымі з савецкай рачаіснасьцю. Зьезд павінен быў вырашыць пытаньне, як трэба зьнішчыць буржуазныя плыні і аб'яднаць розныя навуковыя школы ў галіне псыхонэўролёгіі на глебе аднэй агульнай мэтодолёгіі—марксыцкай.

«Сучасныя псыхонэўролёгічныя навукі,—правільна кажа проф. Залкінд,—практычна стаяць кожная паасобку, імкнуцца да ўзаемна нясувязаных мэтаў, не скарыстоўваюць вынікаў, якія здабыты ў сумежных галінах досьледаў, і эфэктыўнасьць іх работы аказваецца таму вельмі слабай у параўнаньні з іх мажлівасьцямі. Адзіна правільны і продукцыйны сынтэз усіх навук, якія заняты псыхонэўролёгіяй чалавека, зьяўляецца мажлівым толькі пры заваёве іх мэтодолёгіяй дыялектычнага матэрыялізму. Сапраўднае ўключэньне ўсіх псыхонэўролёгічных навук у абслугоўваньне пляну соцыялістычнага будаўніцтва і максымальна-практычная іх эфэктыўнасьць ва ўмовах СССР мажлівы толькі пры марксыцкім абгрунтаваньні асноўных агульных пытаньняў прыродазнаўства ў цэлым і псыхонэўролёгіі ў прыватнасьці». Далей т. Залкінд намячае цэлы шэраг актуальных задач, якія павінны быць вырашаны савецкай псыхонэўролёгіяй, а менавіта:

1) Вывучыць псыхіку, як асаблівую якасьць.

2) Сконцэнтраваць увагу на дынаміцы паводзін чалавека.

3) Вырашыць проблему жыцьцёвага процэсу.

4) Заняцца пытаньнем аб утварэньні хуткім тэмпам найлепшых якасьцяй працоўных мас, якія выхоўваюцца ў процэсе будаўніцтва соцыялізму.

5) Вывучыць пытаньне аб адборы кадраў.

6) Ліквідаваць тэорыю аполітычнасьці і пазаклясавасьці псыхонэўролёгіі.

7) Распрацаваць пытаньне аб тэмпах і зьмесьце зьмен нэрвовай сыстэмы працоўных мас у сувязі з тэмпам соцыялістычнай перабудовы краіны.

8) Заняцца вывучэньнем сутнасьці пролетарскага колектывізму і паводзін рабочых на вытворчасьці.

9) Дасьледваць паводзіны колгасьнікаў і саўгасьнікаў.

10) Сконцэнтраваць увагу на проблеме дзяцінства.

11) Разгарнуць псыхонэўролёгічнае вывучэньне нацыянальнасьцяй.

12) Абгрунтаваць мэтодыку навучаньня выхаваўчай работы з дарослымі.

13) Разгарнуць псыхонэўролёгію вайсковай справы.

14) Перабудаваць патолёгічную псыхонэўролёгію ў напрамку профіляктычна-гігіенічным і пэдолёга-пэдагогічным.

15) Утварыць псыхонэўролёгію мастацтва.

16) Організаваць популярызацыю псыхонэўролёгічных дасягненьняў сярод працоўных мас.

Залкінд правільна паказвае, што для прасякненьня марксыцкай мэтодолёгіі ў псыхонэўролёгію трэба зьвязацца з марксыцкім філёзофскім таварыствам і інстытутамі пры ўтварэньні агульнага організуючага цэнтру, якім павінна быць таварыства псыхонэўролёгаў-матэрыялістых пры комуністычнай акадэміі.

На зьезьдзе былі прадстаўлены розныя напрамкі ў псыхонэўролёгіі. Галоўнейшыя з іх: школа акад. Паўлава, рэфлексолёгічная школа Бехцерава, рэактолёгічная школа Карнілава, псыхотэхніка і г. д. *Але-ж аніводная школа на зьезьдзе ня была прызнана марксыцкай.* У кожнай школе ёсьць навуковыя дасягненьні і адмоўныя бакі ў адносінах тых або іншых ідэолёгічных скажэньняў. Марксыцкая навука аб паводзінах чалавека яшчэ ня існуе: яна знаходзіцца ў стадыі станаўленьня. Задача зьезду заключалася ў тым, каб улічыць станоўчыя дасягненьні розных школ, сынтэзаваць іх і ўтварыць першыя асновы для разьвіцьця сапраўды марксыцкай навукі. Ці вырашыў гэтую задачу зьезд? Зразумела, гэтая задача яшчэ ня вырашана, але-ж пытаньне ўжо пастаўлена ў конкрэтнай форме. Далейшы пэрыод будзе стадыяй інтэнсыўнай работы над утварэньнем марксыцкай псыхонэўролёгіі пры адначасовай жорсткай барацьбе з рознымі буржуазнымі плынямі ў гэтых навуках.

* * *

Адным з важнейшых пытаньняў навукі аб паводзінах чалавека зьяўляецца псыхіка. Калі псыхонэўролёгія жадае стаць марксыцкай навукай, яна ня можа абыйсьці гэтае пытаньне. Тут трэба даць зусім ясны адказ: ці існуе псыхіка, ці не, і калі існуе, дык якая яе сутнасьць? З пункту погляду дыялектычнага матэрыялізму *псыхіка ёсьць рэальнасьць.* І паколькі яна зьяўляецца рэальнасьцю, яе можна вывучаць і можна пазнаць яе сутнасьць. Гэтага не разумела школа Паўлава. Апошняя сьцьвярджала, што шляхам об'ектыўных мэтодаў можна вывучаць об'ектыўную прыроду жывёлы і чалавека. Такой об'ектыўнай прыродай зьяўляецца ўсё тое, што можна непасрэдна назіраць у організьме. Вось чаму школа Паўлава, жадаючы вывучаць паводзіны жывёлы, сконцэнтравала ўсю ўвагу на фізыолёгіі цэнтральнай нэрвовай сыстэмы і ўтварыла тэорыю бязумоўных і ўмоўных рэфлексаў. Паколькі псыхіка зьяўляецца суб'ектыўным адбіткам об'ектыўных процэсаў нашага організму і надворнага сьвету, акад. Паўлаў, будучы ў сваіх экспэрымэнтальных досьледах стыхійным матэрыялістым, адмовіўся прызнаць законамернасьць гэтага суб'ектыўнага фактару. Ён прышоў да вываду, што ў жывёлы наогул адсутнічае псыхіка і што ў чалавека яна існуе самастойна, ізолявана і незалежна ад фізыолёгічных процэсаў. Апошнія, паколькі яны зьяўляюцца об'ектыўнымі фактарамі, маюць сваю законамернасьць разьвіцьця і, значыцца, могуць быць пазнаны. Што-ж датычыцца псыхікі, дык яна, ня маючы об'ектыўнай законамернасьці, ня можа быць і пазнана. Такім чынам, акад. Паўлаў у адносінах да псыхікі стаў на шлях агностыцызму. Псыхіка была адарвана ад сваёй фізыолёгічнай асновы, цэнтральнай нэрвовай сыстэмы, і ператворана ў кантаўскую «рэч у сабе», якая існуе, але-ж якую нельга пазнаць. Будучы ўласьцівасьцю толькі чалавека і маючы нематэрыяльны характар, псыхіка набывае ў Паўлава асаблівасьць боскай сутнасьці. Зараз акад. Паўлаў, быццам, зразумеў усю абсурднасьць сваіх думак аб прыродзе псыхікі. Паводле заяў вучня паўлаўскай школы т. Нікіціна, паказаны акадэмік ужо схілены сьцьвярджаць, што псыхіка органічна зьвязана з фізыолёгіяй цэнтральнай нэрвовай сыстэмы і такім чынам зьяўляецца аднэй асаблівай стараной матэрыяльных процэсаў мозгу. Калі гэта заява Нікіціна адпавядае сапраўднасьці, мы павінны констатаваць вялікі зрух пэўнай часткі паў-

лаўскай школы ў напрамку да прыняцьця некаторых прынцыпаў дыялектычнага матэрыялізму. На жаль, тое, што казаў т. Нікіцін аб новай позыцыі Паўлава, дагэтуль яшчэ не апублікавана самым Паўлавым. Самастойнае выступленьне апошняга з паказанай заявай было-б каштоўным. Сярод паўлаўцаў няма аднадушша. Калі такія навуковыя працаўнікі паўлаўскай школы, як т. Нікіцін, не адмаўляюць рэальнасьці псыхікі, другія прыхільнікі Паўлава, як, напр., Іванаў-Смаленскі, наадварот, і дагэтуль не прызнаюць суб'ектыўнага фактару ў нашых паводзінах. Наогул трэба адзначыць, што паўлаўская школа, ня гледзячы на праяву некаторых новых тэндэнцый, у асноўным застаецца яшчэ пры сваіх ранейшых позыцыях мэханістычнага матэрыялізму. На гэтай позыцыі застаецца і наш беларускі праф. Ленц, які абараняў на зьезьдзе па сутнасьці мэханістычныя прынцыпы. Яго адносіны да проблемы псыхікі асабліва выразна выступаюць у наступным тэзісе: «Об'ектыўна-матэрыялістычны мэтод, які базуецца на прыродазнаўстве, прызначаны да замены ідэалістычнага псыхолёгічнага мэтоду ва ўсіх навуковых галінах, якія маюць прадметам вывучэньня чалавека ў яго дачыненьні да абкружаючага соцыяльнага асяродзьдзя, напрыклад, як у пэдолёгіі, антрополёгіі, крымінолёгіі». Тут праф. Ленц [1]) не дыфэрэнцуе псыхолёгічныя мэтоды, называючы іх ідэалістычнымі. Сапраўды-ж ня ўсе псыхолёгічныя мэтоды зьяўляюцца гэткімі. Марксыцкая псыхолёгія карыстаецца псыхолёгічнымі мэтодамі, якія нічога агульнага ня маюць з ідэалізмам. Пад об'ектыўна-матэрыялістычнымі мэтодамі Ленц разумее толькі рэфлексолёгічныя і фізыолёгічныя, што няправільна. Аб сутнасьці паўлаўскай школы мы павінны сказаць словамі марксыста-псыхолёга Сапіры: «Пагардныя адносіны паўлаўскай школы да псыхолёгіі, як навук, і павялічаныя надзеі, якія гэта школа ўскладае на фізыолёгічнае вывучэньне мозгу, як на падставу дакладнага навуковага аналізу суб'ектыўнага сьвету чалавека (Паўлаў), даводзяць, што гэтая школа разгледжвае фізыолёгічныя законамернасьці не як момант, а як нешта такое, што вычэрпвае сутнасьць паводзін. Звыш таго, у сваёй дасьледчай рабоце прадстаўнікі паўлаўскай школы чураюцца шырока мэтодолёгічнай пастаноўкі проблемы і рухаюцца па рэйках вузкага эмпірызму».

Тое, што мы сказалі пра школу Паўлава, трэба сказаць і пра рэфлексолёгічную школу Бехцерава. Ня гледзячы на тое, што апошняя зараз выдала цэлы шэраг дэклярацыйных заяў адносна прыняцьця марксыцкай мэтодолёгіі, яна яшчэ і дагэтуль ня вызвалілася ад традыцый мэханістычнага матэрыялізму. Тым часам, як адны вучні Бехцерава рашуча ўспрымаюць марксыцкую формулёўку адносна псыхікі, другія, наадварот, імкнуцца затушаваць якасную асаблівасьць суб'ектыўнай стараны паводзін. Да ліку гэтых апошніх адносіцца, паміж іншым, і проф. Сарахцін, які зараз працуе ў нас у Бел. Дзярж. Унівэрсытэце. Ён зьяўляецца адным з ваяўнічых мэханістых сярод вучняў акад. Бехцерава. Але-ж ён сам не прызнае сябе мэханістым, будучы ўпэўнены ў тым, што стаіць на правільнай марксыцкай позыцыі. Сапраўды-ж у яго марксыцкага ня больш, як у самога Бехцерава. Проф. Сарахцін клапоціцца аб ачышчэньні рэфлексолёгіі ад «псыхолёгічнага элемэнту». Ён проста даводзіць, што «найбольшая небясьпека для рэфлексолёгіі—гэта псыхолёгічная зараза». Для яго «псыхічнае» ў нашых паводзінах зьяўляецца ня больш, як пустой абстракцыяй. «Сьвядомасьць ня існуе, як рэальнасьць, гэта—паняцьце (напр., колер) —піша ён. У гэтым паняцьці мы павінны шукаць толькі абстракцыю некаторай якасьці, уласьцівай пры азначаных умовах пэўным нэрвова-фізыолёгічным процэсам». Такім чынам проф. Сарахцін зусім яскрава даводзіць, што *сьвядомасьць ня існуе, як рэальнасьць*, і што яна ёсьць толькі абстрактнае паняцьце. Адсюль ня цяжка зрабіць вывад: калі сьвядомасьць не зьяўляецца рэальнасьцю, яна і ня можа быць об'ектам вывучэньня, ёю не павін-

[1]) На дыспуце па пытаньні пра паводзіны чалавека, які адбыўся ў „Доме асьветы“ 1-2 сакавіка 1930 г., проф. Ленц адмовіўся ад сваіх памылак адносна псыхікі, якую зараз ён разглядае як асаблівую якасьць.

на цікавіцца навука. Паколькі проф. Сарахцін лічыць навукай толькі рэфлексолёгію, а псыхолёгію пераводзіць у катэгорыю мэтафізыкі, ён глыбока пераконаны, што рэфлексолёгія не павінна займацца псыхікай, бо апошняя, паводле яго думкі, можа быць толькі прадметам псыхолёгіі. «Рэфлексолёгія,—піша ён,—выразна і поўнасьцю адмяжоўваецца і ні ў якім разе не прэтэндуе на мэтодыку інтроспэктыўнага аналізу, гэтак званую, слоўную справаздачу па распазнаваньні ўнутраных перажываньняў псыхічнага становішча і на вырашэньне проблемы гэтак званай «сьвядомасьці», лічачы гэтую галіну выключна задачай і прывілеем псыхолёга». Што інтроспэкцыя зьяўляецца самым слабым мэтодам аналізу псыхікі і што яна займае другараднае месца ў досьледах, будучы падпарадкавана об'ектыўным мэтодам, гэта бясспрэчна. Але-ж не па гэтай лініі ў нас існуюць рознагалосьсі. У нас існуюць рознагалосьсі адносна таго, ці трэба прызнаць псыхіку, як рэальнасьць, ці гэта ёсьць пустая абстракцыя. Мы паказалі, што проф. Сарахцін адмаўляецца прызнаць .псыхіку, як рэальнасьць. Ён зусім ясна сьцьвярджае аб тым, што рэфлексолёгія, як навука, не павінна займацца проблемай сьвядомасьці, бо гэта проблема, як ён думае, па сутнасьці зьяўляецца мэтафізычнай і можа належаць толькі да псыхолёгіі, якая ніколі ня была і ня будзе навукай. Што гэтыя разважаньні проф. Сарахціна зусім не адпавядаюць прынцыпам марксызму, ня цяжка давесьці. Адмаўляючы псыхіку і сьвядомасьць, як рэальнасьць, проф. Сарахцін тым самым уступае ў супярэчнасьць з тымі думкамі, якія выказваліся Марксам, Энгельсам і Ленінам. Як вядома, асновапаложнікі марксызму ўжывалі тэрмін: «псыхіка» і «сьвядомасьць», калі яны закраналі пытаньне аб паводзінах чалавека, і напаўнялі гэтыя паняцьці матэрыялістычным зьместам. Няўжо проф. Сарахцін думае, што Маркс, Энгельс і Ленін займаліся мэтафізыкай? Каб выйсьці з гэтага заблытанага становішча, мэханістыя ўтвараюць тэорыю, быццам асновапаложнікі марксызму карысталіся псыхолёгічнымі тэрмінамі толькі таму, што ў іх часы ня было рэфлексолёгіі. Гэта ня зусім правільна. Ленін і Пляханаў ужо маглі ведаць сутнасьць рэфлексолёгіі, бо апошняя пачала разьвівацца яшчэ пры іх жыцьці. Але-ж мы ня бачым у іх аніводнага намёку на тое, каб падмяніць псыхолёгію рэфлексолёгіяй. Жадаючы скрыць свой мэханістычны погляд, Сарахцін не адмаўляецца ўзяць на сябе ролю комэнтатара Маркса. Аднак, яго комэнтарыі маюць настолькі немарксыцкі характар, што адразу ўскрываюць яго мэханістычную ўстаноўку. Сарахцін піша наступнае: «Закон Маркса—«грамадзкае быцьцё азначае сабою сьвядомасьць», зразумела, мае на ўвазе не «сьвядомасьць», а надворную грамадзкую форму паводзін чалавека. Для соцыолёга сьвядомасьць ня мае ніякага значэньня, яго задача—гаварыць толькі аб паводзінах, аб прыспасабіцельнай дзейнасьці чалавека грамадзтва да абкружаючага яго асяродзьдзя»... І тут проф. Сарахцін лішні раз падкрэсьлівае свае адмоўныя адносіны да сьвядомасьці. Прыпісаць Марксу думку, што ён быццам пад сьвядомасьцю разумеў не сьвядомасьць, а грамадзкую форму паводзін чалавека,—гэта значыць афарбаваць марксызм пад колер мэханістычнага матэрыялізму. Мы ня ведаем, што разумее Сарахцін пад грамадзкай формай паводзін чалавека (ён гэта нідзе дакладна не растлумачвае), але-ж нам зусім зразумелы яго спробы зьнішчыць проблему сьвядомасьці. Напэўна ён хоча падвесьці пад грамадзкую форму паводзін чалавека суадносную дзейнасьць, якая ім разумеецца бяз псыхікі, без сьвядомасьці. А гэта ёсьць зьвядзеньне якасьці да колькасьці, апраўданьне вучэньня мэханістычнага матэрыялізму. Грамадзкую форму паводзін чалавека нельга ўяўляць сабе без сьвядомасьці. Псыхіка чалавека аформляецца пад уплывам клясавага асяродзьдзя. Адмаўленьне рэальнасьці сьвядомасьці павінна прывесьці да вынікаў нерэальнасьці мысьленьня чалавека, нерэальнасьці матэрыялістычна-дыялектычнай лёгікі, нерэальнасьці тэорыі марксызму. Без рэальнасьці сьвядомасьці нельга ўтварыць тэорыю, нельга зводзіць сутнасьць марксыцкага сьветапогляду да супольнасьці тых ці іншых рэфлексаў. Той, хто стаў на пазы-

цыі адмаўленьня сьвядомасьці, па сутнасьці не прызнае грамадзкага чалавека, як суб'екта гісторыі, і такім чынам прыпісвае гісторычнаму процэсу фаталістычны характар. Няўжо Кастрычнікавая рэволюцыя рабілася рабочаю клясаю без сьвядомасьці, ці яшчэ лепш сказаць, несьвядома? А між тым позыцыя Сарахціна можа прывесьці і да гэтых вывадаў. Ленін заўсёды адзначаў, што без рэволюцыйнай тэорыі ня можа быць і рэволюцыйнага руху. Думка, сьвядомасьць, псыхіка ня выкідваліся ім за борт, як гэта робяць мэханістыя. «Для ўсякага прыродазнаўцы, ня зьбітага з толку профэсарскай філёзофіяй, як і для ўсякага матэрыялістага,—пішa ён, — адчуваньне ёсьць сапраўды непасрэдная сувязь сьвядомасьці з надворным сьветам, ёсьць пераўтварэньне энэргіі надворнага раздражэньня ў факт сьвядомасьці». Далей ён кажа: «Адчуваньне залежыць ад мозгу, нэрваў, сятчаткі і г. д., г. зн., пэўным чынам організаванай матэрыі. Існаваньне матэрыі не залежыць ад адчуваньня. Матэрыя ёсьць пярвічнае. Адчуваньне, думка, сьвядомасьць ёсьць вышэйшы продукт асаблівым чынам організаванай матэрыі. Гэткія погляды матэрыялізму наогул і Маркса—Энгельса ў прыватнасьці». Адсюль відаць, што Ленін прызнае рэальнасьць псыхікі. Проф. Сарахцін яе адмаўляе. А гэта значыць, што проф. Сарахцін не стаіць на глебе марксызму ў такім кардынальным пытаньні, як проблема сьвядомасьці. Праўда, проф. Сарахцін быццам сам адчувае хісткасьць сваёй позыцыі і ў некаторых выпадках дапускае мажлівасьць існаваньня псыхікі, што глыбока супярэчыць яго асноўнай установцы. Ён разглядае псыхіку, як некаторую якасьць, уласьцівую пры азначаных умовах пэўным нэрвова-фізыолёгічн[illegible]сам. «Сьвядомасьць,—піша
[illegible]кі здольнасьць успрымаць
[illegible] Што гэтая формулёўка не
[illegible]а толькі заблытвае пы-
[illegible] пісьменны чалавек разь-
[illegible]алей проф. Сарахцін пі-
[illegible]і не зьяўляюцца інтро-
[illegible]азам асаблівай якасьці
[illegible]олёгічных процэсаў ор-
[illegible]ворна выражаюцца ў
[illegible]ы процэс у чалавека

(пра жывёлы мы ня можам і гаварыць) апрача сваёй надворнай праявы ў выглядзе рухаў мае сваё суб'ектыўнае адлюстраваньне—гэта адчуваньне». Здаецца, што тут ужо аўтар прызнаў адзін з марксыцкіх прынцыпаў—якасную асаблівасьць псыхікі. Але-ж гэта ня больш, як абмоўка, якая органічна ня ўвязваецца з яго ўстаноўкай. Некалькі ніжэй проф. Сарахцін піша наступнае: «Паколькі адчуваньні, якія складаюць псыхічнае і даюць фэномэн так званай «сьвядомасьці», зьяўляюцца бязьдзейным суб'ектыўным адбіткам нэрвова-фізыолёгічнага процэсу, яны не ўваходзяць у галіну вывучэньня рэфлексолёгіі». Гэтую думку нам аўтар паўтарае некалькі разоў. «Па нашаму,—паказвае ён,—псыхічнае не соцыяльна, паколькі яно бязьдзейны інтроспэктыўны выраз асаблівай якасьці рэфлекторнага процэсу. З другога боку, мы ня ведаем і ня можам зараз ведаць, зьяўляецца ці не зьяўляецца псыхічнае таксама асаблівай якасьцю нэрвова-фізыолёгічных процэсаў жывёлы». І яшчэ адна заўвага: «Гэткія выразы, як: «зьмяніць ці апрацаваць сьвядомасьць у мэтах організацыі паводзін», зьяўляюцца зусім няправільнымі псыхолёгічнымі рудымэнтамі, гэта даніна старой традыцыйнай псыхолёгіі... Мэтафізычна сцьвярджаць, што можна стварыць нейкае адчуваньне ці жаданьне, якое пацягне за сабою той ці іншы акт паводзін». Такім чынам проф. Сарахцін прыходзіць да такіх вывадаў, што псыхіка зьяўляецца бязьдзейным адбіткам рэфлекторнага процэсу, ня мае соцыяльнага характару, не падлягае выхаваўчым уплывам (нельга зьмяніць ці апрацаваць сьвядомасьць) і, урэшце, застаецца непазнанай у жывёл. Тут сказана ўсё тое, што рашуча супярэчыць марксызму. Псыхіка, будучы адбіткам надворнага асяродзьдзя, сама мае актыўны характар. «Сьвядомасьць,—пішуць Маркс і Энгельс,—ніколі ня можа быць чымсьці іншым, як толькі асьведамленым быцьцём, а быцьцё людзей—гэта рэальны процэс іх жыцьця» [1]). Вытворчасьць ідэй уяўленьняў, сьвядомасьці перш за ўсё непасрэдна ўплятаецца ў матэр'яль-

[1]) Архив Маркса і Энгельса, кн. 1, стар. 216.

ную дзейнасьць і ў матэр'яльныя адносіны людзей... Уяўленьні, мысьленьне, духоўныя зносіны людзей зьяўляюцца тут яшчэ прамым парадджэньнем іх матар'яльнай практыкі» [1]). Дзе-ж тут сказана, што сьвядомасьць зьяўляецца бязьдзейным адбіткам нэрвова-фізыолёгічных процэсаў? Псыхіка ёсьць уласьцівасьць высока організаванай матэрыі і аформляецца ў чалавека пад уплывам социяльнага асяродзьдзя; псыхіка праяўляе пэўную актыўнасьць пры зьмене знадворнага сьвету ў працэсе матэр'яльнай дзейнасьці грамадзкага чалавека. Праф. Сарахцін сьцьвярджае, што псыхіка не социяльна. А ў Маркса і Энгельса мы чытаем адваротнае: «Мае адносіны да майго асяродзьдзя ёсьць мая сьвядомасьць. Там, дзе існуюць якія-небудзь адносіны, яны існуюць для мяне; жывёлы не *адносяцца* ні да чога, для жывёлы яе адносіны да другіх ня існуюць, як адносіны. Такім чынам сьвядомасьць ёсьць першапачатковагісторычны продукт і застаецца ім, пакуль наогул існуюць людзі» [2]). Тут падкрэсьліваецца, што сьвядомасьць чалавека зьяўляецца гісторычным продуктам, г. зн., продуктам грамадзкіх адносін, якія ўвесь час зьмяняюцца, продуктам клясавай барацьбы. Няправільна даводзіць проф. Сарахцін і аб тым, быццам нельга зьмяніць ці апрацаваць сьвядомасьць. На гэта пытаньне зусім яскрава адказваюць Марк і Энгельс, якія сьцьвярджаюць, што «людзі... зьяўляюцца вытворнікамі сваіх уяўленьняў, ідэй і г. д., і г. д. аб рэальных дзейнічаючых людзях». Псыхіка людзей зьмяняецца ў процэсе іх матэр'яльнай дзейнасьці і рэволюцыйнай практыкі. Даводзіць, што «нельга зьмяніць ці апрацаваць сьвядомасьць», значыць па сутнасьці падтрымліваць рэакцыйныя думкі аб статычнасьці псыхікі. Няправільна і тое сьцьвярджэньне, быццам зараз нельга давесьці існаваньне псыхікі ў жывёлы. Тут Сарахцін забывае вывады сучаснай параўнаўчай біолёгіі і псыхолёгіі. Яны даводзяць, што біолёгічныя і псыхолёгічныя ўласьцівасьці чалавека можна адшукаць і сярод жывёл пры наяўнасьці ў іх, зразумела, другіх якасных асаблівасьцяй. Аб гэтым гаворыць і Энгельс, паказваючы на існаваньне элемэнтаў разумовай дзейнасьці ў жывёл (аналіз і сынтэз). Будучы пераконаным у тым, што псыхіку жывёл нельга давесьці, Сарахцін наблізжаецца да думкі акад. Паўлава аб адсутнасьці ў сабакі псыхічных перажываньняў.

Ня гледзячы на тое, што проф. Сарахцін не праяўляў актыўнасьці на зьезьдзе па вывучэньні паводзін чалавека, мы падрабязна спыніліся на аналізе яго думак, таму што ён, па-першае, зьяўляецца адным з тыповых прадстаўнікоў мэханістычнага сьветапогляду сярод вучняў акад. Бехцерава і, па-другое, ён зьяўляецца адказным навуковым працаўнікам у нас, на Беларусі. Ускрыць яго няправільную прынцыповую ўстаноўку—наша непасрэдная задача [1]).

Паводле вучэньня школы ак. Бехцерава, об'ектам рэфлексолёгіі зьяўляецца суадносная дзейнасьць чалавека. Проф. Сарахцін разумее суадносную дзейнасьць чалавека без суб'ектыўных перажываньняў. Другія вучні Бехцерава падыходзяць да гэтага пытаньня зусім інакш. Згодна іх апошніх тлумачэньняў, суадносная дзейнасьць уключае ў сабе і псыхіку чалавека. «Можна дапусьціць, — кажа В. Н. Осіпава,—што матэрыя, якая праяўляецца ў разьвіцьці жывога на яго вышэйшых ступенях, магла ўтварыць і тое, што называецца ў сучасны момант псыхічным, як яе вышэйшая ўласьцівасьць: якасная старана суадноснай дзейнасьці: «псыхічная» ёсьць пэўная старана паводзін суадноснай дзейнасьці ў цэлым, якая вызначаецца законамі гэтай дзейнасьці. Гэта якасная старана суадносіцца з фізыолёгічнай ня ў форме дуалізму ці псыхофізыолёгічнага паралелізму, а ў форме псыхофізыолёгічн. монізму і прычыннай сувязі. Суадносная дзейнасьць адзіна і ўключае ў сабе і колькасную і якасную старану (псыхічную). Якасная

[1]) Арх. Маркса і Энгельса. кн. 1, стар. 220

[2]) Там-жа, стар. 215.

[1]) Трэба адзначыць, што ўжо на дыспуце проф. Сарахцін, як і проф. Ленц, стаў на позыцыю прызнаньня псыхікі, як асаблівай якасьці. Гэтым самым ён здымае пэлы шэраг спрэчных пытаньняў. Але-ж поўнай марксыцкай інтэрпрэтацыі „псыхічнага“ мы яшчэ ня чулі ў выступленьнях паказанага профэсара.

старана ёсьць частка суадноснай дзейнасьці ў цэлым» [1]). Такім-жа чынам формулюе свае думкі і Б. Г. Ананьнеў, які піша наступнае: «Псыхіку і сьвядомасьць ня трэба шукаць за межамі суадноснай дзейнасьці, іх трэба вывучаць і ўскрыць у межах гэтай дзейнасьці. А паколькі мэтодам вывучэньня суадноснай дзейнасьці зьяўляецца мэтод об'ектыўны, пастолькі і псыхіку і сьвядомасьць трэба вывучаць об'ектыўна, г. зн., інтэрпрэтаваць об'ектыўна, выводзячы суб'ектыўнае на мову об'ектыўных катэгорый. Таму няма мэтода суб'ектыўнага ў рэфлексолёгіі, хоць ёсьць і будзе, бязумоўна, разьвівацца інтроспэкцыя, як падконтрольная, падсобная мэтодыка дасьледваньня. Ёсьць суб'ектыўныя зьявы, якія вывучаюцца об'ектыўна, г. зн., рэфлексолёгічна». Далей Ананьнеў паказвае, што псыхіку і сьвядомасьць нельга ануляваць і іх трэба об'ектыўна ўскрыць, увесьці ў контакт суадноснай дзейнасьці і тым самым зразумець іх сутнасьць і гэнэз [2]). Зусім правільна Ананьнеў падкрэсьлівае, што «сьвядомасьць ёсьць гэткая-ж рэальнасьць, як і рух матэрыі, паколькі сьвядомасьць ёсьць таксама ўласьцівасьць высокаорганізаванай матэрыі». [3]) Тое, што рэфлексолёгія павінна займацца вывучэньнем псыхікі, гаворыць і Курзаў, які спрабуе абгрунтаваць вывучэньне Бехцераўскай школы з пункту погляду дыялектычнага матэрыялізму. Ён піша, што «псыхічныя процэсы ня толькі пазнаваемы, але-ж пазнаваемы толькі об'ектыўна, бо генэтычна яны ёсьць продукт об'ектыўнай дзейнасьці». «Жадаючы быць навукай аб законах разьвіцьця паводзін, — працягвае ён,—рэфлексолёгія катэгорычна абавязана ўключыць у прадмет свайго об'ектыўнага дасьледваньня і тлумачэньні процэсу псыхікі і сьвядомасьці». [4]) Такім чынам у рэфлексолёгічнай школе Бехцерава ёсьць у сучасны момант значныя зрухі ў бок набліжэньня да марксыцкага абгрунтаваньня паводзін чалавека. Псыхіка і сьвядомасьць прызнаюцца, як рэальнасьць і разглядаюцца ў аспэкце суадноснай дзейнасьці. І тое, што гаворыць гэтая група Бехцераўскай школы адносна агульных прынцыпаў дыялектычнага матэрыялізму, зьяўляецца бясспрэчным. Але-ж, бязумоўна, зьяўляецца спрэчным і часта няправільным конкрэтнае ўжываньне гэтых прынцыпаў дыялектычнага матэрыялізму да вывучэньня паводзін чалавека.

Школа Бехцерава азначае паводзіны чалавека як суадносную дзейнасьць. А што такое суадносная дзейнасьць? Осіпава дае наступнае азначэньне: «Суадносная дзейнасьць, уключаючы ў сабе ўсе адносіны і процэсы ўнутры організму і яго адносіны да абкружаючага сьвету, уяўляе з сябе сыстэму адносін самых рознастайных рэфлексаў, праз якія організм сувязваецца з асяродзьдзем і яго перарабляе.» [1]) Тое-ж самае гаворыць і Куразаў: «Мы-ж, выходзячы са зьместу рэфлексолёгіі, лічым яе навукай аб законах разьвіцьця суадноснай дзейнасьці ў цэлым, аб законах разьвіцьця паводзін. Пад суадноснай дзейнасьцю мы разумеем усю сыстэму актыўных адносін чалавека да абкружаючага натуральнага і грамадзкага сьвету, якая адбываецца шляхам рознастайных рухавых мэханізмаў і рэакцый». [2]) Пры такім азначэньні суадносная дзейнасьць мае наступныя моманты: біогенэтычную дзейнасьць, соцыогенэтычную, нэрвова-рухавую і псыхічную дзейнасьць, якая сынтэзуе ў сабе фізыолёгічныя процэсы, з аднаго боку, і суадносіны да вакольнага сьвету, з другога. Адсюль рэфлексолёгія разглядаецца як спэцыфічнае злучэньне мэтодаў біолёгіі і соцыолёгіі, і суадносная дзейнасьць утоежсамляецца з паводзінамі конкрэтнага гісторычнага чалавека. Паколькі суадносная дзейнасьць, ці паводзіны, як прадмет рэфлексолёгіі, ёсьць адзінства фізыолёгічных і псыхолёгічных процэсаў нашага організму, сама рэфлексолёгія павінна быць моністычнай навукай, ахапляючы ў сваім прадмеце гэта адзінства. Дзякуючы гэтаму, паводле думкі бехцераўцаў, зусім не па-

[1]) Сбор. „Рефлексология или психология“. Изд. Инст. по изуч. мозга. Ленинград 1929 г., стар. 16.
[2]) Там жа, стар. 33.
[3]) „ „ 34.
[4]) „ „ 69.

[1]) Сб. „Рефлексология“ или психология“, стар. 15.
[2]) Там-жа, стар. 67-68.

трэбен падзел навук на фізыолёгію цэнтральнай нэрвовай сыстэмы і псыхолёгію. Паколькі школа Паўлава, якая вывучае фізыолёгію нэрвовай сыстэмы, не прызнае законамернасьці псыхікі, стаіць няправільна на глебе мэханістычнага матэрыялізму і аддае псыхіку на разарваньне ідэалістых-псыхолёгаў. І, наадварот, псыхолёгія, паколькі яна сваімі мэтодамі ня можа вывучаць фізыолёгію нэрвовай сыстэмы, адрывае псыхіку ад яе матэрыяльнай асновы—мозгавай дзейнасьці—і ператварае яе ў безьцялесную субстанцыю, дзякуючы чаму яна стаіць на ідэалістычнай глебе і, значыцца, ня можа быць навукай. Выходзячы з гэтых меркаваньняў, школа Бехцерава рашуча крытыкуе школу Паўлава, робячы спробу падарваць магчымасьць яе існаваньня, з аднаго боку, і рашуча адмаўляе навуковасьць псыхолёгіі, ставячы проблему яе зьнішчэньня, з другога боку. Адсюль і лёзунг: «Рэфлексолёгія ці псыхолёгія». Вось гэткая ўстаноўка школы Бехцерава як раз зьяўляецца прынцыпова няправільнай. І яна зьяўляецца тым больш няправільнай, што «бехцераўцы» лічаць сваю позыцыю адзіна і выключна правільнай. Аналізуючы вучэньне Паўлава і адносіны школы Бехцерава да гэтага вучэньня, Осіпава самаўпэўнена даводзіць, што ў бехцераўскай школе «мэтафізыка ўмоўных рэфлексаў пераходзіць у дыялектыку злучаных рэфлексаў». Што ў вучэньні Паўлава ёсьць даволі многа мэтафізыкі—гэта бясспрэчна. Але тэорыя ўмоўных рэфлексаў мае нямала вывадаў, якія адпавядаюць прынцыпам дыялектычнага матэрыялізму. Каб гэта тэорыя была выключна мэтафізычнай, нам не давялося-б з ёю лічыцца, як з навуковым вучэньнем. Навуковасьць тэорыі ўмоўных рэфлексаў не адмаўляецца нават і школай Бехцерава. Таму нельга бачыць дыялектыку толькі ў сваёй уласнай школе і толькі мэтафізыку ў школе Паўлава. Гэта школа мае свае адмоўныя і дадатныя бакі. Тое-ж самае трэба сказаць і адносна навуковай псыхолёгіі. Вучні Бехцерава сьцьвярджаюць, што ўсялякая псыхолёгія, якую-б рознавыгляднасьць яна ні мела, зьяўляецца мэтафізыкай, паколькі яна мае сваім об'ектам псыхіку, якая разглядаецца асобна ад матэрыяльных процэсаў організму. Такое агульнае адмаўленьне псыхолёгіі, бязумоўна, няправільна. Маркс і Энгельс прызнавалі псыхіку і сьвядомасьць і дапускалі мажлівым іх вывучэньне паасобнай навукай. Але-ж гэта вывучэньне псыхікі і свядомасьці павінна было праходзіць не ізолявана ад фізыолёгіі нэрвовай сыстэмы, а непарыўна з ёю; прычым, фізыолёгія, маючы свой уласны об'ект вывучэньня, ня зьнішчылася, як самастойная навука, а, наадварот, магла вывучаць гэты об'ект сваімі мэтодамі, незалежна ад псыхолёгіі, якая ў сваю чаргу мае свае ўласныя задачы, об'ект і мэтоды. У школе Бехцерава, ня гледзячы на цэлы шэраг дэклярацыйных заяў аб марксызьме, назіраецца тэндэнцыя ня ўлічваць якасных асаблівасьцяй паміж дзьвюма навукамі, якія ўжо існуюць—фізыолёгіяй і псыхолёгіяй, спрабуючы іх мэтоды, об'екты і задачы аб'яднаць у аднэй навуцы—рэфлексолёгіі. Дзякуючы гэтаму, рэфлексолёгія становіцца не моністычнай навукай, а эклектычнай. Гэты эклектызм асабліва ясна адчуваецца ў спробе прадстаўляць рэфлексолёгію, як злучэньне мэтодаў біолёгіі і соцыолёгіі, і лічыць яе біосоцыяльным тыпам навукі. Пра гэта, напр., яскрава піша А. А. Шнірман: «Вучэньне пра паводзіны чалавека, якое мае сваёй задачай усебаковае вывучэньне суадносін чалавека з вакольным асяродзьдзем, ляжыць на мяжы дзьвюх вялікіх галін навуковага дасьледваньня: біолёгіі і соцыолёгіі. Такім чынам мэтодамі пазнаньня для вучэньня пра паводзіны чалавека павінны служыць біолёгія, з аднаго боку, і соцыолёгія, з другога боку. Якасна-азначаючымі тыпамі законамернасьцяй, якія ляжаць у аснове паводзін чалавека, зьяўляюцца законамернасьці біолёгічныя, з аднаго боку, і законамернасьці соцыолёгічныя, з другога боку. Тлумачачы паводзіны, дасьледчык павінен базавацца на тых агульных законамернасьцях, якія ўстанаўляюцца біолёгіяй і соцыолёгіяй, і з іх ужо выводзіць свае больш прыватныя законамернасьці ўва ўсёй іх якаснай спэцыфічнасьці». [1]) Тут біолёгія атрымоўвае ня толькі аднолька-

[1]) „Рефлексология или психология", стар. 47.

вае значэньне з соцыолёгіяй, а нават пераважную ролю. Пра гэта вучні Бехцерава, мабыць, гаворацъ не заўсёды адкрыта, але-ж гэта фактычна вынікае з іх агульнай устаноўкі: яны, бязумоўна, біолёгізуюць соцыяльную сутнасьць паводзін чалавека. Ужо адно імкненьне назваць навуку пра паводзіны чалавека рэфлексолёгіяй паказвае гэта з дастатковай яскравасьцю. Рэфлекс ёсьць фізыолёгічнае паняцьце. Бехцераўцы насычаюць яго соцыяльнай сутнасьцю. Але-ж фізыолёгічная прырода рэфлексу ад гэтага ня здымаецца, а, наадварот, набывае пераважнасьць над соцыяльнай прыродай. У паводзінах соцыяльнага чалавека вялікае значэньне маюць не адносіны рэфлексаў, а псыхіка, якая наскрозь соцыяльна, бо зьяўляецца вынікам уплыву соцыяльнага асяродзьдзя на суб'ект у процэсе актыўнага ўзьдзеяньня яго на об'ект. Законамернасьць псыхікі можа быць прадметам вывучэньня псыхолёгіі, тымчасам як законамернасьць фізыолёгічных процэсаў вывучаецца фізыолёгіяй. Адзінства фізыолёгії і псыхікі ахапляецца навукай пра паводзіны чалавека. Марксыцкая навука пра паводзіны чалавека яшчэ ня створана: яна знаходзіцца ў стадыі станаўленьня. Спроба «бехцераўцаў» абвясьціць такой навукай рэфлексолёгію зусім не абгрунтавана. Што-б было, каб мы пачалі тлумачыць сутнасьць мысьленьня, лёгікі і соцыяльных паводзін чалавека праз рэфлексолёгічныя мэтоды? Мы-б няўхільна сталі на шлях мэханістычнага матэрыялізму. Такія спробы ўжо былі. Досыць напомніць Энчмэна, які хацеў пабудаваць новае грамадзтва на аснове рэфлексолёгічных мэтодаў, правільней, на аснове мэтодаў умоўных рэфлексаў. Вучні Бехцерава ўпэўнены, што тэрмін «суадносная дзейнасьць» для характарыстыкі паводзін чалавека зьяўляецца найбольш удалым па тэй прычыне, што ён, быццам, зусім яскрава гаворыць пра момант узаемаадносін паміж чалавекам і асяродзьдзем. Адсюль і вынік, што паняцьце суадноснай дзейнасьці зьяўляецца марксыцкім. Для нас ясна, што гэта значна павялічана. Адносіны паміж чалавекам і асяродзьдзем можна разумець розна. Сярод рэфлексолёгаў якраз пануе не марксыцкае, а мэханістычнае ўяўленьне пра гэтыя адносіны, якія разумеюцца ў якасьці адносін паміж сыстэмай і асяродзьдзем. Процэс разьвіцьця чалавека, як сыстэмы, адбываецца не па законах самаруху, а па законах супярэчнасьцяй паміж сыстэмай і асяродзьдзем. Асяродзьдзе трымае ў сваёй уладзе чалавека, якім кіруе мэханічна. Адсюль зразумела, чаму бехцераўцы хапаюцца за паняцьце «рэфлекс». Рэфлекс ёсьць па сутнасьці пасыўны адказ організму на раздражэньне надворнага сьвету. Ёсьць думка, што шляхам падбору пэўных раздражэньняў можна выклікаць які хочаш рэфлекс. Праз гэтыя раздражэньні можна кіраваць паводзінамі чалавека, як машынай. Сучасныя рэфлексолёгі ў большасьці выпадкаў не дагаварваюцца да гэтых думак. Але-ж устаноўка іх няўхільна павінна прывесьці і нярэдка сапраўды прыводзіць да паказаных вынікаў. Адносна рэфлексолёгіі Бехцерава можна сказаць тое, што кажа ў часопісі «Летописи Марксизма»[1]) рэцэнзэнт адносна кнігі Н. Ф. Куразава: «Введение в методологию педагогики», а менавіта: «Заява, што рэфлексолёгічныя даныя характарызуюць сярэднія велічыні паводзін грамадзкага чалавека, паказвае, што аўтар ня ўцяміў сабе, што рэфлексолёгія ведае толькі *мэханізм нэрвова-мышачнай дзейнасьці*, а не чалавека, як такога, і што пэдагогіка, як і псыхолёгія, маюць права на існаваньне менавіта таму, што яны маюць справу з конкрэтным грамадзкім чалавекам».[2]) Вучні Бехцерава ніяк ня могуць зразумець, што рэфлексолёгія павінна ведаць нэрвова-мышачным мэханізмам нашага організму ці нэрвова-дынамічнымі процэсамі, тым часам як псыхолёгія, маючы права на існаваньне, павінна ведаць псыхікай і сьвядомасьцю грамадзкага чалавека, якія разглядаюцца намі ў якасьці ўласьцівасьці высока організаванай матэрыі. Аналіз мысленьня, лёгікі і псыхікі з пункту погляду рэфлэксолёгічнай устаноўкі ня мае нічога агульнага з марксызмам. Крытыкуючы школу Паўлава і псыхолёгію, вучні Бехцерава не павінны забы-

[1]) „Рефлексология или психология", стар. 47.

[2]) „Летописи Марксизма" – IX-X, стар. 215.

ваць і пра тое, што трэба рашуча крытыкаваць з пункту погляду марксызму і вучэньне іх настаўніка акадэм. Бехцерава. На жаль, гэтая задача імі часта забываецца. Бехцераўская школа за апошні час мае вялікі зрух да марксыцкага абгрунтаваньня некаторых момантаў паводзін чалавека. Але-ж было-б сур'ёзнай памылкай думаць, што гэта школа зьяўляецца марксыцкай.

На зьезьдзе была прадстаўлена і трэцяя школа, якая карыстаецца значнай популярнасьцю—гэта рэактолёгія, на чале з проф. Карнілавым. Проф. Карнілаў мае гісторычныя заслугі ў тым, што год 6-7 таму назад ён адзін з першых выступіў актыўна супроць эмпірычнай псыхолёгіі, якая ў нас прадстаўлена Чалпанавым і Нячаевым. На першым усесаюзным псыхонэўролёгічным зьезьдзе ён чытаў даклад на тэму: «Марксызм і псыхолёгія», у якім абараняў марксыцкую позыцыю ў псыхонэўролёгічных навуках. Гэты даклад прагучэў тады дысонансам сярод іншых дакладаў, якія не гаварылі аніводнага слова пра марксызм. Дзякуючы ўпартай пропагандзе школы Карнілава, эмпірычная псыхолёгія ў нас была хутка выкрыта, як рэакцыйны напрамак у навуцы пра паводзіны. Ня гледзячы на гэткія заслугі проф. Карнілава, мы ня можам ня спыніцца на тых памылках, якія зроблены гэтаі школай у сваю чаргу.

Рэактолёгія прызнае рэальнасьць сьвядомасьці і псыхікі. Побач з правільным азначэньнем гэтых паняцьцяў ёсьць і памылкі. Правільнасьць формулёвак заключаецца ў тым, што псыхіка ня зводзіцца да колькасных адрозьненьняў, як гэта назіраецца ў мэханістых, а, наадварот, зусім выразна падкрэсьліваецца і псыхіка аднначасова не адрываецца ад сваёй матэр'яльнай асновы. Карнілаў даводзіць, што «рэакцыя ёсьць асноўная першасткова дадзеная форма ўсялякіх жыцьцёвых праяў», і што яна ні ў якім разе не зьяўляецца простым элемэнтарным актам паводзін. «Акт рэакцыі ёсьць зьява складанага парадку»,--сьцьвярджае паказаны профэсар. Рэакцыя мае агульна-біолёгічную сутнасьць, бо пад гэта паняцьце можна падвесьці ўсе праявы жывога організму, пачынаючы з самых прасьцейшых і канчаючы чалавекам. Але-ж у чалавека паняцьце рэакцыі мае яшчэ і біосоцыяльнае значэньне бо чалавек зьяўляецца продуктам соцыяльных адносін. Акт рэакцыі прадстаўляе сабою ўзаемаадносіны жывога організму з навакольным асяродзьдзем. У сувязі з гэтым кожная рэакцыя мае тры моманты: рэцэпторны, які азначае ўспрыйманьне організмам узьдзеяньняў абкружаючага асяродзьдзя, цэнтральны, які зводзіцца да зьмен у організьме пад уплывам гэтага асяродзьдзя і, урэшце, рухавы момант, як адказ організму на раздражэньне. Будучы біосоцыяльным актам у чалавека, рэакцыя прадстаўляе сабой злучэньне фізыолёгічных і псыхічных процэсаў організму. Псыхічныя процэсы зьяўляюцца адбіткам соцыяльнай прыроды чалавека. Адсюль псыхолёгія, паводле думак проф. Карнілава, павінна займацца «вывучэньнем рэакцый жывога організму, якія ахапляюць усе формы праяў яго ў дачыненьні да абкружаючага асяродзьдзя». [1] «Вось вывучэньне ўсяе рознастайнасьці рэакцый чалавека. г. зн., яго надворных праяў разам з суб'ектыўным адлюстраваньнем іх у сьвядомасьці і складае прадмет сучаснай псыхолёгіі. А ў сувязі з тым, што супольнасьць усіх гэтых праяў чалавека можна коратка азначыць тэрмінамі «паводзіны», прадмет псыхолёгіі можна таксама адзначыць, як вывучэньне паводзін чалавека ў абкружаючым асяродзьдзі». [2]) Школа Бехцерава ў аснову паводзін чалавека кладзе рэфлекс, а школа Карнілава—рэакцыю. Пры гэтым тая і другая школа разумеюць гэтыя свае паняцьці ў дачыненьні да чалавека, як спэцыфічнае злучэньне фізыолёгічных і соцыяльных момантаў. Таму, паказаныя школы і называюць свае навукі біосоцыяльнымі. У сувязі з аналізам вучэньня школы Бехцерава мы ўжо сказалі, што такое азначэньне навукі выяўляе тэндэнцыю да эклектызму. Тое самае трэба сказаць і адносна рэактолёгіі. Кажучы пра паводзіны чалавека, апошняя лічыць

---

[1]) К. Н. Карнілаў „Учение о реакциях человека“, т. I. Гиз. Москва, стр. 2.

[2]) Яго-ж. „Учебник психологии“ Госизд. Ленинград. 1926 г., стр. 11.

біолёгічныя асаблівасьці ў паводзінах чалавека ня зьнятымі, а што яны існуюць побач з соцыяльнымі момантамі. Мы-ж думаем другое. Дзякуючы таму, што чалавек ёсьць продукт соцыяльных адносін, яго паводзіны наскрозь прасякнуты соцыяльнасьцю; пры гэтым, біолёгічныя асаблівасьці ў гэтых паводзінах зьяўляюцца зьнятымі ня ў тым сэнсе, што яны зусім зьнішчаны, а ў тым сэнсе што яны, як асаблівасьці папярэдняга філёгенэтычнага разьвіцьця чалавека, увашлі ў сфэру новай якасьці пэўнай сыстэмы соцыяльных момантаў паводзін грамадзкага чалавека. Мы падкрэсьліваем, што тут мы гаварылі не пра анатомію і фізыолёгію чалавека, а пра яго паводзіны. Зразумела, анатомічныя і фізыолёгічныя асаблівасьці кожнага організму, ня гледзячы на тое, што чалавек ёсьць продукт соцыяльных адносін, ня здымаюцца, як пэўныя якасныя катэгорыі, і таму яны зьяўляюцца об'ектамі вывучэньня самастойных навук. Што-ж датычыцца паводзін, дык трэба сказаць, што яны павінны вывучацца таксама асаблівай навукай у соцыяльным аспэкце з пункту погляду соцыяльных адносін у разрэзе спэцыфічных асаблівасьцяй дачыненьня чалавека да клясавага асяродзьдзя, зразумела, пры вучоце адзінства фізыолёгічных і псыхічных процэсаў організму.

Псыхолёгія, якая вывучае паводзіны чалавека, зьяўляецца соцыяльнай навукай. Карнілаў сьцьвярджае адваротнае. Ён піша, што «псыхолёгія ёсьць ня больш як частка фізыкі, бо тое, што мы называем псыхічным процэсам ...ёсьць ня больш, як асаблівая праява фізычнай энэргіі». [1]) «Калі-ж фізыцы дагэтуль не ўдалося падпарадкаваць псыхічныя зьявы энэргетычным процэсам,—працягвае ён,—дык гэта можа быць растлумачана, з аднаго боку, крайняй адарванасьцю псыхолёгіі ад прыродазнаўства, а, з другога, неўдасканаленьнем інструмэнтальнай тэхнікі навуковага дасьледваньня. Але-ж, бязумоўна, гэтае становішча ёсьць зьява часовага парадку. Пры сучасным, усё ўзрастаючым яднаньні псыхолёгіі з прыродазнаўствам і пры ўсё ўзрастаючай дакладнасьці навуковай тэхнікі, проблема гэта павінна зрабіцца об'ектам і навуковага дасьледваньня прыродазнаўства і бліжэй за ўсё яна па плячу сучасным біофізыкам, ад якіх і можна чакаць канчатковага вырашэньня гэтага пытаньня, што дае нам мажлівасьць у шэраг устаноўленых навукай відаў праяў фізычнай энэргіі з правам уключыць і яшчэ адзін від—псыхічнай праявы»...[1]) Энэргетычныя процэсы ў нэрвовай сыстэме проф. Карнілаў разумее матэрыялістычна. Ён дае больш-менш правільную формулёўку пра ўзаемаадносіны паміж гэтымі энэргетычнымі процэсамі і псыхікай, кажучы наступнае: «працяканьне гэтых энэргетычных процэсаў, якое цягне за сабою пад уплывам асобнай структуры нэрвовай сыстэмы зьмены ў сэнсе хуткасьці, напружанасьці і напрамку разрадаў энэргіі і выклікае тое, што суб'ектыўна мы ўспрымаем, як псыхічныя процэсы, але што об'ектыўна зьяўляецца ня чым іншым як асобнай праявай ўсё тае-ж фізычнай энэргіі». Тут псыхіка ня зводзіцца да матэрыяльных процэсаў, і зусім выразна прызнаецца яе якасная асаблівасьць. Але-ж у проф. Карнілава ёсьць другое, што ня можа ня выклікаць супярэчаньняў. Ён зводзіць матэрыяльныя (энэргетычныя) процэсы толькі да фізычных зьяў, забываючы, напр., пра такія процэсы, як хэмічныя, фізыолёгічныя і г. д. І паколькі Карнілаў думае, што псыхічныя процэсы зьяўляюцца суб'ектыўным выразам фізычных процэсаў, ён няўхільна павінен быў прыйсьці да вываду, што псыхолёгія зьяўляецца часткай фізыкі, якая і павінна выратаваць навуку пра паводзіны чалавека. Пры гэтым соцыяльная сутнасьць псыхолёгіі ў гэтым выпадку зусім не падкрэсьлівалася. Такім чынам, проф. Карнілаў стаў на шлях фізычнага матэрыялізму. Гэта не марксыцкая позыцыя паказанага вучонага яшчэ выяўляецца і ў тым, што ён мэханістычна ўяўляе сабе суадносіны паміж організмам і абкружаючым асяродзьдзем. Ён кажа, што «рэакцыя па самай сваёй сут-

[1]) Карнілаў „Учение о реакциях человека“, т. 1, выд. 2, стар. 110.

[1]) Карнілаў „Учение о реакциях человека“, т 1, выд. 2, стар. 5.

насьці ёсьць менавіта ня што іншае, як трансформацыя энэргіі і сталае парушэньне энэргетычнай роўнавагі паміж індывідам і абкружаючым асяродзьдзем». [1]) Тут Карнілаў опэруе законам роўновагі, які кладзецца мэханістымі ў аснову ўзаемаадносін паміж сыстэмай і асяродзьдзем. Мэханістычны характар мае і прапанаваны проф. Карнілавым закон аднаполюснай траты энэргіі, згодна якому энэргія ў організьме концэтруецца ці на пэрыфэрыі, ці ў цэнтры нэрвовай сыстэмы, у залежнасьці ад таго, якой дзейнасьцю мы займаемся ў кожны даны момант—ці фізычнай, ці разумовай. У гэтым законе гаворыцца не пра якасныяператварэньні матэрыяльнай энэргіі, а пра простыя перамяшчэньні (пераліваньні) гэтай энэргіі з аднаго канца організму ў другі.

Прызнаючы рэакцыю, як аснаўны акт паводзін, проф. Карнілаў тым самым дапускае, што псыхолёгічныя процэсы маюць месца ў той або іншай форме і ступені ня толькі ў жывёл і чалавека, але-ж і у самых простых організмах, як, напрыклад, інфузорыях, бо рэакцыя, паводле яго думак, ёсьць адзіная першапачатковая форма жыцьцёвых праяў. А гэткія жыцьцёвыя праявы спатыкаюцца ўжо на першых ступенях разьвіцьця органічнага сьвету. Тут патрабуецца вялікая яснасьць. Зразумела, шукаць псыхічных процэсаў на першах ступенях органічнага сьвету ў такім выглядзе, як гэта ёсьць у вышэйшых жывёл і чалавека, ніяк нельга. Калі-б гэта мы зрабілі, мы самі супярэчылі-б таму, што псыхіка і сьвядомасьць зьяўляюцца ўласьцівасьцю высока організаванай матэрыі. Узьніканьне гэтых процэсаў зьвязваецца з тэй ступеньню, на якой зьяўляецца мозгавая дзейнасьць жывёлы. У гэтых адносінах рэфлексолёгі маюць рацыю. Але-ж і на першых ступенях разьвіцьця органічнага сьвету мы павінны бачыць элемэнты псыхікі, або, яшчэ больш правільней, псыхіку ў станаўленьні, якая набывае пэўную якасьць толькі на вышэйшых этапах разьвіцьця асобным чынам організаванай матэрыі. Тая нявыразнасьць, якая мае месца ў Карнілава па гэтаму пытаньню, дае магчымасьць рэфлексолёгам (і ня толькі ім) абвінавачваць яго ў панпсыхізьме ў дачыненьні да органічнага сьвету. Што-ж датычыцца таго, ці можна карыстацца паняцьцем рэакцыі ў навуцы пра паводзіны, дык на гэта пытаньне адказвае Энгельс, які падкрэсьлівае якасную асаблівасьць рэакцыі на розных этапах разьвіцьця матэрыі. Ён кажа: «Мэханічная фізычная рэакцыя (аліас, цяплыня і г. д.) вычэрпваецца разам з кожным актам рэакцыі. Хэмічная рэакцыя зьмяняе склад цела, якое ўваходзіць у рэакцыю, і аднаўляецца толькі тады, калі дадаецца новая колькасьць яго. Толькі *органічнае* цела рэагуе *самастойным чынам*, зразумела, у межах яго сіл (сон) і пры дапушчэньні прытоку харчоў, але-ж гэтыя прыцякаючыя харчы дзейнічаюць толькі пасьля таго, як яны асыміляваны, а не непасрэдным чынам, як на ніжэйшых ступенях, так што тут органічнае цела ўладае самастойнай сілай рэакцыі: новая рэакцыя павінна адбывацца праз пасрэднасьць яго» [1]). Такім чынам Энгельс лічыць законамерным ужываць тэрмін «рэакцыя» ў дачыненьні да органічнага сьвету, падкрэсьліваючы якасную асаблівасьць гэтай рэакцыі. Спроба рэфлексолёгаў давесьці ненавуковасьць паказанага тэрміну нічым не абгрунтавана. Карнілаў ня робіць памылкі, калі ён называе псыхолёгію рэактолёгіяй. Важна толькі, каб правільна разумець сутнасьць рэакцыі на розных этапах разьвіцьця матэрыі. Аднак, мы самі не настойваем на гэтай назьве.

На зьезьдзе проф. Карнілаў выступаў з дакладам на тэму: «Марксыцкая псыхолёгія і соцыялістычнае будаўніцтва». У гэтым дакладзе ён робіць значны крок наперад ва ўдакладненьні сваіх позыцый і набліжэньні да марксызму. Ён тут заяўляе наступнае: «Адно з асноўных палажэньняў гэтай мэтодолёгіі марксыцкай псыхолёгіі гаворыць пра тое, што марксыцкая псыхолёгія вывучае паводзіны чалавека пераважна з боку яго грамадзкіх адносін, чым псыхолёгія і адрозьніваецца ад фізыолёгіі, якая разглядае дзейнасьць чалавечага організму па-за яго грамадзкімі адносінамі. Таму прэтэнзіі

[1]) Карнілаў „Учение о реакциях человека", т.1, выд. 2, стар. 4.

[1]) Арх. Маркса і Энгельса, кн. 2, стар. 15

некаторых рэфлексолёгаў на тое, што не псыхолёгія, а «фізыолёгія нэрвовай сыстэмы», «соцыяльная фізыолёгія» павінны вывучаць паводзіны чалавека, зьяўляюцца зусім неабгрунтаванымі». З гэтымі думкамі проф. Карнілава нельга не згадзіцца. Перш за ўсё ён тут адмаўляецца ад таго, каб разглядаць псыхолёгію, як частку фізыкі, і зусім выразна падкрэсьлівае соцыяльную сутнасьць навукі пра паводзіны і, падругое, ён правільна вызначае межы паміж псыхолёгіяй і фізыолёгіяй.

На зьезьдзе быў заслуханы з вялікай зацікаўленасьцю даклад І. Д. Сапіра на тэму: «Да пытаньня аб ужываньні матэрыялістычнай дыялектыкі ў псыхонэўролёгіі». Выходзячы з асноўных прынцыпаў марксызму, т. Сапір констатуе, што марксыцкая псыхолёгія змагаецца як супроць эмпірычнай псыхолёгіі і супроць адкрыта-ідэалістычных напрамкаў у навуцы пра паводзіны, гэтак і супроць рэфлексолёгіі і наогул мэханістых. Марксыст-псыхолёг зусім законамерна опэруе такімі паняцьцямі, як сьвядомасьць, прадстаўленьне, афэкт і г. д. Пад гэтымі паняцьцямі ён разумее дзейнасьць складаных матэрыяльных процэсаў, якія праяўляюцца або ў выглядзе пэўных псыхічных перажываньняў, або ў выглядзе розных форм паводзін. Гэтыя процэсы дзейнічаюць як суцэльныя зьявы і могуць быць раскладзены на моманты рэфлекторныя і нэўродынамічныя толькі шляхам навуковай абстракцыі. Яны пазнаюцца праз параўнаўча-генэтычны мэтод.

Марксыцкая псыхолёгія не адмаўляецца ад інтроспэкцыі і карыстаецца ёю, як адным з момантаў у пазнаньні вывучаемых форм руху матэрыі.

Якасныя асаблівасьці зьместу псыхікі чалавека сувязваюцца з клясавым асяродзьдзем. Якасныя асаблівасьці форм гэтай псыхікі зводзяцца да наступнага: сьвядомасьць, якая ўсё больш праясьняецца, здольнасьць да абстракцыі пастаноўкі высокіх мэтаў, здольнасьць складаць пляны для працоўных опэрацый, здольнасьць вывучаць прыроду самix паняцьцяў. Формы і зьмест чалавечай псыхікі ў процэсе гісторычнага разьвіцьця ідуць не ізолявана адзін ад другога, а ў цесным адзінстве паміж сабою.

Марксыцкая псыхолёгія абапіраецца на рэзультат вывучэньня законамернасьці грамадзкага разьвіцьця, г. зн. на гісторычны матэрыялізм.

Псыхолёгія вывучае ня толькі паводзіны чалавека, але-ж і паводзіны жывёлы.

Матэрыяльны процэс, які сувязваецца з псыхікай, ня зводзіцца да фізыолёгічных процэсаў. Апошнія зьяўляюцца толькі адным з момантаў у псыхо-фізычнай дзейнасьці організму, якая набывае якасную спэцыфічнасьць на падставе сынтэзу цэлага шэрагу момантаў: нэўрофізыолёгічных, анатомо-гістолёгічных і г. д. Псыхолёгія ня можа быць падменена фізыолёгіяй ня толькі ў дачыненьні да чалавека, але і жывёл, таксама, як ня можа быць падменена і рэфлексолёгіяй, задача якой вывучэньне ўмоўных рэфлексаў, або аналіз нэўродынамічных момантаў мозгавай дзейнасьці. Далей т. Сапір даводзіць, што пры вывучэньні асобы трэба ўлічваць дыялектыку надворнага і ўнутранога ў паводзінах, а таксама тры галоўных моманты: розны характар уплыву асяродзьдзя на асобу, розныя адносіны розных элемэнтаў асобы да ўплыву асяродзьдзя, дыфэрэнцыяванае вывучэньне асяродзьдзя адносна асобы. Зусім правільна ставіць т. Сапір проблему колектыўнай псыхолёгіі, даводзячы, што гэта псыхолёгія падпарадкуецца іншым законамернасьцям, чым псыхолёгія індывіду.

Зьезд больш-менш аднадушна прышоў да вываду, што трэба прасякнуць марксыцкай мэтодолёгіяй псыхонэўролёгічныя навукі, нікольні не перашкаджаючы кожнай школе карыстацца тымі экспэрымэнтальнымі мэтодамі, якія будуць ёю прызнаны найбольш мэтазгоднымі. Але-ж прасякненьне марксыцкай мэтодолёгіі ў навуку па вывучэньні паводзін чалавека мажліва пры непрымірымай барацьбе з рознымі буржуазнымі плынямі і ўхіламі.

# СТАВІМ НА АБГАВАРЭНЬНЕ

**М. КРУПЕНІНА**

## СУЧАСНЫЯ ПРОБЛЕМЫ СЫСТЭМЫ НАРОДНАЙ АСЬВЕТЫ

Патрэба ў зьмене сыстэмы народнай асьветы адчуваецца ўсё вастрэй і вастрэй. Пытаньні сыстэмы народнай асьветы становяцца прадметам дыскусіі на шматлікіх зьездах асьветнікаў. Абгаварвае гэтыя пытаньні і моладзь у асобе комсамолу. Але ўсё-ж трэба сказаць, што дыскусія па пытаньнях народнай асьветы ахапіла да гэтага часу толькі адзін бок пытаньня, падыходзіла толькі з аднаго пункту погляду—з пункту *адукацыйных* задач.

Апошні год зьмяніў і зьмяняе, пашырае пастаноўку пытаньня, і зараз ужо для ўсіх відавочна, што справа ня толькі ў павялічэньні тэрмінаў навучальнай работы тых або іншых тыпаў асьветніцка-выхаваўчых устаноў (школы II ступені, тэхнікумы, ВНУ), ня толькі ў суадносінах іх паміж сабою (ці зьяўляецца II ступень калідорам у ВНУ, ці ставіць задачай профэсійную падрыхтоўку). Усе гэтыя пытаньні ня зьняты з парадку дню, але яны недастатковы для вырашэньня пытаньня пра адпаведнасьць паміж сыстэмай выхаваньня і асьветы падрастаючага пакленьня, і тымі глыбачэзнымі зьменамі, што адбываюцца ў абкружаючым соцыяльным асяродзьдзі. І тут, як і ў іншых галінах жыцьця, тэмпы куды хутчэйшыя, чым гэтага чакалі нават самі кіраўнікі справы народнай асьветы. Усяго паўтара гады таму назад проблема політэхнізму здавалася «тэорытычнай» проблемай, досыць адцягненай, досыць далёкай ад практычнай рэалізацыі. Зараз завод-втуз, пашырэньне сеткі фабзавучаў, школы сямігодкі пры прадпрыемствах і, урэшце, самае галоўнае—хутчэйшы тэмп колектывізацыі сельскай гаспадаркі ставіць у зусім інакшым разрэзе пытаньне пра школу, пра яе тып, пра зьмест работы школы, пра мэтоды яе работы.

Чым павінна быць школа ў колгасах? Ужо зараз з усёй відавочнасьцю прадстаўляецца ня толькі магчымасьць, але і патрэба будаваць работу школы не на аснове *програмы ведаў, а на програме дзейнасьці,* на аснове *грамадзкіх і вытворчых спраў*. Школа перастае быць мэханічным аб'яднаньнем клясаў, некалькіх школьных груп, а ператвараецца ў шэраг організаваных дзіцячых груп, дзіцячых колектываў, якія аб'яднаюцца вакол вырашэньня тых або іншых вытворчых ці грамадзкіх задач,—група ліквідатараў няпісьменнасьці, група птушкаводаў, група юных трактарыстых, група паляводаў, група па барацьбе са шкоднікамі і г. д. і г. д. Вось якія тыпы ня заўтрашняга, а ўжо сёньняшняга дня нашай рачаістасьці. Хто разьмяркоўвае гэтыя работы, хто складае плян удзелу дзяцей у вытворчым жыцьці колгасу? Як увязваецца гэта работа з атрыманьнем ведаў, з «вучобай», ці не зьмяняецца сам характар гэтай «вучобы», а з ім разам і тып, і організацыя школы? Дык тады-ж дзеці вучацца ўжо і на полі і на гародах, у агрономічным пункце, на трактарнай базе і г. д. і г. д. Настаўнікам павінен стаць і агроном, і мэханік, і тэхнік, што працуюць у колгасе. Ці ня стане настаўнік пры такіх умовах толькі організатарам і консультантам, консультантам па тых пытаньнях, якія здолее вырашыць сам, і організатарам у тэй меры і ў тэй галіне, якая патрабуе прыцягненьня сіл адпаведных спэцыялістых—аграно-

маў, тэхнікаў і г. д.? Грамадзка-карысная работа, якая яшчэ год-два таму назад была ілюстрацыяй да комплексу, ужывалася, як адзін з навочных дапаможнікаў у прапрацоўцы тэй або іншай «тэмы», зараз кладзецца ў аснову асьветнай і выхаваўчай работы.

*Грамадзкае вучнёўства,* якое яшчэ так нядаўна выклікала скэптычныя ўхмылкі і недавер'е з боку і пэдагогаў і кіраўнікоў нашых гаспадарчых організацый, зараз саступіла месца *дагаворам*, якія заключаюць цэлы шэраг гаспадарчых організацый з піонэрамі, дагаворы па выкананьні ўзятых абавязкаў вытворчага характару. «Даеш крапіву»—пад гэтым лёзунгам трэст лекавых расьлін мобілізуе тысячы дзіцячых рук на збор лекавых траў. Політэхнічная аснова школы з усёй відавочнасьцю пачынае вырастаць не з рамесьніцкіх майстэрняў, што організуюцца пры школе, а з удзелу дзяцей у вытворчай і грамадзкай рабоце.

Проблема гораду і вёскі таксама на нашых вачох становіцца іншай. Гарадзкі школьнік часткова ў парадку ўдзелу ў веснавой пасеўнай кампаніі, часткова ў парадку брыгад паварыву, па ўдзелу ў сельскай гаспадарцы пляцуе ўжо зараз к вясьне і лету работу далёка за межамі гораду. Вёска, што цяпер колектывізуецца панoваму ставіць пытаньне пра змычку гораду з вёскай. Трэба думаць, што ў будучую зіму на вуліцах Масквы мы ўбачым шматлікія групы вясковых школьнікаў, якія прыедуць сюды ліквідаваць ужо не на словах, а на справе «ідыётызм вясковага жыцьця».

Так зьмяняецца нутраны зьмест асобных тыпаў асьветна-выхаваўчых устаноў.

Зусім відавочнай становіцца патрэба зьмяняць і знадворныя організацыйныя формы, бо новаму зьместу робіцца цесна ў старых організацыйных рамках, яны патрабуюць іншай сыстэмы работы.

Трэба таксама спыніцца яшчэ на аднэй яскрава выражанай тэндэнцыі тых соцыяльных зьмен, што адбываюцца навокал. Мы маем на ўвазе *ўсё ўзрастаючую колектывізацыю быту.* Будаўніцтва новых соцыялістычных гарадоў з асаблівай вастрынёю паставіла проблему колектывізацыі грамадзкага быту. Але ня толькі гарады будучыны выяўляюць гэту тэндэнцыю да колектывізацыі быту—няма ніводнай фабрыкі, ніводнага рабочага пасёлку, бадай, нават ніводнага буйнога жылтаварыства, якія ў тэй або іншай форме не спрабавалі-б практычна ўступіць на шлях аграмаджаньня тых або іншых бакоў жыцьця,—грамадзкія сталоўні, клюбы, дзіцячыя пакоі, жаночыя куткі, чырвоныя куткі і г. д. і г. д. растуць з кожным днём. Рабочы клюб, як *адзінае* месца організацыі адпачынку і задавальненьня культурных патрэб, перастае ўжо быць такім, ён абрастае цэлым шэрагам чырвоных куткоў, больш дробных культурных адзінак, у куды большай ступені набліжаных да быту, што організуецца ўнутры рабочых агульных памяшканьняў, у дамох комуны, у жылтаварыствах.

Не здавальняецца і дзятва толькі школай. Праўда, з імі справа стаіць цяжэй. Аддзелы народнай асьветы не легалізавалі гэтыя тыпы ўстаноў, не зорганізавалі іх абслугоўваньне ўнутры сваіх апаратаў, таму тут яшчэ пануе ў значнай ступені стыхія, тут прабіваюць сабе дарогу толькі найбольш моцныя організацыі. У адносінах дзятвы ўсё гэта расьце *не дзякуючы сыстэме, а насуперак сыстэме.* Сыстэма народнай асьветы паранейшаму ведае дзіцячы сад, школу, тэхнікум, ВНУ. Сыстэма да гэтага часу ня ўключае цэлы шэраг пераходных ступеняй, пераходных зьвеньняў, усіх тых спроб уступіць на шлях аграмаджаньня, на шлях колектыўнага вырашэньня цэлага шэрагу культурных задач, культурных запатрабаваньняў дзятвы. Лыжная станцыя, дзіцячая тэхнічная станцыя, дзіцячая сельска-гаспадарчая станцыя, дзіцячы завочны унівэрсытэт, нядзельны дзіцячы унівэрсытэт, якія ўзьнікаюць у колгасах, у буйных фабрычных пасёлках, гурткі па самаадукацыі падросткаў—усё гэта патрабуе ўключэньня ў сыстэму, усё гэта патрабуе перагляду сыстэмы пад кутом погляду найбольшай гнуткасьці, уменьня ўключыць, стварыць спрыяючыя ўмовы для выяўленьня актыўнасьці, ініцыятывы, творчасьці, новых організацыйных форм у барацьбе моладзі і дзяцей за культуру і ў барацьбе за веды.

Гэтыя-ж элемэнты колектывізацыі быту ставяць зараз зноў у парадак дню проблему так званага грамадзкага выхаваньня. Апісаныя намі вышэй дзіцячыя ўстановы і організацыі ўяўляюць сабою як-бы абагульненьне асобных бакоў жыцьця дзяцей або дарослых; ужываючы грубую аналёгію, гэтыя організацыі і ўстановы ўяўляюць сабою нешта накшталт сельска-гаспадарчых таварыстваў па закупцы і збыту яек, па сумеснаму выкарыстаньню трактараў, па сумеснай апрацоўцы і збыту ільну, малочных продуктаў і г. д., словам, усе тыя асобныя віды коопэраваньня, якія асобнымі раўчачкамі вядуць да пытаньня аб поўнай суцэльнай колектывізацыі. Дык вось проблема грамадзкага выхаваньня ўяўляецца нам зараз, як проблема суцэльнай колектывізацыі дзіцячага быту. Адна з найвялікшых задач, якую мы папрабавалі вырашыць у самым пачатку рэволюцыі, была сыстэма так званых дзіцячых дамоў. «Мы патрабуем грамадзкага выхаваньня ў дзяржаўных установах за кошт дзяржавы»—так пісалі Маркс і Энгельс яшчэ ў Комуністычным Маніфэсьце. Мы папрабавалі рэалізаваць гэты прынцып з пачатку Кастрычніка. Аднак, акрамя таго, што гэта задача аказалася эканомічна не па сіле, яна ўскрыла таксама і цэлы шэраг пэдагогічна і організацыйна няправільных прынцыпаў, якія пакладзены ў аснову будаўніцтва дзіцячых дамоў. Сабраныя з розных краёў, часам з розных пластоў, былыя панскія маёнткі паводдаль ад дарослай рабочай грамадзкасьці, абкружаныя морам індывідуальных сялянскіх гаспадарак, ператвараліся ў прытулкі горшага або лепшага тыпу. Гэта не перашкаджае, праўда, адражэньню такой жа тэндэнцыі—удаленьня дзяцей ад дарослых шляхам стварэньня асобных дзіцячых гарадкоў за мяжою, або ў межах соцыялістычнага гораду, а між тым, прычына таго фіаско, які пацярпеў ня толькі сам дзіцячы дом, але сама ідэя грамадзкага выхаваньня, адбылася ў значнай ступені менавіта дзякуючы гэтаму ілжываму разуменьню прынцыпу колектывізацыі дзіцячых мас асобна ад дарослых.

Проблему грамадзкага выхаваньня дзяцей можна ставіць толькі тады, калі процэсы аграмаджаньня і колектывізацыі становяцца ў парадку дню ня толькі перад дзіцячым, але і перад дарослым бытам. Вось чаму мы думаем, што будзе сваячасова, калі зараз паставім зноў гэтае пытаньне. Яно зьяўляецца адным з самых карэнных пытаньняў аграмаджаньня быту. Сапраўды, возьмем любы бок нашага жыцьця,—вытворчы. Пры сучасных тэмпах, пры ўшчыльненьні работы, увядзеньні бесьперапыннага тыдню, падвышэньні продукцыйнасьці працы, інтэнсыўнасьці працы, ушчыльненьні рабочага дню, неналаджанасьць і згружанасьць менавіта дзіцячага быту надзвычайна моцна ўплывае на працу ня толькі работніцы, але нават рабочага. Ідучы ў ночную зьмену, работніца, якая пакідае дома дзяцей, ня можа даць тэй продукцыйнасьці працы, якую можна было-б ад яе чакаць пры ўмове, калі-б клопаты аб дзецях былі зьняты з яе плеч. Работніца, якая вымушана ў 4 гадзіны раніцы несьці сваё дзіця ў яслі або, калі яно сьпіць, несьці з ясьляў да хаты, ня можа быць поўнацэнным работнікам. Задача падвышэньня продукцыйнасьці працы патрабуе грамадзкага выхаваньня дзяцей. Задача ўздыму грамадзкай актыўнасьці, уцягненьня жанчын у будаўніцтва новых форм жыцьця, новых грамадзкіх адносін, удзел іх у профэсійным і палітычным жыцьці,— усё гэта надзвычайна тормозіцца неналаджанасьцю і нявырашанасьцю пытаньняў дзіцячага быту. Дзіцячы сад, які аслабаняе яе толькі на час, не вырашае задачы ўцягненьня работніцы ў грамадзкае жыцьцё.

Урэшце, проблема ўзаемаадносін родаў, сям'і і шлюбу не вырашаецца толькі пытаньнем аб алімэнтах, яна таксама патрабуе магчыма больш хуткага пераходу так званага сямейнага выхаваньня да выхаваньня грамадзкага. Так абстаіць справа ў гарадох і фабрычных раёнах.

Колгасы і комуны яшчэ з большай вастрынёю ставяць пытаньне пра аграмаджаньне, колектывізацыю дзіцячага быту і пра грамадзкія формы выхаваньня Ідэя грамадзкага вучнёўства, пра якую мы гаварылі вышэй, знаходзіць сваё выражэньне ў практыцы работы, агульная тэндэнцыя да колектывізацыі быту,

урэшце, наяўнасьць узросшай дзіцячай організацыі ў асобе піонэратрадаў, якія ахопліваюць звыш 2 мільёнаў дзяцей, даюць нам дастатковыя прадпасылкі для таго, каб ня толькі ставіць, але ўступаць на шлях практычнага вырашэньня задач грамадзкага выхаваньня.

Было-б небясьпечнай памылкай шукаць адзін унівэрсальны для ўсіх раёнаў нашага Саюзу тып грамадзкага выхаваньня дзяцей. Зусім зразумела, што колгас, комуна, якія абагульняюць ня толькі сваю працу, але і свой быт, патрабуюць адзінага тыпу грамадзкага выхаваньня дзяцей. Новы фабрычны пасёлак, што комплектуецца і вырастае на новай базе, якая пазбаўлена гэтай самай «бытавой спадкавай абцяжэласьці», стары фабрычны пасёлак, рабочая сям'я, што жыве ў асобных хатках, якія разьмясьціліся вакол заводу або фабрыкі, урэшце, нацыянальнасьці нашых ускраін з пераджыткамі і з яўна выражанымі рэшткамі родавага быту, якія толькі пераходзяць ад вандроўніцтва да аселасьці, усе гэтыя розныя ня толькі экономічныя, але і бытавыя ўклады, усе яны патрабуюць розных тыпаў грамадзкага выхаваньня, усе яны прадстаўляюць сабою розную ступень падрыхтаванасьці да разгортваньня гэтых новых форм выхаваньня, але гэтая розная ступень падрыхтаванасьці ні ў якай меры не павінна супыняць нас ад увядзеньня розных форм грамадзкага выхаваньня або суцэльнай колектывізацыі дзіцячага быту там, дзе ўжо насьпелі для гэтага прадпасылкі, на тэй падставе, што дзе-кольвек такіх прадпасылак яшчэ няма. Тэндэнцыя зраўнаньня, стандартызаванасьці тут больш небясьпечна, чым дзе-б там ні было. Наадварот, магчыма большая гнуткасьць, магчыма большая прыстасаванасьць да мясцовых умоў, магчыма большае заахвочваньне ініцыятывы мас, якія шукаюць пераходу да тых або іншых відаў і форм грамадзкага выхаваньня дзяцей,—такая задача «сыстэмы».

Артыкулы т. М. Крупенінай надрукаваны ў № 3 „Революции и культуры". Рэдакцыя, прымаючы пад увагу важнасьць і актуальнасьць, для БССР узьнятых у артыкуле пытаньняў, перадрукавала яго цалком.

---

# ПРОЕКТ ПРОГРАМЫ ДЛЯ ШКОЛ 1-га КОНЦЭНТРУ Ў РАЁНАХ СУЦЭЛЬНАЙ КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

Хуткі тэмп колектывізацыі сельскай гаспадаркі ў нашай краіне патрабуе тэрміновай пераапрацоўкі програм для нашай школы. Новыя програмы павінны быць орыентаваны на школу ў раёне суцэльнай колектывізацыі і пабудаваны на аснове іншых прынцыпаў, чым гэта назіралася ў старых програмах.

Програмы нашых школ павінны быць прасякнуты сучаснасьцю. Такой сучаснасьцю зьяўляецца рэволюцыйная барацьба пролетарыяту і соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР. Увага нашых дзяцей павінна быць сконцэнтравана на гэтых выключна важных момантах нашай рачаіснасьці. Толькі праз усьведамленьне рэволюцыйнай сучаснасьці дзеці могуць зрабіцца барацьбітамі за комунізм і будаўнікамі соцыялізму.

Некаторыя пэдагогі выступаюць супроць тако, каб у першых групах не концэнтраваць увагі дзяцей на прыродзе, якой яны ў гэтым узросьце жывуць і захапляюцца. Гэтыя пэдагогі забываюць адно: прырода робіць уплыў на людзей не непасрэдна, а праз пасрэднасьць грамадзкіх адносін. Мы можам усьвядоміць сутнасьць прыроды толькі вывучаючы сутнасьць клясавага асяродзьдзя, ва ўмовах якога жывуць і выхоўваюцца дзеці. Вось чаму нашы програмы насычаны соцыяльным зьместам, пачынаючы з першага году. Прынцып сэзоннасьці пакідаецца толькі на першым годзе, але-ж і тут ён не зьяўляецца пераважным, як гэта раней было ў старых програмах. Тут прынцып сэзоннасьці падпарадкаваны прынцыпу клясавай барацьбы і соцы-

ялістычнага будаўніцтва. На другім годзе прынцып сэзоннасьці адпадае. Гэта тлумачыцца тым, што дзеці могуць дастаткова азнаёміцца з асаблівасьцямі розных пор году ў першай групе, і тут ня трэба дубляваць матар'ял. Але-ж пры прапрацоўцы паасобных тэм, бязумоўна, трэба будзе зварочваць увагу на зьявы прыроды па розных пэрыодах году.

На першым годзе навучаньня комплекс сям'і зусім адкінуты. Тут вызначаецца комплекс «колгас» або «саўгас», у залежнасьці ад таго, пры якім тыпе соцыялістычнай гаспадаркі будзе знаходзіцца школа. Пры ўмовах суцэльнай колектывізацыі сельскай гаспадаркі сям'я, як асобная *гаспадарчая* адзінка, зьнішчаецца. Непасрэдным об'ектам жыцьцёвых назіраньняў у дзяцей тут зьяўляюцца розныя бакі соцыялістычнай гаспадаркі. Вось чаму мы і павінны пачынаць вывучэньне вакольнага асяродзьдзя з колгасу і саўгасу.

Прынцып концэнтрычнасьці ў нашым проекце захоўваецца, кожны наступны год зьяўляецца пашырэньнем і паглыбленьнем таго матар'ялу, які быў больш элемэнтарна прапрацованы на працягу папярэдняга году. Апроч гэтага, мы ўстанавілі дыялектычныя пераходы ад адной тэмы да другой, чаго ня было ці мала было ў ранейшых програмах. Нашы програмы абапіраюцца на прынцып дынамічнасьці. Возьмем для прыкладу другі год навучаньня. Раней разглядаецца арцель, потым камуна, далей ідзе саўгас, яшчэ далей—машына-трактарныя станцыі, потым—агрокомбінат і, урэшце, электростанцыі, фабрыкі і заводы. Мы тут назіраем пераходы ад прасьцейшай формы соцыялістычнай гаспадаркі да найбольш высокіх форм.

Кожная форма соцыялістычнай гаспадаркі павінна разглядацца з пункту погляду задач і ўстаноўкі, характару організацыі і кіраўніцтва, напрамку гаспадаркі, асаблівасьцяй тэхнікі вытворчасьці, наяўнасьці розных тыпаў грамадзкіх організацый, характару культурна-бытавога жыцьця. Пры гэтым, увесь час падкрэсьліваецца роля комуністычнай партыі ў клясавай барацьбе і соцыялістычным будаўніцтве. Пры прапрацоўцы програм павінна зварочвацца ўвага на элемэнты антырэлігійнага ды інтэрнацыянальнага выхаваньня ў сувязі з пэўнымі пунктамі гэтых програм. Напрыклад, з падтэмай пра культурна-бытавое жыцьцё трэба ставіць пытаньне пра барацьбу з рэлігійнымі забабонамі і бытавымі перажыткамі. У сувязі з нацполітыкай БССР і СССР трэба шырока разгарнуць пытаньне інтэрнацыянальнага выхаваньня. Па сутнасьці кожная тэма і падтэма даюць мажлівасьць выкладчыку заваструыць увагу дзяцей вакол клясавай барацьбы і будаўніцтва соцыялізму.

У аснову 3-га і 4-га году навучаньня пакладзена «Пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва». Пры гэтым паказанае пытаньне разглядаецца не ізолявана ад клясавай барацьбы пролетарыяту, а, наадварот, увесь час пад пунктам погляду гэтай барацьбы. Гэта трэба асабліва падкрэсьліць, бо на практыцы некаторыя настаўнікі могуць патануць у моры лічбаў і ня даць клясавай накіраванасьці пяцігодкі.

Гэткай памылкі статыстычнага аналізу пяцігодкі без усьведамленьня яе клясавай сутнасьці і рэволюцыйных пэрспэктыў разьвіцьця СССР мы павінны рашуча ўхіляцца.

Вывучэньне кожнай зьявы і факту па програмах павінна праходзіць пры строгім карыстаньні гісторычнага мэтоду, каб ня стаць на шлях мяшчанскага апісальнага вывучэньня рачаіснасьці.

Паколькі бярэцца ў аснову програм вывучэньне соцыялістычнай гаспадаркі, колгасаў, саўгасаў, электростанцый, фабрык і заводаў, пры актыўным удзеле дзяцей у клясавай барацьбе і ў працы на буйных прадпрыемствах, програмы набываюць політэхнічны характар.

Мы павінны падкрэсьліць, што структура і зьмены програмы даюць мажлівасьць шырока разгарнуць так званую грамадзка-карысную работу школы. Амаль што кожная тэма і нават падтэма можа быць скарыстана для організацыі актыўнага ўдзелу дзяцей у клясавай барацьбе і соцыялістычным будаўніцтве.

Прапрацоўка програм павінна праходзіць пад адзнакай вучоту конкрэтных умоў таго асяродзьдзя, ва ўмовах якога знаходзіцца тая або іншая школа. Прынцып конкрэтнасьці трэба заўсёды ўліч-

ваць, калі прапрацоўваецца тая або іншая тэма і падтэма.

Правільнае і ўмелае скарыстаньне праграм дае мажлівасьць кожнай школе ажыцьцявіць асноўныя прынцыпы комуністычнага выхаваньня.

Ніжэй паданы проект програмы для першага концэнтру прапануецца комісіяй, якая складзена з прадстаўнікоў навукова-мэтодолёгічнага комітэту НКА і інстытуту пэдагогікі і пэдолёгіі БССР, а, менавіта, у складзе т. т. Панкевіча, Шашкова і Дардака.

**1-ы год**

## „НАШ КОЛГАС“ (САЎГАС)

*I. Першыя крокі ў школе.*

1. Склад дзяцей у групе (соц., нац. і ўзросны).
2. Жыцьцё і праца дзяцей да паступленьня ў школу.
3. Організацыя і пабудова працы ў школе.

*II. Організацыя нашага колгасу (саўгасу).* (30 дзён).

1. Як узьнік наш колгас.
2. Як кулакі перашкаджалі організацыі колгасу.
3. Як колгас перамог кулакоў.
3а. Склад членаў нашага колгасу (соц., нац. і ўзросны).
4. Каго прымаюць у колгас.
5. Партыйная і комсамольская ячэйкі ў колгасе.
6. Піонэрорганізацыя.
7. Грамадзкія організацыі: савет колгасаў і добраахвотныя організацыі—МОПР, Бязбожнік, Асоавіяхім і г. д.
8. Організацыя і работа батрацка-бядняцкіх груп у колгасе.
9. Клясавая барацьба па-за колгасамі і ў колгасе.
10. Сельсавет і яго роля ў клясавай барацьбе і соцыялістычным будаўніцтве.
11. Культурна-бытавое жыцьцё ў нашым колгасе.
12. Барацьба з рэлігійнымі забабонамі.
13. Машыны і жывёла ў нашым колгасе.
14. Організацыя і ахова працы.
15. Вытворчыя нарады.
16. Будоўля.
17. Які напрамак гаспадаркі колгасу.
18. Контрактацыя.
19. Сувязь колгасу з фабрыкамі і заводамі.

*III. Летняя праца ў колгасе і ўдзел у ёй дзяцей.* (30 дзён).

1. Прыметы лета.
2. Расьліны.
3. Збожжавыя культуры.
4. Сенажаць.
5. Раньняе ворыва папару.
6. Жніво і малацьба.
7. Пасеў азімы.
8. Перавага працы ў колектыўнай гаспадарцы ў параўнаньні з дробнай.
9. Антырэлігійная барацьба (папоўская хлусьня аб Ільлі і г. д.).

*IV. Асеньняя праца ў калгасе.* *(45 дзён).*

1. Прыметы восені.
2. Гародніна, садовіна, бульба.
3. Збор яравога хлеба і бульбы.
4. Праца ў садох і на гародзе.
5. Хлебазагатоўкі і задача колгасу.
6. Організацыя фондаў насеньня.
7. Організацыя фондаў с.-г. продуктаў у розных мэтах.
8. Колгас у барацьбе з кулаком і нэпманам увосень.
9. Ураджай у колгасе ў параўнаньні з дробнай гаспадаркай.
10. Дзень ураджаю і колектывізацыі.
11. Падрыхтоўка да зімы:
   а) памяшканьняў і хлявоў,
   б) вопраткі,
   в) загатоўка харчоў;
   г) загатоўка апалу,
   д) упарадкаваньне машын на зіму.

*V. Кастрычнікавая рэволюцыя:* (8—10 дзён).

а) падрыхтоўка да сьвята,
б) правядзеньне яго.

*VI. Зімовая праца ў колгасе.*

1. Прыметы зімы.
2. Жывёлы.
3. Дрэва.
4. Пераапрацоўка с.-гасп. сыравіны і продуктаў.
5. Лесазагатоўкі.
6. Дагляд за жывёлай.
7. Адсартаваньне і ачыстка насеньня.
8. Рамонт с.-гасп. машын.

9. Работа культурна-асьветных устаноў (хата-чытальня, клюб, кіно, школа, лікпункт).

10. Ленінскія дні ды інш. рэв. сьвяты: Чырв. армія, 1905 г.

11. Антырэлігійная барацьба (супроць каляд і г. д.).

12. Перавыбары саветаў.

*VII. Вясновая праца ў колгасе.* (30 дзён).

1. Прыметы вясны.

2. Організацыя трактарна-конных станцый.

3) Раньняе ворыва палёў.

4. Разьмеркаваньне насеньня і сяўба.

5. Ахова прыроды птушак і жывёлы.

6. Агляд і пасадка дрэў.

7. Антырэлігійная барацьба (супроць вялікага дня, сёмухі).

8. Рэволюцыйныя сьвяты: 8-га сакавіка, 1-га сак. і 18-га сак.

*VIII. Першае мая:* (8 дзён).

а) падрыхтоўка да сьвята,
б) правядзеньне яго.

*IX. Падлік працы.* (5 дзён).

**2-гі год**

## „СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ БУДАЎНІЦТВА Ў НАШЫМ РАЁНЕ"

*I. Жыцьцё і праца дзяцей у часе летняга адпачынку.*

*II. Колектыўныя гаспадаркі ў нашым раёне:*

А) арцель:

1. Організацыя і кіраўніцтва.
2. Вытворчасьць.
3. Культура і быт.

Б) комуна:

1. Організацыя і кіраўніцтва.
2. Вытворчасьць.
3. Культура і быт.
4. Роля комуны ў социялістычным будаўніцтве і клясавай барацьбе.

*III. Саўгас:*

а) організацыя і кіраўніцтва,
б) вытворчасьць,
в) культура і быт,
г) роля саўгасу ў клясавай барацьбе і социялістычным будаўніцтве.

*IV. М.-т. станцыі:*

а) організацыя станцый і іх задачы,
б) машыны і знаёмства з імі,
в) тэхніка абслугоўваньня колгасаў і саўгасаў,
г) роля м.-т. станцый у колектывізацыі с. гаспадаркі,
д) м.-т. станцыі і клясавая барацьба.

*V. Агрокомбінат:*

а) організацыя і задачы кіраўніцтва,
б) як пабудована вытворчасьць у агрокомбінаце,
в) роля агрокомбінату ў справе социялістычнага будаўніцтва.

*VI. Социялістычная прамысловасьць у нашым раёне:*

а) электростанцыі,
б) фабрыка і завод.

1. Організацыя і кіраўніцтва
2. Вытворчасьць.
3. Культура і быт.

*VII. Сувязь колгасаў і саўгасаў з социялістычнай прамысловасьцю:*

а) вытворчая сувязь,
б) абмен і спажывецкая коопэрацыя,
в) культурна-політычная сувязь.

*VIII. Вынікі працы за год.*

*Заўвагі:* 1) Кастрычнікавая рэволюцыя, 1-ае мая ды іншыя рэволюцыйныя сьвяты вывучаюцца ў той час, калі гэтыя сьвяты наступаюць.

2) Прыродныя зьявы вывучаюцца ў сувязі з надыходам кожнага пэрыоду году.

**3-і год**

## „БССР І СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ БУДАЎНІЦТВА"

*I. Як утварылася БССР.*

1. Жыцьцё і барацьба рабочых і сялян супроць капіталістых і аграрнікаў да Кастрычнікавай рэволюцыі.

2. Кастрычнік на Беларусі.

3) Грамадзянская вайна на Беларусі.

4. Гаспадарчае будаўніцтва і яго этапы.

5. Роля компартыі ў клясавай барацьбе рабочых і сялян і ў социялістычным будаўніцтве.

6. Грамадзка-палітычныя арганізацыі на Беларусі (комсамол, піонэрарганізацыя, МОПР, Асоавіяхім і г. д.).
7. Нацпалітыка ў БССР.

*II. Як мы будуем соцыялізм у БССР.*

1. Пяцігодка нашага раёну.
2. Пяцігодка нашай акругі.
3. Пяцігодка і гэнэральны плян БССР 1) сельская гаспадарка, 2) індустрыя, 3) экономіка, 4) культура і быт).

*III. Пяцігодка індустрыі:*

а) цяжкая індустрыя,
б) лёгкая прамысловасьць,
в) транспарт,
г) электрыфікацыя.

*IV. Пяцігодка колектывізацыі сельскае гаспадаркі:*

а) колгасы, саўгасы, м.-т. с.,
б) электрыфікацыя сельскай гаспадаркі,
в) машынізацыя і трактарызацыя с. гаспадаркі,
г) хэмізацыя с. гаспадаркі.

*V. Пяцігодка экономіі СССР:*

а) бюджэт,
б) унутраны і замежны гандаль:
1. Коопэрацыя.
2. Экспорт.
3. Імпорт.
в) навуковая арганізацыя працы,
г) арганізацыя і склад бюджэту рабочых,
е) проблема беспрацоўя і як яна ў нас вырашаецца.

*VI. Пяцігодка культуры і быту:*

а) народная асьвета,
б) ахова здароўя,
в) соц. страхаваньне рабочых,
г) барацьба з рэлігійнымі забабонамі і перажыткамі старога быту,
д) колектывізацыя быту,
е) пэрспэктывы пабудовы соцыялістычных гарадоў.

*VII. Нацыянальная палітыка ў СССР:*

Тэма: «СССР і капіталістычны сьвет».

а) Нямеччына, Францыя, Англія, Амэрыка, Польшча, Румынія, Кітай,
б) абарона СССР,
в) міжнародны рэволюцыйны рух пролетарыяту і колёніяльных народаў.

**4-ы год**

*Комплекс: «СССР і соцыялістычнае спаборніцтва»*

Тэма: «Як утварыўся СССР».

1. Жыцьцё і барацьба сялян у часе прыгону і пасьля зьнішчэньня прыгону.
2. Жыцьцё і барацьба рабочых і сялян пры капіталізьме.
3. Рэволюцыя 1905 г. і партыя бальшавікоў.
4. Імпэрыялістычная вайна 1914—18 г. і барацьба бальшавікоў на чале з Леніным супроць вайны.
5. Лютаўская рэволюцыя.
6. Кастрычнікавая рэволюцыя.
7. Грамадзянская вайна.
8. Пераход да гаспадарча-культурнага будаўніцтва.
9. Стварэньне СССР:
1. Географічнае становішча СССР.
2. Прырода Саюзу.
3. Насельніцтва.
4. Пабудова савецкай улады ў СССР.
10. Ленін і ўсесаюзная комуністычная партыя (бальшавікоў).
11. Профсаюзы.
12. Ленінскі комуністычны саюз моладзі.
13. Дзіцячы комуністычны рух.
14. Грамадзкія арганізацыі: МОПР, Асоавіяхім, Бязбожнік, «Прэч няпісьменнасьць», Озэт і г. д.

Тэма: «Як мы будуем соцыялізм у СССР»:

*I. Задачы і роля комуністычнай партыі ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.*

*II. Прынцыпы пабудовы пяцігодкі і гэнэральнага пляну СССР.*

1. Соцыялістычная рацыяналізацыя.
2. Соцыялістычнае спаборніцтва.
3. Бесьперапынны тыдзень.
4. Зьмяншэньне сабекошту.
5. Уздым вытворчасьці працы.
6. Уздым рэальнай зарплаты.
7. Промфінплян.
8. Контрольныя лічбы.

# ПРОЕКТ ПРОГР. ДЛЯ ГАРАДЗКІХ ШКОЛ І КОНЦЭНТРУ

**1-ы год**

**„ФАБРЫКА“**

1. Першыя крокі ў школе.
2. Разьмяшчэньне і надворны выгляд фабрыкі і заводу.
3. Унутраное абсталяваньне (машыны, цэхі).
4. Сыравіна нашай фабрыкі.
5. Парадак праходжаньня і пераапрацоўкі сыравіны на нашай фабрыцы.
6. Кастрычнікавая рэволюцыя і наша фабрыка.
7. Кіраўніцтва і організацыя нашай фабрыкі:
   1. Адміністрацыя (дырэктар).
   2. Фабзаўком.
   3. Парт'ячэйка.
   4. Комсамол.
   5. Грамадзкія організацыі.
   6. Піонэратрад.
   7. Ленінскія дні.
8. Організацыя працы рабочых па цэхах.
9. Ахова працы.
10. 1-е мая і наша фабрыка.
11. Культурнае жыцьцё рабочых і быт.

Прыродныя зьявы назіраюцца па-за комплексам.

**2-і год**

*Комплекс: «Соцыялістычнае будаўніцтва ў нашым горадзе»*

1. Жыцьцё дзяцей у часе адпачынку.
2. Соцыялістычная прамысловасьць нашага гораду (цяпер і праз 5 год):
   1. Электростанцыя.
   2. Фабрыкі і заводы.
   3. Вытворчая і спажывецкая коопэрацыя ў горадзе.

1) організацыя і кіраўніцтва, 2) вытворчасьць, 3) культура і быт.

3. Кіраўнічыя організацыі і ўстановы нашага гораду.
4. Сувязь паміж соц. прамысловасьцю нашага гораду і сельскай гаспадаркай—колгас, саўгас.
5. Дробная прамысловасьць нашага гораду і яе значэньне.

*Заўвагі:* 1) Тэмы «Кастрычнікавая рэволюцыя», «1-е мая» і інш. рэволюцыйныя сьвяты вывучаюцца ў той час, калі гэтыя сьвяты наступаюць.

2) Прыродныя зьявы вывучаюцца па-за комплексам.

Для 3-га і 4-га гадоў гарадзкіх школ павінны быць скарыстаны програмы вясковага варыянту. На 3-м годзе тэма «Пяцігодка нашага раёну» замяняецца тэмай «Пяцігодка нашага гораду».

## АД РЭДАКЦЫІ

**Вышэйпаданыя програмы друкуюцца ў парадку абгаварэньня. Рэдакцыя заклікае настаўнікаў шырока абгаварыць гэтыя програмы ў колектывах і свае заўвагі даслаць у рэдакцыю**

М. КАСЬПЯРОВІЧ

# КРАЯЗНАЎСТВА І ШКОЛА

(*Другі концэнтр*)

### Як разумець школьнае краязнаўства

Заняткі краязнаўствам (незалежна ад таго, ці вырашаюць яны проблему тэорыі краязнаўства, ці дасьледуюць уласна даны край з таго або іншага боку) маюць надзвычайна вялікае значэньне для самога краязнаўцы. У матар'яльным стасунку яны вядуць краязнаўцу да пазнаньня краю, г. зн., узбагачаюць яго новымі матар'яламі, новымі ведамі практычнага значэньня. У формальным стасунку заняткі краязнаўствам у вялікай меры разьвіваюць самадзейнасьць мысьленьня і, урэшце, у этычным стасунку няўхільна абуджаюць мэтаімкненьне да перабудовы краю на социялістычны лад. Такім чынам, у цэлым яны моцна дапамагаюць школе выхоўваць «будаўніка і організатара социялістычнай гаспадаркі і грамадзтва, барацьбіта за культурную рэволюцыю, за ідэалы рабочае клясы», што і вымагаецца «Програмамі 7-гадовай савецкай працоўнай політэхнічнай школы», выд. 1929 г.

Само паняцьце краязнаўства да апошніх часоў было плыўкім і неакрэсьленым. Гэта адбівалася і на конкрэтнай краязнаўчай рабоце. Часамі краязнаўства зводзілі да мікрогеографіі, часамі пашыралі яго ахоп да таго, што ўключалі ў яго амаль усе навукі. Бывала, адны лічылі яго новым мэтодам, другія—новай навукай, трэція—грамадзкім рухам. Усё гэта здаралася ад таго, што ня ўлічваліся асаблівасьці краязнаўства, уласьцівыя толькі яму, а падкрэсьліваліся рысы, агульныя з другімі зьявамі. У выніку шырокага разьвіцьця краязнаўства, апошнімі гадамі настала магчымасьць вылузаць яго галоўныя ўласьцівасьці з друграднага і выпадковага. Такім чынам краязнаўства азначаецца намі як *усебаковае пазнаньне краю організаванымі мясцовымі грамадзкімі сіламі для перабудовы краю на социялістычны лад*. Перш-на-перш яно—процэс, які ўключае падрыхтоўку да вывучэньня краю, само вывучэньне і вынікі яго. Падругое, яно—грамадзкі рух мясцовых сіл,* у якім об'ект руху зьяўляецца ў той-жа самы час яго непасрэдным суб'ектам і наадварот. Патрэцяе, яно—актыўны ўдзельнік сваёю дзейнасьцю ў социялістычным будаўніцтве. Калі адна з гэтых адзнак адсутнічае, значыць ёсьць нешта іншае, а не краязнаўства.

Разам з гэтым, гэтыя тры асноўныя ўласьцівасьці не выключаюць іншых. Краязнаўства вывучае край, г. зн., адносна невялікую тэрыторыю сваім уласным мэтодам, у які уваходзяць паасобныя элемэнты мэтодаў усіх іншых навук і ніводзін цалкам, ды, тым больш, ня мэтодам якой-небудзь аднэй навукі. Такім чынам краязнаўства як процэс мае свой уласны мэтод. Падругое, вынікам краязнаўства зьяўляецца комплекс ведаў аб краі, зусім не падобны на іншыя навукі, але сыстэматычны і законамерны ў сабе. Такім чынам краязнаўства як організаваная масавая чыннасьць дае новую навуку энцыклёпэдычнага характару. Патрэцяе, краязнаўства няўхільна абапіраецца на марксыцкую мэтодолёгію, яно моністычна і матэрыялістычна разглядае мясцовы край як процэс, выяўляе супярэчнасьці ў гэтым процэсе, суадносіны і ролю частак краю, як данай конкрэтнай зьявы, кірунак яе росту і г. д.

Згодна праграмы НКА нашы школы павінны карыстацца *краязнаўчым мэтодам* для поўнага дасягненьня сваіх уласных мэт, названых вышэй. Яны, асабліва школы першага концэнтру, павінны навучаць і выхоўваць вучняў на пазнаньні навакольнага жыцьця, г. зн., мясцовага краю. Большасьць школ, зразумела, выконваюць паказаныя дырэктывы праграм. У выніку гэтага кожны год у школах назапашваецца шмат матар'ялаў пра навакольнае жыцьцё школ. Такім чынам вялізарная колькасьць вучняў старанна вывучае свае паасобныя краі і дае пэўныя весткі пра іх. На першы погляд можа паказацца, што гэта і ёсьць краязнаўства, але-ж гэта: а) не вывучэньне краю, а праграмная работа школы, б) недобраахвотная арганізаваная работа мясцовых грамадзкіх сіл, а абавязковая работа кліентаў дзяржаўнай установы і в) не непасрэдная дапамога соцыялістычнаму будаўніцтву, а падрыхтоўка будаўнікоў соцыялістычнага ладу. Гэта толькі адзін з мэтодаў работы школы, які дае ў выніку свайго ўжываньня тыя або іншыя весткі пра край або рэчавыя факты. Зразумела, і тэтыя весткі не зьяўляюцца тым сыстэматычным комплексам ведаў пра край, адносна якога гаварылася вышэй. Больш таго, яны часта ня маюць ніякага навуковага значэньня, бо сабраны без захаваньня самых элемэнтарных правіл краязнаўчай работы. Ня гледзячы на ўсё гэта, вучнёўскія заняткі краязнаўствам і зараз маюць вялізнае выхаваўчае значэньне. Але кожнаму ясна, што задаволіцца толькі гэтым ні ў якім разе нельга. Трэба павялічыць выхаваўчыя посьпехі школы ўжываньнем належных прыёмаў вывучэньня краю, уласьцівых краязнаўству наогул, папершае, і дамагчыся таго, каб вынікі вучнёўскай работы мелі навуковую, а значыць, і практычную каштоўнасьць, падругое.

Для гэтага трэба добра падкрэсьліць і заўважыць належную мэтавую ўстаноўку і грамадзка-карысны характар краязнаўчага мэтоду ў школе. Грамадзка-карысны характар мэтоду, як выхавальніка-будаўніка соцыялістычнага ладу,— гэта толькі адзін бок яго. Другім бокам павінен зьявіцца грамадзка-карысны характар работ вучняў, што выкананы ў парадку яго абавязковага ўжываньня, як відаць, і ўласна гэта маюць на ўвазе праграмы наступным сваім тэзісам: «Выходзячы з конкрэтных умоў свайго жыцьця, кожная школа павінна высоўваць новыя віды грамадзка-карыснай работы. Для нас важна толькі адно: каб школа стала адным з тых культурных фактараў гораду і вёскі, якія актыўна дзейнічаюць на навакольнае асяродзьдзе, падымаюць яго актыўнасьць на барацьбу за соцыялістычную пабудову гаспадаркі, за культурную рэволюцыю». А калі школа дасьць тое мноства навукова-каштоўных нагляданьняў, фактаў і работ, якія яна і зараз мае, дык цяпер-жа цяжка сабе і ўявіць, якім вялізным *культурным* фактарам яна праз гэта станецца. Уся гэта маса работ статысячных вучнёўскіх армій будзе скарыстана краязнаўчымі організацыямі для вывадаў на непасрэдную карысьць соцыялістычнага будаўніцтва. Ды такі колектыў, як школа, і сам амаль заўсёды зможа зрабіць патрэбныя практычныя вывады з свае работы. Такім чынам праз наданьне грамадзка-карыснага характару сваім заняткам краязнаўствам г. зн., свайму краязнаўчаму мэтоду, кожная школа павінна заняць сваё месца ў краязнаўчым руху, як моцная колектыўная адзінка.

Нам ужо неаднойчы прыходзілася гаварыць пра тое, што вучнёўская работа, пры належным кіраўніцтве ёю, можа мець навуковую вартасьць. Калі гэта работа такую вартасьць мае, яна павінна быць уключана ў тым ці іншым відзе ў работу ўсяго краязнаўчага руху. Проста з жахам зараз прыходзіцца констатаваць, што работа сотняў тысяч вучняў на працягу цэлых год прападае за нямашто. Усе яны ходзяць на экскурсіі, зьбіраюць рэчавы матар'ял, выконваюць розныя нагляданьні, апісваюць вынікі экскурсіі і г. д., словам, вывучаюць свой край. І ўсе іх нязьлічоныя матар'ялы сама пазьней у канцы навучальнага году выкідаюцца як непатрэбнае сьмяцьцё. Праўда, ёсьць школы, работы якіх высока-каштоўныя і даўно скарыстоўваюцца ў поўнай меры, але гэта пакуль што толькі адзінкі, піонэры, якія працярэблівають шляхі масавай школе. Такія шко-

лы вызначаюцца перш-на-перш наяўнасьцю жывых, працаздольных настаўнікаў-краязнаўцаў або моцнай сувязьзю з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі наогул. Ня толькі школа, але і краязнаўства павінна клапаціцца, каб не адзінкі, а ўсе школы сталіся моцнымі краязнаўчымі колектыўнымі адзінкамі. Гэта будзе дапамагаць выхоўваць у вучняў колектывізм.

**Віды школьна-краязнаўчай работы вучняў**

Работа другога концэнтру нашай сямігодкі, як вядома, складаецца з клясна-лябораторнай і гуртковай. Сярод усіх гурткоў у школе, згодна загаду Народнага комісарыяту асьветы ад 24 лістапада 1929 г., павінен быць і гурток краязнаўства, пра які—у другім месцы. Кожны вучань школы мае акрэсьленую нагрузку і ўтварыць для яго спэцыяльную краязнаўчую работу немагчыма. Можна гаварыць толькі пра тую, якая няўхільна вымагаецца програмамі. Програмы-ж нават непасрэдна вызначаюць яе ў даволі значных памерах. Так, ужо ў загадзе Народнага комісарыяту аб програмах адносна ўсіх програм гаворыцца, што «трэба *лепш* выкарыстаць экскурсіі на фабрыкі і заводы, саўгасы і колгасы, у майстэрні, на электростанцыі, чыгункі» і г. д. А экскурсіі-ж зьяўляюцца адным з галоўных мэтодаў краязнаўства.

Програма-ж грамадазнаўства проста мае на мэце дапамагчы вучням усьвядоміць найбольш выдатныя зьявы *навакольнага грамадзкага жыцьця*, дацучыць іх да ідэалаў пролетарыяту і яго змаганьня за комунізм. Програма географіі паказвае, што яе матар'ял павінен «базавацца на краязнаўчай аснове, веды з яе ўсвойваюцца на мясцовым матар'яле» і г. д. і г. д.

Выканаць усе вызначаныя програмамі работы на працягу году, як відаць, будзе цяжка. Апрача таго, некалькімі програмамі прапануецца часамі адна і тая самая работа, напр., экскурсія на фабрыку, у колгас ды інш. Зразумела, што ў апошнім выпадку бярэцца на ўвагу спэцыфічны падыход у кожным паасобным выпадку, але усё-ж прапануецца хадзіць некалькі разоў у адно месца хоць-бы і з рознымі, але аднабаковымі мэтамі, замест аднаго разу з усебаковым падыходам да об'екту .Мабыць, зважаючы на усё гэта, некаторыя програмы прапануюць настаўнікам перад пачаткам навучальнага году ўкладаць плян работы з вучнямі ў галіне свайго прадмету на даны год і адзначаць у пляне, куды ўласна трэба зрабіць экскурсіі і г. д.

З тае прычыны, што кожны выкладчык жадае, каб усе вучні зрабілі найлепшыя посьпехі ўласна з ім і ў яго галіне, мае тэндэнцыю вызначаць шмат работы, школьнай радзе кожнай школы прыдзецца ўзгадніць пляны работы ўсіх настаўнікаў ды зацьвердзіць мінімальны сьпіс абавязковых работ для вучняў і настаўнікаў на ўвесь год. Падкрэсьліваем мінімальнасьць таму, што лепш зрабіць значна менш, але добра, чым шмат ды ні к чаму. На ўвесь год наперад трэба вызначыць работу таму, што кожны вучань павінен ведаць, што і калі яму прыдзецца рабіць, ды прывыкаць зьбіраць матар'ял для работы загадзя, папершае, і вучыцца плянаваць свой час і выконваць замеры за доўгі кругабег часу, падругое.

Зразумела, увесь гадавы плян работы свае школы будзе групавацца на лёкалізаваньні матар'ялу. Але ў пляне няўхільна зьмесьціцца і работа краязнаўчага па сутнасьці характару, якая нас зараз і цікавіць. Пры ўключэньні такой работы ў плян дзейнасьці школы трэба абавязкова захоўваць два наступных правілы. Папершае, канечна, патрэбна, каб кожная такая работа ня толькі не супярэчыла або не стаяла ў баку, але няўхільна вяла да мэты 7-гадовай савецкай працоўнай політэхнічнай школы. Усе, якія-б там ні былі работы, павінны выганяцца з школы, калі яны не адпавядаюць мэтам школы. Падругое, трэба выбіраць такія краязнаўчыя работы, якія лічацца зараз найбольш актуальнымі і найбольш тэрміновымі, ды якія будуць грамадзкакарыснымі, г. зн., будуць скарыстаны бягучым соцыялістычным, гаспадарчым і культурным будаўніцтвам.

Такімі работамі маглі-б быць наступныя пяць. Першай можна лічыць здачу

адпаведнаму настаўніку якой-небудзь рэчы для колекцыі або для музэю. Зразумела, да яе павінна быць далучана дакладнае і сьціслае апісаньне рэчы, якое патрабуецца ў такіх выпадках. Гэту рэч можа замяніць бібліографічная заметка пра кніжку, артыкул, паведамленьне і г. д., якія маюць дачыненьне да мясцовага краю. Бібліографічная нататка таксама павінна быць зроблена згодна вядомых вымаганьняў ды да яе павінна далучацца анотацыя, г. зн., вельмі кароткая перадача зьместу кніжкі, артыкулу, паведамленьня і г. д. Калі, напр., газэтная нататка вельмі кароценькая і яе можна выразаць з газэты, то замест анотацыі можа падавацца выразка самой нататкі ці артыкулу. Кожны вучань можа сам выбраць, што ўласна яму прадставіць з гэтых двух работ—музэйны экспонат або бібліографічную нататку. Гэта работа паслужыць прывучэньню вучняў да сьвядомых і крытычных адносін да навакольнага, ды да друкаванага і пісанага. Апрача таго, яна будзе вучыць простаму і дакладнаму пісьмоваму выяўленьню сваіх думак не наогул, а па кожнаму конкрэтнаму выпадку. Да ўсяго гэтага яна дасьць найбагацейшы рэчавы матар'ял для апрацоўкі яго на лекцыях і навучаньня на ім пэўным ведам. Пералічаныя дадатныя якасьці гэтай работы вымагаюцца ўсімі програмамі школы, а ў першую чаргу програмамі фізыкі, прыродазнаўства, мовы ды інш.

Другою работаю павінна быць прадстаўленьне таму або іншаму настаўніку аднэй з наступных рэчаў, датычных краю, свае ўласнае работы: або малюнку, або чарцяжу, або фотографіі, або модэлі. Калі гэтая рэч ня ўласнае работы, яна залічваецца як першая, абмеркаваная вышэй работа. Зразумела, што і да гэтай рэчы павінны давацца адпаведныя пісьмовыя весткі, бо інакш яна ня будзе мець ніякай навуковай, а значыць, і іншай вартасьці. Выконваць такія рэчы прапануецца ў першую чаргу програмамі фізыкі, выяўленчых мастацтваў, ручное працы і матэматыкі, ды і да ўсіх іншых яны маюць непасрэднае дачыненьне.

Трэцяю работаю мае лічыцца прадстаўленьне ў зафіксаваным на пісьме відзе таму ці іншаму настаўніку якога-небудзь аднаго нагляданьня: фэнолёгічнага, гідролёгічнага, мэтэоролёгічнага, моўнага, слоўнікавага, фольклёрнага і г. д. Усе нагляданьні павінны мець пры сабе пэўныя весткі падобна вымаганьню дзьвёх папярэдніх работ. Гэта работа выклікаецца патрабаваньнем програмы прыродазнаўства, фізыкі, мовы, літаратуры ды інш. Яна прывучае вучняў правільна фіксаваць на пісьме ўсё тое, на чым зараз спынена ўвага, падобна таму як папярэдняя вучыць фіксаваць свае нагляданьні на рысунку, чарцяжы, фотографіі, модэлі. Гэтым дзьвём работам павінна быць надана выключная ўвага ва ўсёй чыннасьці школы. Бяз уменьня правільна выконваць іх немагчыма будзе правільнае выкананьне і наступных дзьвёх.

Чацьвертаю работаю зьяўляецца прадстаўленьне таму ці іншаму настаўніку ўсебаковага апісаньня якой-небудзь зьявы мясцовага краю: фабрыкі, заводу, колгасу, саўгасу, вёскі, рэчкі (у пэўным месцы), возера, лесу і г. д. Яна зьяўляецца ўскладненым відам першых дзьвёх работ: у ёй трэба даць сыстэму сваіх нагляданьняў у зафіксаваным на пісьме відзе, да якой могуць далучацца ў якасьці ілюстрацыі, пляны, рысункі, малюнкі, фотографіі, дыяграмы, картограмы ды інш. Яна павінна ахапіць зьяву па магчымасьці ўсебакова ,у той час, як нагляданьне замацоўвае толькі адзін які-небудзь момант так, як ён ёсьць, бяз усякіх тлумачэньняў. Яна разьвівае ўменьне самастойна разьбірацца ў зьявах навакольнага жыцьця ды выкладаць да іх свае думкі пісьмова з дапамогаю іншых відаў фіксацыі сваіх нагляданьняў. Гэтага віду работы вымагаюць самыя розныя програмы. У першую чаргу ідзе програма мовы, якая вымагае навучаньня самастойным укладаньням. За ёю, як відаць, трэба паставіць програму географіі, якая дамагаецца дакладнага ўяўленьня географічных элемэнтаў і об'ектаў шляхам экскурсій ды іншых сродкаў. Далей ідзе програма прыродазнаўства, што дамагаецца вывучэньня вучнямі пэўных расьлінных згуртаваньняў, напр., насяленьня апошніх ды інш. Наступнаю трэба назваць програму фізыкі,

ГПБ Ср. Аз.

што дамагаецца вывучэньня розных машын на месцы. Урэшце програма матэматыкі патрабуе конкрэтных вымераў, вылічэньняў і г. д. і г. д. Трэба здолець знайсьці спосаб задаволіць усе програмы, не разрываючы вучня на іх паасобныя кавалкі. Магчыма тут трэба дапусьціць кіраўніцтва і праверку работы некалькімі настаўнікамі, або выкананьне аднаго апісаньня групай вучняў ці што іншае. Але трэба імкнуцца, каб апісаньне ня было аднолькавым.

Урэшце пятаю работаю зьявіцца пісьмовая работа на пэўную тэму, зьвязаную з краем, для якой пажаданым зьяўляецца высьвятленьне пытаньня ў гісторычным або геаграфічным разрэзе, або ў сувязі з іншымі сумежнымі пытаньнямі. Яно зьяўляецца ўскладненым відам папярэдняй работы і вымагаецца ў першую чаргу програмаю грамадазнаўства, мовы ды інш.

Вось, прыкладна, тыя пяць краязнаўчых работ, якія павінны быць выкананы кожным вучнем на працягу акадэмічнага году.

**Кіраваньне работаю вучняў і заданьні**

У школьнай практыцы існуе спрэчная думка, што навучальна-выхаваўчыя мэты часамі могуць дасягацца выкананьнем заданьня аднаго і таго самага зьместу ўсімі вучнямі данай клясы ці школы. Прынамсі, гэта палягчае работу настаўніка па праверцы выкананьня работы: колькі-б людзей ні пісалі на адну тэму, усе яны напішуць даволі падобна, і настаўніку прыходзіцца мэханічна сачыць амаль выключна за стылем. Не ўваходзячы ў падрабязнае абгрунтаваньне супроцьлеглай думкі, адзначым толькі шкоднасьць такой аднолькавай работы для колектыву вучняў.

Калі такі мэтод работы мае адмоўнае значэньне ў навучальна-выхаваўчым стасунку, дык немагчымасьць ужываньня яго ў краязнаўчай рабоце бясспрэчна.

Такім чынам, кожны вучань павінен выконваць свае пяць заданьняў зусім ня тыя, якія выконваюць усе яго таварышы. Ды і дзіка-б было, калі-б усе вучні прынесьлі з экскурсіі па аднолькаваму паасобніку якой-небудзь расьліны, або калі-б усе яны далі вымеры квадратуры аднэй хаты для матэматычных практыкаваньняў і г. д.

Выкананьне розных заданьняў вучнямі зьяўляецца толькі аднэй умовай пасьпяховай работы школы. Другою абавязковаю ўмоваю зьяўляецца правільнае выкарыстаньне, правільны падыход да краязнаўчага матар'ялу. Гэты правільны падыход заключаецца ў конкрэтным, усебаковым тлумачэньні зьяваў і фактаў. Адцягнены агляд машын, напр., хоць і дасьць правільнае ўяўленьне пра структуру машыны, але ня зьвяжа гэтай машыны з данымі конкрэтнымі ўмовамі, ня будзе прывучаць вучня да актыўнага ўплывовага падыходу да навакольнага жыцьця, аб чым ужо ўспаміналася вышэй. Гэтымі-ж адмоўнымі якасьцямі будзе багата і высьвятленьне, напр., таго, што некаторыя зярняты маюць прыстасаваньні для распаўсюджваньня іх ветрам, калі пры гэтым ня будзе констатавацца шкоднасьць ці карысьць гэтых расьлін, іх распаўсюджанасьць у краі, меры змаганьня ў выпадку шкоднасьці і г. д. Гэта, зразумела, ня значыць, што трэба перагінаць палку ў другі бок і пакідаць вучняў бяз ведаў пра структуру расьлін, машын і г. д. Наадварот, гэтыя веды павінны быць як мага больш грунтоўнымі. Абедзьве гэтыя ўласьцівасьці павінны быць непарыўна злучаны ў адным мэтодзе ўсебаковага вывучэньня зьяваў.

Магчыма, часамі будзе здавацца, што ў выніку гэтага мэтоду некаторыя заданьні вучням краязнаўчага характару будуць перагружаны агульнавядомым у навуцы матар'ялам, які зараз ня мае краязнаўчай вартасьці. Але-ж наша школа не навукова-дасьледчы краязнаўчы інстытут, паперш ае, ды такая краязнаўчая работа можа мець пэўнае значэньне ў справе пазашкольнай асьветы, падругое.

Тутака да-рэчы можна высьветліць, якія заданьні могуць быць даны вучням нашай школы.

Па лініі грамадазнаўства актуальнай тэмай - для краязнаўчай работы вучняў было-б апісаньне рэволюцыйнага руху ў паасобных паселішчах. Калі ў такіх пунктах ня было ніякага рэволюцыйнага руху, дык усё-ж рэволюцыйны рух другіх мясцовасьцяй, гораду нейкім чынам

успрыймаўся і даным пунктам ды нейкім чынам адбіваўся на ім. На апісаньні рэволюцыйнага руху ў паасобных пунктах прыходзіцца на першы час настойваць таму, што яшчэ вельмі мала ёсьць конкрэтнага матар'ялу да гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі, ды ўласна конкрэтны характар і вымагаецца ад вучнёўскай краязнаўчай работы, як гаварылася вышэй. Зразумела, гэта работа павінна быць выканана на аснове правільнага ўяўленьня гісторыі рэволюцыйнага руху наогул, якое атрымана на лекцыях грамадазнаўства. З другіх работ па лініі гэтага прадмету можна адзначыць прадстаўленьне фотографій мясцовых партызан, зарысовак іх магіл, запісаў, успамінаў старажылаў, рэволюцыянэраў і г. д.

Па лініі географіі бясспрэчна патрэбным зьяўляецца ўкладаньне географічнага слоўніка раёну школы або раёну адміністрацыйнага. Кожны вучань павінен прадставіць апісаньне пэўнага географічнага об'екту свайго раёну, якое спатрэбіцца яшчэ ня раз у рабоце іншых настаўнікаў, у экскурсійнай рабоце і г. д. Апрача гэтага, можа быць прадстаўленьне фотографій, зарысовак, картограм, дыяграм ды іншага ілюстрацыйнага матар'ялу для слоўніка.

Па лініі беларускае літаратуры, як відаць, зьявіцца апісаньне мясцовай літаратурнай традыцыі насьценных газэт ды запіс фольклёру з усімі абраднасьцямі яго. Па лініі-ж мовы бясспрэчным зьяўляецца зьбіраньне і ўкладаньне раённага слоўніка мовы ды апісаньне колгасаў і прадпрыемстваў. Апошняе можна рабіць і на расійскай мове па лініі програмы расійскай мовы і літаратуры. Апрача таго, там, дзе ёсьць об'екты, можна весьці запіс фольклёру расійскіх колёній ды зьбіраць матар'ялы да слоўніка мовы гэтых колёній.

У кірунку програмы нямецкае мовы трэба ўкласьці слоўнічак мясцовых слоў, родных нямецкай мове.

У парадку работы па програме прыродазнаўства зьяўляецца ўкладаньне зельніку раёну, энтомолёгічнай, мінэролёгічнай ды інш. колекцый; для больш моцных вучняў—апісаньне пэўных расьлінных згуртаваньняў раёну, прыродазнаўчых об'ектаў, фэнолёгічных ды інш. наглядаваньняў.

Па лініі програмы фізыкі можна вылучыць правільнае апісаньне машын у апісаньнях розных прадпрыемстваў, фотографаваньне, мэтэоролёгічныя наглядаваньні. У кірунку програмы матэматыкі—правільныя вымеры, плян і г. д. у апісаньнях іншых зьяваў, апісаньне мясцовай сыстэмы лічэньня, сыстэмы мерак і г. д.

У справе фізычнага выхаваньня і рытмікі зьявяцца фотографіі і зарысоўкі народных танцаў і гульняў ды апісаньні іх. Па програме выяўленчых мастацтваў—зарысоўкі і замалёўкі краю і народнага орнамэнту ды апісаньне яго; па програме ручной працы—модэляваньне для іншых прадметаў у парадку выкананьня першай апісанай вышэй краязнаўчай работы вучняў. Па лініі програмы сьпеваў можна было вылучыць запіс дзіцячых песень, хоць-бы бяз нот.

Такім чынам па лініі ўсіх прадметаў ёсьць для вучняў краязнаўчая работа актуальнага значэньня.

### Выкананьне школьна-краязнаўчых заданьняў

Выканаць пяць заданьняў кожнаму вучню будзе зусім ня цяжка. Для прыкладу прывядзем магчымую нагрузку вучня на год: даставіць адзін экзэмпляр якой-небудзь расьліны, падаць адзін плян свае хаты, прадставіць запіс аднаго мясцовага слова, апісаць сваё паселішча, напісаць пра рэволюцыйны рух у сваім паселішчы. Кожны вучань прадстаўляе ня пяць работ па кожнаму прадмету, а толькі пяць работ па ўсіх прадметах па свайму ўласнаму выбару. Але нават і гэту лёгкую работу трэба па магчымасьці яшчэ больш палегчыць дапамогаю ў выбары работы адпаведна сілам кожнага, дакладным высьвятленьнем мэтоду работ і вызначэньнем пляна́ў іх. Апрача агульных тлумачэньняў наконт гэтага для ўсіх вучняў, трэба даваць самыя падрабязныя тлумачэньні кожнаму вучню паасобку па абраных ім заданьнях. На ўсім працягу выкананьня заданьня вучнем настаўнік павінен быць яго неадменным консультантам. Для гэтага кожны

настаўнік, зразумела, павінен быць сам дасканала падрыхтаваны. Непасьпехі школьнай краязнаўчай работы ўласна і тлумачацца слабай мэтодычнай падрыхтаванасьцю настаўнікаў, але апошнюю трэба перамагчы самападрыхтоўкаю ды супольнаю работаю з вучнямі. Практычная работа—самы лепшы настаўнік.

Значнаю дапамогаю кожнаму настаўніку будзе даволі багатая мэтодычна-краязнаўчая літаратура. Так, для выкананьня вызначанага намі, прыкладна, рэволюцыйнага руху раёну ёсьць мэтодычны артыкул супрацоўніка ўсебеларускага музэю рэволюцыі т. Раманчука «Вывучэньне гісторыі мясцовага рэволюцыйнага руху» ў № 10 час. «Наш Край» за 1929 г., ст. 12—18. Апрача таго, ва ўкраінскай краязнаўчай часопісі «Краязнаўства» № 2-3 за 1928 г. ёсьць артыкул Сялі «Схема вивчення ревруху серед національных меншостей» на ст. 5—8 ды ў расійскай краязнаўчай часопісі «Краеведение» за 1929 г., № 2, ст. 65—83 артыкул М. Б. Каплана «Основные вопросы построения историко-революционных отделов в краеведных музеях». У некаторых адносінах будуць карыснымі таксама артыкулы: М. Мялешкі—«Вывучэньне гісторыі раёну» ў «Нашым краі», 1927 г., ст. 4—10 і В. Дружчыца—«Краязнаўства ў гісторычнай галіне» ў «Нашым краі», 1927 г., ст. 7—10. Такім чынам гэта тэма можа лічыцца цалком забясьпечанай мэтодычнымі парадамі і ўгрунтаваньнямі. Апрача гэтага, па кожнаму конкрэтнаму выпадку можна зварочвацца за мэтодычнымі даведкамі ў Цэнтральнае бюро краязнаўства. Пра значэньне работы для географічнага слоўніка раёну намі ўжо адзначалася. Цяперака назавём толькі адпаведную мэтодычна-краязнаўчую літаратуру на гэтую тэму: а) «Укладаньне раённага географічнага слоўніка» ў зб. «Краязнаўства», вып. 1, 1929 г., ст. 96—103; б) «Як укласьці раённы географічны слоўнік» у часопісі «Наш край» за 1928 г., № 4, ст. 46—48; в) «Програма апісаньня паселішча гарадзкога тыпу» ў «Нашым краі» за 1925 г., № 1; г) «Вивчення села» ў часопісі «Краезнавства» за 1927 г., № 1.

Адносна літаратуразнаўчых досьледаў існуе такая багатая літаратура, што яе пералічыць тут немагчыма. Асноўным тут, зразумела, будзе Анцыфараў—«Краязнаўчае вывучэньне літаратуры» ў «Нашым краі» за 1928 г., № 6-7, ст. 10—15 ды «Областные культурные гнезда». Піксанова са звужэньнем маштабу гэтых мэтодычных даных да межаў абранай намі тэмы. А яна вельмі цікавая і мае выдатнае значэньне ў справе высьвятленьня мясцовых літаратурных густаў і якасьці літаратурных фактаў у самых нізавых нашых органах друку. Можна было-б толькі пашырыць гэтую тэму і на вуснае чытаньне мясцовымі пісьменьнікамі сваіх уласных твораў ды на ўсе праявы мясцовай літаратуры наогул.

У справе запісу фольклёру дапамогуць: а) «Програма для запісваньня помнікаў вуснай народнай творчасьці» ў зб. «Краязнаўства», вып. 1, 1929, ст. 65—69; б) «Програма зьбіраньня вуснае народнае творчасьці» ў «Нашым краі» за 1925 г., № 2, ст. 43—47; в) «Зьбіраньне і апрацоўка фольклёру» ў «Працах першага ўсебеларускага краязнаўчага зьезду», 1926 г., ст. 56—59. У той час, як вывучэньне мясцовых літаратурных традыцый будзе вучыць вучняў разьбірацца ў найбольш блізкіх літаратурных праявах ды выхоўваць у іх крытычны густ і мэтод, фольклёрныя запісы дадуць блізкія матар'ялы для работы на лекцыях адпаведна вымаганьням програмы падобна таму, як сабраныя экскурсійным шляхам расьліны служаць матар'ялам на лекцыях прыродазнаўства.

Слоўнік мовы мае яшчэ большыя магчымасьці: ня толькі ўжо сабраныя мясцовыя словы будуць служыць матар'ялам для розных граматычных практыкаваньняў і вывадаў на лекцыях, але і само зьбіраньне іх будзе служыць граматычным практыкаваньнем, бо трэба будзе ўжо ў часе зьбіраньня рабіць пэўныя граматычныя адзначэньні. Апрача таго, нішто так не навучае мове ў шырокім сэнсе гэтага слова, як укладаньне слоўніка. Сам па сабе ўкладзены раённы слоўнік будзе мець выдатнае навуковае, а значыць, і практычнае значэньне.

Тэма апісаньня колгасаў уведзена намі для практыкаваньня ў навучаньні самастойна выкладаць свае думкі пісьмова. Грамадзка-практычнае значэньне гэтай тэмы не патрабуе довадаў.

Асноўная мэтодычная літаратура наступная: а) М. Касьпяровіч «Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну» ў «Нашым краі» за 1928 г., № 1 і ў зб. «Краязнаўства», вып. 1, 1929 г.; б) «Плян прыкладны краязнаўчага абсьледваньня і апісаньня колектыўнай гаспадаркі» і «Плян краязнаўчага папярэдняга дасьледваньня і апісаньня колгаснага руху ў раёне»—абодва ў «Нашым краі» за 1929 г., № 11, ст. 61—65.

Работа па лініі расійскай мовы і літаратуры і нямецкай мовы ніякіх дадатковых тлумачэньняў не патрабуе. У школах нацыянальных меншасьцяй яна адпаведна відазьмяняецца.

Програма прыродазнаўства столькі раз гаворыць пра экскурсіі для зьбіраньня зельнакавых, энтомолёгічных, мінэролёгічных экзэмляраў, як матар'ялу для работы на лекцыях, што ніякай патрэбы для ўгрунтаваньня ўкладаньня зельніку і энтомолёгічнай і мінэролёгічнай колекцыі няма. Кіраўнічымі матар'яламі могуць быць: а) Зьбіткоўскі «Настаўленьне да зьбіраньня расьлін і назіраньняў над імі» ў часопісі «Наш край» за 1927 г., № 5, ст. 35—63 і № 6-7, ст. 91—108; б) «Укладаньне раённага гэрбарыя» ў зб. «Краязнаўства» вып. 1, 1929 г., ст. 69—96; в) Васількова «Як зьбіраць расьліны» ў «Нашым краі» за 1925 г., № 1, ст. 34—37; г) Тарлецкага «Кароткая інструкцыя да зьбіраньня вестак аб некаторых глінах, пяскох і каменьнях Беларусі» ў «Нашым краі» за 1925 г., № 2, ст. 31—40; д) Яцанткоўскага «Аб зьбіраньні шасьціногіх у пачатку вясны»—там-жа, ст. 41—43; е) «Першыя крокі энтомолёга»—там-жа, за 1926 г., № 4-5, ст. 77-78; ё) Грамыкі «Геолёгічныя матар'ялы і краязнаўчыя гурткі»—там-жа, за 1926 г., № 6-7, ст. 38—44; э) Зьбіткоўскага «Аб зьбіраньні лекавых траў»—там-жа, № 4-5, ст. 20—25; ж) «Інструкцыя да зьбіраньня матар'ялаў па вывучэньні чмялёў»— там-жа, за 1927 г. № 4, ст. 63—64.

Пэдагогічнае і грамадзка-карыснае значэньне тэмы па фізыцы—«Стан машынізаваньня раёну» таксама відавочнае. На жаль, адпаведнай мэтодычнай літаратуры пакуль няма, але гэта тэма настолькі лёгкая, што выкладчык бязумоўна зможа справіцца з ёю. Яна павінна ахапіць усе машыны паселішча ад самых простых (малатарня, напр.) да самых складаных (трактар), ад сельска-гаспадарчых (названыя) да фабрычна-прамысловых (млынавы паравік, напр.).

Вывучэньне квадратуры, кубатуры і сьветавой плошчы будынкаў так добра падкрэсьлена самой програмай матэматыкі, што не вымагае асобнай мэтодычнай літаратуры ды выхаваўча-навучальнага ўгрунтаваньня. Грамадзка-практычнае значэньне яго таксама, асабліва ў галіне высьвятленьня санітарна-бытавых умоў паселішча ды шляхоў палепшаньня іх.

Урэшце вывучэньне: а) разьвіцьця музыкі і пяяньня ў раёне, б) народных гульняў і танцаў, в) хатняй работы і г) народнага мастацтва па лініі адпаведных дысцыплін таксама было неаднойчы добра ўгрунтавана як з боку навучальна-выхаваўчага, так і з боку грамадзка-карыснага, г. зн., навучальна-краязнаўчага, у беларускай, расійскай і ў іншых літаратурах. Пэўныя мэтодычныя матар'ялы для работы па гэтых тэмах, як і дадатковыя па папярэдніх, кожны настаўнік зможа сам знайсьці ў паказчыках мэтодычна-краязнаўчай літаратуры М. Касьпяровіча, апублікаваных у часопісях «Асьвета» за 1928 г., № 1 і «Наш край» за 1928 г., №№ 1, 3, 4, 5, 6-7 і за 1929 г., № 3.

Але, апрача гэтага, трэба не забывацца на агульнае для ўсіх дысцыплін, а ўласна—укладаньне бібліографіі раёну, зьбіраньне колекцый, а часам організацыю музэю.

### Агульная школьна-краязнаўчая работа вучняў

Бібліографія раёну складаецца з тых бібліографічных картак з анотацыямі, пра якія гаварылася вышэй. Матар'ялам для апісаньня паслужаць пераважна ўсе сучасныя газэты і часопісі, у якіх ёсьць багата вестак пра паасобныя вёскі і раёны. Усе гэтыя весткі павінны быць падлічаны як ужо вядомыя факты, назапашаныя другімі, якіх зьбіраць нанова ня варта—быць можа толькі праверыць. Апісаньне

артыкулаў, заметак, паведамленьняў ды іншых матар'ялаў робіцца абавязкова па картках, пры чым пісаць іх можна толькі з аднаго боку. Карткі з паперы трэба рэзаць прынятым, міжнародным бібліографічным памерам, г. зн., 7,5×12 см., але можна і ў 1/16 пішчага аркушу. На кожнай картцы адзначаецца прозьвішча, імя імя па бацьку аўтара, калі гэта пастаўлена пад артыкулам, ды, як і ўсе іншыя весткі, зусім так, як там напісана. Пасьля трэба дакладна напісаць назву артыкулу, а за ёй—назву часопісі, год і месца выданьня яе, нумар ды старонкі, якія займае артыкул. За гэтым усім пішацца кароценькі дакладны зьмест артыкулу і ўсё. Як правіла, усе гэтыя весткі зьмяшчаюцца на аднэй картцы, але ў адваротным выпадку трэба перапісаць не на другую старонку данай карткі, а на другую картку, якая заўсёды ставіцца пасьля першай. Усе бібліографічныя карткі могуць разьмяшчацца ў любым парадку: па альфабэту аўтараў, па дысцыплінах і г. д., а ў сваім цэлым відзе складуць бібліографічны паказчык раёну. Укладаньне бібліографічнага паказчыку будзе вучыць вучняў сьвядома і крытычна адносіцца да друкаванага тэксту, сьцісла перадаваць яго зьмест, адшукваць патрэбны матар'ял у друку непасрэдна, а таксама карыстацца для гэтага бібліографічнымі паказчыкамі і г. д., а ўсё гэта так патрэбна ў практычным жыцьці. У навукова-краязнаўчым стасунку лічыцца агульна прынятым, што ўкладаньне бібліографіі раёну зьяўляецца першачарговаю задачаю для краязнаўства. Асноўным мэтодычным дапаможнікам тут зьявяцца «Основы краевой библиографии» Здабнова са звужэньнем іх маштабу да межаў раёну.

Далей, па лініі кожнага прадмету вымагаецца зьбіраньне самых розных матар'ялаў, як мы назвалі, першага і другога парадку, г. зн., экзэмпляраў расьлін, мінэралаў, фотографій, малюнкаў ды інш. Усе гэтыя матар'ялы пасьля скарыстаньня на адпаведных лекцыях паступяць у розныя колекцыі школы, якія сваім пачаткам ужо складаюць заснаваньне школьнага музэю. І цяперака існуе ў школах шмат колекцыйных матар'ялаў, ёсьць нават і музэйчыкі, але часта з вялікаю цяжкасьцю сабраныя матар'ялы нішчацца самым разьмяшчэньнем іх (напр., зельнік вывешаны на сьценах), або ня маюць адпаведных вестак аб сабе і таму зусім некаштоўныя. Кожная рэч, ці ўзятая з прыроды, ці свае работы, калі яна здаецца настаўніку, павінна мець пры сабе сьціслае дакладнае апісаньне, якое таксама трэба рабіць на картках. У ім абавязкова падаюцца наступныя весткі: дакладная мясцовая назва, назва па-беларуску і па-латыні (для расьлін, калі невядома, пакідаецца месца, каб можна было ўпісаць пасьля), з чаго зроблена, якога колеру і якія мае аздобы, дзе або ў каго ўзята, калі і кім зроблена, назвы ўзораў і частак, памеры, кім і калі прадстаўлена ды інш. Пры прадстаўленьні на рэчы і на картцы ставіцца адзін чарговы нумар, і картка зьяўляецца дакумантам рэчы, а апошняя—навуковым дакумантам. Калі рэч ня мае дакуманту, яна ня мае і ніякай вартасьці. Усе карткі да прадстаўленых рэчаў складуць карткавы каталёг колекцый, які, калі будзе дакладна ўкладацца, будзе сам па сабе значнай навукова-краязнаўчай каштоўнасьцю. Калі якія-небудзь рэчы, напр., расьліны, монэты са скарбаў, з якога-небудзь боку невядомы, іх трэба прысылаць у цэнтральнае бюро краязнаўства для адзначэньня, пасьля якога яны будуць зьвернуты назад. Перасылка ў абодвы канцы бясплатная. Цераз бюро-ж можна наладзіць і абмен падвойнымі пасобнікамі, што можа хутка і значна павялічыць зборы школы. Зьбіраньне рэчаў для колекцый, як ужо вядома, дае матар'ялы для работы на лекцыях, прывучае крытычна і сьвядома ставіцца да зьяў навакольнага атачэньня ды коратка і правільна апісваць іх, разьвівае ўменьне назваць рэчы ды орыентуе ў тым, дзе шукаць даведкі, консультацыі. Апошняе асабліва важна, бо ніколі не складзеш усіх ведаў у сваёй галаве. Мэтодычную літаратуру пра колекцыі і музэй можна знайсьці ў названых вышэй паказчыках ды коратка ў М. Касьпяровіча «Краязнаўства», Менск, БДВ, 1929 г.

Як работа вучняў, так і настаўнікаў патрабуе добра пастаўленага падліку. Паколькі краязнаўчая работа вучняў зьяўляецца толькі часткаю іх работы наогул, пастолькі ствараць асобныя формы пад-

ліку нерацыянальна. Усе работы, без выключэньня, павінны запісвацца ў асобную інвэнтарную кнігу. Выкананьне іх правяраецца па асобнай ведамасьці, у якой будзе паказана: прозьвішча і імя вучня ды названыя гэтыя пяць заданьняў. У клетачцы супроць прозьвішча вучня па паземнай і супроць заданьняў па супроцьстаўнай настаўнік ставіць нумар карткі ці каталёгу прынятай работы ды расьпісваецца ў прыёме. Пра сваё кіраваньне краязнаўчаю работаю вучняў кожны настаўнік дае справаздачу школьнай радзе адначасна са справаздачай пра сваю работу наогул. Усёю краязнаўчаю работаю вучняў кіруе загадчык школы ды сочыць, каб матар'ялы ня гінулі ды ня вывозіліся настаўнікамі, як гэта часта бывае. Загадчыкі гарадзкіх школ павінны паклапаціцца аб прыстасаваньні краязнаўчых работ вучняў да гарадзкіх умоў. Пэўным падлікам краязнаўчай работы за год будзе выстаўка, якая асаблівых тлумачэньняў не патрабуе.

Усе краязнаўчыя работы вучняў па меры паступленьня іх павінны афармляцца ў нешта цэльнае як па асобных відах, так і ўсе цалкам. Бібліографічныя нататкі, як сказана вышэй, складуць бібліографічную картотэку раёну. Працы першага і другога парадку—колекцыі школьнага музэю, а апісаньні іх—карткавы каталёг музэю. Слоўнікі, як вядома, афармляюцца таксама на картках у альфабэтным парадку. Нагляданьні можна будзе абагуліць у картограмах і дыяграмах, ня зьнішчаючы, канешне, і запісаў нагляданьняў; наогул, ні адна работа не павінна зьнішчацца. Географічны слоўнік, як відаць, складае рукапісную кнігу на картках памерам у ¼ пішчага аркушу, пісаных з аднаго боку; каб яны не раскідаліся, іх трэба складваць у папкі адпаведнага памеру, зробленыя на лекцыях ручной працы. Слоўнікі мовы, бібліографічную картотэку, карткавы каталёг колекцый, дыяграмы і г. д. зручней за ўсё хаваць у шафках задпаведнага памеру шуфлядкамі. Усе гэтыя шафкі лёгка і танна могуць быць зроблены на лекцыях ручной працы, як і шафы і скрынкі для музэйных колекцый.

Нагляданьні, паведамленьні, апісаньні і тэматычныя работы зручней за ўсё будзе афармляюць у відзе дзьвёх краязнаўчых часопісяй школы. У аднэй з іх можна зьмяшчаць нагляданьні, паведамленьні, а таксама апісаньні і тэматычныя работы, калі яны па апрацоўцы свае тэмы зьяўляюцца яшчэ ў пэўнай меры сырым матар'ялам. Пад назвай гэтай часопісі трэба адзначыць, што гэта архіў краязнаўчых матар'ялаў вось такой школы. У другой часопісі трэба будзе зьмяшчаць апісаньні і тэматычныя работы ды інш. матар'ялы, здавальняюча апрацаваныя. Пад назвай гэтай часопісі варта адзначыць, што гэта краязнаўчая часопісь вось такой школы. Выходзіць абедзьве часопісі могуць па меры накапленьня матар'ялу. Калі інакш ня выходзіць, можна выдаваць рукапісную ў адным паасобніку, у які кожны аўтар сам упісвае сваю работу. Калі ў гэтыя часопісі зьмяшчаюць толькі абавязковыя краязнаўчыя работы вучняў, дык і то комплект іх за год зьявіцца вялікай справай. Лепшыя матар'ялы з другой часопісі трэба будзе ў копіях пасылаць у газэты і часопісі для апублікаваньня. Пра ўсё гэта больш падрабязна пісалася ў М. Касьяровіча «Краязнаўства», Менск, БДВ, 1929 г., а таксама ў рэцэнзіях на школьна-краязнаўчыя часопісі, што зьмяшчаліся ў часопісі «Наш край».

Апрача ўсяго іншага, усе краязнаўчыя работы вучняў пакажуць бацьком апошніх іх дасягненьні, а таксама будуць скарыстоўвацца ў рабоце ўстаноў і організацый, чым высока ўзьнімуць аўторытэт школы і яе каштоўнасьць для раёну.

### Сямігодка, як цэнтр школьна-краязнаўчай работы раёну

Кожная сямігодка ў раёне зьяўляецца свайго роду унівэрсытэтам раёну. Яе вытворчыя посьпехі, як мэтодычныя дасягненьні, уся яе работа наогул робіць значны ўплыў на работу ўсіх школ першага концэнтру на раёне, з якіх у яе паступаюць вучні. Зьяўляючыся мацнейшым навучальным асяродкам, раённая сямігодка павінна ўплянаваць гэты ўплыў, пашырыць і паглыбіць яго, а гэтым узмацніць усю навучальную работу ў раёне. Апрача таго, другі концэнтр сямігодкі павінен клапаціцца аб палепшаньні работы школ

пershага канцэнтру таму, што ён адтуль бярэ сваіх вучняў.

У школьна-краязнаўчай галіне раённая сямігодка не павінна адмаўляцца ад раённых вучнёўскіх краязнаўчых конфэрэнцый, якія ўжо практыкаваліся некаторымі сямігадовымі школамі. Такія конфэрэнцыі маюць выключна важнае значэньне. Яны сеюць краязнаўчыя думкі праз дэлегатаў у самыя глухія куткі раёну, у самыя цёмныя хаты іх. Яны засноўваюць краязнаўчыя традыцыі ў сваіх будучых вучняў, а таксама ў тых, хто ўжо першым концэнтрам канчае сваю асьвету. Гэтым яны завязваюць сувязі з падросткамі няшкольнікамі і пашыраюць культурны ўплыў на насельніцтва, што зьяўляецца аднэю з важнейшых задач сямігодкі. Конфэрэнцыі дапамагаюць сямігодцы павялічыць свае зборы, заснаваць сваю краязнаўчую агентуру там, адкуль у сямігодцы вучняў няма, а весткі для сыстэматычнасьці і паўнаты работы адтуль патрэбны. Цяжка і пералічыць усе дадатныя бакі такіх конфэрэнцый.

Практыка склікаўньня іх паказала, што гэта ня так цяжка ажыцьцяўляць. Прыходзяць на конфэрэнцыю пехатою або прыяжджаюць на выпадковых фурманках ці з бацькам, які ахвотна едзе з сынам «на навукова-краязнаўчы зьезд у раён», дзе ня менш прагна сочыць за ўсёй цікавай работай, чым сам дэлегат. Кожны дэлегат, як правіла, прывозіць нейкі краязнаўчы матар'ял у падарунак краязнаўчым зборам сямігодкі; часамі яму даюць што-колечы з сваіх збораў у парадку абмену. Начуюць дэлегаты пераважна ў вучняў сямігодкі. На конфэрэнцыі дэлегаты знаёмяцца з працамі другога концэнтру сямігодкі, якія паказваюцца тут-жа на выстаўцы, ды з абмеркаваньня дакладаў тэорытычна ўзмацоўваюцца і атрымліваюць зарадку на вельмі доўгі час. Прынамсі пасьля конфэрэнцыі ў Чэрвенскім раёне, якая адбылася сярод зімы, дэлегаты перанесьлі сваё захапленьне краязнаўствам на ўсіх дзяцей раёну, і яно было адзначана па вёсках аж увосень, на пачатку наступнага навучальнага году экспэдыцыяй ЦБК.

Такім чынам, хоць адна раённая школьна-краязнаўчая конфэрэнцыя павінна праводзіцца кожнай сямігодкай.

Апрача гэтага, школьная рада кожнай сямігодкі павінна паклапаціцца аб належнай чыннасьці гуртку краязнаўства, які павінен існаваць у агульнай сыстэме ўсіх гурткоў у школе. 24 лістапада 1929 г. Народны комісарыят асьветы разаслаў наступны загад усім сямігадовым ды інш. узвышанага тыпу школам і тэхнікумам аб гэтым: «Програмы як першага, так і другога концэнтру сямігадовых школ пабудаваны на краязнаўчым матар'яле. Навучальныя пляны іншых школ узвышанага тыпу і тэхнікумаў таксама ў значчай меры абапіраюцца на прынцып лёкалізаваньня навучальнага матар'ялу. Апрача таго, грамадзка-карысная работа школы часта выяўляецца ў краязнаўчай рабоце, якая накіравана на дапамогу мясцоваму социялістычнаму будаўніцтву. Такім чынам абавязковая програмная работа ўсіх навучальных установ у значнай сваёй частцы мае краязнаўчы характар. Гэта дапамагае выяўленьню вучняў і студэнтаў, асабліва зацікаўленых краязнаўчай работай і здольных добраахвотна працаваць над вывучэньнем свайго краю, узмацняючы гэтым тэмп грамадзка-карыснай работы ўсёй навучальнай установы.

У значнай колькасьці навучальных установ гэты краязнаўчы актыў, організаваны ў краязнаўчыя гурткі гэтых установ, падпарадкаваны саветам іх. Але ў шмат якіх установах такія гурткі яшчэ не організаваны, а заснаваныя гурткі яшчэ не разгарнулі свае чыннасьці ў такой меры, як гэта належыць.

Народны комісарыят асьветы лічыць неабходным заснаваньне краязнаўчых гурткоў ва ўсіх сямігодках і іншых школах узвышанага тыпу і тэхнікумах. Саветы гэтых установ павінны паклапаціцца аб належным разгортваньні работы памянёных гурткоў краязнаўства, цалкам накіроўваючы іх чыннасьць на дапамогу будаўніцтву социялістычнай гаспадаркі і культуры, кіруючыся савецкай мэтодычнай краязнаўчай літаратурай, сьпісы якой апублікаваны ў «Асьвеце» (1928 г., № 1), у «Нашым краі» (1928 г. №№ 1, 3, 4, 5, 6-7, 1929, № 3). Апрача таго, мэто-

дычныя парады аб організацыі і рабоце гурткоў дае навукова-мэтодолёгічны комітэт НКА і цэнтральнае бюро краязнаўства».

Вось тая сыстэма школьна-краязнаўчай работы вучняў, якая павінна выконвацца ў парадку абавязковай навучальна-выхаваўчай работы другога концэнтру 7-гадовых школ і якая ў агульных рысах робіцца для ўжываньня ў практыцы школ. Будучы ўпэўнены, што шмат якія даныя гэтай нашай заметкі будуць скарыстаны школамі на месцах, мы ўсё-ж вельмі-б хацелі, каб гэта заметка выклікала гарачае абмеркаваньне ўзьнятага пытаньня ды абмен практыкай у кірунку яго на старонках «Комуністычнага Выхаваньня» ды «Нашага Краю».

---

КАЦНЭЛЬСОН Ф. Я., ТАУЛІНА М. М.

# ГІГІЕНА РОДАВАГА ВЫХАВАНЬНЯ

Пытаньне родавага выхаваньня зьяўляецца адным з жыцьцёвых і складаных пытаньняў у наш час. Гэтае заўсёды новае і ў той самы час зьбітае, цяжкае і спрэчнае пытаньне ніколі не пакідала забіць да сябе ўвагу людзей вельмі markup рознастайных спэцыяльнасьцяй і, зразумела, галоўным чынам, пэдагогаў і ўрачоў, якім больш за ўсё даводзіцца мець справу з дзяцьмі, і якія больш за ўсё адказны за нашу будучую маладую зьмену.

Пытаньне гэта робіцца больш сур'ёзным і актуальным яшчэ і таму, што яно ніколі ня было толькі біолёгічным пытаньнем, а заўсёды было пытаньнем соцыяльна-клясавым. І менавіта з прычыны клясавасьці і соцыяльнага значэньня гэтага пытаньня, яно набывае асаблівую складанасьць у чалавечым грамадзтве, дзе родавы фактар прасякае ва ўсе галіны шматграннага чалавечага жыцьця, укараняецца ва ўсе моманты быцьця, адбіваючыся на разьвіцьці, культуры, грамадзкім жыцьці і ў сваю чаргу залежыць ад іх. Вось чаму, асабліва ў сучасны момант, калі мы зацікаўлены ва ўтварэньні дужага і здаровага пакаленьня, поўнага імкненьня да барацьбы і творчасьці, гэтае пытаньне павінна быць з асаблівай выразнасьцю акрэсьлена і высунута на першы плян.

Сувязь грамадзкага жыцьця з родавым фактарам не падлягае сумненьню. Гісторыя даводзіць нам, што заняпад грамадзкага жыцьця дае звод родавых адносін. Гэта мы можам бачыць як на прыкладзе часоў заняпаду Грэцыі і Рыму, гэтак і на прыкладзе пасьлярэволюцыйнай рэакцыі 1907—12 гадоў у Расіі, калі надта завострылася пытаньне родавага жыцьця, калі вырасла родавая разбэшчанасьць, асабліва сярод моладзі. На жаль, і цяпер яшчэ адчуваецца спадчына старога ладу, чаму яшчэ больш актуальнымі зьяўляюцца задача родавага выхаваньня і гігіенічныя меры гэтага выхаваньня.

Зразумела, нельга гаварыць пра родавае выхаваньне, як пра нешта адарванае ад усяго выхаваньня наогул. Спэцыяльна родавага выхаваньня няма і ня можа быць, гэтак-жа, як няма ніводнага моманту пэдагогічнай дзейнасьці, ніводнага ўзросту дзяцінства, дзе-б ня ўлічваўся, не выяўляўся родавы фактар (Залкінд). Родавы інстынкт, так сама, як і інстынкт самазахаваньня і харчаваньня, зьяўляецца прыроджаным, але праяўляецца ён па рознаму ў розных галінах.

У працягу доўгага часу лічылі, што разьвіцьцё родавага інстынкту ідзе роўналежна родаваму дасьпяваньню, і ўсялякае праяўленьне родавых паводзін да пэрыоду родавага дасьпяваньня лічылася патолёгічным. Цяпер-жа ў гэта разуменьне ўнесены значныя зьмены. Цяжка згадзіцца з тэорыяй галавы псыхоаналітычнай школы Фрэйда, згодна якой дзіцё нараджаецца сэксуальным, таксама і нельга лічыць патолёгіяй усякае праяў-

леньне раньняй дзіцячай сэксуальнасьці да пэрыоду родавага дасьпяваньня. Мажліва не згаджацца ў тэорыі Фрэйда і з тым, што «ссаньне зьяўляецца выходным пунктам усяго сэксуальнага жыцьця, недасяжнай адзнакай усякага сэксуальнага задаваленьня ў будучым», але нельга адмаўляць і той факт, што шэраг частак цела, як вусны, анальнае выйсьце, зьвязваюцца ў далейшым з разьвіцьцём і згушчэньнем родавых праяўленьняў, з адчуваньнем сэксуальнай асалоды і могуць выявіць раньнюю пачуцьцёвасьць. І ня толькі вусны і анальнае выйсьце могуць зьявіцца прычынай сэксуальнае асалоды, але і некаторыя раздражэньні праз боль, напрыклад, крумянак, могуць давесьці да тых-жа зьяваў (у чым і заключаецца шкоднасьць пакараньня сячэньнем). Адным словам можна сказаць, што непасрэднай сэксуальнасьці ў раньнім дзяцінстве няма, але ўжо ў раньнім жыцьці дзіцяці ёсьць элемэнты, якія могуць служыць крыніцай заўчаснага сэксуальнага ўзбуджэньня. Сэксуальнае выхаваньне з гэтай прычыны і трэба пачынаць вывучаць з самага раньняга дзяцінства, каб не спазьніцца з профіляктычна-выхаваўчымі захадамі.

Родавае выхаваньне дзяцей адбываецца такім чынам, што ў першыя гады жыцьця дзіцяці яго цікавасьць накіроўваецца пераважна на адчуваньні ўласнага цела (аўтоэротычны пэрыод па Фрэйду і аўтосэнсорны па Залкінду).

Гэтыя адчуваньні, як ссаньне, казытаньне і г. д., нельга назваць у поўным сэнсе слова родавымі сэксуальнага парадку, бо пры гэтым не надыходзіць натуральнае родавае ўзбуджэньне, з прычыны недаразьвіцьця родавых органаў. Але гэты аўтосэнсорны пэрыод ужо зьяўляецца небясьпечным у сэнсе раньніх родавых праяўленьняў, бо гэтыя адчуваньні, пры няправільным выхаваньні дзіцяці, могуць у яго замацоўвацца; гэтыя адчуваньні, якія лёгка атрымоўваюцца ад раздражэньня пэўных вучасткаў цела, могуць, калі не зьвярнуць на гэта ўвагу ў самым пачатку, зрабіцца крыніцай сэксуальнага ўзбуджэньня. Калі гэты пэрыод зьяўляецца пэрыодам адчуваньняў, зьвязаных з недыфэрэнцыяваным родавым інстынктам, дык у далейшым яго разьвіцьці мы наглядаем зьяўленьне адчуваньняў ужо ў межах родавых органаў, ня зьвязаных яшчэ, аднак, з уяўленьнем аб родавым акце.

Далейшым этапам зьяўляюцца ўжо ўяўленьні і пачуцьці, зьвязаныя з родавымі зносінамі, з родавым актам. У гэтым пэрыодзе зьяўляецца прыхільнасьць, каханьне, родавая сувязь і г. д. Усе гэтыя этапы нельга аднесьці да пэўнага ўзросту, яны залежаць ад індывідуальнасьці, унутраных уласьцівасьцяй організму і абкружаючага дзіця соцыяльнага асяродзьдзя.

Раньняе зьяўленьне родавых адчуваньняў можа быць выклікана цэлым шэрагам умоў, якія дапамагаюць раздражэньню родавых органаў, прыліву крыві да іх, концэнтрацыі ўвагі ў гэты бок, у выніку чаго можа зьявіцца цэлы шэраг родавых адхіленьняў, на якім мы коратка і спынімся.

Найбольш пашыранай формай родавага адхіленьня зьяўляецца онанізм, зразумела, у паталёгічных праявах. Варта адрозьніваць онанізм больш раньняга дзіцячага ўзросту і больш старэйшага. Шкоднасьць раньняга ўзмоцненага онанізму заключаецца ў тым, што ён падвышае агульную ўзбуджанасьць дзіцяці і можа прывесьці да онанізму ў сталым узросьце. Надзвычайна шкодны онанізм у зачыненых установах, дзе ён разьвіваецца як інфэкцыя і нават небясьпечная інфэкцыя, бо ў шмат якіх выпадках больш цяжка паддаецца вылячэньню, асабліва пры няправільным пэдагогічным падыходзе (як ужываньне пакараньняў або перабольшаньне вынікаў онанізму для організму, што пакідае ў дзяцей нэрвовасьць, няўпэўненасьць у сабе, паслабленьне волі). Нярэдка онанізм у зачыненых установах прымае характар пошасьці.

Трэба спыніцца і яшчэ на іншых формах родавых адхіленьняў, як садызм, каторы часта заўважаецца пэдагогамі і лічыцца імі, як звычайная задзірыстасьць дзяцей, і толькі пры больш уважлівым падыходзе можна знайсьці гэтай зьяве тлумачэньне на родавым грунце. Садысты шчыпаюць, б'юць, ірвуць за валасы, адным словам, агрэсыўныя. Нават звычайная лёгкая дзіцячая агрэсыўнасьць

ня родавая, калі не рабіць уплыву на яе, можа абярнуцца ў садызм. Аднак, не заўсёды карэньні дзіцячай агрэсыўнасьці зьяўляюцца родавымі, з гэтай прычыны нагляданьне за гэткімі дзяцьмі, дзеля дыфэрэнцыяваньня садызму ад звычайнай задзірыстасьці, мае вялікае значэньне. Радзей зьяўляецца ў дзяцей мазохізм-асалода, якая адчуваецца ў часе катаваньня. Вельмі часта мазохізм зьяўляецца ў выніку няправільнага пэдагогічнага падыходу (ужываньне цялеснага пакараньня). Калі ў часе пакараньня было родавае ўзбуджэньне, дык у далейшым атрымоўваецца складаны ўмоўны рэфлекс паміж больлю і родавым узбуджэньнем. Звычайна, мазохісты—ціхія, плаклівыя, трошкі замкнёныя ў сабе, часьцей дзяўчынкі, чым хлопчыкі.

Да шэрагу родавых адхіленьняў належыць эксгібіонізм—родавая самадэмонстрацыя, якая звычайна выяўляецца ў публічным агаленьні родавага органу, у спэцыяльнай лаянцы, распуснасьці. Да родавых адхіленьняў трэба аднесьці таксама як ненормальнае разьвіцьцё родавага пачуцьця (гіпэрсэксуалізм), гэтак і недаразьвіцьцё яго (гіпосэксуалізм).

У зачыненых установах, у інтэрнатах, дзіцячых дамох і г. д. мы сустракаемся яшчэ з гомосэксуалізмам, родавымі зносінамі паміж асобамі аднаго роду.

Даўшы характарыстыку ў агульных рысах патолёгічных адхіленьняў у родавым разьвіцьці, мы можам перайсьці да гігіены родавага выхаваньня дзяцей.

Асноўным у гэтым пытаньні зьяўляецца ўтварэньне ўмоў для нормальных паводзін дзіцяці, г. зн. такіх паводзін, пры якіх зьнішчаліся-б усякія імпульсы да заўчаснага родавага ўзбуджэньня. Трэба стварыць здаровыя родавыя паводзіны, якія-б ішлі ў нагу з агульным псыхо-фізычным разьвіцьцём дзіцяці, адхіляючы яго думкі і пачуцьці ад сэксуальнасьці. Трэба выключыць з жыцьця дзіцяці, з абкружаючага яго асяродзьдзя ўсё тое, што можа завастрыць яго родавае пачуцьцё, узмацніць родавае ўзбуджэньне, падвысіць дзіцячую сэксуальнасьць. Разам з тым, аднак, вельмі важна яшчэ ўмець не прыдушаць родавы інстынкт, як адзін з галоўных і патрэбных, а разумна перавесьці, пераключыць або сублімаваць яго ў іншыя віды.

Адным з самых галоўных гігіенічных мерапрыемстваў для разьвіцьця нормальных родавых паводзін зьяўляецца фізкультура. Фізкультура дапамагае захаваць нэрвовую ўстойлівасьць дзяцей, дае трэніроўку, гарт, г. ё. садзейнічаньне разьвіцьцю тормазаў. Гэта вузкае значэньне фізкультуры. Калі-ж узяць фізкультуру ў шырокім сэнсе, дык яна зьяўляецца, магчыма, адным з найгалоўнейшых фактараў выхаваньня наогул і ў прыватнасьці родавага, бо ў паняцьце фізкультуры ўваходзіць і харчаваньне, вопратка, карыстаньне паветрам, вадою, сонцам, правільны ўклад дню, фізычныя практыкаваньні, гульні і г. д.

Харчаваньне дзяцей павінна быць рацыянальным. Яшчэ далёка ня ўсе ўмеюць правільна падыходзіць да пытаньня выхаваньня дзяцей і ўсьведамляюць сабе важнасьць яго. Трэба ўнікаць, асабліва ў пераходным узросьце, пернасьцяй, якія ўзбуждаюць дзяцей. Бязумоўна, забараняецца алькоголь, як сродак, які моцна ўзбуджае, ня кажучы ўжо пра вялікую шкоднасьць яго наогул. Алькоголь зьніжае разумовае разьвіцьцё дзіцяці, узбуджае родавое пачуцьцё, завострывае яго. У гэтым-жа сэнсе, хоць і менш, выяўляецца і шкоднасьць курэньня. У справе харчаваньня адыгрывае ролю ня толькі характар стравы, але і час прыйманьня яе. Ня варта даваць страву перад самым сном, бо прыліў крыві, які ствараецца каля страўнікавых органаў, захапляе таксама і родавую сфэру, узбуджае яе, а сон, разаграваючы цела, яшчэ больш узмацняе гэта ўзбуджэньне. Вялікія прамежкі паміж прыйманьнем стравы таксама не пажаданы, бо прыводзяць да таго, што дзіця, якое прагаладалася, занадта наядаецца, што раздражае родавую сфэру. Няправільнае прыйманьне стравы выклікае ненормальнае страваваньне, запоры, што садзейнічае ўзбуджэньню родавай сфэры, выклікаючы прылів крыві да родавых органаў. Важна навучыць дзіця сваячасова апаражняць страўнік, лепш ўсяго раніцаю, пасьля сну. Трэба зьвярнуць увагу таксама на правільнае карыстаньне прыбіральнямі. Дзеці не павінны

затрымліваюца доўга ў прыбіральнай, бо гэта зварочвае іх увагу да родавых органаў. У школах трэба навучыць дзяцей карыстацца прыбіральнямі ў часе перапынку, і пэдагогамі малодшых груп варта было-б організавана наладзіць карыстаньне дзяцьмі прыбіральняй, як гэта робіцца ў нас у дзіцячых садох і некаторых школах Нямеччыны. Цёмныя прыбіральні не пажаданы, бо пры гэтым ствараюцца ўмовы для родавага ўзбуджэньня. Ня менш важна ўмець організаваць і правільны сон дзяцей. Недаспаньне зьнясільвае організм, паслабляе і парушае нэрвовую сыстэму, што можа выклікаць родавае ўзбуджэньне. Доўгае-ж ляжаньне дзіцяці ў ложку вядзе таксама да непажаданых вынікаў—узьнікненьня родавых адчуваньняў. Гэтаму-ж дапамагае занадта мяккі ложак, які гэтак любяць многія пяшчотныя, нават разумныя, бацькі, якія ня ўлічваюць або не знаёмы з тым, што мяккі ложак і цёплая коўдра разаграваюць паясьнічную сфэру, дзе знаходзіцца родавы цэнтр, і ўзбуджаюць яго. Апроч таго, дзіця, доўга лежачы ў ложку, міжвольна затрымлівае свае думкі на родавых органах. Ляжаньне ў ложку разьвівае ў дзіцяці ляноту, якая даводзіць да несваячасовага апаражненьня мачавога пухіру, а перапаўненьне яго, у сваю чаргу, выклікае родавае ўзбуждэньне. Ложак таксама трэба трымаць чыстым, бо бруд і паразыты выклікаюць раздражэньне скуры, расчосы ў сфэры родавых органаў і іх узбуджэньне. Трэба адзначыць яшчэ бязумоўную недапушчальнасьць сумеснага спаньня дзяцей як з дарослымі, гэтак і з іншымі дзяцьмі. Датыканьне цел выклікае ўзбуджэньне родавага пачуцьця дзіцяці, узмацняе мажлівасьць онанізму, гомосэксуалізму, асабліва пры сумесным спаньні дзяцей. Сумеснае спаньне дзяцей, асабліва дзяўчынак, небясьпечна і ў сэнсе заражэньня гонорэяй.

Перад сном нельга дазваляць дзецям узбуджаючага чытаньня, або відовішча. Пакой трэба добра праветрываць, бо сьвежае паветра добра дзейнічае на нэрвовую сыстэму, зьнішчаючы тым самым умовы для ўзбуджэньня. Дзе толькі ёсьць мажлівасьць, рэкомэндуецца спаньне пры адчыненых вокнах. Загартаваньне цела вадою, паветрам, сонцам, гімнастычныя практыкаваньні ўзмацняюць організм, выклікаюць лепшы сон, апэтыт, трэніруюць яго, разьвіваюць волю і тым самым зьяўляюцца стымулам для родавага адцягненьня.

Ахайнасьць цела, асабліва скуры родавай сфэры, вельмі важная. Частым мыцьцём рук можна ўнікнуць заражэньня глістамі, а глісты-астрыцы, асабліва ў дзяўчынак, залазячы з анальнага выйсьця ў родавыя органы, выклікаюць моцны сьвербь, што вядзе да ўзбуджэньня. Да тых-жа зьяваў можа павесьці фімоз—звужэньне крайняй плоці ў хлопчыкаў (у некаторых выпадках неабходна опэраваць). Усякія раздражэньні родавых органаў, апрэласьць выклікаюць патрэбу ў пачосваньні, дакрананьні да іх, і, калі дзіця з прычыны гэткіх дзеяньняў атрымоўвае родавую асалоду, у яго ўтвараецца родавы рэфлекс, які зьвязвае гэту асалоду з пачосваньнем, дакрананьнем, што можа выклікаць узмоцнены онанізм.

Важна, аднак, не вылучаць асобна дагляд родавай сфэры дзіцяці з агульнага дагляду за яго целам, каб не концэнтраваць дзіцячай увагі на родавых частках.

Вельмі важнае значэньне набывае дагляд за родавымі органамі ў часе мэнструацый. Дзяўчынкі павінны быць падрыхтаваны да іх надыходу. Адпаведныя гутаркі павінны праводзіцца доктарам, выхавацельніцамі, або маткамі. Нам нярэдка даводзіцца сустракацца з моцным сполахам, які выклікаецца мэнструацыямі не папярэджаных аб гэтым дзяўчат. Гэткія факты, натуральна, непажаданы.

Шлях для родавага ўзбуджэньня дзяцей дае і няправільна пакроеная вопратка. Вузкая вопратка замінае рукам дзіцяці наогул, выклікае цяжкасьці ў крывазвароце, ціснье на родавыя органы, выклікае родавыя праяўленьні. Ненормальнае ахутваньне дзяцей недапушчальна паводле тых жа меркаваньняў. Вялікую шкоду робіць таксамі і сідзячае жыцьцё дзяцей, асабліва часта ўзімку, бо гэта выклікае прыліў крыві да родавых органаў, апроч агульнай шкоднасьці сідзячага жыцьця—адсутнасьць усякіх рухаў, гэтак патрэбных дзіцяці. Гэтым фактычна амаль вычэрпваюцца вузка-гігіеніч.

ныя асновы родавага выхаваньня, але гігіенічныя захады яго, зразумела, не складаюцца з адных толькі гэтых асноў, пра што мы казалі, зьвяртаючы ўвагу на значэньне фізкультуры ў шырокім сэнсе слова.

Трэба ўмець арганізаваць працу і вольны час дзіцяці, гульні, яго творчасьць, бо тут мы маем вялікую пачуцьцёвую афарбоўку і разам з тым і няпрыкметнае пераключэньне родавай энэргіі. Пры разумнай, рацыянальнай арганізацыі працы і вольнага часу можна шмат чаго дасягнуць у справе родавага выхаваньня. Важна стварыць цікавасьць да працы, мэтавую ўстаноўку. Толькі тады дзіця аддасца працы з захапленьнем і радасьцю. Ня трэба толькі перагружаць працаю, бо гэта вядзе да непажаданых вынікаў: паралізуецца воля, зьяўляецца затрымка тормазаў і бясьсільле ў барацьбе з непажаданымі імкненьнямі. Таксама важнымі зьяўляюцца і гульні, якія даюць магчымасьць разгарнуцца эмоцыям дзяцей. Але трэба ў кожнай гульні ўмець адрозьніваць непажаданыя элемэнты, ня трэба заахвочваць да гульняў, якія вядуць да родавага ўзбуджэньня, як лазаньне па поручах, катаньне адзін на адным і г. д. Шырокая арганізацыя працоўных процэсаў у школах робіць магутны ўплыў на родавы інстынкт у сэнсе яго пераключэньня.

Але і гэтым ячшэ ня вычарпана гігіена родавага выхаваньня, бо родавы інстынкт соцыяльны. Дзіця зьяўляецца продуктам абкружаючага яго асяродзьдзя і ўбірае ў сябе, як губка, усё, што адбываецца ў ім. Мы бачым вялізарны ўплыў асяродзьдзя на разьвіцьцё родавага інстынкту пры параўнаньні дзяцей вуліцы, бяспрытульных, якія прабылі доўгі час бяз уплыву сям'і і школы, і дзяцей, якія знаходзяцца пад гэтым уплывам. Мы можам сустрэць у першых і раньняе родавае жыцьцё і вэнэрычныя хваробы, цынізм, лаянку, грубае знаёмства з драбнейшымі падрабязкамі родавага жыцьця. Гэтаксама і ў сем'ях мяшчанска-буржуазных, дзе дзіцячыя інтарэсы не адцягваюцца ў бок, ствараюцца ўмовы для падвышанай дзіцячай сэксуальнасьці, часьцей за ўсё для ўпартага онанізму.

Як бы добра ні было пастаўлена выхаваньне ў школе, як бы шмат часу і стараньняў ні аддавалася гэтаму пытаньню пэдагогамі і выхавацелямі, але калі сям'я ня возьме належнага ўдзелу ў гэтай рабоце, частка яе, а можа і ўсё пойдзе на нішто, бо ня будзе патрэбнага замацаваньня сталых навыкаў, якія ўтварыліся.

Школа і сям'я павінны побач працаваць у гэтым пытаньні. Павінна весьціся ўзмоцненая работа з бацькамі, бо ні сям'я, ні школа ўпаасобку ня могуць стварыць патрэбных умоў для працы і вольнага часу дзяцей. Неадпаведныя яшчэ ўмовы нашай школы і сям'і, густасьць, недастатковасьць плошчы, экономічная незабясьпечанасьць ствараюць шмат прадпасылак для ненормальнага родавага разьвіцьця дзіцяці. Трэба ўсімі сродкамі імкнуцца да ўтварэньня, нават у дрэнных умовах, найбольш патрэбных гігіенічных асноў. Сюды належаць ня толькі тыя мерапрыемствы, пра якія мы казалі, але яшчэ і шмат іншае. Трэба зьнішчыць лаянку, цынізм у сям'і, бязладзьдзе, сваркі, пакараньні, якія дагэтуль ужываюцца ў шмат якіх сем'ях, асабліва цялесныя,—усё гэта кладзе незгладжальны адбітак на ўражлівых дзяцей.

Ня трэба забываць, што дзеці часта разумеюць больш, чым гэта здаецца дарослым, якія нярэдка ўжываюць неасьцярожныя выразы, непатрэбныя гесты, апавяданьні брудных анэкдотаў, бессаромныя песьні, лаянку з родавым адценьнем і нават адкрытыя родавыя акты. Тут мае значэньне той факт, што родавае ўзбуджэньне можа быць выклікана гэтымі зрокавымі і слухавымі адчуваньнямі. Дзеці заўжды пераймаюць і, нават не разумеючы ўнутранога сэнсу гутаркі, анэкдотаў, лаянкі, пераймаюць іх. Дзіця пераносіць усе атрыманыя ім брудныя весткі пра родавае жыцьцё ў кола таварышоў і заражае, а часам і псуе іх.

Кіно, якое магло-б зьявіцца адным з мэтодаў пераключэньняў, магло-б даць агромністы матар'ял, патрэбны дзецям, часта псуе выабражэньне непатрэбнымі, іншы раз шкоднымі малюнкамі, афішамі, дзе гэтак многа чыста родавага, што міжвольна вабіць і спыняе ўвагу дзяцей. Вось чаму зараз так насьпела пытаньне

аб утварэньні дзіцячага кіно і правільным выбары фільм для яго.

Калі гэтак магутны ў сваім уплыве на нормальнае родавае разьвіцьцё дзяцей шляхі простага ўплыву (фізычнае выхаваньне, уплыў праз асяродзьдзе), дык у гэткай-жа меры павінна быць зьвернута ўвага на пытаньні родавай асьветы. Ужо ў дашкольным узросьце бацькі і выхавацелі павінны праўдзіва і ясна асьвятляць пытаньні, якія ўзьнікаюць у дзяцей, рэальнымі вобразамі, узятымі з вопыту самога дзіцяці. Казкі пра буслоў, капусныя лісты і г. д. павінны, бязумоўна, зьнікнуць.

Родавая асьвета ў школьнай практыцы праводзіцца яшчэ ў пэўнай меры бязладна, бо няма яшчэ паступовага ўскладненьня матар'ялу, які даецца па гэтым пытаньні. Трэба, напрыклад, увесьці цэлы шэраг гутарак, асабліва ў старэйшых клясах. Бясспрэчна, патрэбна прыродазнаўча-навуковая праўда пра родавае жыцьцё, што ў дастатковай ступені ўвязваецца з тэмамі па прыродазнаўству ў старэйшых групах (апылкаваньне, запладненьне, размнажэньне каморак, эўгеніка). Падрабязна гэтае пытаньне асьветлена ў дакладзе т. Касмовіча, надрукаваным у часопісе «Асьвета», № 8 за 1928-29 г.

Ня менш важна таксама ўмеючы і патрэбным чынам асьвятляць гэта пытаньне і шляхам літаратурных твораў.

Творы школьнага курсу: «Рудзін», «Мароз-чырвоны нос», «Рускія жанчыны», «Вайна і Мір», «Злачынства і пакараньне», «Цэмэнт», «На дне», «Навальніца», а ў 8-й і 9-й групах: «Дон-Кіхот», «Яўгені Онегін», «Гэрой нашых часоў» ды інш., пры ўмелым карыстаньні, бязумоўна, азнаёмяць вучняў з выяўленьнем родавага пачуцьця і яго разьвіцьцём, характарам і значэньнем яго ў жыцьці, ускрыюць социяльна-экономічныя карэньні простытуцыі і спосабы барацьбы з ёю і выклікаюць павагу да жанчыны. У тэй-жа меры падыходзяць мастацкія творы беларускае літаратуры («У палескай глушы», «Сокі цаліны», «На прасторах жыцьця») з іх здаровай устаноўкай узаемаадносін родаў.

У той-жа час трэба папярэдзіць выкладчыкаў ад твораў з натуралістычным паказам родавых адносін, з чым мажліва часта сустрэцца. Найлепшы ўзор «Перагной» Сэйфулінай, дзе даецца бессаромнае апісаньне родавага акту. Вядома, вельмі многае залежыць у справе асьветы ад асабістага такту пэдагога. Выяўленьне сымпатыі да таго ці іншага роду выразна адбіваецца на родавым выхаваньні дзяцей. Хлопчыкі асабліва зайздросна адносяцца да настаўніка ў яго адносінах да дзяўчынак: усялякая ўсьмешка дзяўчынкам настаўнікаў-мужчын і наадварот, разглядаецца, як старонныя адносіны да роду, а іншы раз нават як флірт. Гэтае становішча можа адмоўна адбіцца на родавым выхаваньні ў школе.

З самага раньняга дзяцінства трэба сачыць за родавымі праявамі дзяцей, каб адразу прыняць профіляктычныя захады, як гігіенічныя, гэтак і пэдагогічныя, для зьнішчэньня ненормальнасьцяй, якія могуць мець месца. Трэба ўлічыць той факт, што родавае дасьпяваньне зьяўляецца раней магчымасьці родавага жыцьця, а з гэтай прычыны варта азнаёміць юнацтва з асновамі эўгенікі, з тэорыяй спадчыннасьці, вэнэрычнымі хваробамі, з анатоміяй і фізыолёгіяй родавых органаў, бясшкоднасьцю родавага ўстрыманьня да поўнага дасьпяваньня організму.

Час адыйсьці ад старога погляду на ранейшае выхаваньне, калі пачынала жыцьцё зусім непадрыхтаванае ў гэтых адносінах юнацтва, у выпадку чаго мы мелі бязладнае родавае жыцьцё, з усімі вынікамі, якія адгэтуль выцякаюць—вэнэрычныя хваробы і г. д.

Правільная організацыя работы новай школы: самадзейнасьць вучняў, работа майстэрняў, экскурсіі, гульні, фізкультура, клюбная работа, змогуць прышчапіць здаровыя навыкі, выпрацаваць цьвёрдую волю, папярэдзіць раньняе разьвіцьцё родавага пачуцьця і правільна пераключыць родавую энэргію ў іншыя віды.

Значыць, кажучы пра гігіену родавага выхаваньня, мы павінны яшчэ раз падкрэсьліць, што ні ў якім выпадку нельга карыстацца захадамі для прыдушэньня магутнага, патрэбнага родавага інстынкту, які прызначаны прыродай для працягненьня роду. Трэба толькі знайсці шляхі выхаваньня ў родавых адносінах дзіцяці,

ня даць выявіцца занадта раньняму родаваму фактару, патолёгічным яго адхіленьням.

Родавае аздараўленьне практычна можа быць зьдзейсьнена ў сувязі з усёй арганізацыяй жыцьця. Барацьба за родавае аздараўленьне падрастаючага пакаленьня—справа ўсяе савецкай грамадзкасьці, і да таго часу, пакуль ня будзе дасягнута аздараўленьне сям'і і быту, пакуль ня будзе абвешчана жорсткая вайна ўсім пералсыткам буржуазнага сьвету ў выглядзе літаратурных твораў, якія выслаўляюць родавы акт (часьцей родавую патолёгію), у выглядзе малюнкаў, музыкі, тэатральных відовішчаў, якія завастраюць эротыку і родавую разбэшчанасьць, да таго часу творчыя мажлівасьці новага пакаленьня ня змогуць быць зыкарыстаны поўнасьцю ў справе збудаваньня новага жыцьця, новай культуры, новых соцыяльна-бытавых адносін.

САГАЛОВІЧ

# ПРА МАТЭМАТЫЧНУЮ ЗАДАЧУ З КОНКРЭТНА-ЖЫЦЬЦЁВЫМ ЗЬМЕСТАМ ДЛЯ ВУЧНЯЎ ШКОЛ 1-га КОНЦЭНТРУ

Пэдагог, які прыўласьціў такую думку, што савецкая школа ставіць сабе задачай навучыць дзяцей ня толькі разьбірацца ў навакольным жыцьці, але і намячаць шляхі і способы да зьмены і палепшаньня жыцьця, будзе заўсёды імкнуцца забясьпечыць дзяцей гэткімі працамі і заняткамі, якія і імкнуліся-б да намечаных вышэй мэт.

Карэнная перабудова гаспадаркі нашае краіны, хуткі тэмп індустрыялізацыі яе і колектывізацыя сельскае гаспадаркі паставілі школьнага працаўніка перад фактам недастатковай прыдатнасьці шэрагу падручнікаў для школы данага часу.

Трэба думаць, што Наркомасьветы, займаючыся карэннай перабудовай навучальных плянаў і праграм для школ, зоймецца таксама і пераглядам вучэбнае літаратуры для школы і яе паднаўленьнем.

Наркомасьветы РСФСР распачынае выданьне пэрыодычнай часопісі-падручніка для школ, які павінен будзе служыць дадаткам да тэй вучэбнай літаратуры, якую школа мае. У гэтым ёсьць шмат мэтазгоднасьці: жыцьцё хуткім тэмпам ідзе наперад, гэткім-жа тэмпам старэе і падручнік для школы; часопісь-падручнік лягчэй зможа вырашыць проблему забесьпячэньня школы адпаведным рабочым матар'ялам.

Але ўзьнікае пытаньне: як-жа настаўніку ў даны момант сваімі-ж сіламі зьменшыць хоць-бы часткова той крызіс, які насьпеў? На гэта пытаньне зраблю спробу даць адказ адносна тае часткі працы настаўніка, якая тычыцца матэматыкі ў школе.

Матар'ял для трэніроўкі, для таго, каб дзеці набылі патрэбныя тэхнічныя навыкі ў галіне лічэньня і мераньня, ёсьць у дастатковай колькасьці ў кожнай рабочай кнізе па матэматыцы, хоць бы ў старой.

Я-ж буду мець на мэце, галоўным чынам, жыцьцёва-конкрэтны матар'ял, які і павінен быць зьместам сучаснай задачы-работы.

У апошні час на рынку зьявіўся цэлы шэраг танных брошур, прысьвечаных пытаньням колектывізацыі сельскае гаспадаркі. Я ўпэўнены ў тым, што значная частка іх ёсьць у кожнай хаце-чытальні. Вось гэтыя брошуры настаўнік з посьпехам можа выкарыстаць для сваёй працы, ён павінен гэты брошурны матар'ял перайначыць у вучэбны, а гэта зрабіць зусім проста.

Перада мною ляжаць брошуры:

1. Ерафееў—«Колгасны рух», цана 7 кап.

2. Баярскі і Коршчык—«Як арганізаваць і аформіць колгас», цана 15 кап.

3. Кіндзееў—«Баявыя задачы колгаснага будаўніцтва», цана 12 кап.

4. Гураў—«Дзе ўзяць сродкі для арганізацыі колгасу», цана 12 кап.

5. Рэмізаў—«Як угнойваць зямлю калійнымі солямі», цана 12 кап.

6. М. Пятроў—«Машына ў сельскай гаспадарцы», цана 20 кап.

Я спыняюся на гэтых шасьці брошурах, агульны кошт якіх 77 капеек, якія з посьпехам могуць быць выкарыстаны працаўнікам школы 1-й ступені як з боку простасьці і папулярнасьці выкладаньня, гэтак і ў сэнсе даступнасьці лічбовага матар'ялу для дзяцей 3-га і 4-га гадоў навучаньня.

У самых кароткіх рысах дам аналіз некаторых брошур з тым, каб паказаць, што матар'ял гэтых брошур зусім даступны дзецям вышэйпаказаных гадоў навучаньня, зразумела, пры ўмелым перайначваньні гэтага матар'ялу на вучэбны. Я буду вельмі кароткім, думаючы, што настаўнік сам разьбярэцца ў матар'яле гэтых брошур і возьме адтуль усё патрэбнае і каштоўнае для сваёй работы.

1. Баярскі і Коршчык—«Як арганізаваць і аформіць колгас».

На старонцы 4-й дадзены такі лічбовы матар'ял:

На апрацоўку аднаго гектару зямлі патрэбна часу:

70 рабочых дзён у гаспадарках, якія маюць 5 гект.
50 „ „ „ „ „ „ 10 „
15 „ „ „ „ „ „ 50 и т. д.

На ўзорваньне аднаго гектару зямлі патрэбна часу:

27 рабочых дзён—аднаконным плугам,
18 „ „ —параконным „
5 „ „ —трактарам.

Каб намалаціць адну тону жыта трэба затраціць часу:

100 рабочых гадзін пры малацьбе цапамі;
40 „ „ „ „ малатарняй з конным прыводам;
10 „ „ „ „ малатарняй з рухавіком.

Пад кіраўніцтвам настаўніка дзеці разьвязваюць задачы, які маюць на мэце паказаць дзецям падвышэньне вытворчасьці працы з узбуйненьнем гаспадаркі. Няхай дзеці на разьліках упэўняцца, што колгас, які аб'яднае іх бацькоў, значна зэканоміць як час на апрацоўку і ўзорваньне зямлі колгасу, гэтак-жа і час пры малацьбе ўраджаю.

У гэтай-жа брошуры ёсьць таксама матар'ял, які паказвае, якую экономію дае колгасная гаспадарка ў пасеўным матар'яле пры засеве, бо калгас пераходзіць на радавы засеў замест раскіднога і таксама павялічэньне ўраджайнасьці ў залежнасьці ад лепшых форм апрацоўкі зямлі і дагляду за ёю.

Значны матар'ял для складаньня задач можа даць разьдзел гэтай-жа брошуры пад назвай «Сродкі колгасу» (стар. 13). Дзеці даведаюцца ад настаўніка, што такое ўступны ўзнос, пай і якавы іх памеры, што сродкі колгасаў падзяляюцца на капіталы: асноўны, запасны і асобны і што ў сваю чаргу асноўны капітал бывае: падзельны, непадзельны і заняты, і як адбываюцца адлічэньні ад прыбытку колгасу ў пералічаныя капіталы.

Разьдзел пад назвай «Ільготы» (ст. 15) дасьць магчымасьць скласьці настаўніку шэраг задач на вылічэньне процантаў (вылічэньне скідак на будаўнічы матар'ял для членаў колгасу, вылічэньне скідак сельска-гаспадарчага падатку, які належыць з колгасу).

П. Гураў—«Дзе ўзяць сродкі для арганізацыі колгасу».

Гэта брошура таксама мае багата зусім даступнага дзецям лічбовага матар'ялу. Разьдзел «Чаму і серадняку нявыгодна весьці дробную гаспадарку і чаму ім трэба перабудоўваць свае гаспадаркі ў буйныя» зьмяшчае ў сабе матар'ял, які мае на мэце давесьці, што тыя гаспадаркі, якія ў мінулым сформаваліся ў колгасы, маюць вялікія экономічныя дасягненьні. З узбуйненьнем гаспадаркі зьніжаюцца траты на абсяваньне, дзякуючы ўдасканаленай сяўбе, падвышаецца ўраджайнасьць, дзякуючы лепшаму ўгнаеньню і дагляду за зямлёю, памяншаюцца траты на найманьне рабочае сілы як у часе, гэтак і ў грошах на апрацоўку зямлі. Матар'ял гэты зусім даступны дзецям і з посьпехам можа быць выкарыстаны на лекцыях матэматыкі.

Разьдзелы: «Савецкая дзяржава ідзе на дапамогу колгаснаму будаўніцтву» (стар. 28); «На якія мерапрыемствы адпускаюцца пазыкі для колгасу» (стар. 29); «Які ўстаноўлены парадак дзеля атрыманьня пазычак для колгасу» (стар. 96)—маюць зусім даступны матар'ял дзеля складаньня задач на проценты.

Прыклад задачы:

Колгас атрымаў пазыку на набыцьцё машын у колькасьці 6.000 руб. на 5 год. Згодна правіл, першы ўзнос робіцца ў канцы 3-га году пасьля атрыманьня пазыкі ў памеры 25 проц., другі ўзнос—праз год пасьля першага ўзносу ў 25% і трэці ўзнос—у канцы пятага году. Вылічыць узносы, прымаючы пад увагу, што пазыка была дадзена на 5 проц. гадавых.

Ш. Ерафееў—«Колгасныя дасягненьні»

Багаты і падыходзячы матар'ял настаўнік знойдзе ў гэтай брошуры. Лічбовыя даныя ў гэтай брошуры паданы ў дзесятковых дробах, і настаўнік зможа лёгка выкарыстаць гэтыя даныя для работы з дзяцьмі трэцяга году навучаньня.

Разьвяжам задачу ў духу гэтае брошуры:

Выдаткі на адзін гектар зямлі ў колгасе наступныя:

| | |
|---|---|
| Узорваньне | 5,85 руб. |
| Двойка | 3,6 „ |
| Баранаваньне | 1,8 „ |
| Насеньне і сяўба | 6,93 „ |
| Уборка | 9,45 „ |
| Малацьба | 7,20 „ |

Выдаткі на адзін гектар ў калгасе наступныя:

| | |
|---|---|
| Узорваньне | 5,04 руб. |
| Двойка | 2,55 „ |
| Баранаваньне | 0,65 „ |
| Насеньне і сяўба | 4,95 „ |
| Уборка | 7,79 „ |
| Малацьба | 4,32 „ |

Хіба гэтыя даныя ня могуць быць выкарыстаны належным чынам?

Разьдзел гэтай-жа брошуры пад назвай «Дасягненьні ў жывёлагадоўлі» (стар. 20) мае даныя, якія паказваюць, наколькі павялічыўся гадавы ўдой кароў у цэлым шэрагу колгасаў Саюзу. Калі да гэтага матар'ялу далучыць задачы на выработку масла і сыроў з малака, дык можна значна павялічыць лік жыцьцёвых задач для дзяцей данай групы.

IV. Рэмізаў—«Як угнойваць зямлю калійнымі солямі».

Вельмі карысная брошура са значным падборам матар'ялу лічбовага характару. На стар. 10, 15, 17, 19 і 20 паданы разьлікі, якія паказваюць карыснасьць угнаеньня зямель пад бульбу, кармовыя буракі, лён, канюшыну і лубін.

Задача: траты на ўгнаеньне аднаго гектара зямлі пад лён наступныя:

| | |
|---|---|
| 120 кгр. салетры на суму | 11,4 р. |
| 360 „ супэрфосфару на суму | 10,8 р. |
| 120 калійнай солі „ | 5,12 р. |

Дзякуючы ўгнаеньню адзін гектар пачаў даваць больш звычайнага на 165 кгр. валакна па 25 кап. за кілёграм і на 164 кгр. насеньня па 12 кап. за кілёграм. Вылічыць прыбытак, які атрымалі ад угнаеньня зямлі пад лён.

Прыбытак гэты варта затым пералічыць на вялікія тэрыторыі.

На гэтым сьціслым аналізе некаторых брошур думаю спыніцца.

Мысьлю, што настаўнік, набыўшы гэтыя брошуры, а таксама аналёгічныя ім па зьместу, вельмі лёгка і проста сваімі-ж уласнымі сіламі вырашыць часткова крызіс, які мы маем.

---

**М. МІНКІНА**

# ЗА ПАЛЯПШЭНЬНЕ БЫТУ ДЗІЦЯЦІ

Паляпшэньне быту дзіцяці ў сям'і зьяўляецца баявым лёзунгам дашкольнага культпаходу. Дзьве прычыны прымушаюць асабліва завастрыць увагу на гэтым пытаньні: 1) вельмі малы процант дзяцей дашкольнага ўзросту ахоплен дашкольнымі ўстановамі, а маткі нярэдка, пры ўсім сваім жаданьні, ня могуць, ня ведаюць, як правільна арганізаваць жыцьцё дзіцяці дома; 2) вельмі часта работа дашкольнай установы ідзе на нішто, бо ў хаце не працягваецца тая работа, якая праводзіцца ў садзе, няма адзінай лініі ў рабоце пэдагога і бацькоў.

Звычайным малюнкам зьяўляецца, што пакой, дзе ўсё прыстасавана для дарослых, ня мае ніякіх сьлядоў жыцьця дзіцяці. Дарослыя занадта многа думаюь аб сабе, аб сваёй выгодзе—і стол і крэсла, і талерка, і кніжка—усё прыстасавана да іх

росту, да іх выгоды, да іх інтарэсаў, і вельмі мала ўлічаны інтарэсы і запатрабаваньні дзяцей.

Вынікам пэдагогічнай пропаганды павінна зьявіцца: усьведамленьне шырокімі масамі працоўных патрэб дзяцей, цьвёрдае веданьне, што і як рабіць, каб дзіця вырасла здаровым будаўніком новага жыцьця. Трэба дамагчыся таго, каб у кватэрах, пакоях, дзе ёсьць дзеці, абсталяваньне, мэбля забясьпечвалі здаровае разьвіцьцё. Не павінна быць пакояў, дзе ёсьць дзеці, бяз «куточка» дзіцяці.

Як-жа, якімі мэтодамі і формамі работы мы гэтага дасягнем?

Нам здаецца, што работа павінна ісьці па дзьвюх лініях:

а) па лініі работы з бацькамі, дзеці якіх знаходзяцца ў дзіцячых садох;

б) па лініі работы з больш шырокай масай насельніцтва.

Формы работы з бацькамі ўжо большменш вызначыліся.

Тут мы маем групавыя і агульныя сходы бацькоў, на якіх абгаварваецца жыцьцё і праца дзяцей у садзе, індывідуальныя гутаркі, дзяжурствы матак у садзе, затым пэдагогічныя гурткі бацькоў. Пра іх хочацца сказаць наступнае: часта пытаньні прапрацоўваюцца ў гуртках чыста слоўным шляхам, вынікі праведзеных лекцый і гутарак ня ўлічваюцца, не правяраюцца. Нам здаецца, што кожнае пытаньне, якое прапрацоўваецца ў гуртку, павінна мець мэтавы характар. Кожны раз павінна быць дадзена пэўнае заданьне ў сувязі з пытаньнем, што прапрацоўваецца, якое мела-б на мэце пераварыць у жыцьцё чутае—часткова ўжо палепшыць быт дзіцяці ў сям'і. Сама прапрацоўка павінна насіць характар конкрэтны, практычны. Гэтак, напрыклад, прапрацоўваецца пытаньне: «якая вопратка патрэбна дашкольніку», і тут, апроч агульных бацькаўскіх абгрунтаваньняў, важна зьвязацца з гуртком кройкі і шыцьця (калі гэткага пры клюбе няма, дык гэта неабходна зрабіць сіламі пэдагога, грамадзкай працаўніцы, якая ўмее шыць), і тут паводле пэўных выкраек пашыць што-небудзь дзіцяці. Або пры прапрацоўцы пытаньня—цацкі для дашкольніка—таксама мажліва правесьці практычнае заданьне—пашыць цацку, зрабіць яе з адкіднога матар'ялу і г. д.

Гэта вось работа гуртка, бязумоўна, зацікавіць удзельнікаў і дасьць пэўныя вынікі па палепшаньню быту дзіцяці. Тут сярод сяброў гуртка, сярод бацькоў можа быць праведзена спаборніцтва на лепшую організацыю кутка ў сям'і. Сіламі пэдагога і маткі можа быць організаваны ўзорны куток. Узорным ён можа быць не таму, што ён багата абсталяваны, наадварот, трэба паказаць, як у кепскіх умовах магчыма ў цесным пакоі пры найменшай затраце сродкаў забясьпечыць дзіцяці ўмовы для карысных, разумных заняткаў, для выхаваньня ў ім элемэнтарных культурна-гігіенічных і іншых навыкаў.

Популярная літаратура (сэрыя кніжак выд. Галоўсоцвыху НКА) і выстаўка, прыстасаваная да прапрацоўкі данага пытаньня, нагляданьне за работаю ў садзе павінны замацаваць і паглыбіць тое, што яны атрымалі ў гуртку.

Што датычыцца работы з больш шырокімі пластамі насельніцтва, дык гэтага можна дамагчыся праз організацыю гурткоў-курсаў для матак-хатніх гаспадынь. Яны павінны мець характар гурткоў, пра якія гаварылася вышэй. Апроч таго, тут трэба было-б організаваць дзьве-тры экскурсіі ў добра наладжаны дзіцячы сад, з мэтай паглядзець, як асноўныя прынцыпы, пра якія гаворыцца на занятках, праводзяцца ў жыцьцё. Таксама трэба, каб прапрацоўка кожнага пытаньня дэмонстравалася выстаўкай, дыапозытывамі, макетамі і г. д. У заключэньне добра пабыць у консультацыі, калі яна ёсьць у горадзе (а яна павінна быць).

У выніку работы гэтага гуртка таксама павінна зьявіцца прыцягненьне ўвагі да правільнага выхаваньня, організацыі кутка дзіцяці ў сям'і.

Пэдагогічныя гурткі павінны організавацца таксама і на вытворчасьці, асабліва там, дзе найболш пераважае праца жанчын. Але да таго, як організаваць гурток для больш глыбокай прапрацоўкі пытаньняў, трэба спачатку пэдагогічна крыху «апрацоўваць» аўдыторыю.

Зацікавіць масу работніц пэдагогікай мы можам тады, калі будзем гаварыць

ей пра самае блізкае, тое, што яе хвалюе. З гэтай прычыны да таго, каб арганізаваць цыкль гутарак, консультацый, трэба спачатку зрабіць хаця-б невялічкае дасьледваньне з мэтай выявіць найбольш слабае ў даным асяродзьдзі. Так, напр., можа выявіцца, што з харчаваньнем больш-менш справа стаіць добра, але рэжым дзіцяці, сон не ўрэгуляваны. Тады зразумела, што з гэтага мы павінны пачынаць сваю работу. Вопыт паказаў, што работніцу зацікаўлівае пытаньне і як абыходзіцца з дзіцём, пытаньне пакараньняў, прычыны капрызаў і г. д. Гэтае пытаньне аказваецца найбольш удалым у сэнсе разгортваньня спрэчак. З гэтага і можна пачаць. Трэба толькі цьвёрда памятаць, што павінен быць падлік часу. Трэба так наладзіць гутарку (якая адбываецца ў часе перапынку на полудзень), каб самому сказаць асноўнае, даць выказацца работніцам і ні на адну хвіліну не затрымаць іх пасьля перапынку. Кожная гутарка павінна падмацоўвацца выстаўкай. Зрабіць яе павінны дапамагчы піонэры.

Калі пэўны цыкль гэткіх гутарак будзе скончаны, выявіцца актыў, з якога і павінен быць арганізаваны гурток.

Вялікую ролю ў справе пэдагогічнай пропаганды, у справе падняцьця пэдагогікі сярод шырокіх мас насельніцтва павінен адыграць друк. У насьценгазэтах, апроч агульных пытаньняў выхоўваньня, павінна знайсьці месца асьвятленьне тых пытаньняў, якія прапрацоўваюцца зараз у гуртку, у гутарках. Сіламі піонэраў можна было-б выпусьціць, у выніку прапрацоўкі пытаньня, памятку маткі. Так, напрыклад: прапрацавана пытаньне харчаваньня, можна выдаць памятку «Як правільна карміць дзіця», дзе былі-б паказаны гадзіны кармленьня, прыкладнае мэню, спосаб гатаваньня, пералік карысных і шкодных продуктаў і г. д.

Яшчэ адна крыніца, адкуль можна браць агітатараў—гэта ліквідатары няпісьменнасьці. У плян свае работы яны павінны ўключаць гутаркі пра выхаваньне дзіцяці. З малапісьменнымі можна праводзіць чытаньне популярных кніжак з сэрыі Наркомасьветы. Гэтых ліквідатараў, таксама студэнтаў тэхнікумаў, старэйшых вучняў школ, дэлегатак трэба выкарыстаць для стварэньня кадру дасьледчыкаў. Яны змогуць на месцы даць паказаньні, як арганізаваць у даных умовах вольны час дзіцяці, праверыць, ці выкананы заданьні. Студэнты і актыў дашкольных працаўнікоў павінны быць арганізаваны ў г. з. агітбрыгаду, якая абслугоўвала-б масавыя сходы мастацкай часткай—жывой газэтай, агітсудом ды інш.

Тут не асьветлена пытаньне працы пэдконсультацый,—гэтаму пытаньню будзе прысьвечаны асобны артыкул.

Гэты артыкул ні ў якай меры ня вычэрпвае ўсіх форм і мэтодаў пропаганды. Удакладніць і паглыбіць гэтае баявое пытаньне павінны дапамагчы самі працаўнікі. Асьвятленьне свайго вопыту работы, цяжкасьцяй і дасягненьняў—вось заказ грамадзкасьці нашым працаўнікам.

---

А. ШКЛЯЕВА

# НЕНОРМАЛЬНАЕ СТАНОВІШЧА

*(Пра выкладаньне нямецкай мовы ў сямігадовых школах)*

Навучаньне чужаземнай мове ва ўмовах Савецкага Саюзу набывае зараз асабліва важнае значэньне.

Лёзунг клясава - інтэрнацыянальнага выхаваньня знаходзіць сваё практычнае ажыцьцяўленьне, між іншым, і ў сувязі з практыкай вывучэньня чужаземнай мовы.

Знаёмства з чужаземнай мовай дае магчымасьць узмацніць сувязь з пролетарыятам за межамі, а таму вывучэньне нямецкай мовы мы павінны разглядаць менавіта пад такім кутом гледжаньня: вывучэньне і веданьне нямецкай мовы ёсьць адзін з сродкаў інтэрнацыянальнай сувязі пролетарыяту СССР з пролетарыятам Нямеччыны.

Веданьне чужаземнай мовы дае магчымасьць знаёміцца з дасягненьнямі навукі і тэхнікі па-за межамі, яно дае магчымасьць шырокай популярызацыі гэтых дасягненьняў, шляхам перакладу адпаведнай чужаземнай літаратуры на мовы нашых саюзных рэспублік.

Выходзячы з гэтага, мы сёньня павінны сказаць, што пытаньне пра выкладаньне чужаземнай мовы павінна быць сур'ёзна пастаўлена школай, і кіруючыя органы павінны аддаць яму належную ўвагу.

Трэба адзначыць, што апошнія 2 гады зрушылі ўжо крыху гэтую справу з месца. Пра значэньне моў загаварылі на старонках друку.

У 1927 г. у «Праўдзе» зьяўляецца артыкул Курляндзкага пра чужаземныя мовы, у якім мы чытаем пра становішча выкладаньня мовы ў нашых установах, пра ненормальнасьць гэтага становішча, якое не адпавядае таму значэньню, якое зараз набывае веданьне чужаземнай мовы.

У гэтым-жа 1927 г. была выпушчана (надрукавана) спэцыяльная адозва ЦК КСМ са зваротам да ўсіх губкомаў, абкомаў і ЦК КСМ нацрэспублік зьвярнуць больш увагі на чужаземныя мовы.

У 1928 г. «Комсомольская Правда» ад слоў перайшла да справы. На працягу некалькіх месяцаў у ёй друкаваліся лекцыі нямецкай мовы, якія выклікалі вялікую зацікаўленасьць з боку моладзі.

Тую-ж кампанію праводзіла і «Пионерская Правда», маючы на ўвазе ўзьняць значэньне вывучэньня чужаземнай мовы сярод нашага малодшага пакаленьня.

Гэтай восеньню зьявілася пастанова ЦК УсеКП(б), у якой заклікаліся ўсе партыйцы да вывучэньня чужаземных моў з залічэньнем гэтае работы ў грамадзкую і партыйную нагрузку.

Што-ж зроблена па лініі школы? Што зроблена там, дзе гэта ў першую чаргу павінна было быць зроблена?

Прыходзіцца канстатаваць, што выкладаньне нямецкай мовы ў нашай школе надзвычайна адстала ад запатрабаваньняў савецкай сучаснасьці. Разьбярэмся, у чым тут справа. Гэта тлумачыцца ў першую чаргу тым, што на нямецкую мову ўстанаўліваецца ў вучняў погляд, як на нейкі другарадны прадмет: нямецкую мову можна ігнараваць, яе можна не вывучаць, таму што ўсёроўна гэта не пашкодзіць пераводу з клясы ў клясу і нават скачнэньню школы. Калі ўзьнікае патрэба скараціць сетку, дык часта гэта робіцца за кошт гадзін, што адводзяцца на нямецкую мову. Яе нават зусім выключаюць з некаторых нацыянальных школ з прычыны таго, што там выкладаюцца некалькі моў, як гэта мела месца ў гэтым годзе ў польскіх школах.

Програма, якую нам прапануюць, выходзіць з ліку 3-х гадзін на кожную групу, а на практыцы мы маем чамусьці 3 гадзіны толькі ў 5-й групе, а на 6-ю і 7-ю групу адводзіцца толькі па 2 гадзіны.

Такім чынам, першы крок практыкі выкладаньня нямецкай мовы сустракае перашкоду ў няўвязцы паміж програмным матар'ялам і тэрмінам, які на гэты матар'ял даецца.

Ці адпавядае мэта, якую ставіць програма, конкрэтным умовам, у якія пастаўлена выкладаньне нямецкай мовы? Програма прапануе навучыць вучняў чытаць і разумець нямецкую кнігу, нямецкую часопісь, даць вучням навык карыстаньну вуснай мовай. Перш, чым адказаць на гэтае пытаньне, прывяду думкі некаторых асоб. Вось што піша проф. Шчэрба ў адным з сваіх артыкулаў: «Які павінен быць мінімум для нашых працоўных школ? Калі мы павінны згадзіцца пачынаць выкладаньне чужаземнай мовы з 5-га году навучаньня, як гэта прапануецца ў програмах, тады на першых-жа кроках належыць моцна пасоўваць дзяцей наперад так, каб яны ўлетку не забылі таго, што вывучана ўзімку. Гэтага можна дасягнуць пры максымальнай нагрузцы першых 2-х год па 6 гадзін у 5-ы і 6-ы год навучаньня, з тым, каб лекцыя чужаземнай мовы прыпадала на кожны дзень. На 7-ы год (3-ці год навучаньня мове) колькасьць гадзін можа быць зьніжана да 5-4 у тыдзень. Гэтыя гадзіны павінны быць прысьвечаны самастойнаму разбору тэкстаў, а 8-ы і 9-ы гады— пры 4-х гадзінах у тыдзень—чытаньню і аналізу найбольш выдатных твораў».

Проф. Шчэрба лічыць, што гэты лік гадзін ня можа быць зьніжаны, бо першыя 3 гады зьўяляюцца толькі ўступам ў сьвядомае чытаньне тэкстаў. Сутнасьць прадмету пачынаецца толькі з 4-га году (гэта значыць з 8-й групы), калі дзеці могуць праводзіць розныя цікавыя нагляданьні над тэкстам.

Проф. Шчэрба падкрэсьлівае, што высунуты ім лік гадзін (24) на ўвесь курс навучаньня (5—9 гр.) можа даць толькі пасыўнае аўладаньне мовай.

Што-ж мы бачым у програме па чужаземных мовах? На чужаземную мову адводзіцца 12 гадзін.

— Досьледы ўсяго сьвету, — кажа проф. Шчэрба,—вучаць, што з гэтага ня можа выйсьці нічога сур'ёзнага, чужаземная мова па гэтаму пляну нічога ня можа даць, а таму яна будзе лішняя і непатрэбная.

Досьлед апошніх гадоў у Ленінградзе (да 1925 г.) паказаў, што пры 9 гадзінах, за тры гады навучаньня, элемэнтарныя цяжкасьці мовы не ўзмацняюцца, а пры 2 гадзінах дзеці трацяць зацікаўленасьць да прадмету, ня хочуць ім займацца, так што ў старэйшых клясах наглядаецца хутчэй рэгрэс, чым прогрэс.

Проф. Ганшын у сваім артыкуле «Пра задачы выкладаньня чужаземных моў» прыводзіць такую думку: школа можа і павінна дасягнуць наступнага: мінімум— чытаньне кнігі і разуменьне яе, максымум—яшчэ і некаторае ўладаньне мовай, пры чым мінімум павінен быць абавязковым для ўсяе масы школьнікаў.

Для ажыцьцяўленьня гэтых задач патрэбна захаваньне цэлага шэрагу ўмоў у агульнай пастаноўцы справы вывучэньня чужаземнай мовы. Гэтыя ўмовы павінны быць наступныя: мова вывучаецца на працягу 7 год. У першы год навучаньня адводзіцца 4 гадзіны, а ў апошнія—па 3 гадзіны.

Цяпер можна адказаць на пытаньне, якое я паставіла: ці можам мы вывучыць чытаць чужаземную кнігу, зразумець яе пры сямі гадзінах на ўвесь курс навучаньня? Програма Н. К. А. БССР ставіць гэтую мэту, выходзячы з 3-х гадоў навучаньня (5, 6, 7 гр.). Ці можна ставіць такую мэту, калі вядома ўсім, што на працягу гэтага часу мы ня можам, нават, выйсьці за межы элемэнтарнага падручніка. Той падручнік, які разьлічан на 1 год, скарыстоўваецца намі толькі ў 2 гады, і нават яшчэ застаецца матар'ял (падручнік Deutsch 1 ч.). Ці можна па адным падручніку навучыцца чытаць нямецкую кнігу?

Дзеля таго, каб чытаць і разумець кнігу, трэба мець знаёмства з формамі мовы, з морфолёгічнай і сынтаксычнай пабудовай яе.

Практыка-ж паказвае, што мы можам даць дзецям, пры нашых умовах, паняцьце пра самыя простыя граматычныя формы і сынтаксычныя конструкцыі, якія яшчэ не даюць магчымасьці разьбірацца самастойна ў незнаёмым тэксьце. Адсюль вывад такі: мэта, пастаўленая програмай, не адпавядае конкрэтным умовам, у якіх знаходзіцца мова. Мэта павінна быць перагледжана і дапасавана да ўмоў, або наадварот, умовы павінны быць зьменены ў тым напрамку, каб наблізіцца да выкананьня пастаўленых задач.

Мне здаецца, што мы можам гаварыць толькі пра падвядзеньне дзяцей да разуменьня тэксту лёгкай кнігі.

Акрамя гэтага, трэба, каб выкладаньне нямецкай мовы цесна ўвязвалася з агульным жыцьцём школы, каб у выкладаньні адлюстроўваліся ўсе тыя моманты, на якіх будуецца выхаваньне дзяцей: антырэлігійныя, інтэрнацыянальныя, розныя пытаньні сучаснай політыкі, як колектывізацыя вёскі, індустрыялізацыя краіны, соцспаборніцтва і г. д.

Магчымасьць для гэтага ёсьць. Усе гэтыя пытаньні адлюстроўваюцца ў дзіцячых часопісах на нямецкай мове, якія выдаюцца ў Паваложжы, Украіне і Маскве. Прыходзіцца вельмі экономіць час для скарыстоўваньня гэтых момантаў, бо гэта ўхіляе нас ад выкананьня програмы, а між тым я лічу, што такое ўвязваньне нямецкай мовы з савецкай сучаснасьцю яшчэ-б узмацніла фронт выхаваўчай работы нашай школы.

Ці бачым мы з боку органаў народнае асьветы зацікаўленасьць да справы ўзьняцьця мовы на належную вышыню? Не, належнай увагі ня было зьвернута. Характэрна, што ў процэсе аграмаднай

работы, што праведзена органамі народнае асьветы і Наркомасьветы па падвышэньню кваліфікацыі настаўніцтва і ахапіла літаральна ўсе спэцыяльнасьці, для настаўнікаў нямецкай мовы нічога ня зроблена. У той час, калі настаўнікі іншых спэцыяльнасьцяй мелі магчымасьць пэрыодычна падвышаць сваю кваліфікацыю на розных курсах і конфэрэнцыях і практычна ставіць і вырашаць праблему выкладаньня свайго прадмету, настаўнікі чужаземных моў такой магчымасьці ня мелі.

Гадоў тры-чатыры гаму назад, у пэрыод разьвіцьця гуртковай работы сярод настаўніцтва, быў зорганізаваны і гурток нямецкай мовы.

Праіснаваў ён нядоўга з прычыны таго, што ён ня меў належнага кіраўніцтва. Гурток гэты распаўся. У мінулым годзе вясною была склікана конфэрэнцыя выкладчыкаў мовы, аднак аб гэтай конфэрэнцыі шырокая настаўніцкая маса нічога ня ведала, таксама і ня ведалі пра вынікі работы конфэрэнцыі. Далей, у 1927 г. у Маскве, першы раз за ўсё дзесяцігодзьдзе організуецца конфэрэнцыя-курсы. На гэтую конфэрэнцыю зьехаліся настаўнікі з усіх канцоў Саюзу. Як гэта відаць з матар'ялаў зьезду, наш Наркомасьветы абыйшоў гэтае пытаньне моўчкі: ад БССР ня быў пасланы ні адзін прадстаўнік. Шчасьлівае выключэньне склалі школы Цутранпросу, для якіх была склікана пасьля агульнай конфэрэнцыі спэцыяльная, дзе настаўнікам удалося атрымаць зарадку для далейшай работы. Для гарадзкіх жа настаўнікаў вынікі і гэтай конфэрэнцыі засталіся невядомымі, яны ня былі популярызаваны.

Трошкі пазьней, у 1928 г., адбываецца першы зьезд выкладчыкаў чужаземных моў Паўночна-Каўкаскага краю, які быў скліканы па ініцыятыве выкладчыкаў г. Растову. Па водгуках, гэты зьезд быў вельмі добра організаваны пры дапамозе аддзелу Нарасьветы і адбыўся пры напружанай рабоце ўсіх удзельнікаў.

На ўсіх гэтых конфэрэнцыях і зьездах ставіліся самыя рознастайныя пытаньні: аб прынцыпах выкладаньня чужаземных моў у сучаснай школе, аб мэтодах выкладаньня, аб падвышэньні кваліфікацыі, аб програмах, аб падручніках ды інш. Такім чынам мы бачым, што шмат дзе была прароблена аграмаднай важнасьці работа. У нас жа яе ня было.

Яшчэ закрану адзін момант, у каторым адлюстравалася ігнараваньне прадмету і настаўніцтва з боку органаў асьветы. У той час, калі програмы па ўсіх галінах ў гэтым годзе былі перароблены і надрукаваны ў новым зборніку, програма па нямецкай мове была проста перадрукавана з варыянту 1926 г. бяз жаднага абгаварэньня з боку настаўнікаў нямецкай мовы. Я лічу такое зьявішча ненормальным. Нават ніхто не паклапаціўся аб тым, каб аднавіць літаратурны паказчык, што зьмешчаны ў канцы програмы. Сярод сьпіску рэкомэндаванай літаратуры фігуруюць асуджаныя ўсімі некаторыя падручнікі і не паказана ніводнага падручніка з тых, якія выйшлі ў апошнія 2 гады.

Такія адносіны да чужаземных моў грунтоўна разыходзяцца з тымі задачамі, якія зараз стаяць перад намі ў галіне гаспадарча-культурнага будаўніцтва. Органы Наркомасьветы павінны гэта ўлічыць і вынесьці шэраг пастаноў, якія прымусілі-б палепшыць выкладаньне мовы. У першую чаргу трэба ўзьняць кампанію за вывучэньне мовы ў сваёй клясе, сярод вучнёўскай моладзі, якая ў сучасны момант яшчэ мала разумее, якое політычнае і экономічнае значэньне мае хаця-б веданьне аднэй чужаземнай мовы. Не дапускаць скарачэньня гадзін, што адпушчаны на вывучэньне моў. Устаноўленыя тры гадзіны для кожнай групы павінны быць усюды адноўлены. Програма павінна быць перагледжана і дапасавана да рэальных умоў. Трэба падумаць пра выданьне адпаведнага падручніка. Трэба склікаць як мага хутчэй усебеларускую конфэрэнцыю выкладчыкаў мовы, з мэтай падвышэньня кваліфікацыі і азнаямленьня з пастаноўкай выкладаньня мовы на месцах.

Наркомасьветы павінен абмеркаваць гэтае пытаньне і пайсьці насустрач настаўнікам чужаземнай мовы.

**ЯН ЧАРНЕЦКІ**

# ПЕРАБУДАВАЦЬ РАБОТУ, ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ТЭМПЫ

*(Па матар'ялах брыгады)*

У мінулым нумары «Комуністычнага Выхаваньня» мы выкарысталі толькі частку матар'ялаў брыгады, фактычна зачапіўшы толькі два пытаньні: прыстасаваньне школ Капыльскага раёну да суцэльнай колектывізацыі раёну і пастаноўку інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня.

У гэтым артыкуле мы застановімся на цэлым шэрагу іншых важнейшых пытаньняў работы школ, якія маюць вялікае значэньне ў сыстэме выхаваўчай практыкі.

### Антырэлігійнае выхаваньне

Сярод гэтых пытаньняў, мабыць, у першую чаргу трэба гаварыць пра антырэлігійнае выхаваньне ў школах. Антырэлігійнае выхаваньне ў нашых школах і на сёньняшні дзень і на заўтрашні зьяўляецца яшчэ актуальнейшым пытаньнем. Школы, выхоўваючы актыўнага колгасьніка, рабочага соцыялістычнай фабрыкі, заводу, павінны выхаваць ваяўнічага атэіста, непрымірымага барацьбіта супроць усялякага рэлігійнага дурману.

Антырэлігійная работа школ павінна ісьці па двух напрамках: узьдзейнічаньне на дзіцячае асяродзьдзе, г. зн. у першую чаргу работа з бацькамі, і другое—антырэлігійнае выхаваньне дзяцей.

Ня першы год савецкая пэдагогіка выпукляе гэтае пытаньне, як актуальнейшае, і здавалася-б, што пара ўжо гэтую работу наладзіць, пара набыць патрэбны вопыт, гэтым вопытам абмяняцца, удасканаліць работу, але, на вялікі жаль, прыходзіцца констатаваць, што ня ўсе яшчэ школы практычна падыйшлі да гэтага пытаньня. Мы прасачылі гэта на матар'ялах 13 масавых школ і 3-х сямігодак. Большасьць гэтых школ праводзіць антырэлігійнае выхаваньне кампанейскі. Надзвычайна мала зроблена настаўнікамі ў адносінах увязкі антырэлігійных момантаў з програмным матар'ялам, дзякуючы чаму атрымоўваецца разрыў паміж програмным матар'ялам і матэрыялістычным сьветапоглядам на гэты матар'ял. Побач з гэтым у некаторых школах мы сустрэлі надзвычайна каштоўныя спробы сыстэматычнай увязкі антырэлігійнага матар'ялу з програмным матар'ялам. Настаўнікі гэтых школ з усёй сур'ёзнасьцю і адказнасьцю падыйшлі да пытаньня антырэлігійнага выхаваньня, завастрылі на ім увагу. Школьны савет Цімкаўскай яўрэйскай чатырохгодкі 4 разы ставіў і абгаварваў пытаньне антырэлігійнай работы і ў школе і з бацькамі. Пэдсавет гэтай-жа школы вынес пастанову пра абавязковую ўвязку антырэлігійных момантаў з выкладаньнем кожнага настаўніка, у выніку чаго школа і мае дасягненьні. Антырэлігійнае выхаваньне праводзіцца сыстэматычна і штодзённа. Школа рэагуе на кожнае рэлігійнае сьвята. Перад кожным рэлігійным сьвятам распрацоўваецца клясавая сутнасьць гэтага сьвята. Вядзецца антырэлігійнае выхаваньне з бацькамі. Працуе гурток ваяўнічых бязбожнікаў.

У Быстрыцкай школе настаўнікамі дасканала распрацаваны і ўведзены амаль у кожную тэму антырэлігійныя моманты, таксама працуе гурток бязбожнікаў.

Больш школ, з ліку правераных, дзе-б вялося сыстэматычнае антырэлігійнае выхаваньне, няма. Праўда, гурткі бязбожнікаў, якія мы лічым таксама, як адно з мерапрыемстваў антырэлігійнага выхаваньня дзяцей, існуюць, акрамя памянёных школ, у Руднянскай, Вусаўскай школах і ўсіх сямігодках. Работу з бацькамі вучняў праводзяць абедзьве Капыльскія сямігодкі (беларуская і яўрэйская), адзін сход бацькоў на гэту тэму праведзены Руднянскай школай, а астатнія школы ніякай сыстэмы ў гэтай рабоце ня маюць, праводзяць яе ад выпадку да выпадку.

Некаторыя настаўнікі лічаць, што яны ўжо ўсё зрабілі на антырэлігійным фронце, што ўсе вучні бязбожнікі, і па іхняму

частыя размовы на гэту тэму проста «лішні шум», што «на справе куды лепш, як людзям думаецца». У такім духу з намі гутарыў настаўнік Прускай школы ды інш. Гэтае бахвальства ёсьць простая спроба замазаць войстрасьць пытаньня, апраўдаць сваю бязьдзейнасьць.

Мы зусім ня зьбіраемся адмаўляць дасягненьні, якія савецкая школа мае ў справе антырэлігійнага выхаваньня, мы гэтыя дасягненьні паказвалі на конкрэтных фактах некаторых школ, і характэрна, што настаўнікі тых школ, дзе гэтая работа пастаўлена ня дрэнна, ня хваляцца, ня лічаць, што яны ўсё зрабілі, а менавіта, таму і выпукляюць гэты фронт работы, як больш адказны. А ў тых школах, дзе настаўнікі зьбіраюцца «пачываць на лаўрах», мы сустрэліся з цэлым шэрагам недахопаў, як напрыклад: масавае ненаведваньне вучнямі заняткаў у рэлігійныя сьвяты, а гэта ніяк не адпавядае іхняй ацэнцы. Пацьвердзім гэта жывымі фактамі.

У Дамантаўскай школе ў першы дзень каляд з 35 вучняў прысутнічала ўсяго 14 вучняў, альбо адсутнічала 60 проц.

У Рачковіцкай адсутнічала 50 проц.

У Чарнагубаўскай школе адсутнічала 70 проц.

У Руднянскай з 74 вучняў адсутнічала 36.

У Крывасёлкаўскай школе па трох групах—4, 3 і 2—у першы дзень каляд адсутнічала 50 чал., на другі—51 чал., трэці—22.

Гэтыя факты ні ў якім разе не гавораць за тое, што антырэлігійнае выхаваньне ў гэтых школах на вышыні. Чым абумоўлены такі вялікі процант прагульшчыкаў? Тым, што антыкалядная кампанія ў гэтых школах ня была разгорнута, тым, што сыстэматычнага антырэлігійнага выхаваньня ў гэтых школах не вялося як з вучнямі, так і з бацькамі. Мы пераконаны ў тым, што каб ведалі тыя вучні, якія ня прышлі на заняткі, што каляды, рэлігія, царква зьяўляюцца зброяй у руках нашага клясавага ворага, каб яны ведалі пра тое, што рэлігія выступае супроць пролетарскай рэволюцыі, супроць савецкай улады, яны-б гэтага не зрабілі. І на самай справе, вельмі часта антырэлігійнае выхаваньне праводзіцца пры адсутнасьці клясавай устаноўкі. Напрыклад, настаўніца Комсіцкай школы, праводзячы гутарку пра каляды, зусім не закранула клясавай сутнасьці гэтага сьвята і рэлігіі, а гутарыла аб шкоднасьці каляд, толькі з таго пункту погляду, што ў гэтыя дні людзі вельмі багата п'юць самагонкі, б'юцца, лаюцца і г. д. А каб на каляды ня пілі самагонкі, альбо выпілі спакойна, дык ня трэба было-б і выступаць супроць каляд. Так выходзіць, калі быць пасьлядоўным і працягнуць яе гутарку да канца. Зазначым, што настаўнікі абсолютна не рэагавалі на такое вялікае ненаведваньне вучнямі школ у калядныя сьвяты. Яны ня выкарасталі гэтых матар'ялаў, каб завастрыць перад вучнямі пытаньне барацьбы з рэлігійнымі сьвятамі і рэлігіяй у цэлым. Разам з гэтым частка вучняў (праўда, невялікая) замест школы ў рэлігійныя сьвяты наведвае царкву, веруе ў бога, носіць крыжыкі. У III і II групах Руднянскай школы, па заяве саміх вучняў, у царкву ходзяць чатыры вучні, якія сьцьвярджаюць, што бог ёсьць. У I і II групах Ляшнянскай школы 2 ходзяць у царкву і адзін носіць крыжык. У Комсіцкай школе таксама некалькі вучняў ходзяць у царкву. У Дамантаўскай школе ў часе гутаркі ў групе адзін вучань так і заявіў—«бог ёсьць».

Гэтая катэгорыя вучняў, як бачыце, ніколькі не захоўвае сваіх рэлігійных уяўленьняў, яна ўслух заяўляе аб тым, што «бог ёсьць», ходзіць у царкву, носіць крыжыкі. Школа ня здолела вырваць іх з барбарскіх рук цемры, рэлігійнага дурману, бо гэтым не займалася, гэтым ня цікавілася, і зараз гэтыя факты ніколькі не хвалююць і ня турбуюць настаўнікаў памянёных школ. Гэтым нашым недахопам бязумоўна радуюцца папы, сэктанты і ўсе нашыя клясавыя ворагі. Яны шукаюць нашых слабых бакоў, каб самім там замацавацца. Вывады нашай праверкі, якія былі зачытаны на раённай настаўніцкай конфэрэнцыі, выклікалі вялікую зацікаўленасьць з боку настаўнікаў. Дэлегаты прынялі актыўны ўдзел у абгаварэньні недахопаў сваёй работы, што адзначана ў вывадах. Праўда, асьветнікі яшчэ недастаткова навучыліся браць пад аб-

стрэл рашучай бальшавіцкай самакрытыкі сваю работу, некаторыя спрабавалі апраўдацца перад конфэрэнцыяй, заяўляючы, што «ў нас ходзяць у царкву не чатыры, а толькі два» (настаўнік Руднянскай школы Валькоўскі) і г. д., не адмаўлячы, бязумоўна, саміх фактаў.

Работа брыгады падштурхнула шмат якіх настаўнікаў да самаправеркі, прымусіла глыбей заглянуць у сваю работу па антырэлігійнаму выхаваньню, вывучыць сапраўдныя ўяўленьні вучняў па гэтым пытаньні.

Ня так даўно, будучы ў Менску, да мяне зайшоў загадчык Песачанскай сямігодкі падзяліцца становішчам антырэлігійнай работы ў сваёй школе і парадзіцца, як лепш яе паставіць. Гэты таварыш, пасьля конфэрэнцыі і нашых вывадаў, прыехаўшы да сябе ў школу, зацікавіўся пастаноўкаю антырэлігійнага выхаваньня, арганізаваў праверку гэтай работы, правёў вывучэньне рэлігійных настрояў дзяцей. Зрабіўшы гэта, перад ім паўстала ва ўсёй прынцыповай вышыні гэтае пытаньне, і ён адкрыта прызнаўся, што ў іх дрэнна яшчэ пастаўлена справа антырэлігійнага выхаваньня. Выявіліся факты наведваньня вучнямі царквы і нашэньня крыжыкаў і г. д. Акрамя гэтага, сярод «ваяўнічых» бязбожнікаў у школе ёсьць такія, якія вераць у бога. Бацькі гэтых вучняў самі вучаць, каб у школе яны былі бязбожнікамі. Нават новы і ветхі законы некаторымі вучнямі вывучаюцца дома. Такім чынам, пасьля школы частка вучняў падлягае ня меншай індывідуальнай апрацоўцы дома, можа і пры дапамозе папа. Я з гэтым таварышом поўнасьцю згодзен, што наш настаўнік не заўсёды ведае, у якіх умовах вучань праводзіць свой час дома, чым ён там харчуецца (ідэолёгічна), хто на яго ўплывае і, зусім магчыма, што вучні цэлы шэраг нездаровых настрояў, альбо неправідловых уяўленьняў носяць скрыта, у школе аб гэтым не гаворачы, а наадварот, глыбей захоўваючы іх, выдаючы сябе актыўнымі бязбожнікамі. У Цімкаўскай сямігодцы адзін вучань VII клясы выявіў сваю рэлігійнасьць толькі тады, калі абгаварвалася пытаньне ў школе аб перадачы царквы пад клюб, выступіўшы супроць гэтага, а да гэтага аб ім, як веруючым, ніхто ня ведаў. Усё гэта толькі падкрэсьлівае, што яшчэ мала зроблена, што трэба больш, куды больш зрабіць, каб з нашых дзяцей выхаваць сапраўдных ваяўнічых бязбожнікаў. Больш зацікаўленасьці, больш сур'ёзнасьці да гэтай работы і больш адказнасьці за яе. Антырэлігійнае выхаваньне павінна праводзіцца штодзённа і сыстэматычна, гэта ёсьць важнейшая частка комуністычнага выхаваньня дзяцей. Перад дзяцьмі трэба выкрыць усю клясавую аснову рэлігіі, ня толькі ў сучасным, але і ў мінулым, каб у дзяцей не стваралася такая думка, што «толькі цяпер папы сталі дрэннымі, а раней былі лепшымі» і г. д. Трэба растлумачыць дзецям на прыкладах, што гісторыя ўтварэньня рэлігіі—гэта гісторыя ашуканства, зьдзекаў, эксплёатацыі папамі, капіталістымі працоўных мас. У гэтым жа напрамку, як непадзельная частка антырэлігійнага выхаваньня дзяцей, павінна весьціся работа з бацькамі. Школы яшчэ не разгарнулі гэтай работы з бацькамі. А паміж іншым зараз мы маем надзвычайна спрыяючую глебу для гэтай работы. Антырэлігійны рух сярод працоўных мас вёскі набывае зараз масавы характар. Над цэрквамі ўсё часьцей і часьцей ўздымаюцца чырвоныя сьцягі—сымбалі перамогі пролетарскай культуры над культурай бізуна і кадзіла. Задачы школы—дапамагчы рабочаму, селяніну канчаткова вызваліцца ад рэлігійнага дурману.

Рэлігія, як вядома, расьце ў тых пластоў насельніцтва, у тых людзей, якія, пападаючы ў цяжкія ўмовы жыцьця, не знаходзяць у сябе сіл выбрацца з гэтых цяжкасьцяй, а таксама ня бачаць, хто-б ім мог дапамагчы, а таму і зьвяртаюцца за дапамогаю да цуда, бога ды розных сьвятых. Такімі людзьмі ў большасьці зьяўляюцца дробныя вытворцы, сяляне, ня зьвязаныя клясавай еднасьцю. Суцэльная колектывізацыя акруг і вобласьцяй наносіць рашучы ўдар дробнай індывідуальнай гаспадарцы, замяняючы яе буйнаю колектыўнаю гаспадаркаю, наносіць рашучы, руйнуючы ўдар капіталістычным элемэнтам, а разам з гэтым і ўдар рэлігіі, якая базуецца на прыватнай уласнасьці і дробнай таварнай вытворчасьці. Працоўныя масы актыўна

змагаюцца на фронце соцыялістычнай перабудовы вёскі. Гэтая работа патрабуе не царкоўнага дурману, а ўздыму рэволюцыйнай і культурнай сьвядомасьці. Школа павінна выступіць актыўным змагаром супроць рэлігійнага дурману, з старым богам, за новы быт, за чыстату пролетарскай культуры.

### Грамадзкая работа школы

Мы ня будзем спыняцца на тым вялізарным выхаваўчым значэньні, якім зьяўляецца ўдзел дзяцей у грамадзкай рабоце як у горадзе, так і на сяле.

Грамадзка-карысная работа школы зьяўляецца формай практычнага ўдзелу вучняў у соцыялістычным будаўніцтве, праз удзел у цэлым шэрагу політычна-гаспадарчых мерапрыемстваў і кампаній, якія праводзяцца комуністычнай партыяй і савецкай уладай; вучню прышчапляецца цэлы шэраг надзвычайна каштоўных звычак практычнай работы. Акрамя гэтага, актыўна выступіўшы на фронт грамадзкай работы, школа можа аказаць і аказвае вялікую дапамогу мясцовым органам у правядзеньні важнейшых мерапрыемстваў улады і партыі. Гэтым самым яна ўдзельнічае ў тэй абвостранай клясавай барацьбе, якая зараз адбываецца ў сувязі са шпаркім ростам соцыялістычнага сэктару ў народнай гаспадарцы. Вось гэтыя асаблівасьці нашай савецкай школы і адрозьніваюць яе ад старой буржуазнай школы.

«У гэтых (старых) школах,—кажа Ленін,—маладое пакаленьне рабочых і сялян ня столькі выхоўвалі, сколькі нацягвалі ў інтарэсах тэй-жа буржуазіі. Выхоўвалі іх так, каб стварыць для яе прыгодных служак, каторыя былі-б здольны даваць ёй прыбытак і разам з гэтым не турбавалі яе супакою і бязьдзельля» (Ленін, т. XVII).

Зусім адваротныя задачы стаяць перад нашай школай. Мы павінны выхоўваць маладое падрастаючае пакаленьне ня ў духу пакорлівасьці і «сьмірэньня», а ў духу непрымірымай клясавай барацьбы з ворагамі пролетарыяту, у духу рашучага выкарчоўваньня капіталізму і будаўніцтва комуністычнай грамады. Значыць, маладое пакаленьне трэба вучыць комунізму. Але, практычна вырашаючы гэтую задачу, мы заўсёды павінны добра памятаць наступнае паказаньне нашага вялікага настаўніка: «Яно (маладое пакаленьне) можа вучыцца комунізму, толькі зьвязваючы кожны крок свайго вучэньня, выхаваньня і адукацыі з бесьперапыннай барацьбой пролетараў і працоўных супроць старой эксплёататарскай грамады» (Ленін, т. XVII).

Выканаць гэты завет Леніна школа можа, толькі акунуўшыся ў грамадзкую работу, прымаючы практычны ўдзел у правадзімай рабоце па буданўіцтву соцыялізму.

«Мы ня верылі-б вучэньню, выхаваньню і асьвеце, калі-б яно было загнана толькі ў школу і адарвана ад бурнага жыцьця» (Ленін, т. XVII).

Пакуль школы заставаліся ў руках памешчыкаў і капіталістых, вучнёўская моладзь была сьляпой і цёмнай, яна была зьвязана па руках і нагах паліцэйскай дысцыплінай. Дзеці працоўных не маглі ў гэтых школах атрымаць асноўных ведаў.

«А наша школа павінна даваць моладзі асноўныя веды, даваць уменьне выпрацоўваць самім комуністычныя погляды, павінна зрабіць з іх адукаваных людзей. Яна павінна ў той час, пакуль людзі ў ёй вучацца, рабіць з іх удзельнікаў барацьбы за вызваленьне ад эксплёататараў» (Ленін, т. XVII).

«Без работы, без барацьбы кніжныя веды комунізму з комуністычных брошур і твораў роўна нічога ня варты, бо яны працягвалі-б стары разрыў паміж тэорыяй і практыкай, той стары разрыў, які складаў самую агідную рысу старой буржуазнай грамады» (Ленін, т. XVII).

У гэтай сваёй прамове на зьезьдзе комсамолу т. Ленін намеціў цэлую програму, цэлы шлях, на які павінна была стаць наша школа ў выхаваньні маладога пакаленьня, у выхаваньні практычных будаўнікоў соцыялізму. Школа наша стала на гэты шлях, яна перапляла тэорытычную падрыхтоўку дзяцей з практычным удзелам іх у соцыялістычным будаўніцтве. На сёньняшні дзень наўрад ці можна

знайсьці хоць адну школу, якая-б не правяла тае або іншае грамадзка-карыснае работы.

Але сучасны этап патрабуе і ад школы большай актыўнасьці, большага ўдзелу ў практычнай рабоце па будаўніцтву социялізму, у барацьбе супроць рэштак капіталізму, у барацьбе з варожай пролетарыяту ідэолёгіяй.

Школа павінна ўзяць бальшавіцкія тэмпы ў сваёй рабоце. І вось калі падыйсьці з гэтага пункту гледжаньня да грамадзкай работы школ, з пункту гледжаньня тэмпаў, дык тут вось і ня ўсё добра. Калі сямігодкі занялі месцы ў авангардзе, дык масавая школа яшчэ цягнецца ў хвасьце і па тэмпах і па характару грамадзка-карыснай работы. А каштоўнай грамадзка-карыснай работай зараз у вёсцы трэба лічыць тую работу, якая садзейнічае социялістычнаму ператтварэньню сельскай гаспадаркі, якая накіравана на пашырэньне і замацаваньне колгаснага руху.

Па матар'ялах работы школы на фронце колектывізацыі, мы азначаем ня толькі ступень грамадзкай падрыхтаванасьці вучняў, але і напрамак усёй работы, усяго выхаваньня ў школе, а таксама і працаздольнасьць вучнёўскіх організацый.

Сямігадовыя школы Капыльскага раёну, правільней будзе, калі мы скажам— вучні другога концэнтру гэтых школ, узброена выйшлі на гэты фронт.

Вучнёўскія брыгады з старэйшых вучняў пад кіраўніцтвам партыйных ячэек зьяўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі ў організацыі колгасаў. Праводзяць ня малую работу па прасоўваньню колгаснай літаратуры ў масы, дапамагаюць весьці культасьветную работу ў колгасах ды інш.

Капылькая яўрэйская сямігодка праводзіць сумесныя вечары з колгасам «Перац», дзе праводзіць антырэлігійную работу.

Масавыя школы, якія мы вывучалі, у той час яшчэ ніякай работы па колектывізацыі не праводзілі.

Акрамя работы па колектывізацыі, вучні вясковых сямігодак прымаюць актыўны ўдзел у цэлым шэрагу політычных кампаній, якія праводзяцца партыяй і ўладай на сяле. Вучні гэтых школ праводзяць вялізарнейшую грамадзкую работу, круг пытаньняў, што патрабуюць актыўнага ўдзелу школ, надзвычайна шырокі.

Для характарыстыкі падамо пералік грамадзка-карыснай работы, якая праведзена і праводзіцца Капыльскай беларускай сямігодкай.

1. Актыўна ўдзельнічалі ў вясеньняй пасеўнай кампаніі. Работу гэту праводзілі групы вучняў, якія разыходзіліся па вёсках, прапагандавалі ачыстку насеньня і самі практычна дапамагалі ў ачыстцы, уся гэта работа праводзілася мэтодамі социялістычнага спаборніцтва паміж асобнымі групамі.

2. У часе рэалізацыі III пазыкі індустрыялізацыі была пастаўлена задача, каб кожны вучань загітаваў свайго бацьку падпісацца ня менш як на 5-рублёвую облігацыю. Акрамя гэтага, вучні другога концэнтру самі падпісаліся на 300 руб.

3. Вучні другога концэнтру ўдзельнічалі ў правядзеньні сходаў па самаабкладаньню.

4. У часе хлеба- і бульбазагатовак праведзены сходы; вучнёўскія брыгады працавалі па прыёму збожжа і бульбы.

5. Сабрана больш 1000 мяшкоў.

7. Сабрана 3 вазы макулятуры і 5 вазоў лому.

8. Сабрана 46 руб. на трактарную колёну і 18 руб. у фонд індустрыялізацыі.

9. Прымалі ўдзел у выяўленьні няпісьменных батракоў.

10. Прымалі ўдзел у кампаніі зьберажэньняў. 107 вучняў зьяўляюцца ўкладчыкамі касы ашчаднасьці на суму 630 р.

11. Школа была ініцыятарам зачыненьня царквы ў м. Копылі, правёўшы грунтоўную работу з бацькамі, а потым накіраваўшы вучнёўскія брыгады па збору подпісаў.

12. Сіламі вучняў праводзіцца ліквідацыя няпісьменнасьці сярод 200 няпісьменных, што бязумоўна зьяўляецца вялізарнай заслугай школы.

Мы пералічылі толькі важнейшыя віды грамадзкай работы, у якіх школа прыняла ўдзел; гэты сьпіс можна значна павялічыць.

Але і гэтага досыць, каб паказаць, што школа праводзіць вялікую грамадзкую работу, што яна практычна ўдзельнічае

ў соцыялістычным будаўніцтве, цесна пераплятаючы вучобу па падручніках з практычнай работай.

А гэтым мы наносім руйнуючы ўдар аднаму «з самых вялікіх няшчасьцяў, што засталіся нам ад старой капіталістычнай грамады, гэта—поўны разрыў кніжкі з практыкай быцьця» (Ленін).

Мы спыніліся на Капыльскай беларускай сямігодцы не таму, што другія гэтай работы не праводзяць,—вялікая грамадзкая работа праводзіцца ўсімі сямігодкамі раёну, але гэтая ідзе ўперадзе, і таму мы тут выкарысталі яе матар'ял.

Але калі сямігодкі (мы тут гаворым пра вясковую сямігодку) ужо знайшлі верны шлях грамадзка-карыснай работы, калі тут мы ўжо маем значныя дасягненьні, дык гэтага яшчэ нельга сказаць пра масавыя школы. Праўда, і тут таксама мы маем вялікі зрух у бок уцягненьня вучняў у грамадзкую пасільную ім работу, але яшчэ недастатковы. Як мы ўжо адзначалі, у рабоце па колектывізацыі масавыя школы (праверяныя) ня прымалі ўдзелу. У рэалізацыі III пазыкі індустрыялізацыі прынялі ўдзел толькі дзьве школы (Руднянская і Цімкаўская яўрэйскія чатырохгодкі). У хлебазагатоўках прымалі ўдзел толькі чатыры школы. Большая колькасьць школ прымала ўдзел у зборы лому, макулятуры, мяшкоў і ўтыльсыравіны. У ліквідацыі няпісьменнасьці, акрамя сямігодак, прымала ўдзел толькі Быстрыцкая школа, якая вылучыла для гэтай работы 9 вучняў. Наогул, слаба ўдзельнічаюць у грамадзкай рабоце школы: Дамантаўская, Кулакоўская, Комская, Руднянская, Ляшнянская, Чарнагубаўская і Вусаўская.

Віна за слабую пастаноўку грамадзкай работы кладзецца цалкам на організатара школьнай работы—настаўніка. У нас школа без грамадзка-карыснай работы не зьяўляецца школай комуністычнага выхаваньня.

Нельга недаацэньваць такога моцнага выхаваўчага фактару, як удзел вучняў у вялікай творчай рабоце, што адбываецца навакол школы, як практычны ўдзел вучняў у барацьбе з рэшткамі капіталізму. Той, хто ня выводзіць школу на фронт гэтай барацьбы, хто ізолюе яе ад практычнай работы па соцыялістычнаму будаўніцтву, зьяўляецца опортуністым на школьным фронце, і з гэтым адценьнем опортунізму мы павінны так жа рашуча змагацца, як мы змагаемся з опортунізмам у іншых галінах нашага будаўніцтва.

Мы сталі перад такімі фактамі, калі вучні некаторых школ на грамадзкай рабоце значна перарасьлі сваіх настаўнікаў. Мы сустрэліся з такімі фактамі ў Цімкаўскай сямігодцы, дзе вучням часам прыходзіцца з баямі адстойваць грамадзкую работу. Некаторыя настаўнікі гэтай сямігодкі ня то што не стаяць на чале гэтай работы, а аказваюць супраціўленьне ўдзелу вучняў у грамадзкай рабоце, ігноруючы тых вучняў, якія зьяўляюцца актыўнымі грамадзкімі працаўнікамі, пагражаючы ім, процістаўляючы падрыхтоўку заданьняў грамадзкай рабоце. Такой, прыблізна, думкі трымаецца і загадчык сямігодкі Шахлевіч. Гэты сваясаблівы опортунізм у школе, што праяўляецца з боку некаторай часткі настаўніцтва, накіраваны па сутнасьці на падрыў работы па падрыхтоўцы кадраў, павінен сустракаць рашучы адпор.

### Як працуе вучнёўскае самакіраўніцтва

Трэба сказаць, што яшчэ да гэтага часу ў многіх вясковых школах школьнае самакіраўніцтва ня ведае, не ўяўляе добра, якімі пытаньнямі работы яно павінна займацца. Плянаў работы ня маюць, не організуюць і ня кіруюць грамадзкай работай унутры школы. І калі школы праводзяць значную грамадзка-карысную работу па-за школай, дык у самой школе (за выключэньнем адзінак) грамадзка-выхаваўчая работа пастаўлена дрэнна. Школьнае самакіраўніцтва ў сваёй рабоце яшчэ не падыйшло шчыльна да вытворчай работы школы.

У сямігодках недастаткова разгорнута самакрытыка вытворча-акадэмічнай работы і, у прыватнасьці, работы настаўнікаў. Гэта асабліва рэзка выявілася ў Цімкаўскай сямігодцы. Загадчык гэтай сямігодкі ніяк ня можа дапусьціць, каб вучні крытыкавалі работу, адносіны да работы, паводзіны настаўнікаў. Па яго думцы, гэтыя пытаньні павінны вырашацца ў адміністрацыйным парадку. Зразумела, што такія адносіны настаўнікаў

да работы вучнёўскіх організацый, абмежаваньне іх вузкімі рамкамі зводзіць да нуля іх работу, і тут ні старыя, ні новыя сэкцыйна-зьвеньневыя формы ня змогуць ператварыць школьныя організацыі з мёртвых у актыўных удзельнікаў школьнага будаўніцтва, у актыўных організатараў школьнага колектыву як на вучобе, так і на грамадзкай рабоце.

Новыя формы могуць даць вынікі толькі пры ўнясеньні яснасьці ў гэта пытаньне, калі яны будуць дэталёва прапрацаваны з вучнямі. Настаўнік павінен ня звужаць работу самакіраўніцтва, а спрыяць яе пашырэньню, разгортваючы вучнёўскую самакрытыку.

### Пра дапамогу бяднейшым вучням

Справа з дапамогай бяднейшым вучням у асноўным пастаўлена ня дрэнна. Кожная школа па соцспаборніцтву ўзяла на сябе абавязак павялічыць фонды дапамогі да вызначаных конкрэтных лічбаў. Работа ў гэтым напрамку праведзена і праводзіцца вялікая.

Некаторыя школы (Быстрыцкая, Цімкаўская яўр. чатырохгодка) поўнасьцю забясьпечылі дзяцей беднаты.

Па здабыцьцю сродкаў у фонд дапамогі наперадзе ідуць сямігодкі. Так, беларуская Капыльская сямігодка задаволіла дзяцей беднаты на суму 389 руб., яўрэйская—300 руб., Цімкаўская сямігодка—296 руб. 6 кап. У астатніх школах збор сродкаў усё-ж праходзіць слабавата. Некаторымі школамі ня выконваюцца ўзятыя па соцспаборніцтву абавязацельствы.

Напрыклад, у Ляшнянскай школе, замест 30 руб. па соцспаборніцтву, пакуль што сабрана толькі 10 р. 63 кап.; у Прускай, замест 50 руб., сабрана 20 руб.; у Кулакоўскай школе на 22 вучні беднаты сабрана ўсяго 2 р. 22 кап.; у Комсіцкай школе на 32 чал. сабрана 14 руб.; у Руднянскай школе сабрана ўсяго 8 руб. 56 к. на 14 вучняў беднаты. Як гэтыя школы, так і некаторыя іншыя, не праяўляюць належнай ініцыятывы ў падшуканьні сродкаў, а выкарыстоўваюць толькі сродкі РВК. Вучнёўскія організацыі ня ўцягнуты ў работу па адшуканьні сродкаў у фонд дапамогі беднаце.

Сродкі разьмяркоўваюцца комісіямі з удзелам прадстаўнікоў ад мясцовых партыйных, профэсійных і савецкіх організацый, а таксама і груп беднаты. Скрыўленьне клясавай лініі пры разьмеркаваньні фондаў мы заўважылі толькі ў Кулакоўскай і Цімкаўскай сямігодках, дзе былі выпадкі пры няпоўнай забясьпечанасьці дзяцей батракоў і беднаты, аслабанёнай ад падатку, выдачы абутку дзецям серадняков.

Профколектывы павінны напомніць некаторым школам пра ўзятыя на сябе па соцспаборніцтву абавязкі і патрабаваць ад іх праяўленьня больш ініцыятывы ў адшуканьні сродкаў, прыцягнуўшы да гэтай справы вучнёўскае самакіраўніцтва і бацькоў.

### Некалькі заўваг пра школьны друк

Гэтае пытаньне заслугоўвае, каб на ім спыніцца больш падрабязна.

Школьны друк заваяваў сабе моцнае месца ў школе. Насьценгазэты зьяўляюцца прыналежнасьцю самых нават захалусных школ, і ў гэтым напрамку мы маем вялізарнейшыя посьпехі. Больш таго, у цэлым шэрагу школ гарадзкіх і вясковых, акрамя насьценгазэт, выпускаюцца нават рукапісныя часопісі. Такая часопісь выходзіць і ў Цімкаўскай сямігодцы.

Масавы рост мясцовага школьнага друку зьяўляецца адным з каштоўнейшых дасягненьняў савецкай працоўнай школы. Але гэтае дасягненьне можа мець рэальныя вынікі тады, калі ўзрастаючыя школьныя газэты і часопісі будуць дзейнымі сіламі, калі яны будуць зьяўляцца зброяй барацьбы з недахопамі, організатарамі школьнага колектыву навакол асноўных пытаньняў работы школы, калі яны будуць запоўнены баявым зьместам.

Перад гэтым мы адзначылі цэлы шэраг недахопаў у рабоце масавых школ і разам з гэтым адзначылі, што школьны друк недастаткова займаўся важнейшымі пытаньнямі работы школы, не ў належнай меры мобілізаваў вучнёўскія масы на барацьбу з гэтымі недахопамі, недастаткова змагаўся за бальшавіцкія тэмпы работы, а таксама і за клясава-вытрыманы зьмест выхаваньня.

Першае, што кідаецца ў вочы пры праглядзе насьценгазэты, гэта яе бяззубасьць, неразгорнутасьць самакрытыкі.

Надзвычайна недастаткова знаходзяць адбітак у насьценгазэтах пытаньні вучобы, соцспаборніцтва, колектывізацыі ды іншыя пытаньні выхаваньня. Затое шмат месца ў насьценгазэтах і часопісях займаюць літаратурныя аддзелы, дзе зьмяшчаецца мастацкая творчасьць дзяцей, а бывае—і настаўнікаў. Не выступаючы супроць імкненьняў стаць поэтай ці пісьменьнікам, я ўсё-ж хачу прывесьці пару прыкладаў аб напрамку, зьмесьце, а разам з гэтым і клясавай вартасьці гэтай творчасьці. Справа ў тым, што ў шмат якіх выпадках гэтая творчасьць носіць мяшчанска-упадніцкі характар: смакуе «любовь», «розы», «пацалункі»,—падмяняючы ўсім гэтым клясава-пролетарскі зьмест буржуазным.

Пры недастатковай політычнай пісьменнасьці і практычнасьці рэдколегій і пры адсутнасьці грамадзкага контролю і дапамогі ў рабоце рэдколегій з боку настаўнікаў гэтыя «пэрлы» мастацкага сюсюканьня пападаюць у насьценгазэты і часопісі і з захапленьнем чытаюцца вучнямі.

Перад намі часопісь «Школьнік»—выданьне вучняў Цімкаўскай сямігодкі, № 1 за 1929-30 навучальны год. У нумары 10 твораў, сярод якіх 6 мастацка-літаратурных. З астатніх 4 артыкулаў толькі адзін (пра соцспаборніцтва) на ўнутрышкольную тэму. Праўда, у нумары, акрамя гэтага, ёсьць каштоўны актуальны матар'ял, як артыкул да 10-годзьдзя Кім'у, вершаваны водгук на сьмерць поэты Труса. Але нумар не пазбаўлен цэлага шэрагу політычных памылак. У завяршэньне да гэтых памылак у часопісі зьмяшчаецца апавяданьне «Каля сажалкі».

«Ну, мамка, я іду заўтра служыць да пана», казаў Лявон сваёй старэнькай маці...

Чаму-ж не, ідзі—казала матка:—да восені паслужыш, заробіш грошай ды можа купім кароўку...» Так пачынаецца гэта апавяданьне. Але сутнасьць не ў пачатку, а ў канцы. Лявон рашыў і выканаў. Назаўтра накіраваўся да пана Івановіча. Перад гэтым, як палагаецца, «моцна сьціснулася матчына сэрца». «Яна яго цалавала ў светлыя вочы і галоўку і аблівала яго твар гарачымі сьлязьмі».

Нам здаецца, што зусім дарэмна пралівала сьлёзы Лявонава маці, яе сын Лявон аказаўся шчасьлівым (?), гэтае шчасьце яму даў пан Івановіч, а «маёнтак пана Івановіча быў вялікі, багаты і харошы,—ня было роўных нідзе». Пахваліўшы панскі маёнтак, аўтар пераходзіць да панскай дачкі Ганны, з якой зьвязвае шчасьце батрака Лявона. Гэтая дачка пана «ня чула ласкавага слова ад бацькі. (Якая бядняжка—*Я. Ч.)*. Ня бачыла сьвецкіх людзей таму, што бацька яе шкадаваў грошы на балі» (зусім няшчасная.—Я. Ч.). І вось разьвязваецца жыцьцёвы вузел панны Ганны, толькі з паступленьнем Лявона на службу да пана Івановіча, разгараецца паміж імі роман. Перад гэтым вось як «люба-міла» аўтар рысуе жыцьцё батрака ў абшарніка: «Лявон самім панам (вялікі гонар для Лявона!—*Я. Ч.)* быў назначан пільнаваць сад. Работа гэта падабалася Лявону, і ён з ахвотай выконваў яе. Часта у сад прыходзіла Ганна. Лявон з ёй гаварыў, сьмяяўся. Ганне Лявон з першага погляду казаўся харошым, таксама і Лявон лічыў вялікім шчасьцем гуляць з Ганнай. Далей Ганна моцна пачала любіць (?) Лявона».

«Ці гэта сон, ці сапраўднасьць, што ты мяне кахаеш?» пытаў Лявон.

«Лявонка, я без цябе жыць не магу», адказвала Ганна, некалькі пацалункаў пацьвердзілі гэта.

Вось дзе хавалася шчасьце беднага батрака Лявона. Ці патрэбна пасьля гэтага клясавая барацьба, ліквідацыя кулацтва, як клясы, будаўніцтва соцыялізму?

Апавяданьне дае другія шляхі выхаду з палажэньня. Гэтыя шляхі ня нашы, і само апавяданьне, нават адкінуўшы некаторую бязуглязьдзіцу, зьяўляецца па зьместу контррэволюцыйным. Аўтар імкнецца затушаваць клясавую нянавісьць да абшарніка, памясьціць у адным пакоі за адным сталом і пана і батрака.

Гэта мела месца ў *сямігодцы,* падкрэсьліваю—у сямігодцы, дзе працуюць два комуністы, дзе цэлы колектыў настаўнікаў, і ніхто ня прымае ўдзелу ў выпуску гэтай часопісі. Ніхто не дапамагае зрабіць яе клясава-вытрыманай. Недапу-

шчальныя адносіны настаўнікаў да справы комуністычнага выхаваньня.

У гэтай школе выходзіць і насьценгазэта, у якой таксама не бяз гэтага. Напрыклад, у адным з нумароў зьмяшчаецца верш:

**„Р О З Ы“**

*(Посвящаю К. Н. и К. А*:

Розы приветно в саду расцветают.
Радости сколько дают.
Радости сердца они восхищают,
Кличут к себе отдохнуть,
Кличут, что-б ты в обаянии
Сладкую песнью им пел“.

. . . . . . . . . . . . .

**І далей**

„И Вы, как прекрасная роза
Благородно собой расцвели,
Как восхищенная муза,
Счастье с собой принесли.

Каму патрэбна гэта творчасьць, і куды накіроўваецца эмоцыя вучняў?

Гэтым займаюцца вучні і насьценгазэта ў сямігодцы ў пэрыод суцэльнай колектывізацыі раёну, калі не пра «розы» і «музы» вучань працоўнай школы павінен гаварыць і пісаць, а актыўна змагацца на фронце колектывізацыі, па выкарчоўваньню рэшткаў капіталізму, за социялістычную вёску.

Мне здаецца, што ў гэтай школе захапленьне літаратурнай творчасьцю і характар гэтай творчасьці ёсьць продукт выкладаньня літаратуры.

У № 2 «Комуністычнага Выхаваньня» мы ўжо пісалі, як прыпадносіцца ў гэтай школе беларуская літаратура. Апошняя не разглядаецца як магутная зброя ў руках клясы пролетарыяту для выхаваньня працоўных мас у духу пераможнага будаўніцтва соцыялізму. Адсюль і адпаведныя вынікі.

Вершаманія мае месца нават і ў пачатковых школах. Насьценгазэта Прускай школы таксама мае літаратурны аддзел. А ў гэтым аддзеле ў часе нашага наведваньня школы быў верш наступнага зьместу:

„Чего мое сердце так ноет,
Чего мое сердце так ноет,
Чего моя грудь так болит
И какую печаль оно кроет?
Днем и ночью оно бьется,
Крепко давит мне на грудь,
Пройдет день, то мне здается,
Больше сил мне нет вздохнуть.

Может быть оно так ноет,
Потому, что мрак кругом,
Аль потом, что месяц кроют,
Тучи и облака кругом...

Много, много есть неправды,
Много много темноты
И кто мне верит в мои скарги
И печальные мечты“...

Пытаем у настаўніка, як такая шкодная бэлібэрда зьмяшчаецца ў школьнай насьценгазэце. «Я, бачыце, не заўважыў калі гэта было зроблена»—адказвае настаўнік. На гэта трэба адказаць усім гэтым настаўнікам, якія «не заўважаюць»,—што у тым то і стрыжань пытаньня заключаецца, што яны не заўважаюць часта таго, якой ідэолёгічнай продукцыяй харчуюцца вучні. Бо каб яны больш заўважалі, і каб іх штодзённая выхаваўчая работа была клясава вытрыманай, выходзіла з клясавых задач пролетарыяту, і ў гэтым напрамку ішло комуністычнае выхаваньне дзяцей, дык сярод іх менш было-б гнілога мяшчанства, шкоднага па сваёй клясавай сутнасьці.

Гэта адзін з мэтодаў, якім клясавы вораг карыстаецца для таго, каб вырваць маладое пакаленьне з фронту актыўнай работы па будаўніцтву соцыялізму, з фронту клясавай барацьбы і накіраваць юнацкую ініцыятыву ў заплясьнелае балота мяшчанства. Адсюль клясавы зьмест як работы самога настаўніка, так і ўсіх прываднах рамнёў, якія дапамагаюць яму ў выхаваньні, у тым ліку і насьценгазэт, школьных часопісяй, нідзе ніколі і ні ў якім разе не павінен выпускацца.

Мы тут адзначылі толькі недахопы школьнага друку. Дадатных бакоў бязумоўна шмат больш, чым адмоўных. Вялікім дасягненьнем зьяўляецца масавы рост школьных насьценных газэт, што зьяўляецца вынікам росту актыўнасьці і настаўніцтва і школьнага колектыву. Але колькасны рост друку патрабуе яшчэ большай увагі, больш зіркага грамадзкага контролю за зьместам гэтага друку, паставіўшы яго на службу комуністычнага выхаваньня.

**Політасьветная работа**[1])

Жыць вялікай перабудовай краіны на соцыялістычны лад, ісьці нага ў нагу з будаўніцтвам, не плясьціся ў хвасьце гэтага будаўніцтва—абавязак кожнага нардому, кожнай хаты-чытальні, чырвонага кутку. Выходзячы з гэтага, мы абсьледвалі работу політасьветных установ (нардом, хата-чытальня, чырвоны куток, лікпункт, бібліотэка) у Капыльскім раёне суцэльнай колектывізацыі, як яны (політасьветныя і культурныя ўстановы) прыстасаваліся ці, другімі словамі, як яны перабудавалі сваю работу ў адпаведнасьці з задачамі, што стаяць перад раёнамі суцэльнай колектывізацыі.

За апошні год, калі хуткія тэмпы колектывізацыі раёну на практыцы абагналі ўсе меркаваньні, калі адбыўся вялікі пералом на вёсцы ў бок усё большага і большага паявлічэньня соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, політасьветныя і культурныя ўстановы адсталі ад гэтых тэмпаў і не зрабілі належнага пералому ў сваёй рабоце, якая была-б цалкам падпарадкавана задачам і інтарэсам суцэльнай колектывізацыі раёну. Чым жа тлумачыцца тое, што культмасавая работа на вёсцы стаіць на недастатковай вышыні, што яна не адпавядае задачам рэконструкцыйнага пэрыоду?

Н. К. Крупская ў «Правде» ад 17 лютага гэтага году па пытаньні масавай культурнай работы адзначыла: «Культурны фронт у даны момант самы цяжкі фронт. З аднаго боку, у людзей галава кружыцца ад матчымасьцяй, што адкрываюцца, і яны губляюць патрэбную цьверозасьць думкі, выліваюць свае настроі ў кучах «с ног сшибающих рэзолюцый, з другога боку, мы бачым на практыцы рэакцыйнейшую недаацэнку культурнай работы на вёсцы, культурнай работы ў соцыялістычным сэктары, ігнараваньне культурных запатрабаваньняў мас, барскую недаацэнку самадзейнасьці мас». Гэта яскрава відаць і ў рабоце політасьветных установ Капыльскага раёну, дзе такі цэнтр масавай культурнай работы, як Цімкаўская хата-чытальня, якая, замест таго, каб мець яскравую ўстаноўку ў сваёй рабоце, быць організуючым цэнтрам батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас, організатарам колгасу, абслугоўваць іх культурныя запатрабаваньні, ставіць у пляне свае работы такі агульны пункт: «Азнаямленьне насельніцтва з пяцігадовым плянам і па колектывізацыі». Так, толькі азнаямленьне насельніцтва з пяцігадовым плянам і колектывізацыяй, а не падрыхтоўка і організацыя колектываў і абслугоўваньне іх культмасавай работай.

Па пытаньнях колектывізацыі Капыльскі нардом, Цімкаўская хата-чытальня і Быстрыцкі чырвоны куток не праводзілі ніводнага сходу з батрацтвам і беднатою. Праўда, Цімкаўская хата-чытальня правяла адзін сход батракоў па пытаньні перавыбараў групкому сельгаслесрабочых, ліквідацыі няпісьменнасьці і з беднатою правяла два сходы па пытаньнях загатовак хлеба і бульбы. А работы па растлумачэньні задач вялікай перабудовы сельскай гаспадаркі і політыкі комуністычнай партыі на вёсцы, уцягненьні батракоў і беднякоў у колгасы, ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва і падняцьці яго культурнага і політычнага ўзроўню, падрыхтоўцы і высоўваньні актыву з іх не праводзілася.

У рабоце сярод жанчын трэба адзначыць дадатныя бакі Капыльскага нардому, які праводзіў сходы жанчын па пытаньнях на антырэлігійныя тэмы. Цімкаўская хата-чытальня правяла 4 сходы па пытаньнях ліквідацыі няпісьменнасьці, справаздачы коопэрацыі, справаздачы КСУ ды іншых пытаньнях. Гэтая-ж хата-чытальня організавала гурток краеньня і шыцьця. Але ёсьць значныя прарывы ў рабоце політасьветных установ таксама і з жанчынамі. Растлумачэньне пытаньняў колектывізацыі вёскі, уцягненьне ў колектывы жанчын батрачак, бяднячак і серадначак амаль не вялося. Газэта «Капыльская Праўда»—орган Капыльскага нардому—па птыаньні «Кастрычнікавая рэволюцыя і жанчына» піша: «Советская власть чутко подошла к раскрепощению женщины-работницы целым рядом декретов. Равная зарплата за равный заработный труд, освобождение от работы при беременности, пре-

[1]) Разьдзел „Політасьветная работа" напісаны брыгадзірам М. Шыловічам.

кращение брака, внебрачные дети—вот основы, узаконенные Октябрем».

Вось якія правы мае жанчына ў савецкай краіне, па словах «Капыльскай Праўды».

Рабочы клюб саўгасу ў Цімкавічах і Быстрыцкі чырвоны куток ніякай працы з жанчынамі не праводзяць у той час, як праявы антысэмітызму ў Цімкаўскім саўгасе маюць месца: адна жанчына-работніца на агульным сходзе саўгасу сказала: «У нас тавары даюць толькі жыдом».

Уся культурна-масавая работа з колгасьнікамі і не колгасьнікамі праводзіцца праз лекцыі, вечары, організацыю гурткоў. Новыя формы і зьмест культурна-масавай работы не знайшлі адпаведнага адлюстраваньня ў нардоме, хацечытальні, чырвоным кутку. Рэпэртуар вечароў не адпавядае сучасным запатрабаваньням. Так, беларуская сямігодка ставіць масава-культурны вечар у Капыльскім нардоме, на якім паказваецца сцэна на літоўскай мяжы з опэры «Борис Годунов», выконваецца сьпеў «Несжатая полоска» Некрасава, «вальс», «полечка» струннага гуртку. Адзін селянін з поваду гэтага рэпэртуару кажа: «Дзе-ж ваша новае, рэволюцыйнае, дайце штонебудзь рэволюцыйнае». Гурткі, у якіх колгасьнікі знайшлі-б тое ці іншае задавальненьне, працуюць недастаткова, а ў некаторых выпадках дык і зусім слаба. Пры Капыльскім нардоме ёсьць політгурток для колгасьнікаў, які ахапляе 29 чалавек. Работа ў гуртку праводзіцца бяз програмы. Пры гэтым-жа нардоме ёсьць і іншыя гурткі, як фізгурток, які ахапляе 45 чалавек, з іх 25 колгасьнікаў; адзін белдрамгурток юнсэкцыі, які налічвае 10 чалавек і ў гэтым ліку 5 колгасьнікаў, другі белдрамгурток для дарослых. Падобнага роду падзел гурткоў на моладзь і дарослых прыводзіць да адмоўных вынікаў у рабоце па культурным абслугоўваньні насельніцтва, атрымліваецца адрыў дарослых ад моладзі.

Насьценгазэта пры Цімкаўскай хацечытальні не адлюстроўвае вытворчай працы колгасу, не завастрае ўвагі на вылазках варожа клясавых элемэнтаў у колгасе (выхад з колгасу з-за яўрэяў). Газэта піша пра агульна-экономічныя выгады колгасу, не растлумачваючы політычнай сутнасьці колгаснага руху. Літаратуры па колгаснаму будаўніцтву ня выпісваецца.

Рабочы клюб саўгасу Цімкавіч у большасьці праводзіць культмасавую працу з моладзьдзю і мала абслугоўвае рабочых. На тры месяцы (кастрычнік, лістапад, сьнежань) культкомісія склала плян работы з 11 пунктаў. На запытаньне, што выканана і што ня выканана ў пляне, старшыня культкомісіі пры клюбе саўгасу тав. Быценка кажа: «Пункты 4 і 5 (організацыя гурткоў бязбожніка і профэсійнага) ня выкананы з прычыны адсутнасьці кіраўнікоў гэтых гурткоў. Пункт 6 (правядзеньне вечароў пытаньняў і адказаў) ня выканан з-за перагружанасьці клюбу культмасавай работай. Пункт 7 (заслухаць лекцыю агронома пра колектывізацыю сельскай гаспадаркі) ня выканан таму, што агроном ня прышоў. Пункт 8 (праводзіць радыё-вечары) ня выканан з прычыны сапсаваньня гучнагаварыцеля. Пункт 9 (організацыя хоргуртку) ня выканан таму, што няма хорыстаў.

Як бачыце, на кожнае невыкананьне пункту ёсьць адпаведная прычына. Пры клюбе існуюць 2 політгурткі, якія ахапляюць 22 чалавекі, у тым ліку 15 рабочых саўгасу. Гурткі прапрацавалі ўсе матар'ялы апошніх пастаноў партыі і комсамолу. Драмгурток налічвае ў сабе 25 чалавек, з якіх 20 рабочых. Драмгурток наладжвае выезды ў суседнія вёскі, у выніку чаго зьяўляецца організацыя драмгурткоў. У гэтым гуртку працуе 5 колгасьнікаў з суседніх колгасаў.

Насьценгазэта саўгасу добра завастрае ўвагу на практычных пытаньнях па правядзеньні колектывізацыі.

Вялікае значэньне мае растлумачэньне нацполітыкі комуністычнай партыі і савецкай улады сярод працоўных мас розных нацыянальнасьцяй, а таксама работа сярод нацменшасьцяй, асабліва ў прымежным Капыльскім раёне. Політасьветныя ўстановы раёну, хоць і праводзяць работу ў гэтым напрамку, але зусім слаба. Ня гледзячы на факты праяўленьня антысэмітызму ў колгасах, політасьветныя ўстановы не завастрылі на гэ-

тым увагі і не растлумачылі працоўным масам нацполітыкі партыі. Так, у колгасе Цімкавіч меўся выхад сялян з колгасу, якія гавораць, што «з жыдамі працаваць ня будзем», а Цімкаўская хатачытальня ніводнага разу ня ставіла гэтага пытаньня на сходах, ня выкрыла на гэтым конкрэтным прыкладзе контррэволюцыйнай сутнасьці антысэмітызму.

У вусную газэту пры Капыльскім нардоме быў паданы допіс аб антысэмітызьме і рэлігійнасьці сэкратара нардому, які казаў, каб жонка хрысьціла дзеці, «бо мы ня жыды і не комуністы», а нардом не завастрыў увагі на гэтым і ня даў рашучага адпору клясаваму ворагу. У гэтай-жа газэце быў зьмешчан яўна нацыянал-дэмократычны артыкул пад назвай «Кастрычнікавая рэволюцыя і нацыянальнасьць». Пытаньні нацполітыкі компартыі і нацыянал-дэмократызму нідзе не прапрацоўваліся.

Капыльскі нардом мае і дасягненьні ў рабоце з нацменшасьцямі. Было прапрацавана 18 вечароў на яўрэйскай мове, на якіх ставіліся даклады аб колектывізацыі сельскай гаспадаркі, падзеях у Палестыне, антырэлігійныя ды інш.

Політасьветныя ўстановы не вядуць ніякай работы па ўтварэньню актыву і ўцягненьню яго ў культмасавую працу, не організоўваюць і той актыў, які ёсьць. Капыльскі нардом налічвае 20 чалавек актыву, з якіх 5 колгасьнікаў, 1 рабочы, а астатнія—настаўнікі. Пры рабочым клюбе саўгасу Цімкавіч ёсьць 10 чалавек актыву, пры Цімкаўскай хаце-чытальні—22 чалавекі, з якіх 10 настаўнікаў, 3 колгасьнікі, 2 батракі, астатнія—служачыя.

Існуючыя пры політасьветных установах бібліотэкі, якія павінны дапамагаць узьняцьцю культурнага ўзроўню працоўных мас, на справе сябе не апраўдалі. Бібліотэкі не вядуць культурна-выхаваўчай работы з сваімі чытачамі.

Бібліотэка Капыльскага нардому да апошняга часу брала ўступныя ўзносы ў разьмеры 1 рубля з усіх, ня лічачыся з социяльным становішчам чытача, што зьяўляецца ня чым іншым, як скрыўленьнем клясавай лініі. У бібліотэцы няма сучаснай політычнай літаратуры, літаратуры па сельскай гаспадарцы; зусім мала твораў беларускіх пролетарскіх пісьменьнікаў. Затое ёсьць у бібліотэцы «Голы зьвер» кулацкага ідэолёга Зарэцкага, было шмат экзэмпляраў «Падарожжа на новую зямлю». Ёсьць два томы Талстога, у якіх выкладзена «Вучэньне Хрыста для дзяцей», шмат кніг старога выданьня. Такі-ж малюнак наглядаецца і ў астатніх політасьветных установах.

Бібліотэчны паход разгорнут недастаткова. Паход не прасунуў кнігу ў масы.

На ваенізацыю працоўнага насельніцтва політасьветныя ўстановы мала звярочвалі ўвагі. Толькі пры рабочым клюбе саўгасу Цімкавіч організаваны адзін вайсковы гурток, які ахапляе 20 чалавек, у тым ліку 16 рабочых і 4 колгасьнікі.

Социялістычнае спаборніцтва не захапіла політасьветныя і культурныя ўстановы Капыльскага раёну суцэльнай колектывізацыі. Ня гледзячы на тое, што соцспаборніцтва ў Цімкаўскім саўгасе разгорнута, рабочы клюб гэтага саўгасу стаіць у баку ад правядзеньня социялістычнага спаборніцтва.

Соцспаборніцтва паміж асобнымі політасьветнымі ўстановамі адсутнічае.

Політасьветнымі ўстановамі ня прыцягнуты ўсе няпісьменныя на лікпункты. Мала зварочваецца ўвагі на кадры выкладчыкаў. Быстрыцкі чырвоны куток у гэтай рабоце ня прыймаў ніякага ўдзелу.

Вялікім недахопам у справе ліквідацыі няпісьменнасьці зьяўляецца адсутнасьць у некаторых пунктах дакладнага перапісу няпісьменных (Комсечы, Цімкавічы). Пастанова аб абавязковым 100 проц. ахопе працоўнага насельніцтва лікпунктамі ня выканана.

Усіх батракоў у раёне 540—ахоплена лікпунктамі і вячэрнімі школамі 513, саўгасных рабочых—130, ахоплена 114. Лікпунктам пры Кулакоўскай школе не ахоплена 8 асоб да 15-ці гадовага ўзросту, у саўгасе Цімкавіч не ахоплены 3 рабочыя. Політасьветная работа ў большасьці на лікпунктах не праводзіцца. Былі выпадкі скажэньня клясавай лініі, калі на курсах ліквідатараў няпісьменнасьці вучыліся 4 кулакі. Ёсьць прыклады рвацтва з боку некаторых настаўнікаў (Васільлеў у сваёй вёсцы разваліў лікпункт і пайшоў у другую вёску на платны лікпункт).

У Крывасёлкаўскім с/с ліквідатар Клыга выступіў супроць колгасу.

Вячэрнія школы ня маюць вызначанай мэтавай устаноўкі. Адсутнічаюць стала вызначаныя програмы (Капыльская і Цімкаўская школы). У програмы вячэрніх школ ня ўнесены пытаньні колектывізацыі, пытаньні 5-цігодкі не прапрацоўваліся, адсутнічае інтэрнацыянальна-клясавае і антырэлігійнае выхаваньне, па грамадазнаўству не вывучаюцца пытаньні сучаснага будаўніцтва, а школа займаецца вывучэньнем гісторыі мінулага (Копыль). Адсутнічае ўвязка матар'ялу паміж асобнымі дысцыплінамі, слаба стаіць справа з беларусізацыяй. Гэтыя слабыя бакі ў рабоце часткова зьяўляюцца з-за недахопаў падручнікаў, недастатковага кіраўніцтва. Вячэрнія школы не зьяўляюцца школамі падрыхтоўкі колгаснага і саўгаснага актыву для практычнае работы.

Наша задача заключалася ў тым, каб даць уяўленьне аб пастаноўцы работы політасьветных і культурных устаноў у раёне суцэльнай колектывізацыі. Капыльскі раён і зьяўляецца такім раёнам, дзе старыя формы работы як масавай школы, так і політасьветных устаноў ня могуць адпавядаць задачам сучаснага пэрыоду, задачам суцэльнай колектывізацыі сельскай гаспадаркі. Абсьледваньне масавых школ і політасьветных устаноў раёну паказала, што гэтыя асяродкі культуры на вёсцы не зрабілі рашучага пералому ў пераключэньні сябе на новыя рэйкі, на новыя формы і мэтоды работы, якія-б цалкам адпавядалі колгаснаму будаўніцтву.

Крупская, гаворачы аб культурным абслугоўваньні насельніцтва, адзначыла, што «у раёнах суцэльнай колектывізацыі ва ўсім соцыялістычным сэктары і ў сучаснай вёсцы наогул перад намі з ўсёй вострасьцю паўстала пытаньне аб пагалоўным абслугоўваньні насельніцтва культработай. Нам патрэбна пагалоўная пісьменнасьць, пагалоўная культурнасьць насельніцтва. Патрэбны вядомы культмінімум, настолькі-ж абавязковы для кожнага сябра колгасу, саўгасу, для кожнага працоўнага Савецкай краіны, як і агромінімум».

Ініцыятарамі і організатарамі гэтай пагалоўнай пісьменнасьці, пагалоўнай культурнасьці на вёсцы і павінны зьяўляцца політасьветныя і культурныя ўстановы, якія яшчэ шырэй павінны разгарнуць фронт барацьбы за культурную рэволюцыю і пайсьці ў атаку супроць няпісьменнасьці і бяскультур'я.

рабочаму або сялянскаму дзіцяці глядзець на новаяўленую каралеву польскую ды яшчэ і матку боскую!

Ня менш цікавымі зьяўляюцца ў лемантары гутаркі аб Кракаве, Вавэлі, дзе пахаваны польскія каралі, аб прыгожай Варшаве, дзе шырокія вуліцы, высокія дамы. Дзіця беларускага рабочага і селяніна даведваецца з гэтага лемантара, што ў Варшаве знаходзяцца «навышнія» (найвышэйшыя) ўстановы, што там жыве прэзыдэнт, ёсьць шмат крамаў, гандляроў і г. д., адным словам усе, як гэта кажуць, «прелести» буржуазнай культуры.

Апавядаючы шмат аб далёкіх і мала зразумелых для беларускага дзіцяці польскіх гарадох, лемантар аніводным словам не ўспамінае аб Горадні, Наваградку, Слоніме, не гаворачы ўжо аб гарадох БССР—Менску, Полацку ды інш. блізкіх і зразумелых для гэтага дзіцяці, але страшных і ненавісных для польскага буржуа і абшарніка.

Мінаючы нязвычайную бязграматнасьць лемантара (на 103 старонках яго налічваецца больш за 250 памылак) як у сэнсе лексыкі, так фонэтыкі і ортографіі, трэба адзначыць вельмі цікавы і характэрны факт надрукаваньня гэтага лемантара т. з. лацінкай і нават лацінкай не беларускай, узятай з чэскае графікі, а чыста польскай, што яскрава сьведчыць аб полёнізатарскіх імкненьнях укладальніка лемантара—Любіч-Маеўскага, а разам з ім польскага ўраду які даручыў апошняму ўкладаньне гэтага падручніка.

Зусім праў будзе той, хто назаве гэты лемантар не беларускім падручнікам, а тэхнічнай дапамогай да апанаваньня штукі чытаньня беларускімі дзяцьмі польскіх кніжак.

У гэтым імкненьні навязаць беларускаму рабочаму і сялянскаму дзіцяці лацінку, і пры гэтым польскую, бяз сумненьня, заключаецца палітычная мэта: з аднаго боку, наблізіць і зьвязаць Заходнюю Беларусь з буржуазнай Польшчай, з другога-ж, культурна адрэзаць яе (Зах. Беларусь) ад разьвіваючайся шпаркім тэмпам Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і такім чынам пазбавіць Заходнюю Беларусь ад уплыву комуністычнага Менску і ўсёй БССР, якія так страшны буржуазіі і абшарнікам Польшчы.

Польская буржуазія, пераканаўшыся на вопыце доўгай і ўпартай барацьбы беларускіх рабоча-сялянскіх мас за родную школу, ў нязломнасьці волі гэтых мас мець сваю школу, пастанавіла выкарыстаць «беларускія» школы для мэтаў прышчапленьня беларускім рабочым і сялянскім дзецям буржуазна-клерыкальных поглядаў і для полёнізацыі праз іх гэтых дзяцей, падобна таму, як раней выданьнем закону ад 31/VII 1924 г. быццам рэгулюючага адчыненьне беларускіх школ, на самай справе прабавала зрабіць зусім немагчымым адчыненьне гэтых школ.

Такім чынам лемантар Любіч-Маеўскага зьяўляецца праяваю новага этапу, ці лепш, новай формы барацьбы польскага ўраду на чале з Грабскім; ня гледзячы на тое, што пры ўсіх яго стараньнях не ўдалося задушыць імкненьне беларускіх працоўных мас да беларускай школы, дык цяпер урад Пілсудзкага выданьнем падручнікаў, падобных да лемантара Любіч-Маеўскага, імкнецца знутры, так сказаць па зьместу, канчаткова сфашызаваць і зьліквідаваць ужо і раней скалечаную беларускую школу.

Буржуазная польская санацыйная (фашысцкая) і беларуская згодніцкая прэса, зразумела, стараецца гэты факт прадставіць у іншым асьвятленьні, тлумачачы яго недастатковай увагай ўраду да «мала-вядомай» яму беларускай школы, але беларускія рабоча-сялянскія масы, а з імі і ўся пролетарская грамадзкасьць Польшчы дасканала разьбяруцца ў гэтай новай провокацыі буржуазна-панска-ксяндзоўскай Польшчы і будуць весьці, як і раней, рэволюцыйную барацьбу пад кіраўніцтвам правадыра пролетарскіх мас Польшчы і Заходняй Беларусі—КПП і КПЗБ з польскай буржуазнай уладай, якія-б колеры яна ні прымала, ці дэмократызму, як з часоў Грабскага, ці фашызму, як у часы панаваньня Пілсудзкага.

# КНІГАПІС

**„Труд в школе и детском доме"—№№ 2-5, 1929 г.; „Труд в школе"—№№ 6-9, 1929 г. Штомесячны орган Галоўсацвых'у НКА. РСФСР. па пытаньнях організацыі, зьместу, мэтодыкі і тэхнікі працы ва ўстановах соцыяльнага выхаваньня.**

**Агульныя зьвесткі.** Часопісь гэтая яшчэ зусім маладая. налічвае толькі год існаваньня і ўжо пасьпела два разы зьмяніць назву. У часе свайго першага паяўленьня ў сьвет яна мела на мэце абслугоўваць ня толькі школу, але і ўсе ўстановы соцыяльнага выхаваньня. З № 6 часопісі рэдакцыя ўжо заяўляе: «Вопыт работы паказаў, што аб'яднаньне ў адным органе распрацоўкі пытаньняў політтэхнічнай і профэсіянальнай падрыхтоўкі падросткаў дзіцячых дамоў немагчыма», і далей: «Затрабаваньні і тых і другіх устаноў на мэтодычнае кіраўніцтва няўхільна растуць, і для такога сьціплага па памерах органу, як наш, праз сілу справіцца з адным колам пытаньняў задача вялікага значэньня. («Труд в школе», № 6, стр. 3).

Часопісь мае наступныя разьдзелы: 1) агульны аддзел; 2) пытаньні мэтодыкі; 3) з вопыту; 4) тэхкіна і тэхнолёгія; 5) працоўная бібліотэка падагога. Гэтыя разьдзелы сталыя. Час ад часу дадаюцца яшчэ разьдзелы: 1) за рубяжом; 2) консультацыя; 3) з лістоў і артыкулаў і 4) наша хроніка.

**Агульны аддзел** займае ў сярэднім 11,3% зьместу. Больш 75 проц. усіх артыкулаў гэтага разьдзелу прысьвечаны пытаньням політэхнічнай працы ў школе. У № 2 у артыкуле «За рэальны політэхнізм» т. Шабалаў усё пытаньне аб політэхнізьме зводзіць да тэхнічнай працы. Гэта відаць з таго мінімуму мерапрыемстваў, якія павінны забясьпечыць «працоўны сэктар» у рабоце школы. **Вось ён:**

«Мы павінны заявіць, што далей гаварыць аб працы без канкрэтных асыгнаваньняў, без уясеньня ў канкрэтныя номэнклятуры мясцовых бюджэтаў спэцыяльнага артыкулу на організацыю працы—значыць толькі гаварыць, а не рабіць».

«Цэнтральныя асыгнаваньні на працу наступнага году павінны таксама павялічыцца.

«З наступнага году законадаўчым актам трэба абавязаць мясцовыя выканкомы выконваць сетку Наркомасьветы па працы ў масавай школе, хаця-б шляхам практыкі вучняў тых школ, якія ня маюць **майстэрняў, у майстэрнях** суседніх школ, дзіцячых дамоў, профтэхшкол і **вучэбна-вытворчых майстэрнях** у другія зьмены».

Вось і ўсё, што патрабуецца дзеля рэальнага політэхнізму ў масавай школе 1-га і 2-га концэнтру. Тут націск на «майстэрню», а не на завод. Аб тым, каб выдаць пастанову аб дапушчэньні вытворчай практыкі на заводзе,—ні слова. Тое самае і па лініі сельска-гаспадарчых школ—націск робіцца на «прышкольны вучастак», але не на вытворчую практыку ў саўгасе ці колгасе. Вось што піша т. Шабалаў: «Безгаспадарча зараз пакідаць вясковую школу без **асноўнай зброі барацьбы за перабудову сялянскай гаспадаркі**—бяз правільна організаванага **прышкольнага** вучастку». Гэта політычна і мэтодычна няправільна.

У тым, што часопісь раўняецца на «тэхнічную працу ў школе», пакажа нам і разьдзел мэтодыкі. Справядліва і тое, што пасьля зьяўленьня тэзісаў т. Крупскай у № 5 аб політэхнізьме, дзе яна ў 6 пункце кажа: «У чым заключаецца зьмест політэхнічнага выхаваньня»? было-б памылкова думаць, што гэты зьмест зводзіцца толькі да набыцьця пэўнай сумы звычак (як гэта думае Гасьцёў), або да многарамеснасьці, як мысьляць іншыя, або толькі да вывучэньня сучасных, пры гэтым, найвышэйшых форм тэхнікі (як гэта думае Панкевіч). Політэхнізм—гэта цэлая сыстэма, у аснове якой ляжыць вывучэньне тэхнікі ў розных яе формах, узятай у яе разьвіцьці. Сюды ўваходзіць і вывучэньне «натуральнай тэхнолёгіі», як назваў Маркс ажыўленую прыроду, і тэхнолёгіі матар'ялаў, і вывучэньне сродкаў вытворчасьці, іх мэханізмаў, вывучэньне энэргетыкі. Сюды ўваходзіць і вывучэньне геграфічнай асновы экономічных адносін, уплыў спосабаў здабываньня і апрацоўкі на грамадзкія формы працы і ўплыў апошніх на ўвесь грамадзкі лад».

Лінія часопісі па пытаньнях політэхнічнай працы выпраўляецца. Ужо ў «тэзісах дакладу на настаўніцкіх конфэрэнцыях аб політэхнічнай працы для гарадзкіх школ, «надрукаваных у № 9. гаворыцца: «Школьная праца павінна ўсюды будавацца з такім разьлікам, каб вучні знаёміліся з галоўнымі нярухомымі і рухомымі конструкцыямі, са спосабамі выкарыстоўваньня сіл прыроды, пэратварэньня энэргіі і пераймачваньнем руху, з галоўнымі мэханічнымі і хэмічнымі апрацоўкамі матар'ялаў, пачынаючы з найпростых. Завяршэньне політэхнічнай асьветы патрабуе таго, каб падвесьці падросткаў да індустрыяльнай працы. Зьдзяйсьняецца гэта шляхам плянавай організацыі экскурсій (пачынаючы з малодшых груп з ускладненьнем зьместу да старэйшых) і вытворчай практыкай у старэйшых групах школы (VII—X) у цэхах прадпрыемства». У гэтых тэзісах політэхнізм ужо ня зводзіцца да тэхнічнай працы, тут ужо політэхніка разумеецца, як цэлая сыстэма.

Цікавы пачын зрабіла часопісь па выяўленьню грамадзкага погляду на працу ў школе. У двох нумарох часопісі (7 і 8), у разьдзеле пад назвай «Грамадзкасьць аб працы ў школе» рэдакцыя правяла шэраг гутарак з мэтай выявіць, чаго чакаюць ад працы ў школе рабочыя, сяляне, тэхнікі, агрономы, інжынэры, вучоныя. Прыводзіцца шэраг думак. Рабочы маскоўскага газавага заводу І. К. Міхалін гаворыць: «Політэхнічная школа павінна даць працаўнікоў вузкай спэцыяльнасьці, але ў той-жа час школа не павінна забываць і аб політэхнічным выхаваньні дзяцей і не павінна быць стыхійным дастаўнікам рабочае сілы. Падрыхтоўка рабочае сілы праз політэхнічную школу павінна быць шчыльна ўвязана з **пяцігадовым плянам разьвіцьця народнай гаспадаркі.** Трэба разьвіць шэфства фабрык і заводаў над школамі. Распачаць спаборніцтва паміж прамысловымі прадпрыемствамі па лепшае шэфства над школамі. Рабочыя ведаюць, што каштарысныя асыгнаваньні на школу недастатковыя. З гэтай прычыны неабходна папрацаваць над пытаньнем аб вылучэньні некаторага проценту сродкаў з сум мясцовых профсаюзаў і аб прыцягненьні да пытаньняў школы шырокай пролетарскай грамадзкасьці». Вось яшчэ адзін погляд. Рабочы заводу «Серп і Молат» Лаўрэнеў гаворыць: «Як мне здаецца, трэба організаваць у кожнай школе майстэрні, на першы час па мэталяапрацоўчай і дрэваапрацоўчай прамысловасьці. Трэба перабудаваць і навучальныя програмы. Вучні павінны ведаць тэхнолёгію матар'ялаў. Мала мець тэорытычныя веды. Трэба шырэй выкарыстаць экскурсіі дзяцей на заводы. Гэты мэтод пасоўвае наперад іх працоўную асьвету, і вучню, калі ён трапіць на вытворчасьць, лягчэй будзе працаваць. Недастаткова прышчапіць дзецям працоўныя звычкі. Трэба яшчэ выхаваць іх як будуючых будаўнікоў соцыялізму. Кепска, калі школа падрыхтуе тэхнікаў, але не навучыць іх любіць вытворчасьць, жыць ёю, ня выхавае іх гэтак, каб ім дорага было ўсё будаўніцтва нашага Саюзу». Вось каштоўны матар'ял, які пры сыстэматызацыі можа сапраўды ўнесьці нешта новае як у тэорыю, гэтак і ў практыкаў політэхнічнага выхаваньня. Вітаючы пачынаньне часопісі па выяўленьні грамадзкага погляду аб працы ў школе, трэба пажадаць, каб гэтыя выказваньні сыстэматызаваліся, і тады мы зможам скласьці нешта каштоўнае і важнае для пастаноўкі справы політэхнічнай працы ў школе.

Другі разьдзел—пытаньні мэтодыкі—як колькасна гэтак і якасна займае досыць віднае месца ў часопісі. У пытаньнях мэтодыкі аддаецца галоўная ўвага пытаньням «рабочага пляну па тэхнічнай працы» і «як карыстацца рабочым плянам», «проект програмы па працы для Ф. З. С.», «рабочы плян па с.-г. працы». (№ 2, 3, 6).

Рабочы плян па тэхнічнай працы расшыфроўвае програму ГУС'а па працы, і ў тлумачальным тэксьце да гэтага пляну аўтары заяўляюць: «Уяўляючы сабе яскрава справу ў тым, што ў даны час мы ня маем яшчэ дастатковых матар'яльных прадпасылак, навуковых даных і пэдагогічнага вопыту дзеля разьвязваньня ва ўсёй шырыні проблемы політэхнічнага працоўнага выхаваньня ў школе... мы проектам рабочага пляну па тэхнічнай працы зрабілі спробу разьвязаць толькі адну задачу, задачу рацыянальнай пабудовы работы па тэхнічнай працы ў рабочым пакоі, на падставе прогрм ГУС'а. Яны падзяляюць працу ў школе паводле наступных асноўных ліній: організацыйнай, практычнай і тэорытычнай. У кола організацыйнае ўваходзяць: плянаваньне, тлумачэньне заданьняў, вучот працы і праца дзіцячай самаорганізацыі па працы. У кола практычнай працы ўваходзяць: програмная праца паводле асноўных відаў працы і пазапрограмная праца, якая складаецца: а) з вольных прац паводле ўласных проектаў, б) з прац па падрыхтоўцы да сьвят. У кола тэорытычнае ўваходзяць: гутаркі і лябораторныя заняткі па тэхнолёгіі і часткова экскурсіі на вытворчасьць. Трэба адзначыць, што рабочы плян старанна распрацаваны для паасобных груп 1-га концэнтру паводле розных відаў працы па дрэву, паперы, кардону, мэталю, шыцьцю, тэкстылю. Калі гэтыя віды працы ў рабочым пакоі могуць дапамагчы школе ў сэнсе пастаноўкі працы, дык што тычыцца экскурсій на вытворчасьць у 1-м концэнтры, гэта пытаньне ня толькі не распрацована, яно нават не пастаўлена як мае быць. У цэнтры увагі ў часопісі павінна быць пытаньне мэтодычна правільнай організацыі экскурсій для пэўных узростаў і груп. На якія заводы можна пасылаць дзяцей і на што концэнтраваць іх увагу ў часе экскурсіі, як мэтодычна рыхтавацца да экскурсіі па завод і як праводзіць гэту экскурсію—вось пытаньні, якімі павінна была бы займацца часопісь. Больш правільна пабудавана програма па працы для Ф. З. С. (№ 6) для 2-га концэнтру. У гэтым праекце даецца «рабочая програма па дрэву для трох год навучаньня». Рабочая програма пабудована паводле прынцыпу заданьняў. 9 заданьняў адводзіцца для 5-га году навучаньня, 6 заданьняў—для 6-га году навучаньня і 7 заданьняў—для 7-га году навучаньян. Недахопам гэтай програмы зьяўляецца тое, што на 5-м годзе навучаньня яны даюць толькі экскурсіі ў дрэваапрацоўчыя саматужныя майстэрні, і толькі на 6—экскурсію на буйнае дрэваапрацоўчае прадпрыемства—лесапільны завод, а на 7-м—вытворчую практыку—72 гадзіны. Нам здаецца, што экскурсію на завод можна ўжо зрабіць на 5-м годзе навучаньня і з 5-га году пачаць вытворчую практыку, якая паступова пашыралася-б у наступныя гады. Той-жа прынцып захоўвае «рабочая програма па мэталю». Гэта програма таксама пабудована на заданьнях: 8 заданьняў для 5-га году навучаньня, 6—для 6-га і 7—для 7-га году навучаньня. Пачынаецца програма з агульнага азнаямленьня з майстэрняй і выяўленьня яе задач. 1-е заданьне—адсяканьне невялікіх кавалкаў жалеза, 2-е заданьне—апілоўка мэталю, а з 4-га заданьня—выраб простай рэчы з папярэдняй разьметкай, напр., бушкі ў дзьвярэй і г. д. Заключаецца 5-ы год экскурсіяй у саматужныя сьлясарнамэханічныя майстэрні і арцелі. 6-ы год наву-

чаньня пачынаецца з проектаваньня конструкцыйна-творчае афармленьне і выраб розных рухавікоў і частак да іх, модэлі паравога катла, паравой турбіны, рупар калёрымэтр і г. д. Тут мы ўжо маем экскурсію на мэталюргічны завод і ліцейны цэх. Канчаецца гэты год заданьнем па электроправодцы, умацаваньні правадоў, злучэньні іх і паяньне. 7-ы год навучаньня пачынаецца з такарных прац па мэталю, вырабу і монтажу: электромотораў, званочкаў і г. д. Экскурсія на мэханічны завод—мэтавая ўстаноўка гэтай экскурсіі: арганізацыя машыновай вытворчасьці ў мэталяапрацоўчай прамысловасьці. Агляд кавальскага цэху, агляд мэханічнага цэху і нагляданьні над організацыяй вытворчасьці. У канцы—вытворчая практыка ў цэхах, фабрыках і заводах—72 гадзіны. Тое, што было адзначана адносна рабочай програмы па дрэву, таксама павінна быць адзначана і адносна гэтай рабочай програмы. У гэтых жа програмах даецца «адмеэньнік працы па дрэву і мэталю на 1-ы квартал 5-га году навучаньня з дапасаваньнем мэтоду ЦІП'у». З уняcеньнем вышэйадзначаных папраўак гэткая програма, але больш скарочаная, можа быць пакладзена ў аснову па політэхнічнай працы і наогул у сямігодцы. Як па тэхнічнай працы, гэтак і па сельска-гаспадарчай дадзены «Рабочы плян Нарышкінскай школы» (№ 3). Плян гэты, як і рабочы плян па тэхнічнай працы, падзелены на тры лініі: па лініі організацыйнай, практычнай і тэорытычнай. Рабочы плян намечаны паводле груп 1-га концэнтру і паводле асобных відаў працы. Да пляну дададзен табэль рабочых дзён такім чынам: для 1-й групы 62 дні, для 2-й—76, для 3-й—78, для 4-й—34. Сельска-гаспадарчая праца ўвязана з комплекснымі тэмамі па асобных гадох навучаньня. Наогул уся сельска-гаспадарчая праца ідзе па лініі паасобных вопытаў, для прыкладу возьмем 4-ю групу. У сакавіку пачынаецца складаньне гною ў кучу для саграваньня, ачышчэньня парнікоў ад сьнегу, набіўка парнікоў гноем. У красавіку—сяўба ў парнікох радыскі, пікіроўка кветак, сяўба капусты ў парнікі, прарадзеньне ўсходаў салаты, гуркоў, радыскі. У рабочым пляне няма паказаньняў, якімі знаёміцца с.-г. прыладамі.

Звычкі і вопыты справа добрая, калі гэтыя звычкі падпарадкаваны грамадзка-карысній працы. Увесь-жа рабочы плян разьлічан на «прышкольны вучастак». Няма нават экскурсіі ў саўгас, калгас. Вось у чым асноўная памылка рабочага пляну па сельска-гаспадарчай працы.

Сельска-гаспадарчая праца правільна ўключана ў політэхнічную асьвету, але тут, як і ў тэхнічнай працы «рабочыя пляны» маюць тыя недахопы, што робяць націск на «майстэрні» і «прышкольныя вучасткі», а не на завод, фабрыку, саўгас і колгас, пачынаючы з першых гадоў навучаньня ў школе. Нават у артыкуле т. Тулінава (№ 3) «Аб вытворчых навыках па сельскай гаспадарцы для 2-га концэнтру сямігодкі». Таксама націск робіцца на «дробную гаспадарку» і «дробныя прылады» (калі можна гэтак сказаць). Для сёмых груп даюцца наступныя звычкі па працы з прыладамі сельскай гаспадаркі: праца на плугох, культыватарах, конных граблях, сявалках, сенакасілках, жняярках і сартыроўках. Трактар нават і не ўспамінаецца, няма нават экскурсіі ў саўгас і колгас. Усе артыкулы па с.-г. працы ў гэтым аддзеле маюць нейкую «саматужную» устаноўку.

Цікавы артыкул т. Гарбунова (№ 5) «Лябораторныя заняткі па тэхнолёгіі». У гэтым артыкуле даюцца некаторыя паказаньні, як праводзіць лябораторныя заняткі па тэхнолёгіі паперы і кардону, па дрэву, тканіны, па мэталі. Гэтыя паказаньні даюцца на падставе вопыту школы імя Радзішчава.

У аддзеле «Пытаньні мэтодыкі» слаба распрацавана пытаньне навуковай організацыі працы паводле асобных відаў. Ёсьць артыкул т. Байніцкай «Аб інструкцыйнай картцы» (№ 5), але гэтая картка занадта вялікая, як правільна адзначае рэдакцыя. Артыкул тав. Акіменка (№ 8) прысьвечаны вучоту ў школьных майстэрнях. Гэты артыкул ужо больш цікавы ў сэнсе простасьці, як вучотнай карткі, гэтак і паасобных рахункаў. Ёсьць яшчэ цікавыя артыкулы т.т. Шабалава па «Дзіцячаму працоўнаму проектаваньню» і Пятрова «Некаторыя агульныя законы статыкі прыладаў па дрэву».

Пакуль што, як відаць, часопіс ставіць сабе мэтай проблему падліку і плянаваньня. Але гэтага мала, трэба паставіць у гэтакай часопісі проблему навуковай організацыі працы ў шырокім сэнсе слова—«плянаваньне, організацыя працы паводле асобных відаў, рацыянальнае выкарыстоўваньне прыладаў, машын, рабочага месца і г. д. і вучот усяго гэтага. Аб гэтым вельмі мала сказана ў разьдзеле «Пытаньні мэтодыкі».

Разьдзел «З вопыту» больш прысьвечаны таму, як былі організаваны працы, не гаворыцца, што конкрэтна было зроблена. Гэта галоўны недахоп гэтага разьдзелу.

Цікавы артыкул т. Лаўрова «Вытворчая практыка ў школе ІТУ (вопыт 27 школы Ленінграду, № 9). У гэтым артыкуле гаворыцца, як была наладжана сувязь з заводам, і на якіх умовах былі дапушчаны вучні 9-й групы да вытворчай практыкі. Але і ў гэтым артыкуле, як і ў другіх, адсутнічае момант, што конкрэтна дзеці рабілі, у якіх процэсах працы яны прымалі ўдзел, цяжкасьці гэтай працы і г. д. Якраз «З вопыту» гэта самае галоўнае, а гэтага няма. Гэтак сама апавядае аб сваім вопыце т. Пёрушкін у артыкуле «Вытворчая практыка ў Ф. З. С.» (№ 8). Усё «як», а ня «што».

Самы цікавы і найбольш удалы—гэта аддзел «Тэхніка і тэхнолёгія». У гэтым разьдзеле даюцца практычныя паказаньні па лініі тэхнікі, і школа можа гэта як найлепш выкарыстаць у сваёй штодзённай працы. У № 2 вы маеце наступныя артыкулы: «Просты электрорухавік», т. Папова і «Варштат для сьвердла». т. Шатава. Гэтымі артыкуламі школа можа карыстацца, каб зрабіць гэткія-ж рэчы ў сябе. У № 4 вы знаходзіце артыкул аб «драўляным варштаце для выпілоўваньня» і «Мэтодыка ЦІП'у ў вучэбна-вытворчых майстэрнях».

У № 5 ёсьць артыкул т. Аршкава «Спрошчаны варштат для сшываньня кніг», «як зрабіць тэлеграф» ды інш. У № 9 цікавы артыкул т. Папова—«Дынамо-машына, збудаваная без дапамогі такарнага варштату» і шэраг іншых артыкулаў. Калі школы будуць карыстацца гэтым рэьдзелам часопісі, яны змогуць наладзіць працу ў сябе сваімі сродкамі. У тым-жа разьдзеле ёсьць табэль «працоўнага абсталяваньня школы» і паказана, якія рэчы патрэбны школе, іх кошт. У гэтым разьдзеле больш увагі аддаецца пытаньням тэхнікі, тэхнолёгіі матар'ялаў адаецца менш увагі, хоць ёсьць некаторыя артыкулы і па пытаньнях тэхнолёгіі. Цікавы артыкул т. Лабуша—«Мае вытворчыя сакрэты», дзе ён кажа аб загартаваньні прыладаў у халодным волаве, аб зьмесьце для ўнівэрсальнага загартаваньня, загартаваньне пры дапамозе крэйды ды інш. Правільна рэдакцыя адзначае да ўвагі ў гэтым артыкуле: «вельмі горача вітаем пачын т. Лабуша і падтрымоўваем яго прапанову пра абмены вытворчымі сакрэтамі. Рэдакцыя запрашае падтрымаць пачын чытача часопісі». Хаця гэты разьдзел і самы цікавы, але мае тыя-ж недахопы, што і папярэднія: адсутнасьць машынавай тэхнікі, новых дасягненьняў у прамысловасьці і сельскай гаспадарцы. Ня кепска было-б сыстэматычна даваць апісаньне тых або іншых машын, на тэй або іншай вытворчасьці і той працоўны процэс, які робіць фабрыка. Побач з гэтым даць тэхнолёгію гэтых матар'ялаў. Такі разьдзел даў бы магчымасьць настаўніку сапраўды азнаёміцца з галоўнымі тыпамі вытворчасьці».

З нясталых разьдзелаў спынімся на адным, а менавіта «За рубяжом». Гэты разьдзел ёсьць толькі ў двох нумарох, у № 2 і ў № 7, дзе ёсьць артыкулы: Зялёнка—«Пастаноўка ручное працы ў Нямеччыне, Швэцыі і Даніі» і Ільлін—«Прынцыпы і мэтоды навучаньня ручной працы ў амэрыканскіх школах». Гэты разьдзел трэба зрабіць сталым і даць артыкулы ня толькі аб ручной працы, але і па другіх пытаньнях тэхнікі.

Якія-ж вывады?

Часопісь зробіцца сапраўды неабходнай часопісьсю ў кожнай школе, калі яе мэтаімкненасьць будзе не на «працу» наогул, а на політэхнічную працу, не на «майстэрні», а на завод, не на «прышкольныя вучасткі, а на саўгас і колгас. Гэта ня значыць, што працы ў майстэрнях не павінна давацца месца ў часопісі. Майстэрні і праца ў іх павінны быць падпарадкаваны пытаньням заводу, фабрыкі, саўгасу і колгасу. Гэтак-жа павінен быць пашыраны разьдзел мэтодыкі з пункту погляду мэтодычнай распрацоўкі пытаньняў экскурсій для паасобных груп і ўзростаў на заводы, фабрыкі, колгасы і саўгасы.

У часопісі трэба больш увагі аддаць тэорыі політэхнічнага выхаваньня, політэхнізму, як сыстэме выхаваньня і тэорытычнага распрацаваць асноўныя тэзісы т. Леніна аб політэхнізьме.

**Ю. Дардак.**

**М. Даніэль—Лейба „Бэрлінчык“, з яўрэйскай мовы пераклаў Ізр. Плаўнік. Бібліотэка школьніка, Бел. Дзярж. Выдавецтва. Менск, 1929 г.** *Цана 12 кап*.

Проблема беларускай дзіцячай кнігі ў нас ня толькі ня вырашана яшчэ, але нават не прыступілі да яе вырашэньня.

Мы маем зараз такое становішча, што арыгінальнай беларускай дзіцячай літаратуры ў нас амаль што зусім няма. Уся беларуская дзіцячая літаратура складаецца выключна з перекладаў з расійскай мовы, паколькі расійская дзіцячая літаратура зьяўляецца параўнальна багатай.

Але і перакладаў дзіцячай літаратуры з іншых моў (акрамя расійскай ды ўкраінскай) у нас няма, бо дзіцячая кніга і на яўрэйскай, і на польскай і на іншых мовах народаў СССР таксама вельмі слабая.

Барацьба за новую ідэолёгічна вытрыманую дзіцячую кнігу зьяўляецца ў цяперашні рэконструкцыйны пэрыод асноўнай, баявой. І бязумоўна, усё, што ёсьць лепшага з дзіцячай літаратуры на іншых мовах, мы павінны перакладаць, бо зусім правільна піша т. Ів. Цьвікевіч, што «зьяўленьне дзіцячай літаратуры на беларускай мове, хоць і перакладной, бязумоўна дапамагае росту арыгінальнай літаратуры».

Рэцэнзуемая намі кніжка напісана яўрэйскім пісьменьнікам Даніэлем з жыцьця дзяцей мястэчка Парыч.

«Між гарадоў і мястэчак, між вёсак і хутароў прытулілася маленькае яўрэйскае мястэчка Парыч. І схавалася яно ў зелені палёў, у гушчары лясоў—далёка ад цэнтральных гарадоў, далёка ад быстраходных чыгунак. Жыве там каля трохсот яўрэяў і столькі—сама беларусаў»,—так пачынае Даніэль сваю кніжку.

Гэта апавяданьне каштоўна тым, што ў ім ёсьць моманты інтэрнацыянальнага выхаваньня дзяцей. Мастацкі правільна намалёвана карціна сустрэчы піонэрамі нямецкай рабочай дэлегацыі.

Напісана апавяданьне простай, вобразнай і зразумелай для дзяцей школьнага ўзросту мовай. Трэба толькі заўважыць, што такія нямецкія сказы, як: «Зайт гегрист, гэносен» (ст. 22), бязумоўна, незразумелы беларускім дзецям і нічога страшнага ня было-б (наадварот, было бы вельмі карысна), калі-б такія сказы былі перакладзены на беларускую мову. Трэба ведаць, для каго мы пішам.

Малюнкі ў кніжцы даволі ўдалыя, і дзіцяці-чытачу яны дапамагаюць больш дасканала ўявіць сабе зьмест. Пераклад, наогул, зроблены вельмі ўдала.

Цана—12 кап.—невялікая. Кніжку трэба рэкамандаваць усім школам, бібліотэкам, хатам-чытальням, усім дзецям школьнага ўзросту.

**Н. К.**

# ХРОНІКА

## У паход за культурную рэволюцыю ў колгасах

Цэнтральнае праўленьне саюзу працасьветы заключыла гэнэральны дагавор з Белколгасцэнтрам.

Асьветкі па дагавору ўзялі на сябе абавязак праз школы хаты-чытальні і іншыя культасьветныя ўстановы давесьці да кожнага колгасу і колгасьніка вытворчыя пасеўныя пляны. Побач з гэтым асьветнікі абавязаліся арганізаваць у колгасах і забясьпечыць кіраўніцтвам 500 гурткоў па колектывізацыі сельскай гаспадаркі і агрозоомінімуму і 400 агульна адукацыйных гурткоў.

Па дагавору асьветнікі павінны распаўсюдзіць 80.000 экз. газэт і ў кожным колгасе арганізаваць газэтныя гурткі, апрача таго, асьветнікі распаўсюдзяць у колгасах 16.000 экзэмпляраў грамадзка-палітычных і сельска-гаспадарчых часопісяй.

Разам з тым асьветнікі абавязваюцца актыўна садзейнічаць завочнаму навучэньню сярод колгасьнікаў, а супольна з таварыствам «Прэч няпісьменнасьць» у 1930-31 навучальным годзе поўнасьцю ліквідаваць няпісьменнасьць сярод колгасьнікаў. Асьветнікі абавязаліся таксама мобілізаваць ўсю савецкую грамадзкасьць вакол практычнага вырашэньня задач усеагульнага пачатковага навучаньня. Будзе разгорнута шырока работа сярод колгаснай моладзі, асабліва ў справе падрыхтоўкі яе ў тэхнікумы, ВНУ і іншыя навучальныя ўстановы. Будзе падрыхтавана 1000 чалавек, у тым ліку ня менш 40 проц. жанчын. Апрача таго, 1000 лепшых пісьменных колгасьніц будуць падрыхтаваны для работы ў дашкольных установах.

У кожным буйным колгасе асьветнікі організуюць антырэлігійны гурток і ячэйку бязбожнікаў: ня менш 400 гурткоў і 200 ячэек. Таксама ўзяты абавязак аказваць актыўную дапамогу ў справе організацыі новых колгасаў і пераводу існуючых у вышэйшыя формы аграмаджваньня, а таксама ўцягнуць усіх асьветнікаў, якія маюць сельскую гаспадарку, у колгасы.

Белколгасцэнтр узяў на сябе таксама шэраг абавязкаў па дагавору, асноўныя з іх: аказваць усямерную дапамогу ў правядзеньні ўсеагульнага навучаньня і ліквідацыі няпісьменнасьці ў колгасах. У прыватнасьці, усе канфіскаваныя кулацкія хаты і закрытыя цэрквы ў першую чаргу будуць перадавацца для школ і культасьветных устаноў. Колгасцэнтр абавязаўся прыняць удзел у абсталяваньні школ і забесьпячэньні вучняў—дзяцей батракоў і бедняты вопраткай і абуткам; садзейнічаць утварэньню лепшага дабрабыту і матар'яльнага стану асьветнікаў, членаў саюзу, што працуюць у вёсцы.

Дагавор гэты павінен быць рэалізаваны да 1-га чэрвеня 1931 году.

Кожны асьветнік павінен актыўна ўдзельнічаць у выкананьні ўзятых на сябе абавязкаў па заключанаму дагавору.

## На перадавых позыцыях

Паводле далёка яшчэ няпоўных весткаў асьветнікі БССР у парадку грамадзкай работы ліквідуюць няпісьменнасьць сярод 63.523 чалавек. З гэтай колькасьці ліквідуецца няпісьменнасьць 2839 батракоў і 2188 сельска-гаспадарчых рабочых.

У рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці прымае ўдзел 4649 асьветнікаў, з якіх 3752 вясковыя настаўнікі, а рэшта—настаўнікі школ узвышанага тыпу, політасьветных устаноў і 5 чалавек навуковых працаўнікоў.

## Падрыхтоўка кадраў

У зьвязку з адсутнасьцю патрэбнай колькасьці людзей, колегія Наркомасьветы лічыць немагчымым пасьля датэрміновых выпускаў у сельска-гаспадарчых тэхнікумах утвараць новы прыём.

Экономію сродкаў ад датэрміновага выпуску вырашана скарыстаць на організацыю курсаў па падрыхтоўцы ў навучальныя ўстановы для забесьпячэньня зімовага прыёму.

У тых профтэхнічных навучальных установах, дзе па ўмовах бесьперапыннай вытворчай практыкі ёсьць магчымасьць рабіць прыём два разы ў год, апошнія будуць праводзіцца ўвосень і ўзімку, а ў іншых—толькі адзін раз у год—увосень.

## Новы тып школы

Пры разглядзе проекту сыстэмы народнай асьветы колегія НКА вырашыла ўвесьці ў сыстэму апошняй дзесяцігадовыя школы. Гэтыя школы дзесяцігодкі будуць адчыняцца ў першую чаргу ў рабочых цэнтрах і раёнах суцэльнай колектывізацыі. Школам-дзесяцігодкам будзе надавацца той або іншы вытворчы ўхіл.

## Падрыхтоўка да чысткі профапарату

ЦП саюзу працасьветы пастанавіла разгарнуць падрыхтоўку да чысткі профапарату. Чыстка будзе праводзіцца, пачынаючы ад апарату самога ЦП саюзу і аж да нізавога саюзнага зьвяна.

Акруговым аддзяленьням саюзу і райгрупкомам запрапанавана на агульных сходах асьветнікаў ставіць даклады аб мэтах і задачах чысткі. Пытаньне чысткі профапарату павінна шырока асьвятляцца ў насьценгазэтах і ў цэнтральным і акруговым друку.

ЦП саюзу на сходах групкомаў, мясцкомаў і профкомах будзе рабіць справаздачу аб сваёй працы. Да ўдзелу ў чыстцы будуць прыцягвацца рабочыя, асьветнікі-ўдарнікі, профактыў, члены сэкцыі гарсавету і інш.

### Паскорым падрыхтоўку кадраў

Колегія Наркомасьветы пастанавіла зрабіць датэрміновы прыём у сельска-гаспадарчую акадэмію. Будзе прынята 1 красавіка 300 чал. Укомплектаваньне будзе праведзена шляхам датэрміновага выпуску IV курсу Горацкага рабфаку, а таксама вучнямі агульнаадукацыйных курсаў і апошніх клясаў школ дзевяцігодак. Вучні агульнаадукацыйных курсаў і рабфаку будуць адбірацца на месцах і будуць прыняты ў сельска-гаспадарчую акадэмію бяз іспытытаў. Менш разьмеркаваны па акругах БССР і, апрача таго, абвешчан вольны прыём на 75 чалавек.

Колегія НКА прызнала таксама мэтазгодным адчыніць факультэт савецкага будаўніцтва і права пры Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце з двума аддзяленьнямі: савецкага будаўніцтва і судова-адміністрацыйнага. Тэрмін навучаньня на факультэце орыентыровачна ўстаноўлены ў 2½ гады.

### Конфэрэнцыя настаўнікаў раёнаў суцэльнай колектывізацыі

У палове сакавіка ў Маскве пры Наркомасьвеце РСФСР адбылася конфэрэнцыя настаўнікаў раёнаў суцэльнай колектывізацыі. Ад БССР у работах конфэрэнцыі ўдзельнічала 10 настаўнікаў-актывістаў-колгасьнікаў.

Конфэрэнцыя паміж іншымі пытаньнямі абгаварыла пытаньне аб сыстэме народнай асьветы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі, аб бесьперапынным навучальным годзе, а таксама проект праграм для колгасных школ.

---

## ПАСТАНОВА

### Народных Камісарыятаў Працы і Асьветы БССР пра аслабаненьне ад работы тых пэдагогаў, якія працуюць па сваёй спэцыяльнасьці.

Прымаючы пад увагу неабходнасьць поўнага забясьпечаньня выкананьня пляну ўсеагульнага абавязковага навучаньня і маючыся недахоп значнай колькасьці пэдагогаў ў першым і другім концэнтрах сямігодак Народныя Камісарыяты Працы і Асьветы на падставе пастановы СНК БССР ад 14 сакавіка 1930 г. (пр. № 14) пастанаўляюць:

I. Усе асобы, якія маюць сярэднюю альбо вышэйшую пэдагогічную асьвету і працуюць у сучасны момант у дзяржаўных, коопэрацыйных, грамадзкіх установах не па сваёй спэцыяльнасьці павінны ў месячны тэрмін зарэгістравацца ў адпаведным акруговым інспэктарыяце народнай асьветы.

Ад рэгістрацыі аслабаняюцца члены ЦВК БССР, асобы, якія страцілі звыш 50% працаздольнасьці, па адпаведных даведках лекава-кантрольных комісій, і ўсе асобы, якія займаюць выбарныя пасады.

II. Організаваць пры акруговых інспэктарыятах народнае асьветы комісіі ў складзе прадстаўнікоў акр. інспэктарыяту народнае асьветы (старшыня) акрінспэкцыі працы і профсаюзу працаўнікоў асьветы для перасоўкі паказаных ў арт. I работнікаў, для непасрэднай работы ў навучальных установах.

Комісіі скончыць работу не пазьней 1/VI 1930 г.

III. Не падлягаюць пераводу на пасаду настаўніка тыя асобы, якія раней былі зволены з пасады настаўнікаў па сваёй неадпаведнасьці ці не адпавядаюць згодна заключэньню комісіі.

IV. З ліку асоб, зарэгістраваных і прызнаных комісіяй годнымі ў якасьці настаўнікаў 59% скарыстоўваюцца непасрэдна Акруговым Інспэктарыятам Нар. Асьветы. а астатнія бранірующца за НКА і разьмяркоўваюцца апошнім па заяўках акруг не пазьней 1 жніўня г. г.

V. У тых выпадках, калі перасоўка работніка зьвязана з пераменай месца пражываньня, яму выплачваюцца пад'ёмныя і іншыя компэнсацыі паводле пастановы СССР за 9/IX—1927 г. (Изв НКТ 1927 г. № 52)

VI. Асобы, якія ўхіляюцца ад рэгістрацыі паводле арт. I гэтай пастановы, прыцягваюцца да адказнасьці па арт. 102 крымінальнага кодэксу БССР, тыя-ж асобы, якія адмаўляюцца ад работы па спэцыяльнасьці, зьнімаюцца з работы, на працягу 3-х месяцаў не рэгіструюцца на біржах працы і на гэты-ж тэрмін пазбаўляюцца права на атрыманьне дапамогі па беспрацоўю ў парадку соцыяльнага страхаваньня.

**Народный Комісар Працы БССР ГНІЛЯКЕВІЧ.**
**Народны Комісар Асьветы БССР ПЛАТУН.**

---

## ПАПРАЎКА

У № 2 часопісі ў канцы артыкулу О. Канакоціна „Штабы політыка-культурнага абслугоўваньня раёнаў суцэльнай колектывізацыі" выпала заўвага ад рэдакцыі аб тым, што гэты артыкул зьмешчаны ў парадку абгаварэньня.

У гэтым-жа нумары памылкова зьмешчаны подпіс В. Кунцэвіч пад артыкулам „Экскурсіі на школьны вучастак". Аўтар гэтага артыкулу В. Купрэвіч.

---

*Рэдактар*—Рэдколегія *Адказны рэдактар*—Л. Бэндэ

„ВЕСТКІ“ ЦК КП(б)Б І БЮЛЕТЭНЬ АПАД „У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ“ РЭОРГАНІЗАВАНЫ Ў АДНУ ПАРТЫЙНУЮ ЧАСОПІСЬ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

## ПРЫЙМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1930 Г. НА

# „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

ОРГАН ЦК КП(б)Б ■ ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

■ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“ абагульвае вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйнаму будаўніцтву і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

■ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“ вывучае вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных організацый, абгаварвае мэтоды і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

■ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“ дае ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыста матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай работы.

■ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“ дапамагае ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сэкратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам партасьветы, групоргам, цэхоргам, зьвеноргам і інш.

■ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“ асьвятляе чарговыя пытаньні комсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

■ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“ ставіць на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.

■ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“ рэгулярна зьмяшчае крытыку і бібліографію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

„ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“ зьмяшчае партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і комсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандыст, цэхавы, групавы і зьвенавы організатар, кожны партыйны актывіст павінен падпісацца на часопісь „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“.

ПАРТЫЙНЫЯ І КОМСАМОЛЬСК. ЯЧЭЙКІ! РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ ЧАСОПІСЬ „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

КОШТ асобнага НУМАРУ 15 КАП.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Менск, вул. К. Маркса, 14, ЦК КП(б)Б. Рэд. часопісі „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

бюро падпіскі Белдзяржвыдавецтва, Менск, Пляц Волі, № 5, аддзел падпіскі Дзяржвыдавецтва РСФСР, Менск, Савецкая, 54, і ўсе паштовыя аддзяленьні і пісьманосцы.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| на 1 м. . . — | р. 25 к. |
| на 3 м. . . — | р. 75 к. |
| на 6 м. . , | 1 р. 50 к. |
| на 1 г. . . . | 2 р. 75 к. |

ЦАНА 80 КАП. 454

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ПОЛІТЫЧНУЮ,
ПЭДОЛЕГА-ПЭДАГОГІЧНУЮ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНУЮ ЧАСОПІСЬ

# „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
вядзе ваяўнічую барацьбу за комуністычнае выхаваньне працоўных мас, жыва адклікаецца на ўсе політычныя, пэдолёга-пэдагогічныя, політасьветныя проблемы дню.

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
зьяўляецца лепшым памочнікам у рабоце настаўніка, політасьветніка, дашкольніцы.

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
выходзіць пры ўдзеле лепшых марксыцкіх сіл як Беларусі, так і інш. саюзных рэспублік.

ГПБ Ср. Аз.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА 1930 ГОД

| | |
|---|---|
| На 1 год (12 нумароў) | 8 р. |
| „ паўгода (6 нумароў) | 4 р. 50 к. |
| „ 3 м-цы (3 нумары) | 2 р. 30 к. |
| Кошт асобнага нумару | — 80 к. |

Скідка 25% подлуг агалошанай цаны даецца настаўнікам школ, хатнікам ды інш., якія выпісваюць часопісь за свой кошт на цэлы год. Раённым установам (райінспэкцыя, мясцком) скідка 25% у тым выпадку, калі яны падпішуцца ня менш, як на 50 экзэмпляраў на цэлы год.

**Падпіска прымаецца рэдакцыяй: Менск, Пляц Волі, 23/2, а таксама поштай і аддзяленьнямі Белдзяржвыдавецтва.**

### ДА ВЕДАМА ПАДПІСЧЫКАЎ

№ 1 часопісі „Комуністычнае Выхаваньне разыйшоўся поўнасьцю. Некаторыя падпісчыкі, што падпісаліся на „К. В.“ пасьля 1-га студзеня, часопісі № 1 не атрымаюць. Замест гэтага нумару яны атрымаюць нумар часопісі, што выйдзе пасьля тэрміну, на які яны падпісаліся.